# ЯКУБ КОЛАС

## ЗБОР ТВОРАЎ

### У СЯМІ ТАМАХ





ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
*Рэдакцыя мастацкай літаратуры*
Мінск 1952

# ЯКУБ КОЛАС

## ЗБОР ТВОРАЎ
## Том 1

### ВЕРШЫ
### АПАВЯДАННІ ВЕРШАМ
### *(1904—1917)*







ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
*Рэдакцыя мастацкай літаратуры*
Мінск 1952



# ЯКУБ КОЛАС

У кожнай нацыянальнай культуры ёсць паэты і мысліцелі, якія найбольш поўна выявілі духоўнае багацце свайго народа, яго характар і самасвядомасць. Такімі з'яўляюцца Пушкін, Талстой, Горкі ў рускага народа, Тарас Шэўчэнка і Іван Франко на Украіне, Адам Міцкевіч у палякаў, Абай Кунанбаеў у казахскага народа, Хачатур Абавян і Мікаэл Налбандзян у Арменіі, Ахундаў у азербайджанцаў, Майроніс у літоўскага народа, Ян Райніс у латышоў.

Яркімі, нязгаснымі зорамі на духоўным гарызонце беларусаў з'яўляюцца два буйнейшыя пісьменнікі Янка Купала і Якуб Колас, творчасць якіх горнай вяршыняй узвышаецца ў нашай літаратуры і складае цэлую эпоху ў мастацкім развіцці беларускага народа.

Якуб Колас і Янка Купала паклалі асновы сучаснай, сапраўды народнай беларускай літаратуры, нястомна ўзбагачалі і развівалі яе мову, выкарыстоўваючы скарбы мовы народнай.

З імем Якуба Коласа, як і з імем Янкі Купалы, звязаны выдатныя старонкі ў развіцці беларускай літаратуры як да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, так і ў нашу савецкую эпоху. Якуб Колас стварыў класічныя ўзоры паэзіі і прозы, якія сталі здабыткам многанацыянальнай савецкай, а тым самым і сусветнай літаратуры.

«Слаўны сын беларускага народа, — пісала «Правда» ў сувязі з 60-годдзем паэта, — Якуб Колас — Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч — жыў усімі думкамі, горам і радасцю свайго народа. Ён пранік глыбока ў таямніцы народнай душы, народнага характару, як са-

праўдны паэт, ён адчуў і перадаў любоў да роднай беларускай прыроды, як сапраўдны паэт, перадаў ён жаданні і імкненні свайго народа».

* * *

Якуб Колас выступіў у літаратуры ў перыяд буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі 1905 — 1907 гадоў, у эпоху руху шырокіх народных мас. Як сапраўды вялікі мастак, ён адлюстраваў у сваіх творах многія істотныя бакі рэвалюцыі, яе буржуазна-дэмакратычны характар, непарыўную сувязь барацьбы за палітычнае і нацыянальнае вызваленне, гарачае жаданне працоўных скінуць з сябе ланцугі памешчыцка-самадзяржаўнай сістэмы, заваяваць лепшую будучыню. У творах паэта адчуваюцца гнеўныя подыхі таго «вялікага народнага мора, якое ўсхвалявалася да самых глыбінь» і адбілася, паводле слоў В. І. Леніна, з усімі сваімі слабасцямі і ўсімі моцнымі сваімі бакамі ў творчасці геніяльнага рускага пісьменніка Л. Н. Талстога.

Рэвалюцыя паклікала да гістарычнай творчасці самыя шырокія працоўныя масы, прыдушаныя прыгнётам і эксплуатацыяй, актывізавала і прывяла ў рух усе класы грамадства ў краіне. Самыя глыбокія народныя нізы ўзняліся, пад кіраўніцтвам пралетарыята, на барацьбу супроць самадзяржаўя і рэштак прыгонніцтва, на вырашэнне рэвалюцыйным шляхам самых першачарговых пытанняў часу — звяржэння царызма і скасавання памешчыцкага землеўладання, адваявання палітычных свабод, знішчэння нацыянальнага ўціску на ўскраінах Расіі.

Дакастрычніцкая творчасць Якуба Коласа, выхадца з самых глыбокіх нізоў беларускага народа, з'явілася жывым адбіткам грамадска-палітычнага жыцця ў перыяд рэвалюцыі 1905 г., імкненняў, патрабаванняў і надзей шырокіх працоўных мас, іх быту, працоўнай дзейнасці і псіхалогіі. Яна вызначалася самай цеснай і непасрэднай сувяззю з вызваленчай барацьбой у краіне і пасля рэвалюцыйных падзей 1905 — 1907 гадоў і адыгрывала актыўную, дзейсную ролю ў барацьбе за лепшае будучае беларускага народа, выяўляла яго свабодалюбівы дух, адвечную прагу — «людзьмі звацца».

Разнастайныя праявы жыцця працоўнага народа, вострая палітычная і нацыянальна-вызваленчая барацьба, кіруючая роля ў якой належала рабочаму класу і яго соцыял-дэмакратычнай партыі, абумовілі фарміраванне светапогляду і творчага метада пісьменніка.

* * *

Асабістая біяграфія Якуба Коласа непарыўна звязана з працоўным жыццём і вызваленчай барацьбой беларускага народа, з яго думамі і светлай марай аб будучым. Нялёгкі, поўны выпрабаванняў шлях песняра да вяршынь культуры, працоўныя будні паэта, штодзённае змаганне за права на творчасць — усе гэтыя і многія іншыя аўтабіяграфічныя моманты, больш чым у каго-небудзь з беларускіх пісьменнікаў, увайшлі ў мастацкія творы Якуба Коласа, як тыповае, характэрнае для ўсяго працэсу нараджэння і росту перадавой дэмакратычнай беларускай інтэлігенцыі, што выйшла з народа і служыла яму верай і праўдай. Лёс радзімы і народа, жыццё і думы простага працоўнага чалавека — асноўныя тэмы дакастрычніцкай творчасці паэта, якія ўвайшлі і занялі ў ёй вядучае месца амаль што з першых крокаў літаратурнай работы Якуба Коласа, атрымаўшы ў перыяд рэвалюцыі яшчэ больш канкрэтнае грамадска-палітычнае напаўненне.

У сваёй аўтабіяграфіі Якуб Колас падрабязна і ярка расказвае аб сваім маленстве, умовах жыцця і выхавання, аб першых уражаннях ад навакольнай рэчаіснасці, пачатковых духоўных інтарэсах і першых, яшчэ нясмелых, паэтычных спробах.

Нарадзіўся Якуб Колас (Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч) у 1882 г. у засценку Акінчыцы, на Міншчыне, у сям'і селяніна-беззямельніка, які пасля доўгіх вандраванняў у пошуках хлеба і заробку вымушан быў наняцца на службу ў якасці лесніка да князя Радзівіла.

«Самыя раннія дзіцячыя гады мае, — піша Якуб Колас у сваёй аўтабіяграфіі, — прайшлі ў Сухошчыне, або Ластку. Гэта было глухое месца — поле, навокал лес і адна толькі сядзіба лесніка — хата, гумно, хлеў. Часам да нас заходзіў хто-небудзь са сваякоў з Мікалаеўшчыны, адкуль бацькі былі родам, і заставаўся на некалькі дзён. Мне было вельмі цікава паслухаць іх гутаркі, якія вяліся на самыя разнастайныя тэмы. Дзякуючы ім, я знаёміўся з невядомым мне жыццём за межамі нашай сядзібы. Таксама часта бывалі ў нас леснікі, аб'езчыкі і розныя панкі з лясніцтва. Шмат было размоў аб лясніковым жыцці, аб праявах службовага характару, аб адносінах паноў да лесніка. Тут было многа крыўднага і несправядлівага, ад чаго ў мяне з самых ранніх дзіцячых год запала ў душу варожае пачуццё да паноў, а з цягам часу яно яшчэ больш узмацнялася».

Пачуццё нянавісці да паноў-прыгнятальнікаў прывяло Якуба Коласа ў лагер самаадданых змагароў за вызваленне народа, зрабіла

яго паэтам-грамадзянінам, выразнікам рэвалюцыйных ідэй і патрабаванняў. І ні палітычныя праследаванні, ні страшныя сваім адзіноцтвам гады турэмнага зняволення, ні жабрачае матэрыяльнае становішча інтэлігента-пролетарыя, пазбаўленага адзінай крыніцы існавання — працы, — нішто не магло зламаць волі паэта да барацьбы, заглушыць яго звонкага, заклікальнага голасу:

Лепш змагацца вольным, браце,
Чым цярпець ды гнуцца!

Вучыцца будучы пісьменнік пачаў дома, у вясковага хлопчыка з першапачатковай адукацыяй, нанятага бацькам за медныя капейкі. Наступным этапам свядомага жыцця Якуба Коласа была Нясвіжская настаўніцкая семінарыя (1898 — 1902), дзе ён многа часу аддаваў складанню вершаў і ўважліва прыглядаўся да навакольнага жыцця. Абуджэнню і развіццю паэтычнага таленту юнака спрыялі страсная любоў да кнігі, пашана да навукі ў сям'і, першая літаратурная ўдача і пахвала бацькі, потым падтрымка настаўніка Кудрынскага, надзвычайная любоў да прыроды, багатая паэзія народнай песні і казкі, геніяльныя творы рускіх пісьменнікаў.

Пачаў пісаць Якуб Колас на рускай мове. Яго першымі літаратурнымі настаўнікамі былі вялікі рускі пісьменнік Крылоў, а пазней Пушкін, з творамі якога, як сцвярджае сам паэт, ён не разлучаўся ў маленстве, будучы пастушком. «Розумам я тады, магчыма, не ўспрыймаў яшчэ прыгажосці думак гэтай бессмяротнай паэзіі, але дзіцячым сэрцам сваім адчуваў непераадольную ўладу чароўнага пушкінскага верша, гармонію формы і зместу, яго шматгалосны водгук у маёй душы», — так прыгадвае паэт тыя далёкія часы.

Цяпер, калі знойдзены многія з ранніх вершаў і баек Якуба Коласа, можна больш дакладна і грунтоўна гаварыць аб літаратурных традыцыях, на якіх выхаваўся Якуб Колас, аб вытоках яго творчасці.

Побач з багацейшай крыніцай вуснай паэзіі, з якой нямала чэрпаў пясняр, руская і беларуская дэмакратычная літаратура мінулага стагоддзя добратворна ўздзейнічала на паэта, спрыяла яго ідэйна-мастацкаму росту.

Літаратурная традыцыя Пушкіна праходзіць праз увесь творчы шлях Якуба Коласа дакастрычніцкай пары і савецкай эпохі. Ідэя свабоды чалавека, эпічная шырыня і пластычнасць паэтычных вобразаў і пейзажаў Пушкіна ўладарна ўваходзілі ў свядомасць песняра з ранніх год і накладвалі свой адбітак на ўсю яго далейшую творчасць. Яркім сведчаннем таму з'яўляюцца словы паэта: «Калі-б не

было Пушкіна, — гаворыць Якуб Колас, — з яго «Онегіным», одай «Вольнасць» і «Пасланнем у Сібір», «Капітанскай дачкой» і казкамі, — не было-б, напэўна, і маіх паэм «Новая зямля» і «Рыбакова хата», маёй лірыкі і прозы».

Вялікі ўплыў на фарміраванне эстэтычных поглядаў і творчага метада Якуба Коласа зрабілі Некрасаў і Шэўчэнка, а таксама беларускія паэты-дэмакраты — Фр. Багушэвіч і Янка Лучына. Глыбокі дэмакратызм, грамадзянскія матывы творчасці гэтых паэтаў, праўдзівасць у паказе жыцця, вера ў творчыя сілы народа не маглі не захапіць увагі паэта. Заснавальнікі эстэтыкі рэвалюцыйнага дэмакратызма Белінскі, Чэрнышэўскі і Дабралюбаў дапамаглі Якубу Коласу выпрацаваць свой творчы метад, які грунтуецца на прынцыпах народнасці, дэмакратычнай ідэйнасці і рэалізма.

Якуб Колас, творчасць якога развівалася пад моцным уплывам пролетарскага вызваленчага руху, многа і плённа вучыўся ў М. Горкага, захапляўся рэвалюцыйным пафасам і героікай твораў заснавальніка літаратуры соцыялістычнага рэалізма. «Яго апавяданні, — піша Якуб Колас, — былі такімі новымі, такімі свежымі і яркімі. Жывая крыніца, сіла і прыгажосць рускай мовы, незвычайнасць герояў горкаўскіх апавяданняў, іх пратэст і пошукі запаміналіся моцна і надоўга. Імя Максіма Горкага стала маім літаратурным сцягам. Яго апавяданні ўзнімалі дух, раскрывалі нейкі новы свет, які ішоў на змену старому, прабуджалі творчую думку і лепшыя чалавечыя пачуцці».

Максім Горкі адзін з першых заўважыў і высока ацаніў раннюю паэтычную творчасць Купалы і Коласа, убачыў у ёй задаткі будучага росквіту, вялікую ўнутраную сілу, прастату, сардэчнасць і дэмакратызм маладой беларускай літаратуры.

Янка Купала і Якуб Колас узначальвалі рэвалюцыйна-дэмакратычны напрамак нашай літаратуры, стаялі ў цэнтры літаратурнага жыцця і барацьбы таго часу, рабілі добратворны ўплыў на развіццё ўсяго літаратурнага працэсу.

Наяўнасць у Беларусі перыяду рэвалюцыі 1905 г. соцыял-дэмакратычнага і дэмакратычнага друку спрыяла развіццю рабочай паэзіі і рэвалюцыйна-дэмакратычнай літаратуры, арганічна звязанай з вызваленчай барацьбой працоўных мас.

У беларускай культуры таго часу, як і ва ўсякай іншай, адбывалася барацьба двух культур: рэвалюцыйна-дэмакратычнай і соцыялістычнай, з аднаго боку, і буржуазна-нацыяналістычнай — з другога. У адпаведнасці з ідэйным размежаваннем ішло размежаванне на два асноўныя лагеры і ў галіне творчага метада і стылю.

Рэвалюцыйна-дэмакратычныя пісьменнікі Я. Купала, Я. Колас і Цётка змагаліся за высока-ідэйнае, народнае, рэалістычнае мастацтва, асветленае шырокай гістарычнай перспектывай, насычанае высокімі гуманістычнымі ідэямі вызвалення чалавека ад усякай эксплуатацыі і прыгнёту. Рэакцыйныя дваранскія і буржуазныя пісьменнікі (Арлоўскі, Ельскі, А. Пшчолка), а таксама ліберальна-буржуазныя літаратары (Ядвігін Ш.) скажалі сапраўдную рэчаіснасць, звярталіся да натуралізма і бытаапісання, да рэакцыйнага рамантызма.

Коласаўскі рэалізм складваўся ў рэвалюцыйную эпоху, якая вызначыла яго характар і дала яму ідэйную накіраванасць. Абапіраючыся на лепшыя традыцыі рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў XIX ст., Якуб Колас у той-жа час вучыўся ў Горкага, заснавальніка літаратуры социялістычнага рэалізма, што абумовіла своеасаблівасць творчага метада нашага народнага песняра, надало гэтаму метаду новыя якасці. У параўнанні са сваімі папярэднікамі, паэтамі-дэмакратамі XIX ст. Фр. Багушэвічам і Я. Лучынай, Якуб Колас, як таго патрабавала само жыццё, пайшоў значна далей у напрамку шырокага паказу рэвалюцыйна-вызваленчай барацьбы беларускага народа, узмацніў моманты сцверджання выдатных духоўных якасцей чалавека працы і яго волі да перамогі над прыгнятальнікамі.

* * *

Першы свой друкаваны верш Якуб Колас назваў «Наш родны край» (газета «Наша доля», верасень 1906 г.). А перад гэтым быў верш на рускай мове «Белоруссия» (1902 г.), які застаўся ў рукапісу. У гэтым вершы паэт пісаў:

Бедный край мой! Край родной!
Родина моя ты!
Смотрят избы сиротой,
Понагнулись хаты.
. . . . . . . . . . .
Где ни глянешь — то клеймо
Нищеты, страданья...
Носят панщины ярмо
Бедные крестьяне.

Ужо гэтымі сваімі творамі малады аўтар нібы намячае асноўныя тэмы, якія будуць хваляваць яго праз усю далейшую творчасць, — гэта тэмы аб лёсе народа, аб лёсе радзімы. З развіццём пісьменніка развіваюцца і ўзмацняюцца ў раскрыцці гэтых асноў-

ных тэм лепшыя якасці яго паэтычнага дара: задушэўны лірызм, што ідзе ад народнай песні, эпічная шырыня і яркасць, пластычнасць вобразаў. Якуб Колас выступае адразу-ж як паэт-лірык (першы зборнік «Песні жальбы», 1910 г.), як заснавальнік рэалістычнай беларускай прозы (зборнікі «Апавяданні», 1912 г. і «Родныя з'явы», 1914 г.), як аўтар аднаактных п'ес («Антось Лата»). У гэты-ж час ён пачаў пісаць і апублікаваў на старонках перыядычнага друку паасобныя часткі твораў «Новая зямля» і «Сымон музыка».

Ідэйная праблематыка творчасці Якуба Коласа выцякала з патрабаванняў самога жыцця, рэвалюцыйна настроеных пластоў народа, задач і перспектыў першай агульнарускай рэвалюцыі. Гэтая праблематыка была абумоўлена характарам асноўных супярэчнасцей грамадскага жыцця таго часу, асаблівасцямі буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі.

Аграрнае пытанне, як адзначае таварыш Сталін, з'яўлялася воссю палітычнага жыцця краіны на тым этапе. Адлюстраванне барацьбы працоўнага сялянства Беларусі за зямлю і волю — асноўная праблема дакастрычніцкай творчасці Якуба Коласа, а вобраз працоўнага селяніна-барацьбіта — галоўны яе вобраз. У творах пісьменніка знайшлі свой адбітак асноўныя супярэчнасці эпохі, непрымірымая барацьба сялянскіх і памешчыцкіх інтарэсаў, працэс масавага абеззямельвання працоўных мас сялянства, наяўнасць вялікай колькасці батракоў у беларускай вёсцы. Гэтаму пытанню прысвечаны цэлы цыкл вершаў паэта «На вузкіх межах», многія апавяданні («Васіль Чурыла», «Малады дубок», «Нёманаў дар»), а таксама класічная паэма «Новая зямля».

Адзіна магчымы шлях вырашэння аграрнага пытання, па цвёрдаму перакананню пісьменніка, — рэвалюцыйны шлях. Гэта разумее лірычны герой аўтара, так думаюць і самі сяляне.

Вось характэрны дыялаг паміж двума з іх:

— Што, брат Грышка, папраўляйся:
Чутка ёсць — зямлі дадуць.
Не хварэй, брат, падымайся
Ды ачуньвай як-нібудзь.
— Эх, Мікола што тут цешыць?
І стары, а як дзіця:
Не, не будзе нам жыцця,
Як паноў не перавешаць.

Беззямелле гоніць сялян на рачныя прыстані, на лесавывазкі. У пошуках работы і хлеба яны пакідаюць родную вёску, церпяць пакуты і голад. Паэт стварае абагульнены вобраз гэтай узрушанай з наседжаных месц масы («Плытнікі», «Наша возьме»), і перад намі паўстае малюнак, падобны да апісанага ў вершы Янкі Купалы, у яго «красамоўнай і суровай песні» — «А хто там ідзе?»

Вось за падаткі забіраюць апошнюю карову ў селяніна, ён бяднее дашчэнту, становіцца батраком. Маці выпраўляе ў службу да вясковых багацеяў яшчэ зусім малую дачку, — гэта таксама вынік абеззямельвання, батрацтва.

У поўнай адпаведнасці са сваёй эстэтычнай праграмай аб высокім грамадскім прызначэнні мастацтва, аб яго асноўным абавязку — «паліць нядолю людскую», «грымець, як гнеў перуна», Я. Колас падпарадкоўвае сваё мастацкае слова задачам вызваленчай барацьбы, глядзіць на літаратуру як на магутны сродак уздзеяння на народныя масы з мэтай абуджэння ў іх рэвалюцыйнай свядомасці, пачуцця сваёй чалавечай годнасці.

Тры асноўныя групы пытанняў, цесна звязаных паміж сабой, складаюць змест сацыяльнай тэмы паэта, выяўляюць яго сацыяльна-палітычныя погляды — услаўленне народнай рэвалюцыі, вера ў яе канчатковую перамогу, адлюстраванне жыцця працоўнага беларускага народа, яго барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне.

Асноўны герой Якуба Коласа — працоўны селянін — звычайна абмалёўваецца пісьменнікам у актыўнай працоўнай дзейнасці, ва ўсе моманты свайго жыцця — і ў горы, і ў радасці, і ў барацьбе, і ў глыбокім роздуме аб далейшым лёсе радзімы, аб складанасці і разнастайнасці жыцця. Я. Колас з'яўляецца выключным знаўцам побыту і псіхалогіі беларускага селяніна, яго дум і запаветных жаданняў.

Глыбока патрыятычная творчасць Якуба Коласа раскрывае патрыятызм народа, яго шчырую любоў да сваёй бацькаўшчыны, да прыроды сваёй краіны як адно з наймацнейшых пачуццяў, выхаваных у народзе стагоддзямі барацьбы за сваю незалежнасць.

З пазіцый рэвалюцыйнага дэмакрата праўдзіва і ярка малюе паэт вобраз радзімы з яе мужным у працы і ў барацьбе народам, з несправядлівым сацыяльным ладам, заснаваным на эксплуатацыі і прыгнёце, з велічнымі ў сваёй прыгажосці малюнкамі прыроды, з журботнымі песнямі працы.

Гістарычны аптымізм, вера ў лепшае будучае народа ніколі не

пакідалі паэта, надавалі яму сілы ў барацьбе з ворагамі. «Наша возьме», «Не бядуй», «Будзь цвёрды» — вось характэрныя творы Я. Коласа таго часу. Яны ўслаўляюць грамадзянскую мужнасць чалавека працы, яго стойкасць і рашучасць у змаганні. Гэтыя вершы з заклікальнай інтанацыяй можна паставіць эпіграфам да ўсёй дакастрычніцкай творчасці паэта, асноўным зместам якой з'яўляецца заклік да барацьбы за свабоду, гуманістычная ідэя разнявалення духоўных, інтэлектуальных сіл чалавека, яго найвялікшых магчымасцей.

Ты не гніся, брат, ніколі
Траўкаю пахілай,
Сам пружыны сваёй долі
Выкуй ўласнай сілай!

. . . . . . . . . . .

Вер, брат, — жыцце залатое
Будзе ў нашай старане.

Вера і сіла — вось два магутныя фактары ў барацьбе за вызваленне. Адмаўляючы несправядлівыя сацыяльна-палітычныя адносіны, заклікаючы знішчыць іх, паэт уславўляе чалавека працы і сферу яго працоўнай дзейнасці — прыроду. Якуб Колас з'яўляецца неперасягнутым майстрам беларускіх пейзажаў, песняром чалавечай працы, як асновы жыцця і адзінага сродку стварэння ўсяго значнага, таленавітага і прыгожага на зямлі.

Ідэйнае багацце і разнастайнасць лірыкі Якуба Коласа абумовілі і разнастайнасць яе форм. Тут мы знойдзем і востры лірыка-публіцыстычны верш («Ворагам»), і верш-песню («Закліканне вясны», «Вясна»), і сюжэтныя вершы («Доля батрачкі», «У школку», «На адзіноце»), і вершы элегічнага складу («Раздум'е», «Мара»), і палітычную сатыру («Малебен», «Мікалаю II»), і байкі («Баба і куры»).

У сваіх апавяданнях на сацыяльна-палітычныя тэмы Якуб Колас паказвае тыя зрухі, якія адбываліся ў беларускай вёсцы ў эпоху буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі, стварае тыповыя вобразы важакоў, смелых барацьбітоў за народныя інтарэсы — Сцяпана Леўшуна («Бунт»), Андрэя Зазуляка і Васіля Падбярознага («Нёманаў дар»). Малюючы ўчынкі і паводзіны рэвалюцыйна-настроенага сялянства, Якуб Колас, разам з тым, выкрывае ідыятызм вясковага жыцця, закасцянеласць, цемру і забабоннасць («Дзяліцьба», «Кірмаш», «Чорт», «Трывога»). Матывы лірыкі пісьменніка і паасобныя жанравыя малюнкі з жыцця вёскі, пададзеныя ім у

навелах, нібы ручайкі ў шырокую многаводную раку, уліваюцца ў яго буйныя эпічныя творы, напісаныя ў савецкую эпоху на дарэволюцыйную тэматыку.

Класічны твор Якуба Коласа «Новая зямля», які звязвае сабой абодва перыяды ў творчым развіцці паэта — дакастрычніцкі і савецкі, — з'яўляецца, па сутнасці, першым нашым соцыяльным раманам у вершах і па свайму значэнню для беларускай літаратуры займае ў ёй прыкладна такое-ж месца, як раман Пушкіна «Еўгеній Онегін» у рускай літаратуры.

Актуальнасць і значнасць ідэі, тыповасць характараў, шырокі эпічны размах, багацце і разнастайнасць паэтычных сродкаў, сіла і глыбіня рэалізма ставяць гэты твор у лік лепшых тварэнняў сусветнай літаратуры. Як ва ўсякім сапраўдным класічным творы, у «Новай зямлі» мы бачым поўнае адзінства асноўных мастацкіх кампанентаў — галоўнай ідэі, сюжэта, чалавечых характараў, а таксама спосабаў і прыёмаў іх раскрыцця. Твор гэты выступае як цэласны мастацкі арганізм, сцэментаваны ідэяй вызвалення. У «Новай зямлі» Якуб Колас адлюстраваў надзвычайна важны гістарычны перыяд у жыцці нашага сялянства канца XIX, пачатку XX ст.— крушэнне яго ілюзій аб мірным шляху вызвалення і станаўленне шырокіх народных мас на шлях рэвалюцыйнай барацьбы.

Ідэя вызвалення з-пад ярма памешчыкаў і самадзяржаўя з'яўляецца асноўнай ідэяй гэтай паэмы і запаветнай марай галоўных герояў — Міхала, Антося, Ганны. Ідэя вызвалення ляжыць у аснове развіцця яе сюжэта. Пошукі героямі «Новай зямлі» шляхоў збавення ад улады памешчыкаў і самадзяржаўя з'яўляюцца тыповымі, бо яны раскрываюць супярэчлівую соцыяльную прыроду сялянства, яго страснае жаданне змяніць карэнным чынам невыносныя ўмовы свайго жыцця, выйсці на арэну больш-менш самастойнага гістарычнага дзеяння і няведанне, як дамагчыся гэтых пераўтварэнняў. Героі паэмы яшчэ не бачаць выразна правільных шляхоў і метадаў барацьбы за сваё вызваленне. Ім уласцівы дробнаўласніцкія інстынкты і ілюзіі, палітычная няспеласць і абмежаванасць поглядаў. І гэта тыпова для сялянскай рэвалюцыйнасці на этапе буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі. Маючы на ўвазе класавую прыроду сялянства, яго настроі і паводзіны ў той перыяд, В. І. Ленін пісаў: «Усё мінулае жыццё сялянства навучыла яго ненавідзець пана і чыноўніка, але не навучыла і не магло навучыць, дзе шукаць адказу на ўсе гэтыя пытанні» (В. І. Ленін, Творы, выд. 4-е, т. 15, стар. 186).



Якуб Колас пасля заканчэння Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. 1902 г.

Галоўным носьбітам ідэі вызвалення ў паэме з'яўляецца Міхал, былы вясковы жыхар, «рассялянены» ў выніку дыферэнцыяцыі вёскі. «Нутраны» дэмакрат, нястомны шукальнік праўды, ён лічыць «сваю зямлю», «свой кут» адзіным паратункам ад панскай залежнасці. Але практыка самога жыцця абвяргае гэты няправільны пункт погляду героя і падказвае яму ў апошнія хвіліны жыцця іншую думку — прызнанне неабходнасці на новы лад будаваць жыццё. Фактам смерці Міхала аўтар падкрэслівае ілюзорнасць дум і надзей героя, які спадзяваўся шляхам набыцця ўласнай зямлі стаць незалежным чалавекам, пазнаць радасць свабоднай працы. Перад намі праходзіць поўнае глыбокага драматызма жыццё працоўнага чалавека, які гіне, не дасягнуўшы пастаўленай мэты, і толькі ў апошнія хвіліны пачынае сумнявацца ў правільнасці абранага ім шляху, пачынае цьмяна разумець, што сапраўдную свабоду і незалежнасць ад волі паноў і ляснічых патрэбна было здабываць інačай.

Другім выдатным вобразам-тыпам твора з'яўляецца Антось. Ён, як і Міхал, ненавідзіць паноў і ўпэўнены, што заганныя сацыяльныя ўмовы жыцця можна і патрэбна змяніць. Круг уяўленняў і назіранняў Антося значна шырэйшы ў параўнанні з кругаглядам Міхала.

У час паездкі ў Вільню ён яшчэ выразней убачыў сацыяльную няроўнасць паміж людзьмі, класавую сутнасць існуючай сістэмы, бюракратызм і хабарніцтва дзяржаўных чыноўнікаў, адчуў сваё бяспраўнае, залежнае становішча. Антось пачынае глыбей разумець навакольнае жыццё, падыходзіць да значнага абагульнення ў сваёй крытыцы і адмаўленні існуючага ладу, бачыць галоўнага вінавайцу ўсіх няшчасцяў у асобе цара, але і ён яшчэ не ўзнімаецца да свядомай барацьбы. Забіць пана падлоўчага, узяць саломы ды падпаліць харомы гарадскіх магнатаў — такія імкненні і жаданні жывуць у глыбіні душы гэтага чалавека, даведзенага да крайняй ступені абурэння і адчайнай рашучасці. Стыхійнасць, сялянская абмежаванасць у формах і метадах пратэсту праяўляюцца ў ім з асаблівай яркасцю. Аўтар указвае на гістарычную абумоўленасць паводзін героя, адсылае нас у глыбіню вякоў да эпохі прыгоннага ладу, дзе тояцца карэнні забітасці, закасцянеласці і вясковай заскарузласці селяніна.

Як пісьменнік-псіхолаг, Якуб Колас шырока ставіць праблему чалавечага характару і вырашае яе ў духу класікаў рускай літаратуры. Асноўныя героі паказваюцца ім глыбока, усебакова, у іх працоўнай дзейнасці, у разнастайных сувязях са знешнім светам,

ва ўсёй разнастайнасці іх чалавечых якасцей. Вобразы паноў і ляснічых займаюць у паэме меншае месца і цікавяць аўтара толькі ў плане супрацьстаўлення асноўным героям, прадстаўнікам працоўнага народа. Паны і падпанкі ў паэме з'яўляюцца носьбітамі ўсяго адмоўнага, бесчалавечнага і нізкага. На першы план выступае іх эксплуататарская сутнасць. Звычайна яны падаюцца статычна, псіхалагічны свет іх мала цікавіць аўтара.

У «Новай зямлі» Якуб Колас выступае выключным знаўцам побыту і псіхалогіі беларускага сялянства, песняром яго працоўнай дзейнасці і высокіх маральных якасцей. У лірычных адступленнях, якія падпарадкаваны асноўнай задуме твора, ён выказвае свае глыбокія погляды на жыццё, на разуменне гістарычнага працэсу, у цэнтр якога ставіць народ, развівае патрыятычныя ідэі, марыць аб лепшым будучым, стварае светлыя, рэалістычныя карціны прыроды.

* * *

Будучы буйнейшымі прадстаўнікамі рэвалюцыйна-дэмакратычнай літаратуры ў Беларусі, Янка Купала і Якуб Колас з'яўляюцца разам з тым і заснавальнікамі савецкай беларускай літаратуры, буйнейшымі пісьменнікамі літаратуры сацыялістычнага рэалізма. Кожны з іх па-свойму праходзіў пераломны этап у сваёй творчасці — ад рэвалюцыйнага сялянскага дэмакрата да савецкага пісьменніка з марксісцка-ленінскім светапоглядам. Успрыняцце і разуменне новага, як глыбокі ўнутраны працэс, праходзілі не без сумненняў і супярэчнасцей у светапоглядзе паэтаў у першыя гады іх творчай дзейнасці на новым этапе. Пад уплывам развіцця самой рэчаіснасці, пры добратворным уздзеянні з боку бальшэвіцкай партыі і савецкай дзяржавы, па меры авалодвання вучэннем марксізма-ленінізма, адбывалася станаўленне новага светапогляду. І гэта праяўлялася ў іх высокаідэйных творах аб новым, савецкім жыцці, у глыбіні засваення прынцыпаў сацыялістычнага рэалізма.

Завяршаючы распачатыя раней эпічныя творы на тэмы з дарэвалюцыйнага жыцця, Якуб Колас пачынае ўсё глыбей успрыймаць і мастацкі асэнсоўваць новую савецкую рэчаіснасць, каб адлюстраваць яе ў праўдзівых, тыповых вобразах. Вярнуўшыся ў 1921 годзе ў Мінск з Курскай губерні, дзе паэт пражыў каля пяці год, ён актыўна ўключаецца ў дзяржаўнае і культурнае будаўніцтва рэспублікі, прымае ўдзел у арганізацыі Беларускага дзяржаўнага універсітэта і Акадэміі навук, сумяшчае пісьменніцкую, педагагічную, грамадска-палітычную і навуковую работу. Якуб Колас адыгрывае

вялікую ролю ў развіцці ўсяго літаратурнага працэсу ў Беларусі, дапамагае вырошчваць маладыя кадры літаратараў. Патрабавальны да сябе і да другіх, Якуб Колас заклікае пісьменнікаў няспынна павышаць свой ідэйна-палітычны ўзровень, вывучаць жыццё, авалодваць паэтычным майстэрствам. «Калі майстар мастацкага слова, — гаворыць ён у адным з сваіх літаратурна-публіцыстычных артыкулаў,— не будзе стаяць на ўзроўні хоць-бы агульных ведаў сваёй эпохі, калі ён не ўбярэ ў сябе асноўныя філасофскія тэндэнцыі свайго класа, ён не можа даць глыбока паэтычнага твора, вартага сваёй эпохі і здольнага рухаць масы наперад. Але адных тэарэтычных ведаў таксама недастаткова. Патрэбны і вялікія жыццёвыя веды, назіранне над жыццём, уважлівае вывучэнне аб'ектаў сваёй творчасці і дасканалая ўпартая работа над кампазіцыйнай пабудовай сваіх твораў...»

Якуб Колас адзін з першых у беларускай літаратуры паставіў перад сабой задачу — стварыць на матэрыяле грамадзянскай вайны вобраз большэвіка. Ужо ў апавяданні «Сяргей Карага» са зборніка «На рубяжы» (1923 г.) яго ўвагу прыцягнула гэта надзвычайна важная праблема. Ствараючы вобразы комуністаў, паэт асэнсоўвае гісторыю, як законамерны, арганізаваны працэс, які накіроўваецца большэвіцкай партыяй. Выкрываючы версіі нацыяналістаў аб застыгласці, нейкай выключнай самабытнасці і нерухомасці беларускай нацыі, Якуб Колас самім фактам стварэння вобразаў комуністаў сцвярджае, што большэвізм у Беларусі — з'ява гістарычна-законамерная, якая расце і развіваецца арганічна, з нетраў самой рэчаіснасці. Вобразамі комуністаў і наогул новых совецкіх людзей, куды ўключаецца і лірычны герой аўтара, Якуб Колас унёс свой уклад у адлюстраванне нацыянальнага беларускага характару, адзначыўшы ў ім новыя, выпрацаваныя самім жыццём, тыповыя рысы — большэвіцкую ідэйнасць і гераізм у барацьбе за шчасце народа.

У зборніку «На рубяжы» Якуб Колас паказаў і тыя змены, што адбыліся ў вёсцы і ў паводзінах яе жыхароў у першыя-ж гады пасля Кастрычніка. Пісьменніка цікавяць у першую чаргу перадавыя людзі, прыхільнікі новых парадкаў, такія як селянін-бядняк Пятро Мазалеўскі, якога паланіла і захапіла рэволюцыя веліччу ідэі і перспектывай радаснага свабоднага жыцця.

Паэма «Сымон музыка», да якой аўтар вяртаўся неаднойчы і завяршаў ужо ў совецкі час, як і «Новая зямля», з'яўляецца класічным творам беларускай літаратуры, узнімае яе на новую, вы-

шэйшую ступень. У паэме на вялікім матэрыяле дарэвалюцыйнага жыцця беларускай вёскі пастаўлена і вырашана адна з найважнейшых праблем, якая хвалявала амаль што ўсіх нашых пісьменнікаў, — праблема мастака і мастацтва ва ўмовах капіталістычнай рэчаіснасці. У паэме «Сымон музыка» знайшлі яскравае выяўленне і эстэтычныя погляды Якуба Коласа, глыбокае разуменне ім сацыяльнай прыроды мастацтва, яго асноўнага прызначэння — праўдзіва адлюстроўваць жыццё, служыць справе вызвалення і ўзвышэння народа.

Асноўнае пытанне эстэтыкі — пытанне аб адносінах мастацтва да рэчаіснасці — Якуб Колас вырашае з пазіцый народнага мастака, у духу матэрыялістычнай эстэтыкі. Жыццё вызначае напрамак мастацтва, яго характар, дае яму змест і сілу. Жыццё народа, краіны — невычэрпная крыніца паэзіі. Паэзія вырастае з тых найбагацейшых уражанняў, думак і пачуццяў, якія назапасіліся і захаваліся ў свядомасці паэта ў працэсе вывучэння і пазнання ім рэчаіснасці. Песня нараджаецца ў глыбінях народнага жыцця, яго вусна-паэтычнай творчасці... Змест і форма паэмы «Сымон музыка», гэтай своеасаблівай казкі жыцця, як спачатку назваў быў яе паэт, прыйшла да яго

Ад роднае зямлі, ад гоману бароў,
Ад казак вечароў,
Ад песень дудароў,
Ад светлых воблікаў закінутых дзяцей,
Ад шолаху начэй,
Ад тысячы ніцей,
З якіх аснована і выткана жыццё.

Паэма «Сымон музыка» — гэта адзін з самых задушэўных твораў народнага песняра, у якім ён перадаў многа і свайго асабістага, аўтабіяграфічнага, што ідзе, галоўным чынам, не па лініі знешніх супадзенняў, а па лініі раскрыцця духоўнага вобліку мастака з народа, гісторыі фарміравання яго таленту, яго грамадска-палітычных і эстэтычных поглядаў. Асноўнае ў паэме — праблема таленту, роля мастака і мастацтва ў жыцці і барацьбе народа. Унутраная, глыбінная тэма яе — тэма подзвігу, перамогі чалавека, у асобе якога сканцэнтраваны вялікія духоўныя сілы, чалавека, моцнага верай у будучае, натхнёнага высокай ідэяй служэння людзям.

Вобраз Сымона раскрываецца паэтам на шырокім фоне жыцця

дакастрычніцкай Беларусі. Мы бачым героя ў няспынным росце і развіцці. Вынік гэтага развіцця — прыход Сымона да ўсведамлення неабходнасці социяльнай рэвалюцыі і разумення ролі мастацтва як аднаго з актыўных сродкаў у вызваленчай барацьбе. Паэма «Сымон музыка» — гэта глыбока паэтычны, народны твор, пранікнуты ўслаўленнем маладосці, таленавітасці, маральнай сілы і стойкасці, перамогі чалавека над змрочнымі социяльнымі ўмовамі жыцця.

Вобразамі мастака Сымона з аднайменнай паэмы і настаўніка Лабановіча, галоўнага героя трылогіі, што ўвайшла ў літаратуру пад агульнай назвай «Палескія аповесці», Якуб Колас раскрывае гістарычны працэс нараджэння і развіцця дэмакратычнай беларускай інтэлігенцыі, якая выходзіла з гушчы народных мас і напружана шукала сапраўдных прычын беднасці і бяспраўнасці працоўных, шпарка расла ідэйна і палітычна ў сувязі з ростам свядомасці рэвалюцыйных мас.

У прадмове да заключнай часткі трылогіі — «На ростанях», над якой пісьменнік працуе цяпер, ён пісаў: «Гэта працяг маіх аповесцей аб дарэвалюцыйным жыцці сялянства і вясковай інтэлігенцыі Палесся — «У палескай глушы» і «У глыбі Палесся»... Я хачу правесці майго галоўнага героя, настаўніка Лабановіча, праз цяжкія жыццёвыя выпрабаванні і паказаць, як ён стаў актыўным будаўніком новага ладу, сапраўдным савецкім чалавекам».

У цэнтр развіцця сюжэта і асноўных характараў трылогіі пастаўлен тэматычны комплекс — інтэлігенцыя, рэвалюцыя і народ. Пытанні гэтыя, узятыя ў іх цеснай сувязі, хвалявалі класікаў рускай літаратуры А. П. Чэхава і М. Горкага, і кожны з іх, выходзячы з свайго метада і светапогляду, уносіў нешта сваё, новае, арыгінальнае ў іх вырашэнне.

На багатым жыццёвым матэрыяле, асвятляючы надзвычайна важныя, бурныя перыяды ў развіцці грамадства, вырашае гэтыя пытанні Якуб Колас. Ён паказвае складаны працэс нараджэння дэмакратычнай інтэлігенцыі ў Беларусі, яе безупынны духоўны рост у адным «скразным» вобразе — у вобразе настаўніка Лабановіча. Трылогія Якуба Коласа, такім чынам, — гэта частка гісторыі беларускага народа і яго інтэлігенцыі, яркі адбітак грамадска-палітычнага жыцця ў краіне ў перыяд рэвалюцыйнай барацьбы за ўстанаўленне новага социяльнага ладу. Калі да гэтага часу беларускі працоўны селянін выступаў як асноўны станоўчы вобраз пісьменніка, а беларуская вёска як асноўнае месца жыцця і дзейнасці

героя і ў той-жа час як найвыразнейшы сімвал роднага краю, то ў трылогіі сацыяльная база творчасці пісьменніка значна пашыраецца. Вобразы інтэлігентаў з'яўляюцца цяпер не толькі аб'ектам крытыкі, што мы бачылі ў большасці дарэвалюцыйных апавяданняў Коласа, але і сведчаннем духоўных сіл беларускага народа, яго нацыянальнай самасвядомасці.

З вялікай мастацкай сілай і філасофскай глыбінёй Якуб Колас паказаў у сваіх аповесцях, як на працягу дзесяцігоддзяў у глыбінях народнага жыцця выспяваў сацыяльны пратэст народных мас супроць самадзяржаўна-памешчыцкага ладу і як гэта спрыяла духоўнаму росту дэмакратычнай інтэлігенцыі і прыводзіла яе да рэвалюцыйнага падполля, да бальшэвізма.

Па глыбіні псіхалагічнага аналізу, па разнастайнасці сродкаў і прыёмаў характарыстыкі як станоўчых, так і адмоўных герояў, па майстэрству ў стварэнні пейзажу, нарэшце, па ўнутранаму лірызму апавядальнай манеры аўтара палескія аповесці ўзнімаюцца да класічных узораў рэалістычнай рускай прозы і ў першую чаргу да раманаў М. Горкага, якія ўяўляюць сабой новую якасць у развіцці жанра сацыяльнага рамана. Ахоп жыццёвага матэрыялу ў аповесцях настолькі шырокі (як у храналагічным, так і ў сацыяльна-бытавым плане), праблематыка настолькі глыбокая і гістарычна-актуальная, што ўсё гэта, разам узятае, дае поўнае права лічыць трылогію сацыяльна-псіхалагічным раманам.

Авалоданне тэорыяй марксізма-ленінізма, комуністычны светапогляд, уласцівы для пісьменніка ў савецкі перыяд творчасці, даюць яму магчымасць авалодаць і новым метадам літаратуры — метадам сацыялістычнага рэалізма, прыкметныя рысы якога праяўляюцца ў творчасці Якуба Коласа, пачынаючы са зборніка «На рубяжы». Палескія аповесці нясуць на сабе выразныя адзнакі новага метада. Гэтыя адзнакі праяўляюцца ў глыбокім вырашэнні асноўнай праблемы — праблемы інтэлігенцыі, у правільным разуменні палітычнай абстаноўкі ў краіне напярэдадні рэвалюцыі 1905 г. і ў ролі горада ў выхаванні рэвалюцыйнай свядомасці народных мас, у паказе рэвалюцыйнага падполля, у самім характары эвалюцыі галоўнага героя, настаўніка Лабановіча, у раскрыцці перспектывы яго дзейнасці на аснове новага светаўспрыймання.

Палескія аповесці — неабходнае звяно ў ідэйна-творчай эвалюцыі пісьменніка, вынік яго глыбокага ведання жыцця сялянства і інтэлігенцыі ў дарэвалюцыйную эпоху. Работа над аповесцямі

падрыхтавала пісьменніка да шырокага эпічнага адлюстравання новай рэчаіснасці і новых людзей, што выхоўваюцца і перавыхоўваюцца ва ўмовах савецкага ладу.

Перамога палітыкі індустрыялізацыі краіны, сацыяльныя зрухі ў вёсцы ў сувязі з працэсам калектывізацыі, якая ставіла сялянства на рэйкі сацыялізма, ліквідацыя апошняга капіталістычнага класа — кулацтва і разгром яго ідэолагаў — нацыяналістаў — усе гэтыя поспехі ў краіне спрыялі развіццю маладой савецкай літаратуры, адкрывалі перад ёю неабмежаваныя перспектывы далейшага росту і развіцця.

Аповесці Якуба Коласа «На прасторах жыцця» і «Адшчапенец», а таксама лірычныя вершы гэтых год, пазней уключаныя ў зборнік «Нашы дні», бясспрэчна з'яўляюцца творамі сацыялістычнага рэалізма і разам з першымі двума кнігамі трылогіі раскрываюць працэс станаўлення новага метада ў творчасці Якуба Коласа. Надзвычайна важным з'яўляецца тое, што пісьменнік бачыць і раскрывае ў сваіх творах гэтага часу шырокую і ясную перспектыву далейшага развіцця савецкай рэчаіснасці.

Калгас «Хваля Рэвалюцыі» ў аповесці «Адшчапенец» выступае як правобраз квітнеючага перамогшага калгаснага ладу ў будучым. Ад'езд Сцёпкі і Аленкі ў горад на вучобу ўспрыймаецца як прыклад смелых імкненняў, няспыннага духоўнага росту савецкіх людзей, творчыя сілы якіх раскавала Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя. Тыповыя рысы савецкай рэчаіснасці нясе ў сабе лірычны герой аўтара, будаўнік сваёй дзяржавы, змагар за новыя формы жыцця.

Творчыя поспехі старэйшых нашых пісьменнікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа вызначалі агульны ўзровень маладой беларускай савецкай літаратуры і ступень авалодвання яе майстрамі метадам сацыялістычнага рэалізма.

Аповесць «На прасторах жыцця» (1926 г.) — любімы твор савецкай моладзі, яркія вобразы якога, пачынаючы са школьнай лавы, на ўсё жыццё застаюцца ў памяці, выхоўваюць лепшыя пачуцці, раскрываюць сілу і красу самога працэсу чалавечага пазнання, клічуць да актыўнай грамадскай дзейнасці, вучаць любіць сваю радзіму.

Асноўнае месца ў аповесці займаюць героі нашай сучаснасці, тыповыя прадстаўнікі савецкай моладзі — Сцяпан Барута і Аленка. Хвалюючая, пранікнутая мяккім лірызмам і сапраўднай паэзіяй, аповесць расказвае аб жыцці, дружбе і вучобе маладых людзей,

выхаваных паслярэвалюцыйнымі ўмовамі жыцця, савецкай школай. Якуб Колас у гэтай аповесці з вялікай сілай і глыбінёй услаўляе новага савецкага чалавека з яго неабмежаванымі магчымасцямі, сцвярджае сацыяльна-палітычныя ўмовы жыцця, якія даюць шырокі прастор для развіцця ўсіх задаткаў, закладзеных у чалавеку. Аповесць «На прасторах жыцця» з'яўляецца ўслаўленнем дружнай калектыўнай працы.

Сцвярджэнне новай гістарычнай рэчаіснасці, новага савецкага чалавека ва ўсіх праяўленнях яго дзейнасці, ідэй савецкага патрыятызма і сталінскай дружбы паміж народамі складаюць асноўны змест лірыкі Якуба Коласа савецкага часу. У вершах, прысвечаных тэме мастацтва, пісьменнік сам вызначае характар і задачы новай песні, ролю паэта ў савецкую эпоху — «для радзімы складаць свае песні, як ніхто і ніхто не складаў». Якуб Колас гаворыць аб радасных песнях, што твораца ў наш час і ўслаўляюць Радзіму, працу і чалавека, творцу новага жыцця.

Змоўкла ў прасторах песня старая,
Скаргі адвечнай палон:
Вольная праца нас адарае
Песняю радасных дзён.

Раскутым Праметэем называе паэт свой народ, па-новаму асэнсоўваючы вобраз, што ўваходзіць сваімі карэннямі ў глыбіні чалавечай культуры. Кастрычніцкая рэвалюцыя развяволіла найбагацейшыя духоўныя магчымасці беларускага народа, прынесла яму нацыянальную дзяржаўнасць, зрабіла яго роўным сярод роўных у дружнай сям'і савецкіх народаў. Пясняр сталінскай дружбы народаў нашай краіны, Якуб Колас усё новае і вялікае, што здабыў беларускі народ у выніку Кастрычніка, звязвае з імёнамі правадыроў, геніяў рэвалюцыі, Леніна і Сталіна, якіх называе сейбітамі праўды, творцамі чалавечага шчасця.

З вялікай цеплынёй і задушэўнасцю малюе народны пясняр вобраз Сталіна, паэтызуе характэрныя рысы дарагога вобліка правадыра і з яго дзейнасцю звязвае ажыццяўленне светлай мары лепшых прадстаўнікоў чалавецтва аб справядлівым сацыяльным ладзе, аб прыгожым жыцці на зямлі.

Праз гады-сталецці
Марылі аб шчасці
Людзі ўсіх краін,
Але толькі ў свеце

К шчасцю шлях пракласці
Здолееў ты адзін.

З лірычных вершаў Якуба Коласа выступае праўдзівы і яркі вобраз савецкай Радзімы, «новай зямлі», дзяржавы, дзе сам народ — творца і ўладар усіх здабыткаў. «Наш родны край» карэнным чынам змяніў сваё аблічча. І гэта новае, што нарадзілася і няспынна развіваецца ў нашай краіне, услаўляе народны пясняр, паэт-патрыёт. Глыбокая народнасць зместу і формы твораў Якуба Коласа савецкай эпохі, бальшэвіцкая ідэйнасць і праўдзівасць ставяць іх аўтара ў першыя рады пісьменнікаў Савецкага Саюза.

У многіх сваіх вершах аб Радзіме, напісаных яшчэ да вайны, паэт марыць аб пабудове прыгожых і светлых камяніц у нашых калгасных сёлах, выказвае сваю глыбокую пяшчотную любоў да савецкай краіны, якая яшчэ больш пышна расквітнее ў будучым.

І марам я сваім тут волю дам,
І думаю, што будзе ў нашым краі:
Змятуць калгаснікі драўляны хлам,
Я новыя катэджы ўбачу сам,
І Вусця я на Бадэн не змяняю.

Раскрываючы новае светаадчуванне лірычнага героя сваёй паэзіі як тыповага чалавека савецкай эпохі, малюючы ў эпічных творах вобразы людзей, народжаных савецкім грамадскім ладам, Якуб Колас не аднойчы звяртаецца да паказу самога працэсу перавыхавання чалавека на фоне гістарычных падзей надзвычайнай важнасці, у ходзе барацьбы за пераўтварэнне жыцця.

Аповесць «Адшчапенец», напісаная на тэму калектывізацыі, блізка стаіць да такіх твораў рускай і беларускай літаратуры, як «Паднятая цаліна» Шолахава, «Брускі» Панфёрава, «Краіна Мураўія» Твардоўскага, «Над ракой Арэсай» Янкі Купалы.

Якуб Колас у сваёй аповесці пераканаўча паказаў перамаганне дробнаўласніцкіх інстынктаў, выхаваных стагоддзямі ва ўмовах старога ладу жыцця, і пачатак станаўлення новага тыпу селяніна ў калгаснай вёсцы—арганізатара, актывіста, грамадскага дзеяча. Пісьменнік правільна ўлавіў гістарычную перспектыву развіцця савецкай вёскі, адзначыў момант павароту да калектывізацыі селяніна-серадняка, што ўрэшце і вырашыла яе далейшы ход і завяршэнне.

Класічным творам літаратуры сацыялістычнага рэалізма з'яўляецца аповесць Якуба Коласа «Дрыгва», у якой аўтар звяртаецца

да адлюстравання падзей рэвалюцыі і грамадзянскай вайны на Беларусі.

Зварот пісьменніка да гістарычнай тэматыкі не выпадковы. Калі буйныя творы Якуба Коласа, закончаныя і напісаныя ў савецкі час, — «Новая зямля», «Сымон музыка», палескія аповесці — нельга зразумець, не ўяўляючы сабе характару і асаблівасцей рэвалюцыі 1905 года, як найважнейшага сацыяльна-палітычнага фактару ў жыцці краіны, то для савецкага перыяду творчасці такім сацыяльна-палітычным фактарам з'яўляецца сацыялістычная рэвалюцыя, яе мэты і задачы. Якуб Колас звяртаецца да падзей грамадзянскай вайны і рэвалюцыі, каб з вышыні пражытых гадоў па-новаму, гістарычна правільна раскрыць нараджэнне новай эры і новага чалавека ў працэсе самой барацьбы.

Аповесць «Дрыгва» адлюстроўвае мужную барацьбу Чырвонай Арміі і партызан Беларусі супроць белапольскіх інтэрвентаў, паказвае перамогу над ворагамі і выгнанне іх з савецкай зямлі. Гэтая барацьба, як паказвае пісьменнік, носіць інтэрнацыянальны характар: за савецкую Радзіму ў радах Чырвонай Арміі змагаюцца прадстаўнікі працоўных усіх нацыянальнасцей. Кіруе барацьбой камуністычная партыя праз свае арганізацыі, што дзейнічаюць на тэрыторыі акупіраванага Палесся. У сваёй аповесці Якуб Колас малюе і міжнародную абстаноўку перыяду белапольскай інтэрвенцыі, выкрывае захопніцкія планы імперыялістаў Антанты, якія аб'едналіся ў барацьбе супроць маладой савецкай краіны.

Новы твор Якуба Коласа знаменаваў сабой росквіт метада сацыялістычнага рэалізма ва ўсёй беларускай літаратуры і з'явіўся выражэннем высокай ідэйнасці і праўдзівасці, узорам стройнасці і цэльнасці пабудовы, прастаты і празрыстасці мастацкай формы. Уплыў «Дрыгвы» на далейшае развіццё апавядальнага жанра ў беларускай літаратуры надзвычайна вялікі.

Літаратура перыяду сталінскіх пяцігодак вызначаецца бурным колькасным і якасным ростам, шырокім ахопам з'яў рэчаіснасці, паглыбленнем псіхалагічнага аналіза. У гэты час выходзяць у свет такія вядомыя творы, як паэма «Над ракой Арэсай» Я. Купалы, трэцяя рэдакцыя аповесці «Салавей» і раман «Язэп Крушынскі» Бядулі, п'есы «Канец дружбы», «Партызаны» і «Хто смяецца апошнім» К. Крапівы, раманы і аповесці К. Чорнага і інш. Сярод усіх гэтых твораў адно з першых месц займае аповесць «Дрыгва» Якуба Коласа. Яна ўліваецца ў агульнае рэчышча кла-

січнай совецкай літаратуры аб грамадзянскай вайне, у якой сцвярджаецца стваральная прырода рэвалюцыйнай барацьбы, але, як і ўсякі значны твор нацыянальнай літаратуры, яна мае свае асаблівасці.

Шырокі план аповесці — паказ барацьбы народных мас за совецкую Радзіму супроць яе знешніх і ўнутраных ворагаў цесна пераплятаецца з больш вузкай тэмай твора — раскрыццём унутранага працэса перавыхавання людзей у ходзе гістарычных баёў. Якуб Колас праўдзіва паказаў паводзіны ўсіх класаў і груп грамадства ў гэтым рашучым змаганні. З прыходам акупантаў актывізавалася дзейнасць вясковых кулакоў і нацыяналістаў, а з другога боку, найбольш поўна праявіліся лепшыя якасці прадстаўнікоў працоўнага народа, сапраўднага носьбіта і хавальніка патрыятычных і рэвалюцыйных традыцый.

Белапольскія акупанты неслі нацыянальнае прыгнечанне і аднаўленне ненавісных старых парадкаў. «З глыбі вякоў, — піша аўтар, — паўставалі даўно забытыя, сцёртыя ў памяці народа парадкі, традыцыі і адміністрацыйныя функцыі абуджанай польскай дзяржаўнасці, паўставалі, як магільныя прывіды, узрушаючы псіхіку шырокіх пластоў працоўных мас...»

Асноўны канфлікт аповесці носіць сацыяльна-класавы характар. У сувязі з гэтым у ёй дадзена рэзкае размежаванне герояў на два супроцьлеглыя лагеры. З аднаго боку — белапольскія акупанты, поўныя ўпэўненасці і фанабэрыі паны Крулеўскі і Длугошыц, нікчэмны прыслужнік сваіх замежных гаспадароў беларускі нацыяналіст Галініч, вясковыя кулакі Бусыга, Бруй і Бірка — абаронцы старога свету, рэакцыі, контррэвалюцыі. Ім супроцьстаяць станоўчыя героі аповесці, прадстаўнікі працоўнага беларускага народа, дзед Талаш, Нявідны, Мартын Рыль, Цімох Будзік, Марка Балук, камандзіры Чырвонай Арміі Букрэй і Шалёхін. Галоўнымі носьбітамі большэвіцкіх ідэй у аповесці з'яўляюцца падпольшчык-комуніст Нявідны і камандзіры Чырвонай Арміі, якія адыгрываюць вялікую ролю ў арганізацыі барацьбы і ў выхаванні народных мсціўцаў.

Дзед Талаш, Мартын Рыль, Нявідны, Марка Балук, Цімох Будзік — гэта тыповыя прадстаўнікі беларускага народа, які ўзняўся са зброяй у руках на абарону заваёў рэвалюцыі. Асноўнае месца ў аповесці аўтар адводзіць дзеду Талашу, сярэдняму чалавеку з народа, які прайшоў доўгі і складаны шлях у сваім развіцці ад цёмнага селяніна, што стаяў раней у баку ад палі-

тычных падзей, да свядомага, палітычна пісьменнага партызана, камандзіра, які сам уплывае на масы і выхоўвае іх, а потым, ва ўмовах пасляваеннага жыцця, становіцца старшынёй сельсовета.

У працэсе самой барацьбы, пад уплывам бальшэвіка Нявіднага і камандзіраў Чырвонай Арміі, дзед Талаш глыбока ўспрыймае ідэю совецкага патрыятызма, высока ўзнімаецца ў сваёй палітычнай свядомасці, становіцца бясстрашным важаком партызан.

Прататыпам вобраза дзеда Талаша з'яўляецца рэальная асоба, палескі селянін Васіль Ісакавіч Талаш, былы прыгонны селянін, а пасля панскі батрак, які на сваім вяку зазнаў многа пакут і гора. У час грамадзянскай вайны ён праславіўся сваімі гераічнымі ўчынкамі. Будучы ўжо зусім старым чалавекам, Васіль Талаш прымаў удзел у Айчыннай вайне і ўбачыў яе пераможнае завяршэнне. Памёр Талаш у жніўні 1946 года ў сваёй роднай вёсцы на Петрыкаўшчыне на 103 годзе жыцця.

Не дзіўна, што жыццё гэтага выдатнага і па-народнаму мудрага чалавека звярнула на сябе ўвагу пісьменніка, дало багаты матэрыял для творчай думкі. У жыцці Талаша нібы адбілася стогадовая гісторыя нашага народа, яго пакутлівы і гераічны шлях. Пераломным момантам у жыцці Талаша становяцца бурныя падзеі рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, якія выводзяць героя на арэну гістарычнай дзейнасці, робяць яго новым совецкім чалавекам. Надзвычайна тыпова і праўдзіва падаецца самы зыходны пункт станаўлення дзеда на новую дарогу жыцця і паводзін. Справа пачалася з таго, што Талаш уступіў у бой з белапалякамі за свой стажок сена, які тыя хацелі забраць. Гэта славутая «баталія каля стажка» і яе вынікі закрылі дзеду зварот дадому і ва ўсю шырыню паставілі перад ім пытанне аб далейшых шляхах, аб арганізацыі партызанскага войска і сувязі з часцямі Чырвонай Арміі. Здзекі і грабяжы акупантаў, падзеі, што разгортваліся ў краіне, паступова выцяснялі з дзедавых думак яго ўласную крыўду. «Справа абарочвалася значна горш, я на першае месца выпіналася агульнае ліха сялянскай галечы». Палітычнае развіццё дзеда праходзіла праз пэўныя этапы, усё больш узнімаючы яго да разумення агульных задач вызвалення ад захопнікаў усёй совецкай зямлі.

У асобе дзеда Талаша пісьменнік стварыў тыповы і яркі характар, які вырастае на народнай глебе і ўбірае ў сябе істотныя адзнакі новага, створанага рэвалюцыяй, нацыянальнага характару. Шлях дзеда Талаша — гэта тыповы шлях працоўнага сялянства

ў рэвалюцыі, вернага саюзніка рабочага класа, актыўнага змагара за савецкую бацькаўшчыну, прагнага да новых форм жыцця, якое нясе і раскрывае перад ім савецкая рэчаіснасць.

У вобразе Мартына Рыля, лепшага таварыша дзеда Талаша, адзначаюцца новыя моманты народнага гераічнага характару. Яго жыццё і паводзіны таксама характарызуюць асаблівасці шляху ў рэвалюцыйна-вызваленчай барацьбе працоўнага беларускага сялянства. Сумуючы па мірным жыцці і працы, ён да апошняй хвіліны мужна змагаецца з ворагам, паказвае прыклады асабістага гераізма і адданасці справе працоўных.

Кожны з партызан і воінаў надзелен якой-небудзь сваёй яркай рысай характару. Сярод агульнай масы вылучаюцца пісьменнікам «спец па часці падпалаў» Цімох Будзік, мудры чалавек, арганізатар складаных аперацый Марка Балук, «камбінатарская галава» ўзводны Букрэй, вопытны палітычны работнік камандзір Шалёхін.

Якуб Колас стварыў у сваёй аповесці цікавы вобраз працоўнай беларускай жанчыны, праўдзіва паказаў умовы жыцця, якія фарміравалі яе характар. У складанай, супярэчлівай натуры Аўгіні пад уплывам падзей грамадзянскай вайны перамагаюць лепшыя, закладзеныя ў ёй чалавечыя якасці і прыводзяць гераіню ў стан барацьбітоў, адкрываюць перад ёй шлях да актыўнай грамадскай дзейнасці.

Непахісную волю, высокую бальшавіцкую ідэйнасць, стойкасць і мужнасць у барацьбе за шчасце народа ўславіў пісьменнік у вобразе камуніста Нявіднага, натхніцеля і арганізатара барацьбы партызан на Палессі. Ідэя служэння рэвалюцыі з'яўляецца асноўнай, вызначальнай ідэяй у паводзінах героя, яна надае яму вялікую ўнутраную сілу і радаснае адчуванне паўнаты жыцця. Ён самаадданa змагаецца і памірае за перамогу і росквіт новага ладу, новых адносін паміж людзьмі. Сімвалам гэтага будучага росквіту з'яўляецца ў аповесці цудоўны, маляўнічы вобраз вясны, якая ўладарна ўступае ў свае правы і змяняе твар зямлі.

Талент Якуба Коласа праявіўся і ў драматургіі, і ў галіне літаратурнай крытыкі і публіцыстыкі. Сярод створаных ім п'ес — «Антось Лата», «Забастоўшчыкі», «На дарозе жыцця», «У пушчах Палесся» (па матывах аповесці «Дрыгва») і «Полымя ў акопах» («Вайна вайне») — асобнае месца займае апошняя. Напісана яна ў 1937 г. да 20-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі і адлюстроўвае надзвычайна важны момант у развіцці рэвалюцыйна-вызваленчага руху ў краіне—

барацьбу за ажыццяўленне лозунга большэвіцкай партыі аб перарастанні вайны імперыялістычнай у вайну грамадзянскую. П'еса гэта ўяўляе вялікую цікавасць і ў плане вырашэння адной з цэнтральных праблем усёй творчасці Якуба Коласа — аб шляхах інтэлігенцыі ў рэвалюцыі. Гэтыя праблемы былі пастаўлены ім яшчэ ў дакастрычніцкі перыяд творчасці і пазней шырока распрацаваны ў палескіх аповесцях. У п'есе «Полымя ў акопах» («Вайна вайне») Якуб Колас на канкрэтным гістарычным матэрыяле вырашае тэму інтэлігенцыі, выводзіць характэрны вобраз вясковага настаўніка Алеся Шабуры, што прышоў да праўды, як ён сам гаворыць, праз свае пакуты і пакуты мільёнаў. Праўда, да якой прыходзіць герой, непарыўна звязана з дзейнасцю большэвіцкай партыі.

Як літаратурны крытык і публіцыст, Якуб Колас заўсёды ўзнімае самыя істотныя пытанні літаратурнага жыцця, змагаецца за большэвіцкую ідэйнасць і высокую мастацкую якасць твораў, за чысціню і багацце мовы пісьменніка. Яго крытычныя артыкулы пра Пушкіна, Купалу, Багдановіча, Шэўчэнку і многія іншыя складаюць надзвычайную каштоўнасць для нашага літаратуразнаўства.

Публіцыстыка Якуба Коласа вылучылася ў самастойную галіну яго шматграннай дзейнасці і дасягнула свайго вышэйшага развіцця ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны, калі народны пясняр, як і ўсе савецкія літаратары, гаворачы словамі паэта, прыраўняў пяро да штыка, паставіў сваё паэтычнае майстэрства на службу вялікай патрыятычнай справе барацьбы супроць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Зборнікі лірыкі паэта гэтага часу «Родине, вождю» (на рускай мове), «Адпомсцім», «Голас зямлі» і паэмы «Суд у лесе» і «Адплата» з'яўляюцца бліскучай старонкай у гісторыі савецкай беларускай літаратуры. Творы Якуба Коласа перыяду Айчыннай вайны прасякнуты грамадзянскім пафасам, дзейсным савецкім патрыятызмам. Лірыка і публіцыстыка тут зліваюцца ў адно і даюць яркія ўзоры заклікальнай палітычнай паэзіі. Тэма радзімы і народа ставіцца і распрацоўваецца паэтам у новым аспекце, на новым гістарычным матэрыяле.

Глыбокая сыноўняя любоў да Беларусі, краіны-партызанкі, часова забранай у нямецкі палон, адчуваецца ў кожным радку паэта, насычаным, як заўсёды, глыбокімі думкамі і пачуццямі.

Зямля мая! Разлучаны з табою,
Табой дышу, табою я жыву.

Прад вамі-ж, воіны, байцы-героі,
Я ў радасці схіляю галаву.

Зямля мая, краіна непакоры!
Ты голас мой пачуй у шуме гроз:
З табою я дзялю пакуты, гора,—
З дзяцінства я з тваім злучыў свой лёс.

Дык вер-жа, вер, зямля, мая матуля:
Наш ясны дзень не змеркнуў, не пагас,
І далі сінь зноў ласкай нас атуліць,
І прыдзе нам збаўення светлы час.

З болем у сэрцы малюе паэт карціны разбурэння і знішчэння родных гарадоў і сёл, выгнання савецкіх людзей у фашысцкае рабства. Але ніколі ў творах паэта не гучалі ноты адчаю і безнадзейнасці. Вера ў перамогу совецкага народа, гістарычны аптымізм складае адну з адзнак светапогляду народнага паэта.

Сілу, якая здольна вызваліць часова акупіраваную Беларусь, паэт бачыць у жыватворчым совецкім патрыятызме, у неператожнасці большэвіцкіх ідэй, у мудрасці палкаводчага генія І. В. Сталіна. Раскрываючы ўсенародны характар партызанскай барацьбы, Якуб Колас славіць воінаў і камандзіраў Совецкай Арміі, сталінскую дружбу совецкіх народаў.

Паэма «Адплата», напісаная ў гэты час, з'яўляецца шырокім эпічным палатном аб гераічнай барацьбе беларускага народа супроць фашысцкіх захопнікаў. У цэнтры паэмы пастаўлен партызанскі атрад, дзейнасць якога ўвасабляе тыповыя рысы ўсенароднай барацьбы, дае магчымасць паэту стварыць абагульнены вобраз геараічнай партызанскай масы.

У вобразе Кандрата Белавуса, комуніста, камандзіра партызанскага атрада, паэт раскрывае высокія ідэйна-маральныя якасці і арганізатарскія здольнасці совецкага чалавека-воіна. Аналізуючы геараічны характар Кандрата Белавуса, можна бачыць, які агромністы шлях у сваім палітычным росце і развіцці прайшло наша сялянства за гады жыцця ва ўмовах совецкай улады.

Матывы ўслаўлення мірнай стваральнай працы гучалі ў творчасці Якуба Коласа і ў самыя цяжкія напружаныя часы Айчыннай вайны. Тэма міру і працы стала асноўнай тэмай паэта ў пасляваенны перыяд, калі наш народ з вялікім творчым энтузіязмам пачаў аднаўляць разбураныя фашысцкімі захопнікамі гарады і сёлы.

Глыбока патрыятычная, насычаная высокімі ідэямі сацыялістычнага гуманізма, прасякнутая пафасам мірнай стваральнай працы, творчасць Якуба Коласа служыць справе комунізма, справе міру і дружбы паміж народамі. Тэма барацьбы за мір з'яўляецца адной з важнейшых тэм літаратурна-мастацкай і публіцыстычнай дзейнасці пісьменніка на працягу ўсяго савецкага перыяду.

Пачынаючы ад твораў, напісаных у першыя гады савецкага жыцця, і да вершаў і публіцыстычных артыкулаў сённешніх дзён, Якуб Колас выступае страсным барацьбітом за мір супроць падпальшчыкаў крывавых войнаў. Гэтая тэма гучыць і ў такіх буйных творах, як «Адплата» і «Рыбакова хата», і ў вершах «Ворагам» (1927 г.), «Панам-ваякам» (1930 г.), «Будзьце чуйны» (1932 г.), «Будзьма гатовы» (1932 г.), «На варту» (1932 г.), «На шлюб пана Студніцкага» (1935 г.), «На міжнародныя тэмы» (1945 г.) і ў многіх іншых. Пісьменнік заклікае свой народ да пільнасці і гнеўна выкрывае ўсякага роду падпальшчыкаў новай вайны, выкрывае злачынную ролю Ватыкана, яго ідэйную сувязь з фашызмам, з англа-амерыканскім імперыялізмам. Сродкамі палітычнай сатыры Якуб Колас праўдзіва намаляваў партрэт іезуіта-інквізітара папы Пія XII.

У ідэях марксізма-ленінізма, у магутнасці нашай Радзімы, якая ідзе ў авангардзе барацьбітоў за мір, бачыць народны песняр непераможную сілу справы міру.

Ёсць новая сіла ў Совецкай краіне
На радасць народам зямлі.
Яна расчыняе дарогі ў вышыні,
Яе ў навальніцах, у грознай часіне,
Нам Ленін і Сталін далі.

. . . . . . . . . . . . .

Без страху, упэўнена, зорка, спакойна
З той сілай у даль мы глядзім.
Няхай вар'яцеюць апосталы войнаў,
А нас не пужае іх хор непрыстойны —
Ёсць Сталінскі геній. Мы з ім.

Паэтычная работа пісьменніка дзён Айчыннай вайны была высока ацэнена нашай партыяй і ўрадам. У 1946 г. за творы перыяду Айчыннай вайны Якубу Коласу прысвоена званне Сталінскага лаўрэата. У 1949 годзе за паэму «Рыбакова хата» яму была другі раз прысуджана Сталінская прэмія.

Над паэмай «Рыбакова хата» Якуб Колас працаваў з перары-

вамі каля сямі год: распачаў ён яе неўзабаве пасля вераснёўскіх падзей 1939 г. і закончыў у 1947 годзе.

Вера ў тое, што працоўныя Заходняй Беларусі парвуць кайданы панскай няволі, ніколі не пакідала Якуба Коласа. Гэтую веру ён выказаў у паэмах «Новая зямля» і «Сымон музыка», а таксама ў цэлым радзе лірычных вершаў. У час сваёй паездкі ў Парыж на Міжнародны кангрэс абароны культуры ў 1935 г. народны пясняр зноў убачыў Заходнюю Беларусь — мясціны, дзе ён нарадзіўся і вырас — і прысвяціў ёй шчыры, поўны смутку і гневу верш.

Гляджу, лаўлю вакол
Знаёмыя і выцвіўшыя рысы.
Дзе-ж люд, — ярэмны вол?
Спусціўшы вочы ў дол,
Ён ходзіць дзесь, адцёрты за кулісы.
Дзе-ж посулы паноў,
Іх лёкаяў аб роўнасці, аб волі?
У дзвеньканні званоў,
У звоне кайданоў,
У свісце бізуноў,
У голадзе, асадніцтве, падполлі!

Паэма «Рыбакова хата» шырока, у канкрэтных мастацкіх вобразах адлюстроўвае барацьбу працоўных Заходняй Беларусі за ўз'яднанне ў адзінай савецкай дзяржаве. Савецкі Саюз, краіна сацыялізма, з'яўляецца светачам, маяком для працоўных усяго свету ў іх барацьбе за сваё вызваленне — вось асноўная ідэя, філасофская аснова паэмы. Паэт малюе ў ёй два непрымірымыя лагеры, два фронты барацьбы ўнутры памешчыцка-буржуазнай Польшчы: з аднаго боку, прыгнечаныя сацыяльна і нацыянальна працоўныя масы і, з другога боку, прыгнятальнікі — апора дзяржаўнага ладу на «ўсходніх крэсах»: вясковы кулак-абдзірала асаднік Богут і прадстаўнікі польскай буржуазнай дзяржаўнасці Пшэбора, Глынка, Гедвіла.

Перакананаўча, на супастаўленні савецкага калгаса Беразянка і прыгнечанай польскімі панамі вёскі Петрушы раскрывае паэт перавагу сацыялістычнай сістэмы над сістэмай капіталістычнай. Ідэйная задума твора, сама рэчаіснасць падказваюць Якубу Коласу прыёмы кантраснага паказу людзей і з'яў, даюць матэрыял для супастаўленняў, параўнанняў і філасофскіх вывадаў.

Большэвіцкая ідэйнасць, савецкі патрыятызм, народнасць, высокае паэтычнае майстэрства з'яўляюцца асноўнымі рысамі гэтай па-

эмы, ліра-эпічнай па свайму жанру, грамадска-псіхалагічнай па характару адлюстравання рэчаіснасці. Своеасаблівую ролю ў паэме адыгрывае лірычны герой аўтара. Ён выступае як непасрэдны ўдзельнік ва ўсіх падзеях, што адбываюцца ў паэме, як важак, які ўказвае сваім героям выхад з іх паднявольнага існавання. У параўнанні з другімі паэмамі Якуба Коласа ў «Рыбаковай хаце» ўзмацняецца лірыка-публіцыстычны струмень і сатырычная абмалёўка адмоўных персанажаў.

На прыкладзе жыцця парабка Данілы Смыка, што прайшоў досыць складаны шлях у сваім развіцці, яго жонкі і саюзніцы Марыны паэт раскрывае заканамернасць вызваленчай барацьбы ў заходніх абласцях Беларусі, паказвае этапы падрыхтоўкі працоўных Заходняй Беларусі да ўз'еднання з Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай. На ўласным сваім вопыце Даніла пераканаўся, што ён не зможа пабудаваць сабе хаты, як думаў раней, і наогул не зможа ўжыцца з асаднікам Богутам, які ў паэме з'яўляецца ўвасабленнем усяго памешчыцка-буржуазнага ладу. Усведамленне гэтага з'явілася важным момантам у развіцці палітычнага светапогляду Данілы, што ў сваю чаргу абумовіла выбар ім пэўнага плана дзеяння, пэўнай сістэмы паводзін.

Трымайся лепш за грамаду,
Капай, як можаш, лад пракляты.

Падрабязна апісвае паэт бедную, жабрацкую абстаноўку збуцвелай старой хаты рыбака, дзе часова пасялілася маладая пара Даніла і Марына. Але ўнутранае багацце гэтых беднякоў, іх мары аб чалавечым шчасці і поўныя пяшчоты і ласкі адносіны ствараюць агульную светлую атмасферу і ўсяляюць веру ў перамогу такіх сумленных працоўных людзей, як яны самі. У паэме шырока разгорнута характарыстыка працоўнай дзейнасці герояў, з вялікім майстэрствам мастака-псіхолага раскрывае аўтар іх унутраны свет.

Да асноўных герояў паэмы належыць і рыбак Сымон Латушка, цікавы, арыгінальны і па свайму характару і па форме сацыяльнага пратэсту.

Натура вольная, як птушка,
Рыбак заядлы і дудар, —

заўважае аб ім аўтар у самым пачатку твора. «Крылатасць» душы Сымона, яго свабодалюбнасць і моцна развітае пачуццё чалавечай годнасці знаходзіцца ў прамой процілегласці з тымі ўмовамі жыцця, у якія ён пастаўлены. Сквапнасці і хцівасці Богута процістаіць у

паэме шырокая, маральна чыстая натура простага чалавека, які ўмее працаваць з захапленнем, цесна звязаны са сваім народам, па-сапраўднаму любіць прыроду свайго краю, свабодныя рэвалюцыйныя песні, родную сваю зямлю.

Якуб Колас праўдзіва паказвае ў паэме рост палітычнай свядомасці народных мас, згуртаванасць і стойкасць комуністаў у барацьбе за новы соцыяльны лад, іх знітаванасць з працоўнымі, з асяроддзя якіх выходзяць новыя і новыя барацьбіты.

З вялікай цеплынёй і лірызмам раскрывае паэт духоўныя, маральныя вартасці сваіх герояў з народа, паказвае іх працоўную дзейнасць і вялікія творчыя магчымасці, побыт, узаемаадносіны паміж сабой, дае замалёўкі цудоўных беларускіх пейзажаў усіх пор года.

Узорам высокага майстэрства аўтара з'яўляецца кампазіцыя і паэтыка твора — строфіка, рытміка, рыфма. Строгая сіметрычнасць— адна з асноўных адзнак усёй пабудовы паэмы. Аўтар творча выкарыстоўвае ў ёй элементы фальклору, многа бярэ з невычэрпнай крыніцы народнай мудрасці.

Побач з другімі вартасцямі творы Якуба Коласа прыкоўваюць да сябе ўвагу чытача асаблівасцямі мовы і стылю. Мова твораў Якуба Коласа — гэта ўзор сапраўднай беларускай літаратурнай мовы, якая ўвабрала ў сябе лепшыя моўныя здабыткі беларускага народа за цэлыя стагоддзі яго развіцця.

У сваіх артыкулах і выказваннях, якія маюць выключнае тэарэтычнае значэнне для літаратуразнаўства Беларусі, Якуб Колас з усёй выразнасцю і глыбінёй вызначае ролю мовы ва ўсёй літаратурна-творчай дзейнасці пісьменніка.

«У літаратурнай рабоце, — піша Якуб Колас, — мова з'яўляецца і матэрыялам і інструментам. Вось чаму кожны пісьменнік, калі ён хоча быць сапраўдным інжынерам чалавечых душ, павінен дасканала валодаць сваім інструментам і ведаць уласцівасці матэрыялу, пры дапамозе якога ён перадае і рэзкія рухі характару, і танчэйшыя адценні пачуцця.

Без гэтага валодання і ведання мы ніколі не будзем майстрамі».

Пасля выхаду ў свет геніяльных работ таварыша Сталіна аб мовазнаўстве пытанні мовы, яе ўнутраных законаў развіцця, узбагачэння і свядомага карыстання ёю сталі ў цэнтры ўвагі ўсіх совецкіх лінгвістаў і пісьменнікаў. Гэтыя работы правадыра пачынаюць сабой новы этап і ў галіне літаратуразнаўчай навукі. Яны ўказваюць шляхі

падыходу да вывучэння вялікіх моўных скарбаў, змешчаных у творах нашых народных паэтаў.

«Наша літаратурная мова,—гаварыў Якуб Колас, — знаходзіцца ў працэсе тварэння. Тварэц мовы — народ. Задача-ж пісьменніка — у фармаванні, адборы лепшага, у прывядзенні мовы да літаратурных норм. Як бачым, задача немалая. Мы павінны мець мову прыгожую, гучную, простую, але гнуткую і выразную». Такой прыгожай, простай, гнуткай і выразнай з'яўляецца мова самога Якуба Коласа.

* * *

Якуб Колас — буйнейшы пісьменнік беларускага народа, класік нашай літаратуры. Яго яркі, разнастайны, самабытны дар увабраў у сябе лепшыя асаблівасці нацыянальнай беларускай савецкай культуры, узняў яе на новую, вышэйшую ступень. Глыбокі сэнс літаратурна-творчай, грамадска-палітычнай, навуковай і педагагічнай дзейнасці Якуба Коласа, увесь шлях ідэйна-творчага развіцця паэта, яго працоўны подзвіг у імя Радзімы з'яўляюцца яркім паказчыкам імклівага развіцця нашай навукі і культуры, сведчаць аб велізарнай духоўнай энергіі і жыццедзейнасці беларускага народа, свабоднага і шчаслівага ў брацкай сям'і народаў Савецкага Саюза.

*М. БАРСТОК.*

* * *

Не пытайце, не прасеце
Светлых песень у мяне,
Бо, як песню заспяваю,
Жаль вам душу скалыхне.

Я-б смяяўся, жартаваў-бы,
Каб вас чуць развесяліць,
Ды на жыцце як паглядзіш,
Сэрца болем зашчыміць.

Нешчасліва наша доля:
Нам нічога не дала.
Не шукайце кветак ў полі,
Бо вясна к нам не прышла.

## НАШ РОДНЫ КРАЙ

Край наш бедны, край наш родны!
Лес, балоты і пясок...
Чуць дзе крыху луг прыгодны...
Хвойнік, мох ды верасок.

А туманы, як пялёнка,
Засцілаюць лес і гай.
Ой ты, бедная старонка!
Ой, забыты богам край!

Наша поле кепска родзіць,
Бедна тут жыве народ,
У гразі жыве ён, ходзіць,
А працуе — льецца пот.

Пазіраюць сумна вёскі,
Глянеш — сэрца забаліць.
На дварэ — паленне, цёскі,
Куча сметніку ляжыць.

Крыж збуцвелы пры дарозе,
Кучка топаляў сухіх...
Сцішна, нудна, бы ў астрозе
Ці на могілках якіх.

А як песня панясецца —
Колькі ў песні той нуды!

Уцякаў-бы, бег, здаецца,
Сам не ведаеш куды.

Край наш родны, бедна поле!
Ты глядзіш, як сірата,
Сумны ты, як наша доля,
Як ты, наша цемната.

## АСЕННІ ВЕЧАР

Бура вые. Лес гамоніць,
Як на сходзе дзе народ.
Вецер хмары так і гоніць;
Дождж, і гразь, і галалёд.

На камінку корч пылае;
Каля печы дзед сядзіць.
Бацька лапці папраўляе,
Маці ніткі села віць.

Вецер вые, не сціхае,
Дзіка ў коміне шуміць,
То заплача, заспявае,
То па стрэсе прабяжыць.

Ціха ў хаце. Сэрца ные,
Страх душу апанаваў.
Чаму-ж, вецер, думкі злыя
Ты ў душу маю нагнаў?

## Наш родны край.

Край наш бедны, край наш родны!
Грась, балота ды пясок.
Чуць дзѣ троху луг пригодны...
Хвойник, мох ды верасок.
А туманы, як пяленка,
Засцилаюць лес и гай...
Ой ты, бедная старонка!
Ой, забыты Багам край!
Наше поле кепска родзиць:
Бѣдна тут жыве народ.
У грази ен, бедны, ходзиць:
А працуе — льецца пот.
Пазираюць нудна весхи.
Глянешь — сэрца забалиць.
На дворэ — паленья, щески;
Куча сметнику ляжиць.
Крыж хваевы пры дарози:
Кучка тополеу сухих...
Цишна, нудна, як у вастрози,
Як на могилках яких
А як песня панясецца, —
Кольки у песни той нуды!
Уцякау бы, бег, здаецца,
Сам ня ведаешь куды.
Край наш родны Бедна поля!
Ты глядзишь, як сирота
Нудна ты, як наша доля,
Як ты, наша цемнята!

*Якуб Колас.*

Першы верш паэта, надрукаваны ў газеце «Наша доля». 1906 г.

## БЕЛАРУСАМ

Ўстаньце, хлопцы, ўстаньце, браткі!
Ўстань ты, наша старана!
Ўжо глядзіць к нам на палаткі
Жыцця новага вясна.

Ці-ж мы, хлопцы, рук не маем?
Ці-ж нам сілы бог не даў?
Ці-ж над родным нашым краем
Промень волі не блішчаў?

Выйдзем разам да работы,
Дружна станем, як сцяна,
І прачнецца ад дрымоты
З намі наша старана!

## НЁМАН

Льецца Нёман паміж гораў,
Светлы, чысты, як з расы,
Накапаў ён ям і нораў,
Гоніць воду праз лясы.

Гой ты, Нёман, наша рэка!
Поіш ты і корміш нас,
Бедну чайку чалавека
Ты з сабой насіў не раз.

А вясною на прасторы
Дуб стары сярдзіта гнаў,
І насіў ты крыгаў горы,
Луг і поле затапляў;

Разліваўся па ракітах,
І займаў і лес, і гай...
Даўгавязы плыт за плытам
У далёкі нёс ты край.

Колькі раз рыбацкі човен
На грудзях тваіх гуляў!..
Гой ты, Нёман, быстры Нёман,
Колькі дум ты мне нагнаў!

Чуў ты смутак горкай долі
Свайго сына-мужыка,

Чуў не раз у чыстым полі
Плач і слёзы бедака.

У ціхі вечар над табою
Дудка плакала не раз,
І каціласся слязою
*Песня ў ранні летні час.*

А на беразе пад дубам,
Ў ночку цёмную, рыбак
Спаў не раз пад мокрым лубам,
Гнуўся з холаду, бядак.

А у буру вецер кветку
Да грудзей тваіх схіляў,
І ў табе касец улетку
Пот крывавы абмываў.

Над табою месяц круглы
У ясным небе ціха плыў,
І з табой высокі, смуглы
Лес ціхутка гаварыў.

Перарэзаў край ты родны
Беларуса-мужыка...
О, наш чысты, наш свабодны
Нёман, быстрая рака!

Ты цячэш далёка, знаю,
У зямлю Літвы і нямцоў...
Раскажы-ж чужому краю
Пра жыццё тваіх сыноў!..

## МОГІЛКІ

Круглае поле. Узгоркі, каменне.
Лес па краях, як сцяна.
Ціха навокала. Нудна на сэрцы.
Птушка не крыкне нідзе ні адна.

Могілкі ў полі адны-адзінюткі.
Праслы гнілыя на дол палеглі.
Крыж пахіліўся гаротна-журботна.
Многа іх, многа ляжыць на зямлі!

Дзе-ні-дзе дрэўцы — бярозка, хваінка;
Дожджык магілкі размыў, спаласкаў.
Вось дзе ад гора мужык адпачыне,
Вось дзе ён думкі-згрызоты схаваў.

## ДАРОГА

Між палёў шырокіх,
Як змяя якая,
Цягнецца дарога,
Вузкая, крывая.

Наабапал грушы
Разрасліся ў полі,
Нізенькі яловец
Чэзне, бы ў няволі.

Тут мужык працуе,
Чорны ўвесь, як сажа.
Крыж на перасеках
Аб пакуце кажа.

Коціцца цялежка,
Б'ецца аб каменне,
Хлебароб на поле
Глядзіць ў задуменні...

Ой, дарога-сцежка,
Вузкая, крывая!
І ты, жыццё наша,
Ты, доля, такая!

## МОЛАДАСЦЬ

Чым успомніць цябе, моладасць,
Жыцця светлага ты раніца?
Прылятае вясна мілая,
Ды вясна мая туманіцца.

Дзе вы, думкі мае чыстыя,
Майго сэрца дзеткі мілыя?
Як жылося лёгка з вамі мне
У дні шэрыя, пахілыя!

І не раз мяне вы цешылі
Ў ночку цёмную, бяссонную,
Хоць на момант засланялі вы
Ад вачэй нуду бяздонную.

Дзе ты, краска-зорка ясная?
Між народу ты свяцілася,
У глухім кутку забытая,
Па жыцці ты ўсё смуцілася.

Ці цвіцеш ты, ці засохла ты
У краі тым, адзінокая?
Ці ёсць іскра агню божага,
Мая ластаўка далёкая?

Чым-жа ўспомніць цябе, моладасць,
Мая раніца ты хмурная?
Незаметна ты ўсё тлелася,
Як лучына тая курная.

## ВОРАГАМ

Багачы і панства,
Нашы «дабрадзеі»!
Мы на суд вас клічам,
Ка̀ты вы, зладзеі!

І на грозных межах
Часаў пераходных
Смела вас пытаем,
Прагных і нягодных:

«Чыімі рукамі
Вы дабро збіралі?
На чые вы слёзы
Добрабыт куплялі?

І за што, скажэце,
Палкамі нас білі,
Секлі-катавалі,
Голадам марылі?

Ласкаю-ж чыёю
І з чые вы працы
Замкі збудавалі,
Пышныя палацы?

Усё ад нас забралі,
А што нам далі вы?

Чые нудна ў полі
Так марнеюць нівы?

Вузенькаю ніццю
Чые йдуць палоскі?
У чыім то жыце
Многа так бярозкі?

Каму адвялі вы
Пусташы, каменне?
Хто з свайго засеву
Не збярэ насення?

Чые гумны, хаты
Гнуцца сіратою?
Чые слёзы льюцца
Кожнаю парою?

І чыя скацінка
Сохне ў пустым полі?
І як гаспадар той
Гіне у няволі?

Чыя песня-скарга
Ў неба йдзе дакорам,
К месяцу і сонцу
І к далёкім зорам?»

Багачы і панства
І ўсе вы брадзягі!
Ўбок з дарогі, каты!
Бойцеся сярмягі!

Ўжо даўно вяроўкі
Вас, паны, чакаюць,
І па вас асіны
Слёзы праліваюць.

## НА НОВЫ ГОД

З Новым Годам, з шчасцем новым!
Дай-жа божа, гэты год
Каб успомніў шчырым словам
Працавіты ўвесь народ!

Каб больш слёзы не ліліся,
Каб не падаў чалавек,
Каб астрогі запярліся
Ад людзей на вечны век;

Каб казалі, што хацелі,
Каб не гнуліcь, як цяпер,
Каб са страхам не глядзелі
На урадніцкі каўнер;

Каб пабольшала нам поля,
Каб разросся вузкі луг,
Каб спявалі песні волі,
Дзержучы жалезны плуг.

Дай бог шчасця вам і долі
Усім, хто слёзы праліваў,
Хто у бедным, родным полі
Зерне праўды засяваў!

## ВОБРАЗЫ САМАЎЛАДДЗЯ

Куды ні глянь — адно і тое:
Усюды стрэльбы і «шнуры» —
Стаяць па пары і па трое
На скрыжаваннях «каўняры».

Аж у вачах яны мігцяцца,
Усюды іх, як прусакоў...
Куды пайсці і дзе схавацца
Ад гэтых рыл і «каўняроў»?!

## ВЁСКА

Цесна збіты нашы хаты,
Як авечкі ў летні жар, —
Для агню тут корм багаты,
Як укінецца пажар.

Хлеўчык, пограб і гуменцы
Пад адзін зліліся плех,
Трэскі ўсаджаны ў акенцы,
Замест шкла — радняны мех.

Загародка пад акеннем,
Бліснс кветка дзе-ні-дзе.
Зеллем глушыцца, драсённем
Мак, цыбулька на градзе.

Зеляненоць два-тры клёны,
Гляне ліпа дзе з-за хат,
Дзе-ні-дзе садок зялёны,
Нізкіх вішань чэзлы рад.

Граблі, сані пад страхою,
Колы, сошка, барана,
Кол з хваёваю мятлою
Ўбіты ў дол каля акна.

Многа тут гразі ў пягоду,
Многа пылу ў летні жар.

Тут дабра не бачыць зроду,
Тут марнее гаспадар.

Тут нуда жыве людская,
Прыпынілась гора тут;
Смерць дзяцей, хвароба злая
Тут знайшлі прытульны кут.

## МЕСЯЦ

Ціха месяц адзінокі
Ходзіць ў небе над зямлёю.
Неразгаданы, далёкі,
Што ты бачыш пад сабою?

Бачыш слёзы ты людскія,
Як яны з расою льюцца,
А ў тумане думкі злыя
Горкім плачам аддаюцца;

Як без хлеба і без долі
Працавіты люд наш гнецца...
Кінь ты жальбу нашу ў неба —
Няхай неба ўскалыхнецца!

## ПЕСНЯ НАД КАЛЫСКАЙ

Аа-аа, мой сынок!
Аа-аа, мілы!
Не крычы, не плач: дарэмна
Ты патраціш сілы;

А без сілы, мой сынок,
Жыць на свеце трудна...
Ой ты, вецер, не шумі,
Не спявай так нудна!

Спаць Міхаську не даеш...
Спі, мой сын маленькі!
Я цябе пакалышу —
Ай, люлі-люленькі!

Што цябе чакае, сын?
Што твая за доля?
Можа й ты пот будзеш ліць
У чужое поле?..

Будзеш летам ты хадзіць
На плыты, на згоны,
З Коўны матцы прынясеш
Хоць гарэт чырвоны...

А мо' ў школку пойдзеш ты,
Будзеш чалавекам, —

Без навукі цяжка жыць
Гэтым трудным векам.

Кінеш матку, па чужых
Ты па людзях пойдзеш,
І на шчасце нападзеш,
Долю сваю знойдзеш.

Матку ўспомніш ты сваю,
Як цябе люляла,
Як табе ўначы не раз
Песенькі спявала.

І гасцінца мне прышлеш,
Не забудзеш маткі.
Вось уцешуся тады,
Аж запляшчу ў ладкі!..

Аа-аа, мой сынок!
Люлі, люлі, мілы!
Ой, не плач ты, не крычы,
Набірайся сілы!

## ПЛЫТНІКІ

Клунак за плячамі,
Згорбленыя спіны, —
Валіць чарадамі
Люд на сплаў, віціны.

Босыя іх ногі,
Твар іх загарэлы,
Вопратка убога,
Чуць прыкрыты целы.

Ззаду ледзь ступае,
Хлеб вязе кабыла.
Нокае, гукае
На яе Кірыла...

Жарыць-скварыць сонца,
Ліст не скалыхнецца,
Горача бясконца,
Рàгамі пот льецца.

Срэбрам адлівае,
Як люстэрка, Нёман,
Зранку не сціхае
Над вадою гоман.

Ад крыку-лаянкі
Аж дрыжыць паветра:

— На «барбару», Янка!
— Гартоль бяры, Петра!

— Закідай шырыгу!
— Прысам папхні ўліва!
Варушыся! Мігам!
Не спі ў шапку! Жыва!

А заднік без толку
Бусаком махае.
Галаўнік Міколка
Бэсціць яго, лае.

Гнецца плыт дугою,
Прэ яго да гаку,
Быстраю вадою
Ломіць, як вужаку.

На мель узагнала.
Крык, сярдзіты голас.
Порткі паскідалі,
Ўсе ў-вадзе па пояс.

Бомы ўсе пабралі:
— Рразам, хлопцы! рразам!
Ну, яшчэ! Што сталі?
Ну, яшчэ наляжам!

Вецер загуляе —
Хвойнік, лозы гнуцца.
Плытнік спачывае,
Як сабака ў будцы.

Плытнік гнецца ў полі,
Мерзне ён у холад,
Ведае нядолю,
Ведае і голад.

Што-ж? Бядота гоніць,
Толькі сілы траціш,

Толькі косці ломіць,
Як хваробу схваціш.

* * *

Эх ты, доля, доля!
Голад ты, галота!
Не свая тут воля,
Не свая, ахвота.

## СЯБРАМ

Ой, сябры мае вы, мілы,
Дзе цяпер вы, дарагія?
Ці схавалі свае сілы?
Ці ёсць думкі маладыя?

Тыя думкі, тыя мыслі,
Што душу нам хвалявалі,
З-за каторых хмары звіслі,
За што з нівы нас сарвалі?

Нас з народнай ціхай нівы
Разагналі па ўсім свеце...
Ці здаровы вы, ці жывы?
Дзе вы, мілыя? Гукнеце!

Ці збяромся зноў калі мы
У нашым бедным родным краі,
Як-бы птушкі пасля зімы?
Дзе вы, хлопцы? Я гукаю!

Не, няпраўда! Быць не можа,
Каб не грэла цёпла сонца.
Наша праўда нам паможа —
Блісне нам святло ў аконца!

## РОДНАЕ ПОЛЕ

Поле убогае, поле пясчанае!
Нудна лягло ты між гор і лясоў,
Потам абмытае, ўдоўж паараңае...
Колькі каменняў, а колькі пяскоў!..
З пылам сыпучым, з пяском і з туманамі
Вецер над полем не раз пралятаў,
Па-над магіламі, па-над курганамі
Сумныя песні у суш ён спяваў.

Многа тут працы і поту гарачага,
Сілы, здароўя мужык палажыў!
Жніва надыйдзе — і жаць нам няма чаго:
Ніву пустую драсён заглушыў.
Поле убогае, поле пясчанае!
Кепска ты плаціш за працу людзям:
Злітае потам, слязьмі абліванае,
Дзікае зелле прыносіш ты нам!

## ЛЮДСКІЯ СЛЁЗЫ

Слёзы людскія, слёзы людскія!
Вамі абмыты загоны зямлі,
Вы паласкалі мужычыя нівы,
Вы палівалі сухія палі!

Падалі градам на вузкія сцежкі,
З пылам мяшаліся, з дробным пяском,
Тайна ліліся, адкрыта ліліся,
Падалі долу гарачым даждж͏ом.

Сонца сушыла, вятры абвявалі,
Бачылі зоры вас, бачыла цьма...
Дзеці нягоды, о слёзы людскія!
Ліку няма вам і меры няма.

## ХМАРЫ

Як ліхія думкі-мыслі,
Над зямлёю хмары звіслі.
Ой вы, хмары, што вы сталі?
Што вы неба нам заслалі?
Скрылі сонца, чарадою
Таўчацеся над зямлёю?
Чаму ўлетку над палямі
Не ліліся вы слязамі?
Чаму збожжа не мачылі,
Калі ветры так сушылі
І гарэлі нашы нівы, —
Тады, хмары, дзе былі вы?
Мы на неба пазіралі,
Вокам, хмары, вас шукалі,
Сохла праца наша ў полі, —
Як мы, хмары, вы без волі!

## КІНЬЦЕ СМУТАК

Што вы, хлопцы, спахмурнелі?
Ці каго вы пахавалі?
Ці няшчасце так здалела,
Што нуда апанавала?

Плюньце, хлопцы! Заспявайма,
Каб аж вокны задрыжалі!
Ва ўсе грудзі загукайма,
Каб і думкі паўцякалі!

Ці-ж мы будзем вечна гнуцца,
Апускаць бязвольна рукі?
Няхай слёзы больш не льюцца,
Няхай нас не знаюць мукі!

За работу жыва, жыва!
Каб нас доля не ўшчувала,
Каб не сохла наша ніва,
Каб нуда нас больш не гнала!

## МУЖЫЧАЯ НІВА

На мужычым полі
Цягнецца палоска...
Зелле яе глушыць,
Абвіла бярозка.

Навальніца з градам
Каласы скруціла,
Ветрам паламала,
Дожджыкам прыбіла.

Сіняя валошка,
Травы разрасліся,
Палыны на межах
Густа ўпляліся.

Ой, мужыча ніва!
Ты — сіротка ў полі:
Няма табе шчасця,
Няма табе долі!

Ой ты, ніва наша!
Ці-ж ты не арана?
Ці-ж мужычым потам
Ты не палівана?

Ці то кепска сонца
Свеціць над табою,

Што зрасла ты густа
Дзікаю травою?

Заплылі вадою
Ўсе твае разоры,
Пакапалі мышы
Па загонах норы.

Птушкі ў сінім небе
Плачуць над табою,
Што зрасла ты, ніва,
Палыном, травою...

На мужычай ніве
Каласы пустыя...
Ці не шкодны полю,
Слёзы вы людскія?!

## НА РОСТАНКАХ

Ты скажы мне, цьма глухая:
Доўга будзеш ты ляжаць?
Доўга будзе думка злая
Сэрца жалем калыхаць?

Не шумі ты, лес высокі,
Нудных песень не спявай,
Дзён шчаслівых, дзён далёкіх
Ты мне, лес, не ўспамінай!

Не відно мае дарогі —
Горы, лес, балоты, гразь...
Колькі смутку і трывогі
У гэты цяжкі, цёмны час!

Дзе-ж, дарога ты другая?
Я стаю адзін, адзін,
Ноч вакол ляжыць глухая...
Ці-ж то свет сышоўся ў клін?

Дык скажы мне, цьма глухая:
Доўга будзеш ты ляжаць?
Доўга будзе думка злая
Сэрца жалем калыхаць?

## НЕ БЯДУЙ!

Не бядуй, што сонца нізка,
Што праходзіць нудна дзень,
Не бядуй, што восень блізка
І на дол кладзецца цень.

Не бядуй, што снег халодны
Скрые землю ад вачэй:
Не загіне край твой родны
У тэй цемені начэй!

Будзе час, і снег растане,
Прыдзе зноў да нас вясна,
Ветла з неба сонца гляне,
Ачуняе старана.

Не бядуй, што цяжка стала
Жыць у вечнай цемнаце,
Што нас доля вечна гнала,
Што жывём у беднаце.

Не бядуй, што звіслі хмары,
Што нам сонца не відаць,
Не бядуй, што ўноч пажары
Сталі неба заліваць, —

Дымам пойдзе ўсё ліхое,
Усё, што душыць нас і гне.
Вер, брат, — жыцце залатое
Будзе ў нашай старане.

## БАБА І КУРЫ

*Байка*

Падпечкам Баба кур дзяржала.
Прайшла зіма, вясна настала, —
Кудахчуць куры і сакочуць,
У дзверцы, бедныя, глядзяць.
А птушкі з выраю ляцяць;
На свет і куры нашы хочуць —
Чарвей і крошак пашукаць.
— Пусці ты, бабка, іх на волю! —
Суседкі кажуць Бабе той:
— Няхай пабегаюць па полі —
І цёпла ўжо і мошак рой. —
Падпечак Баба адчыніла
(А чапялю яна ўзяла).
Паверыў Певень — тыц ён рыла!
Па карку Баба так дала,
Што Пеўню вочы засланіла,
І юха з Пеўня пацякла.
Пайшоў назад мой Певень збіты,
А куры хоць сабе й крычаць,
А ўсё за дзверцамі сядзяць,
Хоць тыя дзверцы і адкрыты.

## ЗГНАННІКУ

Брат маркотны, брат мой бедны!
Гоняць нас, на нас плююць;
Дзе ні пойдзеш — мы чужыя,
Мала нас дзе, брат, паймуць.

Свет шырокі, свет свабодны,
Толькі нам дарог няма:
Зачынілі ўсе нам ходы,
Аблягла вакол нас цьма.

Брат маркотны, брат мой бедны!
Не нудзіся, дарагі!
Будзем плыць памалу далей,
Хоць далёка берагі...

Мыслі праўды, дух свабоды,
Вольны наш народны дух,
Растрасе суздром астрогі,
Ржавы ён парве ланцуг.

## ПАД ШУМ ВЕТРУ

Праляцела борзда лета,
Наша светлая пара.
На дарозе нашай вузкай,
Як раней, стаіць гара...

Скора, скора дзьмухне холад,
Снег пасыпле з сівых хмар,
Зноў мароз падыйдзе люты,
І клубком паваліць пар.

Разам з ветрам, з халадамі
Думак рой к нам наляціць, —
Нудных думак, неспакойных, —
Сэрца беднае сушыць.

Будуць ветры за вугламі
Выць і плакаць і стагнаць,
А ў той вечар доўгі, цёмны —
Песні ў коміне спяваць.

Бор стары завые нудна,
Зашуміць галлём лаза.
Пад іх шум не раз на сэрца
Капне горкая сляза.

## СЯБРАМ-ВЫГНАННІКАМ

Гэй вы, смутныя,
Гэй вы, бедныя,
Мае мілыя
Сябры-згнаннікі!

Ці вы сіраты
У сям'і людской,
Што глядзяць на вас
Вокам ворагаў?

Ці разбоем вы
Даставалі хлеб,
Што караюць вас
Горш за злодзееў?

Або ў вас няма
Сілы, розуму,
Што прытулкі вам
Пазачынены?

Ці то сэрца ў вас
Цвярдзей каменя,
Што ад вас браты
Адракаюцца?

Не! Душа у вас,
Сэрца — добрае,

Думкі чыстыя,
Мыслі ясныя!

Толькі вам няма
Долі-радасці,
Сіла цёмная
Вас прыціснула.

Гэй, выгнаннікі,
Сябры любыя,
Да канца, браты,
Будзьма цвёрдымі!

## ПЕРАД ДАРОГАЙ

Эх, як тупну я нагою,
Свісну, заспяваю,
І на ўсё махну рукою —
Гайда з свайго краю!

Годзе пухнуць у балоце,
Ныць заўжды ў няволі,
Жыць без хлеба, у бядноце,
Траціць сілу ў полі!

Апроч сілы, мне нічога
Бацька не пакінуў,
Гнуўся, бедны, жаль старога —
Як сабака гінуў!

Я-ж не буду абдзіралам
Гнуцца за два злоты!
За свой клунак, марш па шпалах —
Пашукаць работы!

Гой, гой, вецер, зашумі ты,
Аж каб лес ламаўся!
К чорту думкі разгані ты,
Каб не сумняваўся...

## НАША ВОЗЬМЕ

Мы ходзім, спатыкаемся,
Бадзяемся, як п'яныя,
Мы з голадам зрадніліся,
Худыя, абарваныя.

Асмеяны, абляяны,
Гразёю мы замазаны.
Багатымі мы скрыўджаны,
Няволяю мы звязаны.

У балоты мы адціснуты,
Загнаны мы у шчыліны,
І вочы нам завязаны,
І вушы нам зачынены.

Адно мы добра ведаем:
Хоць вечна мы блукаемся,
А ўсё-ж такі, хоць некалі,
А праўды дапытаемся.

## ПЫТАННЕ

Дзе ты, мая доля,
Дзе ты, я пытаю?
Ці то бог назначыў
У жыцці быць з краю?

Ці то людзі злыя
Шчасце адабралі,
На маёй дарозе
Ямы пакапалі?

Ці за грэх закляты
Я не маю долі,
Як забыты колас
На мужычым полі?

Ці таму гарую,
Што шукаў на свеце
Я святла і сонца
І ўздыхаў па леце?

Горкія мне песні
Толькі дасталіся.
Многа думак нудных,
Слёзы каб ліліся,

Каб чужыя слёзы
Памяшаць з сваімі...

Сэрца дзервянoe
Ці-ж зачэпіш імі?

Будуць плакаць вочы,
Будуць рвацца грудзі,
Будуць чалавека
Ціснуць доўга людзі!

## НА ГАСЦІНЦЫ

Чыстым інеем пакрыты
На гасцінцы беразняк,
Космы густа ім абвіты;
Ў белым снезе маладняк.

Свішчуць сані на марозе,
Коні рвуцца і хрыпяць.
Крык і гоман на дарозе,
Бомы стогнуць і звіняць.

Скверыць холад. Пабялелі
Вусы, світка вазака,
Толькі шчокі счырванелі
Ад марозу ў мужыка.

Перад святам заработкі,
А дарога, як сляза...
Толькі бухаюць калодкі,
Толькі свіст ад палаза!..

## МІКАЛАЮ II

Дзесяць год Мікола думаў
І прыдумаў ён Думу.
Пасадзілі разам з панам
Янку, Грыца і Кузьму.

Пасядзелі тydняў з восем,
Узлаваўся Мікалай —
Дэпутатам даў па карку,
Ўзяў ды Думу разагнаў.

Да чаго-ж мы дажыліся!
Эх, падвёў ты нас, царок!
Каб табе даў бог на старасць
Лапці, торбу і кіёк.

А ні хлеба, а ні солі,
Ні купіць нам, ні прадаць...
Эх, не вер цару ніколі —
Хоча зноў нас ашукаць.

## НАША ДОЛЯ

Наша доля нас не знае,
Жыцце наша — ноч і цьма.
Жар улетку нас даймае,
Цісне холадам зіма.

Не красуе наша ніва,
Луг не цешыць нам вачэй.
Гне к зямлі нас праца жыва
І ў труну кладзе дзяцей.

Наша жыцце не вясёла...
Ноч і цьма на нас ляглі.
Нашы хаты, вёскі, сёлы
Сівым мохам абраслі.

Нашы слёзы незлічоны,
З нас крывавы льецца пот...
Люд забіты, люд хрышчоны,
Абяздолены народ!..

* * *

— Што, брат Грышка, папраўляйся:
Чутка ёсць — зямлі дадуць.
Не хварэй, брат, падымайся
Ды ачуньвай як-нібудзь.

— Эх, Мікола, што тут цешыць?
І стары, а як дзіця:
Не, не будзе нам жыцця,
Як паноў не перавешаць.

## КАХАННЕ

Ці помніш ты, Ганна,
Шчаслівы мамэнт,
Як граў раз на дудцы
Нябожчык Вінцэнт?

А Нёман спакойна,
Спакойна дрыжаў,
І месячык ясны
На нас пазіраў.

Драў горла у лозах
За рэчкаю драч,
І грукаў у сцену
Рагамі маркач.

На жэрддзе мы селі
У мроку маўчком,
І я прытуліўся
К табе плечуком.

Язык мне адняўся,
Я сліну глытаў,
А потым нясмела
Цябе запытаў:

— Скажы мне, Ганулька,
Ці любіш мяне?

— Люблю, — ты сказала, —
Аж сэрца мне схне!

І лапці з-за спіны
Мае ты зняла,
Анучы у Нёман
Ты мыць панясла.

Ганулька, Ганулька!
Павер, зразумей —
Я ў свеце не бачыў
Кахання шчырэй!

На вуліцы Мурза
Яхімаў брахаў,
І стражнік пасвістваў,
Нагайкай махаў.

Я-ж быў шчаслівейшы
На свеце батрак,
Ішоў, не баяўся
«Шнуроў» і сабак.

Ці помніш ты, Ганна,
Той светлы мамэнт,
Як граў раз на дудцы
Нябожчык Вінцэнт?

## НА ПРАДВЕСНІ

Эх, наперла ліха-гора!
Ні сяніны, ні зярна.
А тут снег яшчэ не скора
Згоніць цёплая вясна.

У кішэні ні грашынкі,
Хата поўная дзятвы!
Ні паленца, ні лучынкі —
Хоць у зямлю лезь жывы.

Папалілі, пераелі, —
Нічагутка ані ў зуб!
Хлеба толькі да нядзелі,
На два разы ўсяго круп!

А даўгоў ты нахватаўся,
Таму дзесяць, таму пяць...
Ось дзе, Грышка, ты папаўся:
Чым-жа будзеш аддаваць?

Эх, наперла ліха Грышку —
Рук няма за што заняць!
Хіба вып'ем па кілішку —
Лягчэй будзе гараваць.

## ВЯСНА

Вясна прыдзе, снег пагіне,
Вышэй сонца хадзіць стане,
Промень ясны ўсюды кіне,
Рунь падыме на паляне.

З гор пальюцца паравалы,
Раскуюцца рэчкі з шумам,
Выйдзе з хаты стар і малы
Гаманліва дружным тлумам.

Убярэцца лес бязлісты
У гарнітур свой зялёны,
Шугне вырай галасісты,
Камары заб'юць у звоны.

Зашуміць трава густая,
Кветкі ў лузе засмяюцца.
Вясна прыдзе маладая,
Усюды песні панясуцца.

## СТАРАЯ ПРАЎДА

Покі грош ёсць у кішэні,
Покі служба ў цябе ёсць, —
Любяць людзі і шануюць,
І ты ў іх жаданы госць.

А ў жыцці як спатыкнуўся,
Як куску ты хлеба рад, —
Глянеш — дзверы ўсе закрыты,
Толькі спіны бачыш, зад!..

## ВЕЦЕР

Ой ты, вецер неспакойны!
Дзьмеш ты безустанку,
Адну песню нам сняваеш,
Адну баеш байку.

То заплачаш сіратою
Над убогай хатай;
То застогнеш, як над нівай
Селянін-араты;

То засвішчаш за вугламі,
Жалем разальешся;
То сярдзіта ў дзверы стукнеш,
Злосна засмяешся...

Ой ты, вецер неспакойны,
Ты мой брат па долі!
Раскідаем смех і слёзы
Мы у чыстым полі.

## ПЯСНЯР

Кажуць людзі: «Што ты смутны?
Што спяваеш ты пра гора?
Твае песні — стогн пакутны,
Слёзы ветру на прасторы!

Ты зладжы нам песню волі,
Песняй шчасця залівайся,
Ціхім спевам нівы ў полі
У струнах сэрца адклікайся,

Каб на нас вясна дыхала,
Грэла душу цеплынёю,
Каб нам сэрца саграваала
Ціхім шчасцем, дабратою».

Ой вы, людзі! Няма-ж волі:
Скуты мыслі ланцугамі.
Пусты нівы нашы ў полі,
Злосны віхар дзьме над намі!

Ці-ж я сэрцам не хварэю?
Ці-ж мне смутак лёгка даўся?
Я спяваю, як умею,
Я пра радасць пець не здаўся.

## «АСАДЗІ НАЗАД!»

Дрэнна маё жыцце,
Ўсё ідзе не ў лад,
І крычаць мне ўсюды:
«Асадзі назад!»

Божа ты мой мілы!
Б'юся я, як гад,
Толькі-ж дзе ні ткнуся —
«Асадзі назад!»

Помню, я жаніўся,
Добры быў мой сват.
К дзеўцы нос паткнулі —
«Асадзі назад!»

Дзеўка была важна,
Ды сусед Кандрат
Мне нагу падставіў —
«Асадзі назад!»

Трапіў раз у горад,
Быў якраз парад,
Лезу я наперад —
«Асадзі назад!»

У засеках пуста,
Жыта выбіў град.

— Дай, старшынька, ссуды.
— «Асадзі назад!»

Я з капейкі збіўся,
Зарабіць я рад.
— Ці няма работы?
— «Асадзі назад!»

Сам я растрапаўся,
Лезе з плеч халат.
— Памажэце, людзі!
— «Асадзі назад!»

Сына свайго ў людзі
Вывеў-бы Ігнат.
— Вось мой сын, паночкі!
— «Асадзі назад!»

Хлеб прыслалі ў вёску,
Там галодных шмат;
Пруся я з мяшэчкам —
«Асадзі назад!»

Галаву я маю:
Быў-бы дэпутат.
— Цэнзу ты не маеш,
«Асадзі назад!»

Праўда, што таіцца,
Быў і мой чарод:
Два разы на жыцці
Вышаў я ўпярод.

Ўзбунтаваў я вёску.
Ой, быў цяжкі год!
Прыязджае прыстаў:
— Выхадзі ўпярод!

Гэта ты, мярзавец,
Ўзбунтаваў народ?
Гэй, гарадавыя!
Даць яму ўпярод!

## ДОЛЯ БАТРАЧКІ

Маці ў службу выпраўляе
Родную дзяціну,
Выпраўляючы, хавае
Горкую слязіну.

— Будзь паслушная, дачушка, —
Навучае матка:
— Дагаджай чужым ты, служка,
Ды цярпі, дзіцятка!

Не адзін раз твае вочкі
Заплывуць слязою.
Твая доля цямней ночкі —
Цяжка быць слугою!

Бо не ўважыць чужаніца
Ручак тваіх белых,
Поту выльецца крыніца
З шчочак загарэлых.

Ўстанеш летам раней зоркі,
Пойдзеш перша ў поле...
Ох, дачушка, хлеб твой горкі,
Горка твая доля!

Маці дочку разважае,
Сябе цешыць стара,

Жаль да сэрца падступае,
Як чорная хмара.

Вось дзяўчына ўжо гатова,
Пакідае хатку.
— Ну, матулька, будзь здарова! —
І цалуе матку.

— Ну, бывай!.. — І не ўтрывала
Бедная матуля.
Жаль слязамі ёй прарвала,
Твар да дочкі туліць.

Вышла маці ўслед за ёю,
Стала ля парогу
І, падпёршы твар рукою,
Зорыць на дарогу,

На дарогу-пуцявіну —
Там яе Ганулі —
Ды за слёзкаю слязіну
Роніць-лье матуля.

Доўга матка так глядзела,
Дочку праважала,
Покі хустка яе бела
З вочак не прапала.

## РОЛЬНІК

Цёплы вечар. Ціха ўсюды.
На заходзе сонца.
Хмаркі захад чуць заслалі
Тонкім валаконцам.

Ззяюць хмаркі ў пазалоце,
Пажарам палаюць.
За гарою ціха-ціха
Песні заміраюць.

Вышаў рольнік з хаты ў поле
Ды па межах ходзіць,
Каб пабачыць сваім вокам,
Як бог жыта родзіць.

Твар сур'ёзны ў селяніна,
Важны, задуменны,
Ходзіць, рукі залажыўшы
За той пас раменны.

Леглі гожымі радамі
Вузкія загоны,
Апранула зямля-матка
Кажушок зялёны.

Густа жыта маладое
Поле ўсё акрыла,

Лапушное, сакаўное —
Проста глянуць міла.

Сям-там колас раскрывае
Свой пучок зялёны,
Дзе-ні-дзе ўжо яго вусік
Блісне на загонах.

Селянін глядзіць з уцехай,
Ходзячы ў тым дары...
Так ні поп, ні ксёндз не ходзяць
Пры сваім алтары.

## НА ПОЛІ ВЯСНОЮ

Люблю я прыволле
Шырокіх палёў,
Зялёнае мора
Ржаных каласоў

І вузкія стужкі
Сялянскіх палос —
Люблю цябе, поле,
Люблю я твой плёс!

Ігрушы старыя,
Што ў жыце шумяць,
Зялёныя межы,
Далёкую гладзь.

Люблю я дарогі,
Што леглі між гор,
Унізе пад гарою
Ручча разгавор.

Люблю я узгоркі
І насып-курган,
І сіняй далечы
Празрысты туман...

Люблю пазіраць я
На поле вясной,

Як ветрык жартліва
Плыве збажыной.

Калышацца жыта,
Радамі бяжыць,
А хваля паветра
Дрыжыць і дрыжыць...

Люблю я прыволле
Шырокіх палёў,
Зялёнае мора
Буйных каласоў.

## КІРЫЛА

Як паглядзіш — божа мілы!
Што з людзямі робіць чын?
Адкуль морда у Кірылы?
Чаму сыты ён, як лін?

У Кірылы добры коні,
Бо Кірыла — галава!..
Цвіце збожжа на загоне,
Ў жонкі многа палатна.

Адзін розум — яго мова;
З башлыком яго халат;
У Кірылы хата нова,
У Кірылы грошай шмат.

П'е ён з пісарам гарбату,
Стаў ён тоўсты, як капа;
Заклікае к сабе ў хату
І частуе ён папа.

Грае ў карты ён з панамі,
Як-бы з роду быў ён пан.
Тупне ў злосці ён нагамі,
Крыкне «дурань» і «балван»!

А нядаўна — божа мілы! —
Як і ўсе ён быў мужык.
Адкуль пуза у Кірылы?
Чаму дужы ён, як бык?

## МУЖЫК

Я — мужычы сынок,
Ні двара, ні кала,
Поле — жоўты пясок,
Хата ў зямлю ўвайшла.

Не жыву, а гнію,
Прападаю, як мыш...
Глянь на долю маю,
Глянь на цяжкі мой крыж!

Я балоты сушу,
Надрываю жывот,
Я за бесцань кашу,
Рыю землю, як крот.

Ўсе вуглы і куты
Сваім целам я змёў,
Ссек і лес, і кусты,
І дарогі правёў,

Ды не езджу па іх,
А хаджу пехатой
У рваных ботах старых,
Часцей босай нагой.

Збудаваў я палац,
Многа фабрык, мастоў.

Сам-жа голы, як бац, —
Пары дзве рызманоў.

Пад аконнем не раз
Я з мяшэчкам хадзіў,
Міласціны у вас
Хрыстом-богам прасіў.

Мяне мочыць раса,
Мяне сонца пячэ,
А у песнях маіх
Сляза ціха цячэ.

Я па свеце хадзіў,
Косці ўсюды занёс,
Я на землю праліў
Многа слёз, многа слёз.

То не дуб у бары
Заскрыпеў, застагнаў —
Гэта я без пары
Богу душу аддаў

Нудна звоняць званы,
То мацней, то замруць,
Адзін дзяк ля труны —
Гэта прах мой нясуць.

На магілцы маей
Крыж трухлявы стаіць,
А над прахам касцей
Вольны вецер шуміць.

Я — мужычы сынок,
Я не маю дарог.
Мая школка — шынок,
Маё жыцце — астрог.

## МУЖЫЧАЕ ЖЫЦЦЕ

Божа, божа, твая воля!
(Хоць і можа гэта грэх!)
Што за жыцце, што за доля —
Проста плач бярэ і смех!

Чорна ў хаце, непрыбрана,
Парасяты пад палком,
Павуцінаю заткана
Столь і кут над абразом.

Дзеці ўстануць пасля ночы —
Крык, хоць вушы затыкай,
Дым з камінка лезе ў вочы,
Дзед сярдуе — ая-яй!

А як часам дзе збярэцца
У хаце з пару 'шчэ жанок,
Сварка тая не звядзецца —
Дзень грызуцца за гаршчок.

А ўмяшаюцца мужчыны —
Ну, і пойдзе латата!
Паўплятаюцца ў чупрыны,
Рэдка стане барада.

Так і век ператаўчэшся,
І няма таго дабра,
Покі жыць ты прыбярэшся —
Паміраць табе пара.

## УСХОД СОНЦА

На усходзе неба грае
Пераліўным блескам,
Сыпле золата над гаем
І над пералескам.

Чуць-чуць дрогне і прыльецца
Чырвань на усходзе —
Гэта неба усміхнецца
Людзям і прыродзе.

Смех адказны, смех шчаслівы
Ходзіць на пагорках.
Час світання — час зычлівы...
Гаснуць, нікнуць зоркі.

Шырай, шырай зараніца
Разнімае крылле,
Нібы пожар б'е крыніцай
Там, на небасхіле.

Сноп праменняў, пышна ўзняты,
Сее бляск-чырвонцы —
Гэта неба сцеле шаты
На дарогу сонцу.

Над палямі мрок прарваўся,
Па нізах расплыўся,

Лес туманам заснаваўся,
Луг расой абмыўся.

Агнявыя валаконцы
Ткуцца ў шоўк чырвоны —
Гэта хмаркі ладзяць сонцу
І дзяньку кароны.

Як прыемна пахне збожжа!
А вакол — спакойна!
Эх, як слаўна, як прыгожа,
Хораша, прыстойна!

І сабрала неба фарбы
Колераў дзівосных...
І дзе ёсць такія скарбы
Гожства, сугалосся?!

## ЗА ПАДАТКІ

Колькі ўжо раз за падаткі
Стараста пужае!
Ой, няхай іх! Горка з імі,
Хто таго не знае!

Аж тут пісар прыязджае
Разам з старшынёю...
Ой, нічога-ж не парадзіш
З горкаю бядою!

— Пачакайце, калі ласка! —
І — бух ім у ногі!
А назаўтра я Красульку
Пацягнуў за рогі.

Зарыкала так жалобна
Бедная жывёла,
І мне сэрца гэтым рыкам,
Як нажом, парола.

Жонка плача, лементуе...
Гэтак па дзіцяці,
За труною йдучы, плача
Хіба толькі маці...

Я йшоў збоку, і здушылі
Горла мне залозы.
У поле вышаў — паліліся
З вачэй самі слёзы.

## НОЧ У АСТРОЗЕ

Ноч глухая. Ціха.
Густа легла цьма.
Дрэмле чутка варта,
Цяжка спіць турма.

Страшнай зяўрай змея
Калідор глядзіць,
І тужліва лямпа
Свеціцца, дрыжыць.

Обак калідора
Камеры відны.
Пад замкамі дзверы,
З кратамі яны.

І, здаецца, сцены
Ціснуцца цяжэй,
Гнуць яны і душаць
Усё мацней, мацней.

Нудна, бы ў магіле,
Глуха, бы ў труне,
Толькі часам крыкне
Арыштант у сне.

Мо' Кабека здасца,
Спраўніка прысніць,
Ды «параша» зрэдку
Глуха загрыміць.

* * *

Мы маўчалі, як нямыя,
Мы ўздыхалі ўсё цяжэй,
Грызлі думкі нас благія,
Слёзы падалі з вачэй.

Мы хадзілі, як у ночы,
Сярод мукі, сярод зла;
Туманы сляпілі вочы,
Цемра хмар на нас лягла.

З нас нямала жартавалі,
Той нас крыўдзіў, гэты сек,
Годнасць нашую тапталі,
У нас заплёван чалавек.

Хай святло навукі яснай
Заблішчыць, як сонца ўсход,
Няхай родным словам шчасна
Загаворыць наш народ.

## У АСТРОЗЕ

Нудна Сцёпку за рашоткай,
Нудна, эх, старому!
Плачуць думкі, рвуцца думкі
Сцёпкавы дадому.

Дома жонка, дома дзеткі...
Бог святы іх знае,
Як жывецца небаракам
Там, у родным краі!

Ходзіць Сцёпка з вугла ў вугал
Ды зірне ў аконца:
За рашоткай відно неба,
Хмарак валаконцы.

Эй, хмарынкі! Плывяце вы
У старонку тую,
Дзе пакінуў я сямейку,
Хатачку старую!

Ох, паплыў-бы я, здаецца,
Хмаркі, разам з вамі,
Каб на вёску сваю глянуць
Нуднымі вачамі.

Там, далёка, за дамамі,
Разляглося поле,

Лес, узгоркі і курганы...
Эх, прастор там, воля!

Дзесь у полі дым сінее —
Бульбу люд капае.
Сцёпка-ж бедны так марнее,
Долю праклінае...

Ляжа Сцёпка спаць на нары,
І праз цэлу ночку
Сны аб роднай вёсцы сняцца,
Аб сваім куточку!..

Нудна Сцёпку за рашоткай,
Нудна, эх, старому!
Плачуць думкі, рвуцца думкі
Сцёпкавы дадому.

## ЧЫГУНКА

Ў два рады між палёў
Роўна рэйкі ляглі,
Рэжуць нетры лясоў,
Точаць грудзі зямлі.

Дзе стралою ляцяць,
А дзе дужкай бягуць
Цераз горы і гладзь,
Смела рэчкі сякуць.

Эх, і быстры-ж той гон!
Толькі пыхкае дым.
За вагонам вагон
Мчыцца змеем ліхім.

Мчыцца ўночку і ўдзень,
Толькі поле дрыжыць.
Так ні конь, ні алень,
Ні арол не ляціць.

## ВОСЕНЬ

Пуста ў лузе. Толькі стогі
Парыжэўшыя стаяць,
Ды шпакі каля дарогі
Цэлы дзень адно крычаць.

Грэчка зжата. Гола ў полі.
Жыта звезена даўно.
Толькі плаваюць на волі
Кучы хмар, як валакно.

Дожджык сее беспрастанку;
Вецер свішча так, як звер...
Колькі лужын каля ганку!
А гразі, гразі цяпер!..

Ссохлі травы, ўсё павяла.
Слоць, плюхота, холад, цьма.
Эх, скарэй-бы закрывала
Зямлю чорную зіма!

* * *

Сціхнуў шум на калідоры,
Не чутно гаворкі,
На замок запёрты крэпка
Цесныя каморкі.

Не звіняць жалезным звонам
Цяжкія кайданы...
Злосна, дзіка пазірае
Гэты дом паганы!

Шчыльна целам чалавечым
Паўкрываны нары,
Цісну́ць грудзі арыштантам,
Томяць, бедных, мары.

Сон трывожны ў спёртым дусе
Не дае спакою.
Эх, як марна прападае
Жыцце маладое!

Свеціць лямпа нудным бляскам,
А вакол — ціхутка!
А праз краты не пабачыш
Вокам нічагутка.

Хіба бляск убачыш бледны,
Як ліхтар мігае,
Ды за вуглам вецер вольны
Песню заспявае.

## НА МЯЖЫ

*Перад новым 1909 г.*

Бывай здароў, мой год старэнькі!
У маіх ты думках будзеш жыць
І многа будзеш майму сэрцу
У мінуту жалю гаварыць.

Я буду помніць, доўга помніць:
Сваё бадзянне ў гэты год,
Свае надзеі і сумненні
За родны край, за свой народ,

І тых людзей, што йшлі са мною,
Хто зваў на працу, дух будзіў,
Хто весяліў мяне у смутку,
Каго я шчыра палюбіў...

Дык будзь здароў, мой год старэнькі!
У маёй душы ты будзеш жыць
І многа будзеш майму сэрцу
У мінуту жалю гаварыць.

## КАНСТЫТУЦЫЯ

Канстытуцыю далі,
Адчынілі дзверы
І... ў астрог нас павялі
І таўкуць без меры.

Вітэ нам дакляраваў —
Помніце? — свабоду.
Потым фігу паказаў
«Вернаму» народу.

Зашумелі аб зямлі
Ў Думе дэпутаты,
Ды па карку ім далі —
І пайшлі дахаты.

Архірэй наш Міхаіл
Тураўскі і Мінскі
Чорнай сотні толькі міл,
Бо робіць па-свінскі.

Ганчакамі па Русі
Прыставы лятаюць,
Нас цкуюць: «Кусі, кусі!»
Як зайцоў, страляюць.

Развялося стражнікоў,
Як якой жывёлы,

Ад іх плешак і шнуроў
Чырванеюць сёлы.

Колькі ўсякіх строгіх мер —
Канца няма, краю!
Канстытуцыю цяпер,
Як пяць пальцаў, знаем.

## МАЛЕБЕН

Як свет наш з'явіўся,
Людзьмі засяліўся,
Ад сівага веку
Не знаў чалавека, —
Магу пабажыцца,
Магу залажыцца, —
Каб ён так маліўся.

Адслужым малебен.
Ці-ж цар нам патрэбен?
Патрэбен ён, братцы,
Як прус у аладцы,
Як у мосце дзірка,
Як з гразі зацірка,
Як скула — балячцы.

І меў ён адвагу
Цароў зваць ў Гаагу,
Каб войн не вялося,
Крыві не лілося.
Ці-ж гэта не смешна —
Зрабіць так паспешна,
Ці чулі брадзягу?

Хваліўся бясконца,
Йдучы на японца,
З мікады смяяўся,

Ды ўсім выстаўляўся,
Ды кідаў мільёны,
Слаў ён іконы, —
Без флоту застаўся!

Вось цар занудзіўся,
Што сын не радзіўся.
Беглі гадочкі,
Раджаліся дочкі.
Раздаў цар мільёны
На цэрквы, на звоны:
— Сына прасіце, папочкі!

Трасліся ўсе муры,
Папы лезлі з скуры —
Кадзілам махалі,
Чыталі, спявалі,
Трывожылі бога, —
Не вышла нічога:
Ўсе модлы прапалі.

Рэскрыпт цар надрэпаў,
З'явіўся тут Трэпаў
Для ўсіх нечакана,
Як воўк з-за кургана.
І стаў ён пасрэднік, —
Радзіўся наследнік,
Але ці Раманаў?

Вось ліха наперла,
«Крамола» не змерла, —
Не жыць з залатоўкі.
Пайшлі забастоўкі,
Паўстаў люд убогі,
Пасталі дарогі.
Цар бачыў вяроўку,
Пусціў ён у порткі.
Падбег Вітэ вёрткі
І Рыман, і Міны,
Розныя скаціны...

Нагайкі, расстрэлы
І лес штыкоў цэлы, —
Цягнуць людзей на асіны.

Пануй, Мікалае,
Часіна такая,
Трымайся прастола,
А будзе вас гола.
Закончан малебен,
Ты нам не патрэбен,
Другі і апошні Мікола!

## У НЯВОЛІ

За народ, што пад ярмом
Шыю гне і спіну,
Што кляне лёс ціхачом
Кожную часіну;

За народ, што марне сохне,
За святое брацтва
Адабралі ад мяне
Усё маё багацтва...

Як за краты я зірну,
Сэрца млее з болю:
Меў уцеху я адну —
Адну толькі волю.

Ды гвалтоўнікі мае,
Ворагі ліхія,
У мяне ўзялі яе,
Адабралі, злыя.

Што-ж? Няхай мой вузкі круг,
Няхай я ў няволі,
Толькі-ж ім свабодны дух
Не стрымаць ніколі!

Толькі думак не стрымаць,
Не загнаць у клетку...
Будзем разам гараваць,
Думкі, мае дзеткі!

## ВОБРАЗ ПАКУТЫ

Па зямлі і ўдзень і ўночы
Ходзіць асцярожна
Чорным ценем, злою зданню
Страшны падарожны.

Балахон яго на латах,
Бледны твар аплёван,
Акрываўлена ўсё цела,
Ланцугамі скован.

Ходзіць ён па бедных вёсках,
Па глухіх закутках,
Пакідае за сабою
Гора, слёзы, смутак.

І снуецца цень пакуты
І снавацца будзе,
Покі вочы не развяжуць,
Не расчыняць людзі.

## СЯБРАМ

Гэй, сябры мае!
Дзе вы, родныя?
Віхры лютыя,
Непагодныя

Разагналі вас
Ва ўсе стораны,
І дарогі вам
Пазавораны.

Сцежкі вузкія
Палыном зраслі,
І нічога вам
Не відно ў далі.

Няма хат у вас,
Ні вуглоў сваіх,
І змоўк голас ваш,
І ваш смех заціх.

А за што, за што
Ганьбу вам далі?
За што гоняць вас
Прэч з свае зямлі?

Эх, сябры-браты!
Самі знаеце:

Агню палкага
Іскры маеце.

Не тушэце-ж вы
Той агонь святы,
Асвятляйце ім
Родны край, куты...

Што-ж? Няхай віхры
Надрываюцца,
Няхай ворагі
Насміхаюцца.

Хоць на дзераве
Зжоўкла ўся ліства, —
Вясна вернецца,
Адрасце трава.

## РОДНЫЯ ВОБРАЗЫ

Вобразы мілыя роднага краю,
Смутак і радасць мая!
Што маё сэрца да вас парывае?
Чым так прыкованы я

К вам, мае ўзгорачкі роднага поля,
Рэчкі, курганы, лясы,
Поўныя смутку і жальбы нядолі,
Поўныя сумнай красы?

Толькі я лягу і вочы закрыю,
Бачу я вас прад сабой.
Ціха праходзіце вы, як жывыя,
Ззяючы мілай красой.

Чуецца гоман мне спелае нівы,
Ціхая жальба палёў,
Лесу высокага шум-гуд шчаслівы,
Песня магутных дубоў...

Вобразы мілыя, вобразы смутныя,
Родныя вёскі і люд,
Песні цягучыя, песні пакутныя!..
Бачу і чую вас тут.

## НАША СЯЛО

Між узгоркаў над ракою
Выглядае сіратою
Наша беднае сяло.
Убраў стрэхі мох калматы,
Набок скрыўленыя хаты,
Як-бы ў дол яно ўвайшло.

І зліліся ў плех будынкі,
У шыбы ўсаджаны лучынкі
Ці анучак цэлы жмут.
Спарахнела наша школа,
Згніў паркан увесь наўкола —
Школка горбіцца, як склюд.

Збоку вербачкі крывыя,
Бы кабецінкі старыя,
Нуднай кучкаю стаяць.
Нёман ногі ім змывае,
Вецерголькі іх люляе,
Лісці жаласна шумяць.

На прыгорку ў аддаленні
Насып, крушнямі каменне,
Смутна крыжыкі стаяць.
А ўнізе пад іх нагамі,
Спаласканыя слязамі,
Косці родныя ляжаць.

Плачуць ветры над магілай,
З песняй нуднай і пастылай
Пралятаючы удаль.
Як успомніш кут свой родны,
Кут закінуты, галодны,
Сціснe сэрца горкі жаль.

## УДОВІНА ХАТА

З краю вёскі сіраціпкай
Заняпала хата.
Тут не ладзяць вечарынак,
Не прадуць дзяўчата.

Пагніло бярвенне ў сценах,
Вырас мох на стрэсе.
Сыра ў хаце, пуста ў сенях,
Глуха, як у лесе.

Прытуліўся хлеўчык збоку,
Як дзіця да маткі.
Смутна сэрцу, нудна воку,
Як зірнеш на хатку.

Шыбы ў вокнах перабіты,
Як-бы ў пераплёце,
Каля ганка дол парыты,
Збан, гаршчок на плоце.

Доля гэты кут мінае,
Гора тут пануе,
Тут кабета маладая
З дзеткамі гаруе.

Рве без жалю вецер стрэху, —
Цяжка без мужчыны!
Не чутно тут спеву, смеху —
Тут удоўка гіне...

## ПАД СПЕЎ ВЕТРУ

Вее вецер, свішча ў коміне,
Горка плача, надрываецца;
І цяпер мне тая музыка,
Як жывая, ўспамінаецца.

Помню хатку я старэнькую,
Што між лесу загубілася,
Каля хаты вярба ніцая
Да страхі галлём схілілася.

Ночка зімняя, халодная...
Вецер дзьме не супімаецца,
А над лесам гоман-шум густы
Гудам-гулам разліваецца.

А у комін вецер песенькі
Напявае тонкім голасам
І па стрэсе снегам шорхае,
Нібы жыта спелым коласам,

То нясмела ў дзверы стукне ён,
Як-бы ў хату, бедны, просіцца,
То пад вокаппем закруціцца
Ды так горка разгалосіцца!

І прыціхне на хвілінaчку,
Сілы-моцы набіраецца.

Ные сэрца, ные-смуціцца,
На спеў ветру адзываецца.

Помню, помню сваю хатачку,
Маю родную, далёкую;
Як успомню — жаль агортвае
Маю душу адзінокую.

## ХМАРКІ

Светлыя хмаркі — дзеткі прастору —
Ціха па небе плывуць.
Ім незнаёмы слёзы і гора,
Смутак і жаль іх не рвуць.

Ціха і згодна ідуць, небажаткі,
Ўсюды ім сцежкі ляжаць.
Ясныя зоркі, быццам дзяўчаткі,
Скрозь іх валокны глядзяць.

Золатам сонца іх аблівае,
Месяц ім срэбра дарыць,
Грозную песню ім гром напявае,
Вецер на крыллях імчыць.

Светлыя хмаркі, рунь залатая,
Дум небясоў чарада!
Вам незнаёма нядоля людская,
Клопат, згрызоты, нуда.

Стэп неаглядны, шыр нелюдзіма,
Вольнае царства вятроў, —
Там вашы сцежкі, там і радзіма,
Дзеткі блакітных стэпоў!

Станьце-ж вы, хмаркі, над рубяжамі
Нашых палеткаў, шнуроў,
У сэрца людское закіньце з дажджамі
Думкі іх верных сыноў.

## ПЕСНІ ВЯСНЫ

Песні ў полі, шум і гоман.
Ну-ж і выдаўся дзянёк!
Снег на дзірах, лёд надломан,
І спявае ручаёк:

«Гэй сябры, гэй, ручаёчкі!
Дружна разам пабягом.
Гайда, гайда ў свет, браточкі,
К тым шырокім берагом!

Людзі-волаты! Глядзеце,
Колькі гонім мы вады,
Бо еднанне — сіла ў свеце,
Хто-ж дужэй ад грамады?

Мы дарогі ў полі знаем,
Не заблудзіць там вада —
Знанне — сіла! Мы гукаем:
Гэй, за намі, грамада!

Мы імчым, мы гонім воды,
Затапілі мы брады.
Дружнасць — першы крок свабоды,
Згода — сіла грамады».

## СМЕРЦЬ АРЫШТАНТА

Праз астрожны двор закрыты
Два людцы маўчком ідуць,
З тоўстых дошак спешна збіты
Цесны гроб яны нясуць.

І не звоняць, не спяваюць,
Нікагутка не відно.
Два плячы той гроб трымаюць,
Бы й не гроб, а бервяно.

Арыштант! Сярод дарогі
Сам сабе ты адзваніў:
Кайданамі твае ногі
Суд «ласкавы» надзяліў.

Арыштант! Яшчэ ты ўчора
Сам сябе і адмаліў,
У гроб цесны сваё гора
Ты глыбока палажыў.

Арыштант! І ў роднай хаце
Жыць з сям'ёю не далі.
Месца й там табе няхваціць,
Як не стала на зямлі.

А сканаў ты, як сабака.
Знаць не будуць сваякі,

Як пражыў ты, небарака,
Перадсмертныя дзянькі!

Арыштант! Цябе зарыюць,
Не заплачуць над табой,
Хіба мо' ваўкі завыюць
У пілiпаўку зімой.

Арыштант! Твае магілы
Крыж не будзе вартаваць,
Адзін вецер свае крылы
Над ёй будзе разнімаць,

Калі ўвосень раззлуецца
І памчыцца ў свет гуляць.
З языка не раз сарвецца:
— Хтось павесіўся, відаць!

Арыштант! Не будуць дзеткі
Знаць, дзе татка іх спачыў,
Бо не будзе і заметкі,
Дзе ты костачкі злажыў.

## ВЯРБІНА

Над вадою адзінютка
Пахілілася вярбіна;
Ные бедная ціхутка.
Ці-ж то ёсць у ёй кручына?

Мые Нёман ёй карэнні,
І дурэе вецер з ёю,
А пад нізам чарадою
Ціснуць ногі ёй каменні.

Ёсць кручына не малая,
І шуміць яна так нудна,
Бо ёй доля не спрые,
Бо расці ў каменнях трудна...

Так і ты, народ наш бедны,
Як вярбіна, проці волі,
Доўга носіш пояс медны,
Гнешся ты, як крыж у полі!

## НЕ ДАМСЯ

Вось мяне і пасадзілі,
Каб сялян не бунтаваў;
Мяне білі і судзілі,
Па «участках» валачылі,
А цяпер сюды папаў.

Што-ж, Язэпка! Чысць куточкі,
Балазе, што многа цьмы...
Ды не думайце, паночкі,
Што спужаўся я турмы!

Хоць каму, а жыць тут трэба,
Каб астрог не пуставаў.
Доля выбрала Язэпа —
Жуй, Язэп, скарынку хлеба,
Покі Гурка не раскраў.

Жуй, хоць плачуць твае вочкі —
І да слёз прывычны мы...
Ой, не думайце, паночкі,
Што спалохаўся турмы!

Праўда, жыць тут не салодка:
Харч свінячы — лепшы стол,
Пухне пуза, як калодка,
Але голад, брат, не цётка:
Ем бурду іх, як той вол.

Што-ж, Язэпка, гора змальства,
Беднасць гнала да сумы...
Эх, не радуйся, начальства:
Не злякаўся я турмы!

Вось адбуду тэрмін гэты,
Выйду я на свет з муроў,
Зноў за кніжкі, за газеты...
Вось вам, «плешкі-эпалеты»:
Не баюся я «шнуроў»!

Хоць навіслі густа хмары,
Хоць на змор мяне бяруць, —
Не! мяне не справяць кары,
Толькі злосці паддадуць!

## ЛІПЫ СТАРЫЯ

Ліпы старыя шумяць за сцяною,
Жаласна, глуха шумяць,
Смутна ківаюць, трасуць галавою,
Толькі галіны рыпяць.

Пышны убор іх, лісты, пазрываны,
Вецер развеяў, разнёс.
Нудна і ім за астрожным парканам,
Цяжка ім зносіць мароз.

Плачуць гаротныя ліпы старыя,
Плачуць на долю сваю:
Пышна раслі мы, цвілі маладыя,
Добра было у гаю.

Вольныя птушкі вакол шчабяталі,
Божыя пчолкі гулі,
Тоўстыя вязы ад бур нас хавалі,
Сеткі дубы нам плялі.

Белыя хмаркі над намі гулялі,
Беглі ў няведамы край,
Чыстыя росы, як срэбра, блішчалі,
Гоманам поўніўся гай...

Там-бы хацелі расці, красавацца,
Дол дзе капае ральнік,

Родную песню дзе ціха спявае
Сын Беларусі, мужык.

Нас перанеслі на глебу чужую —
Свету, прастору няма.
Ўсе нас забылі, ніхто нас не чуе,
Чуе нас толькі турма.

## ПАНАС ГУЛЯЕ

Што мне жонка! Што мне дзеці!
Эх, Панас, ва ўсю гуляй!
Ёсць 'шчэ мерка жыта ў клеці,
Хаім, піва падавай!

Напляваць мне на падатак.
Што мне земскі, старшына!
Хаім, люльку на ў задатак, —
Дай мне царскага віна,

Дай мне булку на паўзлоты,
Ды прыпраў мне селядца!
Ўсё прап'ю: халат і боты...
Пачынай, Панас, з канца!

Вось ідзе Панас, спявае,
Страшыць жонку і дзяцей,
Кулаком усім махае,
Пабудзіў усіх людзей.

Дома ён разбушаваўся,
Ды вяроўку дзед прыпас...
Пад сталом ноч пракачаўся
П'яны, звязаны Панас.

## ВЯСНА

Йдзе вясна ўжо, дзякуй богу!
Згінуў снег з сырой зямлі;
Папсавала гразь дарогу,
Перавалы загулі.

Сонца грэе, прыпякае;
Лёд на рэчцы затрашчаў.
Цёплы вецер павявае,
Хмар дажджлівых нам прыгнаў.

Вось і бусел паказаўся,
Гусі дзікія гудуць,
Шпак на дубе расспяваўся,
Жураўлі ўжо лятуць.

І зіма, як дым, прапала!
Зелянее луг, ралля.
Як ад болю ачуняла
Наша родная зямля.

## СЦЁПКАЎ СОН

Рана Сцёпка абудзіўся
І ляжыць — не сціцца:
Сон яму такі прысніўся —
Толькі падзівіцца!

Быццам жыта сеяць вышлі
У поле пры дарозе, —
Сцёпку нават зышло з мыслі,
Што ён у астрозе, —

Поле сонцам скрозь заліта, —
Шырыня, раўніна!
Глеба тлуста, сакавіта —
Чарназём ды гліна.

Не дакінеш проста вокам
Да суседскіх межаў,
А на лузе іх шырокім
Што ні стог, то вежа!

І суседзі тут у полі
Ходзяць з карабкамі,
Сеюць жыта на прыволлі
Рэжуць дол плугамі,

Робяць гоні і разоркі...
Ветрык ціха вее.

Трохі воддаль на прыгорку
Вёска іх чарнее.

З-за сялянскіх хат адметна,
Між гумён, адрынак,
Пазірае так прыветна
І Сцёпкаў будынак...

Углыбіўся Сцёпка ў мары,
Думцы ўвесь аддаўся,
Пра астрог забыў, пра нары,
Дзе ўсю ноч валяўся.

Тут ён целам, там — душою,
Там, у родным полі,
Дзе хадзіў ён за сахою,
Дзе пазнаў нядолю,

Ды забыта ўсё ліхое,
Ўсё, што дух смуціла,
Засталося дарагое,
Што так сэрцу міла.

Але зараз рассвітала,
Нудны дзень вярнуўся.
Сон і мары — ўсё прапала,
Як астрог ачнуўся.

## ПАХАВАННЕ

Чую звон я нудны,
Рэдкі, невясёлы.
Дзень сягоння будны,
Не святкуюць сёлы.

Чую прычытанне,
Чую плач я нечы,
Скончыўся заранне
Век твой, чалавеча.

Вось труну я бачу,
Кучка йдзе народу.
Колькі жалю, плачу!
Жонцы мужа шкода,

Мужа маладога,
Добрага Рыгора,
І сабе у бога
Просіць смерці з гора.

Сёстры плачуць горка
Буйнымі слязамі:
«Ой, Рыгор, Рыгорка!
Што зрабіў ты з намі?»

Двое дзетак з краю —
Бедныя сіроткі!

Цяжка будзе, знаю,
Вам, мае блазноткі!

Ззаду дзед сагнуўся —
Нудна, жаль старому.
Падышоў, вярнуўся
Скора поп дадому.

О, мой братка родны!
Ой, мужык ты бедны!
Ўсё жыццё галодны,
Худы, чорны, бледны.

Хто табе уважыць?
Хто паспагадае?
Сушыць доля, пражыць,
Гне, не аглядае.

Біўся ты, як рыба,
Часу ты не ўседзіш...
У зямельцы хіба
Шчасце ты угледзіш.

А памёр — ні знаку,
Звон адзін пазвоніць,
Ў яму, небараку,
Кінуць, пахароняць...

Смутна і ціхутка...
Могілкі з крыжамі.
Круцяцца блізютка
Галкі над палямі.

Жаль скаваў мне грудзі,
І нуда напала...
Каб вы знали, людзі,
Як мне цяжка стала!

## НЯВОЛЬНІЦТВА

Глуха стала пасля буры,
Нудна цягнуцца дзянькі,
Не праб'ецца крык праз муры,
Крэпкі ржавыя замкі...

Нечым сэрца распацешыць,
Нечым дух разварушыць,
Як часамі боль прыспешыць,
Голас волі закрычыць...

Эх, як цесна тут, як дзіка!
Незайздросна наша часць:
Не пачуюць твайго крыку,
Ніхто помачы не дасць!

* * *

У бярлозе ты радзіўся,
На мякіне гадаваўся,
За скарынку хлеба біўся,
За капейку мардаваўся.

І жывеш ты, як скаціна,
Усякіх злыдняў корміш многа.
Ад пакуты гнецца спіна,
І не бачыш ты нічога.

О, каб вочы прасвятлелі,
Каб на вушы быў лягчэйшы,
За быдля-б цябе не мелі,
Сцежкай ты-б ішоў прасцейшай!

## НОЧ

Між палёў шырокіх
Я адзін стаю,
Ахваціла ціша
Усю душу маю.

Ночанька мая ты,
Водблеск глыбіні!
Ты душу чаруеш
Спевам цішыні.

Многа ў гэтым спеве
Водгукаў жывых,
Іх не зловіш вухам,
Чуеш сэрцам іх.

Ночанька мая ты,
Ціхі сон вясны!
Колькі зор на небе!
Як блішчаць яны!

Водблескам пажару
Неба край гарыць —
Там двурогі месяц
Выплыў з-за гáры.

Ночанька мая ты,
Ціхая дума!

Не ахваціш вокам,
І тых слоў няма

Апісаць твой вобраз,
Хараство, спакой —
Толькі ў цябе ўнікнеш
Чуткаю душой.



Ганна Юр'еўна Міцкевіч — маці Якуба Коласа. 1923 г.

* * *

Сохну марна я ў астрозе,
Дарма трачу сілы.
Рвецца дух мой на свабоду
З гэтае магілы.

Шкода хаткі мне старэнькай
З латанай страхою,
Што схілілася над Нёмнам
Горкай сіратою.

Шкода мне зялёнай нівы,
Што шуміць у полі,
Тога дуба, што над рэчкай
Песціцца ў прыволлі.

Шкода мне гаёў цяністых
І лугоў прастору,
Дзе пад ветрам ходзяць хвалі
Травянога мора.

Шкода светлай ручаінкі
Ў берагах пясчаных,
Што, як срэбра, мкне-бруіцца
Паміж гор, курганаў.

Шкода вёсак запусцелых,
Дзе ральнік гаруе,
Дзе зімою вецер вые,
Кудаса шнуруе...

Гэта — вобразы краіны
Беларусі роднай...
Край ты наш! Як міл ты сэрцу,
Цёмны край, галодны!

Ды не век я тут гарую,
Дачакаю волі
І пачую ў родным краі
Песні лепшай долі.

## ЖЫТНІ КОЛАС

На саломцы тонкай
У траве густой
Спее адзінокі
Колас сіратой.

Ці то птушка божжа
Кінула зярно,
Ці то занялося
Бураю яно,

Ці з дзіравай торбы
Конік чый згубіў,
На чужую скібу
Зерне пасадзіў, —

Неба яго знае,
Як сюды папаў,
Хто ад роднай нівы
Зерне адарваў...

Сушыць яго сонца,
Хіліць вецярок.
Ные сіроцінка,
Плача каласок.

Плача, што няма з кім
Думку падзяліць,

Смутную галоўку
Ціха прытуліць

Да другой галоўкі,
Да другіх грудзей
І шаптаць аб шчасці
У цішы начэй.

Апусціўшы нізка
Тонкі паясок,
Ные сірацінка,
Плача каласок.

Плача, што дарэмна
Тут расце ў глушы,
Што нідзе не згледзіш
Роднае душы,

Што яго зярняткі
Птушкі падзяўбуць,
Белую саломку
Ветрыкі паб'юць.

І, падняўшы ўгору
Стромкі валасок,
Ные сірацінка,
Плача каласок.

## ДАРОГА

Між спелага жыта
Сінее валошка,
Бяжыць паміж нівак
Крывая дарожка.

Скажы мне, дарога,
Хто ездзіць табою?
Куды ты крывенькай
Бяжыш паласою?

Па ўзгорках высокіх,
Багатых пяскамі,
Даўно пралягла ты
Двума паяскамі.

Скажы мне, дарожка,
Чаму ты крывая,
І вузка і цесна,
Як доля людская?

Бяжыш ты часамі
Праз горы, курганы...
Чыёю рукою
Крыжы пастаўляны?

Знаць, гора-нядоля
Тут след пакідае...

Маўчыць, не гаворыць
Дарога крывая.

І бедныя людзі
Тут ездзяць і ходзяць,
А шчасця і долі
Ніяк не знаходзяць.

## ГАДАВІНА

Лінуць дожджык памыкаўся,
Вецер ліст сухі ганяў;
Нешчаслівы дзень прыдаўся:
Волю я ў той дзень хаваў.

Сам я йшоў бядзе у рукі,
Сам я вольнасць сваю нёс
У гэты суд балота, мукі,
У гэту багну гора, слёз;

У суд, дзе праўда ўжо спрадвеку
Папіхаецца нагой,
Дзе прастор вялікі здзеку
Над бяздольнасцю людской.

Я дабра не спадзяваўся,
Я там праўды не чакаў...
Нешчаслівы дзень прыдаўся:
У той дзень волю пахаваў.

## АДЛЁТ ЖУРАЎЛЁЎ

Белыя валокны
Сцелюцца над долам.
Не сляваюць птушкі,
Сціхнуў лесу шолам.

Сцелюцца валокны,
Тчэцца павуціна —
Блізка, блізка восень,
Смутная часіна!

Зажурыцца неба,
Схованае ў хмары,
І агорнуць сэрца
Нейкі жаль і мары.

Замірае лета,
Заціхаюць далі,
Сірацее рэчка,
Халадзеюць хвалі.

Стомленасць, знямеласць...
Тояць думку боры...
Шш! што то за гукі,
Чуюцца ў прасторы?

Жаласна-прыгожа
Льюцца ў небе гукі,

Слухаюць лясы іх,
Луг, балота, лукі.

У бязмежным небе
Роўненькім шнурочкам
Жураўлі на вырай
Мкнуцца над лясочкам.

Меншыцца шнурочак,
У паднеб'і тае,
Вось ледзь-ледзь чарнее,
Міг — і прападае.

І стаі́ш ты, смутны,
Доўга пазіраеш,
Як-бы нешта страціў,
А што — сам не знаеш.

Так у час расстання
З тым, хто сэрцу любы,
Адчуваеш смутак
Цяжкай страты-згубы

І глядзіш маўкліва
На дарожку тую,
Што нясе ў далечу
Душу дарагую.

## МАЦІ

Непрыветна цераз вокны
    Ночка пазірае.
Ціха ў хаце. Уся сямейка
    Спіць, адпачывае.

Натрудзіўшы добра рукі,
    Натаміўшы плечы,
Толькі маці з верацёнцам
    Туліцца пры печы

Ды прадзе, прадзе кудзельку.
    Скача верацёнца,
А за ім густыя цені
    Бегаюць па сценцы.

*

На камінку гарыць корчык,
    Злотам іскры скачуць.
За аконцам вецер ходзіць,
    Глуха вербы плачуць.

Зябнуць вербы на марозе,
    Тулячыся к стрэсе.
Снегам вецер сыпле ў дзверы,
    Ходзіць шум па лесе...

І пад гэты шум трывожны
Думае старая,
А ўслед думкам неспакойна
Вецер падпявае.

*

І ўсё ўстала прад вачыма
Беднае кабеты:
Маладыя дні дзяціны,
Дзявочыя леты,

Радасць жыцця і нягоды,
Сваркі, трасяніна, —
Ўсё, чым жыцце напаткае
Ў цяжкую часіну.

Ўсё прыпомнілася беднай, —
Горка, цяжка стала,
Галаву на бок схіліла,
Прасці перастала.

*

Вось і муж усплыў на думу —
Рана смерць скасіла!
Дробных дзетак ён пакінуў —
Без пары магіла!

Жыў ён бедна. Спадзяваўся
Свой прыдбаць куточак,
Хату вывесці, зямелькі
Прыкупіць шматочак,

Бо агоркнуў хлеб батрацкі,
Жыцце пад'ярэмна...
Ды не вышаў з-пад няволі,
Біўся век дарэмна!

*

Гасне корчык на камінку,
Пацямнела ў хаце,
Поўнач пеўні пракрычалі,
Але не спіць маці.

Цягне нітку. Верацёнца,
З рук упаўшы, грукне,
Ды нясмела, як убогі,
Ў дзверы вецер стукне.

Думкі думку падганяюць,
Не даюць спакою,
Усё лятаюць над кабетай
Нуднай чарадою.

*

Уздыхнула цяжка маці,
Аб сынку гадае,
Што ў астрозе, ў паняверцы
Кару адбывае.

І за што? У толк не возьме
Бедная кабета
Ні законаў гэтых мудрых,
Ні парадкаў свету.

Вецер вые за вугламі,
Ў коміне галосіць.
Куды толькі думка тая
Матку не заносіць!

Зябнуць вербы на марозе,
Глуха лес гамоніць.
Думка думку выклікае,
Думка думку гоніць.

## ПОКЛІЧ

Гэй, чуеце, хлопцы? Дзе вы, адкажэце?
Развеяны ветрам па беламу свеце.

Па ўсіх вы куточках маўчком распаўзліся,
Ад думак даўнейшых сваіх адракліся.

Забылі вы песні пра вольную волю,
Змаганне за шчасце, за лепшую долю.

Адспевана песня, бясследна прапала,
Бо хлеба скрынка язык вам звязала.

І нізка прыгнула вас першая бура,—
Ацесліва, хлопцы, знаць, ваша натура.

І тыя ярэм'і, што вы асмяялі,
Вы зноў-жа пакорна на шыі паклалі!

Ці чуеце, хлопцы?.. Адказу не маю
І вечны пакой у турме вам спяваю.

## СЯБРУ

Эй, і бедна-ж у нас!
Ох, вялікая глуш!
Брат! Працуй, не чакай,
Цьму людскую ты зруш.

Восень, доўгая ноч
Над народам вісіць,
З кожнай хаты нуда,
Недастача глядзіць.

З кожных вуснаў людскіх
Хоча вырвацца крык,
Стогн збалелай душы
Бедакоў-гарамык.

Вочы, поўныя дум,
Ў дол маўкліва глядзяць,
Дзе надзеі даўно
Іх спрадвеку ляжаць.

Раскатурхай народ,
Свет яму развяжы
І за долю яго
Працу ўсю прылажы.

## АСЕННІ ДОЖДЖ

Сыплюцца кроплі часта і дробна,
Ціха па стрэсе бубняць.
Смутак наводзіць шум іх жалобны,
Смутку таго не суняць.

Хліпанне, плюскат... Ночка глухая
Цягнецца доўга, як год.
Вецер заложны шуміць, не сціхае,
Жаласна свішча праз плот.

Кружацца думкі, сон разганяюць,
Мары наводзяць і сны,
Волю далёкую мне ўспамінаюць,
Дні маладыя вясны...

Сыплюцца кроплі часта і дробна
У сцены, у вокны бубняць.
Смутна іх песня, плачу падобна,
Смутку-ж ніяк не суняць.

## ГУСІ

Зоры далёкія, зоры бліскучыя
Ціха гараць над зямлёй.
Крыкі знаёмыя, тоны пявучыя
Льюцца вячэрняй парой.

З поўначы-холаду, сівера бурнага
Гусі на поўдзень ляцяць,
З неба далёкага, стэпу лазурнага
Смутна прашчанне крычаць.

Дзікія гусанькі, птушачкі вольныя,
Веснікі скорай зімы!
Хочацца з вамі мне ў стэпы прасторныя,
К свету і сонцу ад цьмы.

Толькі-ж падрэзаны крыллі свабодныя:
Моцна пільнуюць мяне
Дзверы акутыя, сцены халодныя,
Краты жалеза ў акне.

## ДУМКІ

Ой вы, думкі, думкі,
Сэрца майго раны!
Ці вы мае дзеці,
Ці вы кім насланы?

Што-ж вы завіліся
Віхрам нада мною,
І няма ніколі
Мне ад вас спакою?

Рад-бы я не думаць
І не знацца з вамі,
Ды без запытання
Плывяце вы самі.

Плача маё сэрца,
Хоць без слёз, ды горка,
Як пачнецца ваша
Смутная гаворка.

І на маю душу
Леглі вы туманам,
Мітуслівым роем,
Смутным караванам.

Ой вы, мае думкі!
Ці вы кім зражоны,

Што так невясёлы,
Што так засмучоны?

Рад-бы я не думаць
І не знацца з вамі,
Толькі-ж проці волі
Плывяце вы самі.

* * *

Думкі ўюцца, томяць грудзі —
  Волі хочацца і ім. —
Хочуць песняй стаць лагоднай,
  Мілым дзіцяткам маім.

Цяжка з імі жыць замкнута,
  У начной хаваць цішы,
Цесна думкам, цесна бедным,
  Хочуць выліцца з душы.

Уюцца думкі смутным роем,
  Хочуць выбіцца на свет.
Дык ляціце, сэрца дзеці,
  На паперку кіньце след!

* * *

Скора ў полі забушуе,
Песню сівер запяе,
Ўсе дарожкі զараўнуе,
Гурбы снегу нанясе.

Ўсё змяшаецца ў тумане,
Ў белым попеле снягоў.
Сумна вецер плакаць стане
Над будынкам мужыкоў.

Я-ж люблю той свіст у полі,
Як вакол усё дрыжыць —
На спатканне песням волі
Дух мой рвецца і ляціць.

## КАТАРЖНІКІ

Цесны дворык. Непрыгожа!
Дзверы пад замкамі,
У тры сажні агарожа, —
Глуха, як у яме.

Толькі бразгаюць кайданы
Дзікім бразгатаннем,
Звон пакуты, звон паганы
Аддае стагнаннем.

Будзіць звон той боль у сэрцы,
Смутак наганяе.
Цяжка, цяжка ў паняверцы!
Ой, доля ліхая!

*

Свеціць сонца, жарам пыша,
Ў небе — ні хмурынкі.
Лёгкі ветрык сад калыша,
Гойдае галінкі

Ды жартліва задзімае —
Накурыць, напыліць,
Пух угору падымае,
Красачку пахіліць.

Прабяжыць, і ціха стане...
Звякаюць кайданы.
У гурт сышліся катаржане,
Від іх змардаваны.

Вось на лаўку яны селі,
Галовы спусцілі,
Думкі моцна іх здалелі,
Сэрца засмуцілі.

Не згадаць іх дум маўклівых,
Дзе яны іх носяць —
Мо' гуляюць там, на нівах,
А мо' волі просяць.

Катаржане — хлебаробы,
Дзеці вёсак, поля:
Таго бойка з-за худобы
Прывяла ў няволю,

Той з суседам пасварыўся,
У таго зяць паганы,
А той, з братам як дзяліўся,
Зарабіў кайданы,

Той за нораў свой сярдзіты,
Ці за лішак жару...
Гэта — цёмны люд, забіты,
Беднаты ахвяра.

*

Што за думкі — не згадаю:
Цьмяна іх гаворка.
Адно толькі добра знаю:
Горка людзям, горка!

* * *

Я помню, быў і я багаты.
Я жыў, як богач, у дабры,
І не міналі мае хаты
Мае таварышы, сябры.

І не цураліся дзяўчаты,
Пялялі вяночкі з красак мне,
Я быў шчаслівы і багаты,
Ды толькі-ж тое было... ў сне.

## АРАТЫ

—Но, малы! Но, малы, каб табе брыдка!—
У полі араты крычыць.
Сошка крывенькая дол рэжа плытка,
Толькі пясочак шарсціць.

Глуха каменьчыкі б'юць аб нарогі,
Папараць, пырнік што крок.
З сіл выбіваецца конік убогі,
Сыйдзе няўмысля набок, —

Крыкне араты і торкне ляйчынай:
— Куды паўзеш ты? Назад! —
Клыгае konічак зноў раўчавінай,
Тчэ за сабою ён склад.

Сам-жа араты саху падтрасае,
Мерна йдучы за канём.
Босыя ногі, а шапка старая,
Зрэбныя порткі на ём;

Грудзі расхлістаны, лушчыцца скура,
Пот залівае ўвесь твар.
Неба-ж яснюткае хоць-бы дзе хмура!
Эх, і даймае іх жар!

Клыгае конік, а ззаду араты
Ходзіць, сагнуты як склюд...
Матка-зямелька! Эх, не, недарма ты
Корміш убогі свой люд!

* * *

Дай зірну ў сваё аконца —
Снег і снег вакол. Зіма.
І нейк цесна, бы ў палонцы,
Ўсё цяжэй звісае цьма.

Там, за ярам, лес дубовы
Чуць сінеецца праз бель;
Не чутно ніякай мовы,
Усюды белая пасцель.

І стаяць маўкліва хаты,
Ў яр уперліся двары,
Ўсё маўчыць, бы сон заняты
Навялі тут ведзьмары.

Толькі зрэдку між крыжамі
Разгалосіцца ўдава,
Ды ў яры дзесь вечарамі
Свішча жудасна сава.

І над гэтаю магілай
Жыцця цёмнага людзей
Цяжкі жуд сляпою сілай
Налягае ўсё мацней.

## РОДНЫЯ ПЕСНІ

Вісне скарга уздоўж Нёмна,
Беларусі сына.
Як ты бедна, як ты цёмна,
Родная краіна!

Збіты ў кучу твае вёскі,
Стрэхі ў дол уходзяць.
Смутнай песні адгалоскі
Лес, курганы родзяць.

Крыж збуцвелы, знак пакуты,
Тут і там чарнее.
Даль паўнютка ціхай смуты —
Жаль на душу вее!

Усё ў табе, мой родны краю,
Апавіта горам:
І той вецер, што дзьме з гаю,
Што шуміць над борам;

Тыя песні, што на полі
Жнеі запяваюць;
Тыя думкі, што да болю
Сэрца калыхаюць.

Ва мне смутак, гора гэта
Водгулле знаходзіць,

Сэрца, жалем абагрэта,
Песні смутку родзіць.

Няхай плачам у тэй далі
Песня разальецца,
Каб усе на свеце знаді,
Як нам тут жывецца.

## Я НЕ ЗНАЮ...

Я не знаю сам, браточкі,
Чаму мне так мілы
Буры, плач асенняй ночкі,
Спеў яе пастылы,

Лесу гоман, гуд нястройны,
Шум лазы ў балоце,
Баязлівы, неспакойны
Шолах у чароце.

Я не знаю, чым мне дораг
Від палёў благенькіх,
Нудны клік у родных горах,
Вербак рад крывенькіх.

Маё сэрца, маё вока
Цягне хвоя тая,
Што у лузе адзінока
Сохне-умірае;

Жаралісты дуб высокі,
Колісь поўны сілы;
І той крыжык адзінокі,
Вартаўнік магілы,

Дзе так сумна ветры веюць,
Точаць дол пясчаны,

Дзе чыесьці косці тлеюць,
Чыйсьці прах схаваны...

Я не знаю, я не знаю,
Чым я так прыкуты
Да тваіх, мой родны краю,
Вобразаў пакуты!

## ПЕРШАЕ ЗНАЁМСТВА

Помню, помню тую ночку!
Не забуду я той час.
Пеў салоўка у садочку,
Зор цягнуўся ў небе пас.

Выплыў месяц круглы, поўны,
Падрумянены, як блін.
Церушыўся мрок бязмоўны,
І п'яніў мяне язмін.

І прышла ты нечакана,
Сама, строгая, прышла!
І са мною аж да рана
Тую ночку правяла.

Загадала першым дзелам
«Рукі ўгору» мне падняць
Ды кішэні аглядзела,
Нават кіцель мусіў зняць.

Распарола мой сяннік ты,
Развярнула мой бярлог,
І лісты мае ад Вікты
Паляцелі за парог.

Праз увесь час з твайго твару
Не знікала строгасць, злосць,

І, сказаўшы мне слоў пару,
Запытала: «Пашпарт ёсць?»

Ты набрала маіх кніжак
Два партфелі і прыпол,
А каб быць знаёмай бліжай,
Напісала пратакол.

## З ТУРМЫ

Цесна мне тут, горка мне!
    Просіць сэрца волі.
Плачуць думкі па вясне,
    Хочуць лепшай долі.

Гэй ты, лес, хваёвы бор,
    Бор густы, высокі!
Неба сіняга прастор,
    Стэп яго шырокі!

Я да вас хачу, каб збыць
    Ўсе мае нягоды
І свой голас разам зліць
    З песнямі прыроды.

Люб мне поўдзень, цішыня
    Раніцы прахладнай,
Крык у небе каршуна
    Ў высі неаглядной,

Луг шырокі над ракой,
    Долы і паляны.
Рвуся к вам я ўсёй душой,
    Родныя курганы!..

Гэй ты, лес, зялёны бор,
    Бор густы, высокі!
Неба сіняга прастор,
    Стэп яго шырокі!

## ПІСЬМО З АСТРОГА

— Напішы мне, калі ласка,
Пісямко дахаты!
Піша з дому мне Параска,
Што сын здан ў салдаты...

Охо-хо! — Пракоп ўздыхае,
Джургае чупрыну,
А ў руках пісьмо трымае
І канверцік сіні.

Просіць шчыра грамацея,
Нават шапку скінуў.
Сам Пракоп пісаць не ўмее —
Дзе? Ў бядоце гінуў!

Гадаваўся на мякіне,
Жыў з худобай змалку,
Смак жыцця пазнаў на спіне,
Высах сам у палку.

А нарэшце вось папаўся
У спісак арыштанскі.
А за што? Нібы збіраўся
Падпаліць лес панскі!

— Што-ж табе пісаць, старэнькі?
— А пішы, нябога!

Жонка, сын мой даражэнькі!
Шлю паклон з астрога.

Сэрца мне баліць, і вас я
З думак не спускаю.
Кожны божы дзень і час я
Дом успамінаю.

Жонка мая дарагая!
Ты не скрыўдзь Івана.
Калі грошай нехватае,
Папрасі ў Сцяпана.

Няхай Сцёпка не баіцца —
Аддамо з падзякай.
Хлопцу-ж трэба хоць акрыцца,
А не йсці сабакам.

Спраў кажух яму і боты,
Выпраў, як і людзі.
Дай з сабою колькі злоты —
Весялейшы будзе.

Калі корму досыць маеш,
Падкармі больш свінку,
Мо' якую захаваеш
На вялікдзень шынку.

А калі на грош няхватка
Або корму мала,
Закалі і з поўдзесятка
Фунтаў прышлі сала...

Сын мой! Снасці рыбаковы
Добра ты прыпратай —
Згодзяцца, а венцер новы —
Маеш час — залатай.

Захавай, мой сын, прашу я,
Човен у адрыне,

Няхай вецер не свідрує,
Няхай так не гіне.

Ўсё, што можна, захавайце,
Пакуль я вярнуся.
Нераток стары аддайце
Міхалю з Габрусем.

Кнігі ўсе, апроч псалтыра,
Вы аддайце Грышку,
Хай сабе чытае шчыра,
Бо ён любіць кніжку.

Дарагі сын! Перад здачай
Да мяне зайдзі ты,
Можа болей і не ўбачу,
Не пачую, дзе ты.

Не смуткуйце, не бядуйце —
Дасць бог спосаб новы.
Што-ж ты зробіш? Пагаруйце...
Будзьце ўсе здаровы!

## У АСТРОЗЕ ВЯСНОЮ

Сціхлі песні зімняй буры,
Вее цеплынёю,
Ўскалыхнуўся лес пануры,
Зашумеў вясною.

Як-бы спуджаныя козы,
Пазбягалі хмары.
Плача зімка, льюцца слёзы,
Ажываюць яры.

Скора поле, лугавіны
Ў зелень убяруцца,
Жураўлі з чужой краіны
З крыкам пранясуцца.

Хмары ўстануць, і пяруны
Гучна загамоняць,
А ў турме тут сэрца струны
Жаласна зазвоняць.

І ўздыхнеш, ўздыхнеш глыбока
Над жыццём разбітым,
І пачуеш адзінокім
Ты сябе, забытым.

## ТУРЭМНАЯ КАМЕРА

Цесна камера, як клетка —
Вузкі ход праміж двух нар;
Пры акне жалеза сетка,
Над дзвярамі «каляндар»,

Разлінеены ў радочкі,
Ды «буфет» з пяці дасок.
У павуцці ўсе куточкі,
Ў пыле кожны вугалок.

Два аконцы, дзве рашоткі,
Два цабэркі для вады;
Столік, вузкі і кароткі,
Сеннікі у два рады.

Абабіт пабел усюды,
А праз столь цячэ вада.
Ў закарвашках звярок руды,
Клоп і ўсякая брыда.

Пахне потам чалавечым...
Цяжкі, спёрты, кіслы дух.
Рана ўстанеш — дыхнуць нечым,
Проста вешай хоць абух.

## ДЗЕ ВЫ?

Быў у нас хаўрус,
        Крэпка звязаны,
Дружбай моцнаю
        Падпяразаны.

Жыў ён думкамі
        І надзеямі
Смела ў бой ісці
        З ліхадзеямі,

З ноччу цёмнаю,
        Беспрасветнаю,
З доляй горкаю,
        Непрыветнаю,

Каб расчынен быў
        Свет людскім вачам,
Каб жылося лепш,
        Весялей людзям,

Каб ярэмы іх
        Былі зломаны, —
Крэпкі быў саюз,
        Дружбай скованы.

Песні вольныя
        Разліваліся,

Горы, лес, лугі
Адклікаліся.

Ды завыў віхор
Па-над лозамі,
Дзьмухнуў холадам
І пагрозамі.

Усё схавалася,
Затаілася,
Да зямлі ніжэй
Нахілілася.

Усё растрос-разнёс,
Як мятлою змёў,
Не мінуў і вас
Ён, маіх сяброў.

Распаўзліся вы,
Пахаваліся
І ад дум сваіх
Адцураліся.

З таго часу я
Адзін смычуся,
І ніяк я вас
Не даклічуся!

## СТАРОМУ ПАРАДКУ

Ой, стары парадак,
Як ты назаляеш!
Тузаеш ты, ломіш,
Скуры з нас здзіраеш.

Здзекуешся з нас ты,
Гнеш ты нас бясконца,
Праз цябе не бачым
Ні дабра, ні сонца.

Каб табе-ж ніколі
Не было спакою,
Каб цябе ганялі
Брудною мятлою!

## КАЛЯ ПАРОГА

Прад жалезнымі дзвярамі
    Цёмнага астрога
Жджэ кабетка: хоча бачыць
    Сына дарагога.

Ох, сынок! Сядзіць, саколік,
    За сцяной высокай
У нядолі, паняверцы
    І нудзе глыбокай.

Хоць-бы глянуць адзін момант
    На яго, здаецца!
Горка беднай, цяжка матцы,
    Сэрца яе рвецца.

І стаіць яна, чакае
    Доўгія гадзіны...
Злыя людзі — іх не чэпіць
    Смутак мацярыны!

Хмурна. Золка. Вецер-сівер
    Да касцей праймае,
І нясмела падыходзіць
    Да дзвярэй старая,

Мокры клунак загарнула
    Хусткаю старою.

Асцярожна — стук у дзверы
Зяблаю рукою.

Загрымеў ключом турэмнік,
Глянуў у аконца.
— Што табе? — спытаў сярдзіта.
— Ой, маё ты сонца!

Ці не можна бачыць сына?
Я здалёк, саколік!
— Апазнілася, старая,
Прыхадзі ў аўторак,

А цяпер ідзі дадому
І — бывай здарова! —
І аконца загрымела
Злосна і сурова.

Божа! колькі прастаяла,
Колькі часу ўбіла,
Процьму грошай на дарогу
Марна загубіла.

Што рабіць? Хто ёй парадзіць?
Хто ёй растлумачыць?
Да каго пайсці маліцца,
Каб сынка пабачыць?

Жаласць к сэрцу падступіла, —
Бедная кабета!
Сын даўно, даўно ў астрозе —
Ужо трэцце лета!

Забастоўку зрабіў хлопец
У двары у пана,
І за гэта да астрога
Прывялі Сцяпана.

Пастаяўшы, зноў аб дзверы
Рукі абівае:

У начальства знайсці праўду
Думае старая.

У наплечніках начальнік
Падышоў к варотам.
— Мой паночак! мой любенькі!
Ой, маё ты злота!

Дазволь сына мне пабачыць!
Нетутэйша, пане...
Пашкадуй мяне, старую!
Мокну спазарання...

Бачыш — дождж халодны сее
Спорна і абложна... —
Паглядзеў начальнік зверам
І сказаў: «Не можна».

Цяжка, цяжанька ўздыхнула
Бедная жанчына —
Налучылася такая
Ёй, відаць, часіна.

І зірнула ў жалю маці,
Скрыжаваўшы рукі,
На муры, на дом пакуты
І нязмернай мукі.

І ніхто не адгукнуўся
На яе жаданне.
Без адказу засталося
Горкае пытанне.

## ШКОЛЬНАЯ РАБОТНІЦА

На краю сяла глухога
Паміж ліп разложных
Прытуліўся дом убога,
Як жабрак набожны.

Пахілілася гарожа,
Ў дзірах дах зіяе...
Непрытульна, непрыгожа
Школка выглядае!

Насцеж зяўраюць вароты,
Чуць ліпяць і дзверцы.
Дзве бярозкі, як сіроты,
Гінуць ў паняверцы.

Ціха. Ночка. Нічагутка
Навакол не дрогне,
Хіба толькі дах ціхутка,
Як стары, застогне.

Вёска спіць — пара глухая,
Позняя часіна.
Не спіць толькі маладая
У школцы дзяўчына.

Свеціць лямпа перад ёю,
Ціха, бы ў магіле.

Многа працы ёй з дзятвою,
Каб разняць ім крылле,

Каб разблытаць з павуціны
Разумок дзіцячы.
Ды не страшны для дзяўчыны
Трудныя задачы.

Хоць над ёю цьма глухая
І вісіць абухам,
Ды дзяўчына маладая
Не падае духам.

Вучыць дзетак з дня ў дзянёчак,
Кніжкі ім чытае,
Раскатурхаць разумочак
Дзеткам памагае.

Рада радасцю дзяцінай,
Смутна іх бядою.
Не нацешацца дзяўчынай
Дзеткі маладою.

Так у цяжкай тэй рабоце
Траціць дні дзявочы,
Каб галоце і бядоце
Цьму рассеяць ночы.

Сцішна ў вёсцы. Думка-смута
Часта душу томіць,
І часамі боль зло-люта
Ў сэрцы загамоніць,

І агорне журба нейка,
Няміла нічога,
І не знойдзеш чалавека,
Чулага, жывога...

Поп і пісар — чужаніцы,
Іх свая дарога:

Рвуць, як могуць, ад дурніцы,
    Мужыка сляпога.

Цяжка беднай ёй часамі:
    «Власти» насядаюць,
Поп і земскі з пісарамі
    Скрыва паглядаюць

На дзявочыя старанні,
    На яе работу.
Толькі-ж вера ў сілу знання
    Ёй дае ахвоты.

Цёмна ў вёсцы, беспрасветна.
    Цяжка, цяжка школе.
Ды праз школу непрыкметна
    Прыдзе шчасце-воля.

Не загінуць край і людзі,
    Пасынкі народу,
Калі ў краі гэтым будзе
    Ззяць прамень свабоды.

## МУЖЫК

Я — мужык, бядак пахілы,
Ўсе ўшчуваюць мужыка.
Цягнуць кроў з яго і жылы,
Надрываюць яго сілы,
Ў мазалях яго рука.

Я —мужык, я — сын пакуты,
На мякіне вырас я,
Гічанамі пуза ўздута,
Ногі ў лапцікі абуты,
Бедна вопратка мая.

Я — мужык, я — сын бядоты,
Недаем і недасплю,
Гне мяне цяжар работы,
Дзень працую за два злоты,
Здзекі ўсякія цярплю.

Я — мужык, не чую звону,
Толькі-ж есць мяне чарвяк:
Ці не брэша поп з амбону,
Што цару бог даў карону?
Ой, не, мусібыць, не так!

Я — мужык, а гонар маю,
Гнуся, але да пары.
Я маўчу, маўчу, трываю,
Але скора загукаю:
«Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!»

## СЯЛЯНСКАЯ РАДА

Скончан дзень. За стол паселі —
Дужая сямейка!
Незайздросная патрава:
Бульба ды куцейка.

Павячэраўшы, мужчыны
Люлькі закурылі
І аб справах аб сялянскіх
Ўсе загаварылі.

Даў вясну бог, а з вясною
Праца надыходзіць.
Гэта праца іх галовам
Думак шмат наводзіць.

Поля мала, ды і тое
Хоць-бы ў адным месцы,
А то — дзе яно? За светам,
Гною не падвезці,

Ні ўзараць у сваю пору, —
Так і прападае,
А пасееш — няма толку,
Што-ж, зямля пустая!

— Я казаў-бы, — пачынае
Дзед, абросшы мохам: —

Картаплянішча ад лесу
Высеяць гарохам.

— Ну але, і я так думаў,
І там больш зацішку, —
Падтрымаў старога дзеда
Сын жанаты, Грышка.

— А «Асінкі» ад дарогі
Трэба заскародзіць:
Як патрапіш пад пагоду,
Можа грэчка ўродзіць.

— Ну, якая ўжо там грэчка! —
Брат малодшы кажа: —
Ветрам выдзьме! Не паспеўшы,
Ўся на пні паляжа.

— Хоць мякіна свінням будзе,
Подсціл, корм каровам. —
На хвілінку гоман сціхнуў,
Думаюць галовы.

— А для льну пакінуць можа, —
Голас гаспадыні: —
Два загончыкі ў «Навозах»,
Або пры лагчыне.

— Для льну месца там падобна,
Толькі трэба гною.
— Ну, а з пусткаю што будзе?
Сеяць ярыною?

Ці ў папар на лета пусцім? —
Грышкаў брат пытае.
— Пэўна-ж так. Хай у папары
Лета пагуляе...

Зацягнулася далёка
Гэта іх гаворка,

І як розум ні павернеш,
Усюды выйдзе спорка:

Там пясок і каменіца —
Кепска для ячменя:
На адну кальвінку збожжа
Зелля больш як жменя.

Там занізка, дождж размые,
І зямля сцаглее.
Там высока, сонца спаліць,
Без пары саспее.

А дзе-б можна што пасеяць
На якім загоне,
Дык там куры падрасуюць,
Паталочаць коні.

Эх, вясенька галадненька!
Каб ты толькі знала,
Колькі думак селяніну
Нанесла, нагнала!

## ГОРКАЯ ДОЛЯ

З нашым шчасцем-доляй
Выйсці ў людзі брыдка...
А бадай ты спрахла,
Гэтакая жытка!

Засадзілі ў клетку,
Волю адабралі,
Вобраз чалавечы
У гразь яны ўтапталі.

Лічыш дні і тыдні —
Горка ты, няволя!
А каб ты прапала,
Гэтакая доля!

І марнееш сам ты,
Траціш марна годы,
Хочацца прастору,
Хочацца свабоды.

Эх, жыццё, жыццё ты!
Ночка ты, нянасце!
А каб ты-ж згарэла,
Гэтакае шчасце!

Але пачакайце,
Помніце, псякосці!
Эх, прыпомнім крыўды
Мы вам, ягамосці!

## ЦЕМРА

Бедны мы і цёмны,
Ходзім слепакамі,
Судзімся і б'ёмся
З роднымі братамі.

І адзін другога
Часта акрадаем,
І куды йдзе праца,
Самі мы не знаем.

Пуста, бедна ў хатах,
Чад і гразь і сырасць...
Хто нас ў кут адціснуў?
Чыя гэта міласць?

На каго мы робім?
Што за гэта маем?
На каго ўсе сокі,
Сілы вынішчаем?

Пад ярмом адвечным
Мы йшлі без дарогі,
Натрудзіўшы плечы,
Зверадзіўшы ногі.

Папіхалі намі,
Гналі, як жывёлу,

Змардаваных, босых,
Неакрытых, голых.

А ўсё дармаеды
Нас без жалю лаюць,
Мужыком, хамулам
Злосна папікаюць.

Эх вы, дармаеды,
Моль вы, вош людская!
А хто-ж вас, праклятых,
На плячах трымае?

## БЕЗДАРАЖ

Хмурна. Глуха. Цьма пануе.
След у полі загубіўся.
Што-ж спужаўся? Што стаіўся?
Ці што вуха тваё чуе?

Сцішна. Пуста. Адзінока...
Свет закрыла цьма густая.
Паваротка тут крутая, —
Не змыліся-ж, маё вока!

Неба ў хмарах. Даль імгліста.
А дарогі скрыжаваны.
Што-ж там свеціць праз туманы?..
Стой, не йдзі: то — бляск нячысты!

Ціш і безлюдзь — ну, страхоцце!
Ані гуку, ані зыку!
Толькі свіст у лесе дзікі
Ды хмар сунецца лахмоцце.

Мрок стаіўся нерухома,
Пад нагамі лом, каменне.
Вось выпадак, вось здарэнне!
І куды йсці — невядома.

Не пужайся, пойдзем далей —
Ноч мінецца, змоўкнуць совы!
Дзень спаткаць будзьма гатовы!
Дык наперад, брат, павалім!

## НА АДЗІНОЦЕ

Між глыбокіх снягоў,
Дзе лес глуха шуміць,
Ціхі дом леснікоў
Адзінока стаіць.

Воўчым вокам акно
У цемры ночы блішчыць.
Дзеці леглі даўно,
Толькі маці не спіць.

Смыча нітку яна,
Ўсё кудзельку прадзе.
Глухата, цішыня,
Толькі вецер гудзе,

Завывае, бы звер.
Стогне вяз над страхой.
Страшна ў лесе цяпер,
Сцішна ў хаце адной.

Ды прывыкла яна
Да паўночы сядзець
І скрозь шыбы акна
Ночцы ў вочы глядзець.

А ў тым коміне зноў
Вецер песню пачаў,

Вось ён глуха завёў,
Застагнаў, забурчаў...

— Мама! страшна мне тут,
Я баюся адзін:
Унь варушыцца жмут
На ашэстку аўчын. —

Сын малы, Васілёк,
Кліча матку к сабе.
— Бог з табою, сынок,
То здалося табе!

Не пужайся, дурны,
То аўчынкі вісяць.
Нежывыя яны
І не могуць чапаць.

— Мама! Сядзь ідзі тут...
Што так страшна гудзе? —
Ставіць прасніцу ў кут,
К сыну матка ідзе.

— Мама! Чуеш — во-во!
Хтось па даху пабег!
Гэта злодзей ці хто?
— Не, сынок, — гэта снег!

— А што трэба яму?
Чаго ўзлез ён на дах?
Ці ён грозіць каму,
Ці спужаў яго страх?

— Ой, блазнота мая,
Ну-ж з цябе і смяляк!
Чаго думка твая
Устрывожана так?

Гэта-ж вецер, сынок.
— Ён жывы ці які?

— Ды не, мой галубок!
Гэта — подых такі.

— А што робіць ён?
— Хто?
— Ну, той подых!.. Скажы!
— Нямаведама што
Ты гаворыш!.. Ляжы.

Васілёк замаўчаў,
Нерухліва ляжыць,
Мусіць, думаць пачаў,
Чаго вецер шуміць.

А ён, нібы той звер,
Плача, вые, гудзе.
— А дзе тата цяпер?
Чаму доўга не йдзе?

Не баіцца адзін
Ён паночы хадзіць!
— Тата дужы, мой сын!
За плячыма вісіць

Стрэльба, нож пры баку..
Дык баяцца чаго?
Кепска будзе ваўку,
Калі чэпіць яго!..

— Мама! Праўда ці лгуць,
Што маленькіх дзяток
Жабракам аддаюць
Замест хлеба ў мяшок?

— Не, няпраўда, сынок!
Гэта байку сплялі,
Проста страшаць дзяток,
Каб паслушны былі.

Зноў заціх Васілёк
І пытаць перастаў,

Зноў яго разумок
Варушыцца пачаў.

Ціха ў хатцы малой,
Смутна лямпа гарыць.
Бор стары за сцяной
Усё шуміць ды шуміць.

## ПАЛЕСКІЯ ВОБРАЗЫ

Цёмны бор, кусты, балоты,
Кучы лоз і дубняку,
Рэчкі, купіны, чароты,
Мора траў і хмызняку;

Мосцік, зложаны з бярвенняў,
Брод і грэбля кожны крок,
На дарозе рад карэнняў,
Крыж, пахілены на бок;

Пералескі, лес, паляна,
Старасвецкі дуб з жарлом,
Хвоя-веліч на кургане
З чорным буславым гняздом;

Гразь, пяскі, лужок зялёны,
Шум крынічкі з-пад карча,
Шэлест лісцяў несканчоны,
Крык у небе крумкача;

Вербы, груша-сіраціна,
Нізкарослы цёмны гай...
Гэта ты, балот краіна!
Гэта ты, палескі край!

## ПАЛЕССЕ

*У дарозе*

Усё балоты ды балоты!
Топчаш шорсткую траву,
Едзеш-едзеш, а дрымота
Так і хіліць галаву.

Пацягнуўся лес сцяною —
Ельнік, дуб і хваіна;
Шум стаіць над галавою...
Што за край, за старана!

Ціха ў лесе, бы ў магіле,
І канца яму няма.
Зноў дзярвякі зачасцілі...
Як у ночы, ў лесе цьма.

Аж на сэрцы сцішна стала,
Аж забілася мацней...
Хоць-бы поле заблішчала,
Хоць-бы вёска ўжо хутчэй!

## ВЯСНА НА ПАЛЕССІ

Свішчуць птушкі над балотам,
Аж гамоніць лес і гай,
І далёка за чаротам
Бухнуў, нібы ў кадзь, бугай.

Па азёрах пайшлі крыгі...
Peравалы аж гудзяць.
Над балотам стогнуць кнігі,
Жураўлі ўгары крычаць.

Аж душа мая святлее,
І спяваць я зноў гатоў.
Рады ўсе, што сонца грэе,
Што няма больш халадоў.

## НЕБА

Дружа! Кінь на неба вока —
Колькі зорак, колькі зор!
Як прывольна, як далёка
Ззяе, свеціцца прастор!

Як спакойненька ў разлогах
Ходзіць хмарак карагод,
І няма ім у дарогах
Ні бяды, ні перашкод!

Палюбуйся, паглядзі ты,
Як прыгожанька ўгары,
Як усюды бляск разліты,
Быццам неба ў пажары!

А цяпер зірні на зямлю:
Як тут цёмна, дарагі,
Як тужліва яна дрэмле
І як сон яе даўгі!

* * *

Многа слаўненькіх куточкаў
Есць у нашым краі,
Дзе пад гоман ручаёчкаў,
Пад шум дрэў у гаі

Рой журботных дум пакінеш;
Дзе няма трывогі,
Дзе душою адпачынеш,
Змучаны з дарогі;

Дзе прыемны ветрык млее,
Збажыну калыша,
Дзе пакоем-згодай вее,
Дзе ўсё шчасцем дыша.

## ЛЕС

Глуха шэпча лес зялёны,
І шуміць ён і шуміць,
Гоман доўгі, несканчоны
Цэлы дзень над ім стаіць.

Пераблытаны галіны
У адзін салаш жывы...
Лес! Аб чым шумяць вяршыны?
Лес! Што шэпчаш, векавы?

Толькі-ж лес гудзе-ракоча
Цёмнай шапкай верхавін,
Толькі-ж лес сказаць не хоча,
Што ён ведае адзін.

## РУЧЭЙ

Між алешын, кустоў,
Дзе пяэ салавей,
І шуміць і грыміць
Срэбразвонны ручэй.

Як матулька, вярба
Хіліць голаў над ім,
І глядзяцца кусты
Пышным верхам сваім.

Абступаюць яго
Чараты, асака,
Падыходзіць мурог
Да яго здаляка.

Часам зорка ўначы
На яго кіне зрок,
І хмурынка не раз
Зазірне ў ручаёк.

І схіляе трава
Над ім пасмы-брыжы,
А ён, жэўжык-пястун,
Гучным смехам дрыжыць.

То заскочыць у гай,
То курган абаўе,

Дзе сярдзіта бубніць,
Дзе лагодна пяе.

Люба слухаць той спеў,
Несціханы, густы,
І пад песні яго
Адпачынеш і ты.

## ЖЫТА

Неспакойна зашумела
Маладое жыта
І штось боязна шапоча
Ды няўцямна-скрыта.

І калоссі многазначна
Хіляць, гнуць галовы,
Нібы іх чым устрывожыў
Душны дзень ліпнёвы.

І гамоняць ды гамоняць
З срэбранай саломкай,
І шумяць, шумяць загоны
Сцішанай гамонкай.

Што варожыш ты нам, жыта,
Гнешся траўкай ніцай?
Ці бяду ты прачуваеш,
Подых навальніцы?

Неба з захаду цямнее,
Крые даль смугою.
Шэпча жыта, нібы стогне
Здушанай тугою.

«Што-то будзе? Што-то будзе?»
Шэпча ў полі жыта.

Цісне хмара, хмара-цемра,
Гром гудзе сярдзіта.

Ідзі ў чыстае ты поле,
Градавая хмара,
І злітуйся над жытамі —
Над сялянскім дарам!

## НЯЗБЫТНЫЯ НАДЗЕІ

Ціха калоссі, схіліўшы галовы,
Шэпчуць у межах палёў,
Толькі-ж не слухае неба іх мовы —
Скаргі ржаных каласоў.

Сіняе неба ўсё сонцам заліта.
Полудзень. Вар. Цішыня.
Дожджыку просіць зялёнае жыта,
Прагне вады ярына.

* * *

Ша! Хмарка, хмарка дарагая
Паўзе па небе з-за лясоў!
Яна — надзея, радасць гаю,
Жаданне красак, каласоў.

Бо сонца-ж так пячэ без жалю,
Бо душна, горача ў палёх,
Смуга сухая крые далі,
Мальбы-ж раслін не чуе бог.

Нямее ўсё, маўчыць, чакае,
Надзеі тоіць ўсё вакол,
І прагна вільгаць палыкае
Акамянелы, пылкі дол.

Глядзіць і лес і луг з мальбою.
Гадае, думае зямля,
Што хмарка дожджыкам-слязою
Спадзе — ажывіцца ралля,

І ў неба дойдзе плач з туманам,
Што сівым дымам нема звіс
Над цёмным лесам і курганам,
І ліне дожджыкам наніз.

Плыве хмурынка ў сінім полі,
Мінае лес, мінае гай —
Яна не чуе крыку болю,
Бо вабіць хмарку іншы край.

* * *

Вось старая хатка,
Садзік невялічкі.
Малады алешнік
Па краях крынічкі.

З краю лес высокі;
Тут-жа, каля хаты,
Дзве старыя вербы,
Дуб каржакаваты.

Ў пералівах кветак
Ззяе луг зялёны,
Луг шырокі, пышны,
Як-бы цар ў кароне.

Далей, за лугамі,
Легла поле кругам,
Зрэзана сахамі,
Баранамі, плугам.

Зелянеюць межы,
Вузкія, як стужкі,
Дзе-ні-дзе чарнеюць
Між загонаў грушкі...

## СТОГІ

Ой вы, стогі высокія,
Дзябёлыя стогі!
Вас не згледзіш, далёкія,
Не злічыш з дарогі!

І люблю я вас, стажочкі,
Вежы лугавыя!
Пазаймалі вы грудочкі,
Як дубы старыя.

## УВОСЕНЬ

Дзень маркотны, невясёлы...
Па зямлі пайшоў туман.
Чуць відаць і лес, і сёлы,
Чуць відзён з імглы курган.

Дробны дожджык беспрастанку,
Як скрозь сіта, ўсё імгліць.
Гразь настала каля ганку,
З капяжа ўсё капаціць.

Толькі жоўты лісцік клёна,
Як пяро, наніз ляціць;
Толькі галка і варона
Нудна ў полі закрычыць.

Хмары сонейка закрылі,
Зор у ночку не відаць.
І на сэрцы, бы ў магіле...
Плакаць хочацца, стагнаць...

## ЗІМА

Белым снегам замятае
Вецер чорныя палі,
Нібы вопратку ўздзявае
Шыр прасторная зямлі.

Мяккі снег лятае пухам,
І канца яму няма,
І нясе сярдзітым духам,
Дзікім сіверам зіма.

Зачыняйце шчыльна хату,
Каб не дзьмулі халады,
На акно пляціце мату,
Каб не клаў мароз сляды.

Даставайце з вышак сані —
Гайда сцежкі праціраць
І па белым акіяне
Ўдоўж і ўпоперак гуляць!

Ды кладзіце рукавіцы —
Дзе з марозам жартаваць!
Рады белай мы зіміцы,
Рады з ёю ваяваць.

Гэй вы, коні, гэй, малыя!
Што заснулі? Весялей!
Гэй, у скочку, залатыя!
Варушыцеся жывей!

## ВЯСКОВЫЯ ДЗЕЦІ

Пусты ўлетку нашы сёлы:
Ўсе на полі за сярпом,
Толькі дзетак крык вясёлы
Льецца ў вуліцах руччом.

Вецер кудры іх цалуе,
Мые дождж іх бледны твар;
З імі сонейка жартуе
І цяпло ім шле, як дар.

## МЯЦЕЛІЦА

Нізка звіслі над зямлёю
Хмары снегавыя,
Свішча вецер за сцяною,
У коміне вые.

Лес гудзе, дрыжаць галіны,
Стогне бор хваёвы,
Злосна выюць верхавіны,
Гнуцца іх галовы.

Белым пылам даль закрыта,
Ходзяць віхры вірам,
Прасяваюць снег на сіта
У бясконцай шыры.

Як разнімуць крылле-раме
Ды як задурэюць,
Следам гурбы курганамі
Стануць на сувеях.

Эх, гуляюць віхры ў полі,
Ветравыя дзеці!
Як зайздрошчу я іх долі —
Вольна песні пеці!

Ой ты, вецер, сын прастору!
Ты-ж аб чым галосіш?
Ці не гэта маё гора
Ты ў палях разносіш?

## ВЯСНА

Вясна, вясна
Жаданая!
Ты прыдзеш зноў,
Ты вернешся!

Вясёлы спеў,
Прыветлівы
Вады ў руччах
Пачуецца.

Ачнецца гай
І з песнямі
Ў зялёны ліст
Адзенецца.

Напоўніць лес
Птушыны свіст,
Травою лугі
Акрыецца.

А з полудня
З маланкаю
Хмурыначка
Націснецца,

І першы гром,
Як музыка,

Таемна так
Пракоціцца.

Зямелька ўся
Ускалышацца,
Даждэком яна
Абмыецца.

У прыродзе ўсё
Народзіцца,
І моладасць
Ёй вернецца.

Ды толькі мне
Не вернешся,
Не вернешся
Ты, моладасць.

Вясна, вясна
Жаданая!
Ты вернешся,
Ты вернешся!

* * *

Надрывайся і шумі,
Вецер злосны, ў полі!
Як сярдзіта ты ні дзьмі,
Ні гуляй на волі;

Як дарог ні замятай
І глухіх трапінак;
Як ты злосна ні спявай
Мужыку ў камінак, —

Ўсё-ж ты сціхнеш і цяплом
Скора ты павееш
І з ракітавым кустом
Міла задурэеш.

## У ШКОЛКУ

Ярка на камінку
Смольны корч палае,
Бацька на калодцы
Лапці выплятае.

Латае халацік
На услоне матка:
Ў школку заўтра пойдзе
Іх сынок Ігнатка!

Сын васьмігадовы
Корчык падкладае,
З бацькавай работы
Вочак не спускае.

Светлая галоўка
Мыслямі занята,
Многа ўсякіх думак
У вачах Ігната!

— Ну, Ігнат, глядзі, брат,
Не дурэй, вучыся.
Годзе жыць без дзела —
За буквар вазьміся!

Будзь старанным, сынку, —
Станеш чалавекам,

Будзеш ты чытаць нам,
Цёмнікам, няўмекам,

Што у кнігах пішуць,
Што мы ў свеце значым,
Бо мы самі цёмны,
Свету мы не бачым.

Слухай, што настаўнік
Гаварыць там будзе
Пра навуку, кнігі
І аб цёмным людзе.

А старанны будзеш,
Да навукі здатны, —
Я прадам кароўку
І кажух астатні, —

Ты-ж ідзі ў навуку,
Толькі, брат, вучыся.
Дык глядзі-ж, сыночак,
Шчыранька вазьміся!

На гульню пустую
Плюнь, махні рукою,
Каб і я і маці
Цешыліся табою. —

На казанне бацькі
Адказаў Ігнатка:
— Буду я вучыцца,
Як ты кажаш, татка! —

А як спаць улёгся,
Думкі мімаволі
Гаманілі ў сненні
Хлопчыку аб школе.

* * *

Птушкі ў лесе шчабяталі,
Стукаў дзяцел і жаўна
І пра шчасце нам казалі,
І ў душы была вясна...

А ў вясёлы вечар мая
Салавей ў гаі свістаў...
Ой, пара ты залатая!
Хто цябе не ўспамінаў?

А у небе, сінім полі,
Без сляда, за край зямлі,
Як-бы думкі светлай долі,
Хмаркі белыя плылі.

Нам пра шчасце ўсё казала
На зары юначых дзён.
Дзе ты, шчасце, дзе прапала?
Дзе твой радасны палон?

## З ПЕСЕНЬ АДЗІНОКАГА

1

Я — адзін, жыву без дому,
Сам сабе я першы пан,
Галавы не гну нікому,
Не схіляю гібкі стан.

Я — адзін, нічым не скован,
Вольны я, бы дух палёў,
Ад разбойнікаў захован,
Ад усякіх зладзяёў.

Я — адзін, нічым не звязан,
Мне няма над чым карпець,
Свет нідзе мне не заказан,
Вольны ўсюды я ляцець.

Скарб мой — рукі, конь мой — ногі,
Як пайду — сам чорт не брат,
Кій у рукі — і з дарогі
Без нуды зірну назад.

Даражэй за ўсё — свабода,
Дык што плакацца дарма?
Воля, воля! Толькі шкода,
Што цябе нідзе няма.

2

Эх, нашто ўздыхаць па волі,
Калі я не маю долі,

Калі марна годы трачу,
Калі сэрца ў смутку плача?

Знаць няшчасным урадзіўся,
Што свет белы зачыніўся,

Зачыніўся, збегся клінам...
Горка быць мужычым сынам!

Багач ззяе ў пазалоце,
Мужык бедны мрэ ў бядоце,

У мядалях «зубр» багаты;
А ты носіш адны латы.

Бо мужычы сын пахілы
Роўнасць мае... у магіле.

3

Я не маю сваёй хаткі,
Я не помню роднай маткі.

Рос я круглым сіратою,
Як той дуб, што над вадою.

Мяне матка не люляла,
Казак, песень не спявала.

Чуў я толькі песні бору,
Гадавала мяне гора.

Хоць нядоля мяне гнала,
Усё-ж мне сілы не зламала:

Ці-ж я ростам не высокі?
Ці-ж у грудзях не шырокі?

Валасы да плеч густыя,
Мае рукі, як стальныя.

Спрытна рэжу дол сахою,
Здатны ў лузе за касою!..

Толькі-ж дол чужы капаю,
Толькі долі я не маю!

Ой, пайду, пайду я ў поле,
Загукаю: «Дзе ты, доля?

Дзе ты, шчасце? Адгукніся,
Ка мне тварам павярніся!»

Толькі-ж ціха-ціха ў полі,
Толькі вецер дзьме паволі:

«Дарма жыцце тваё гіне,
Няма долі бедачыне!»

4

Што тужыць, гараваць?
Маю сілу ў руках —
Хлеб змагу даставаць,
Хіба праца мне страх?

Я — адзін, я — здароў,
Месца ўсюды мне шмат,
Захацеў — і пайшоў,
Пыл узняўшы з-пад пят.

Гаспадарку сваю
Усю з сабою вазьму.
Песню я запяю —
Раскатурхаю цьму.

Што мне гнуцца ў дугу?
Каму шапку знімаць?
Няўжо-ж я не змагу
Сам сябе падтрымаць?

Волен свет мне кругом,
Дзе прайду — будзе знак,
Дзе прылёг — там і дом,
Кожны бедны — сваяк.

## У СУДЗЕ

Янку прыгавар чытае
Член акружнага суда:

«Суд праўдзівым палагае
За праступак, што Дуда
Учыніў па добрай волі
У цвёрдай памяці, вуме —
За пакражу жыта ў полі
Пратрымаць год у турме!..»
— А турму ты як адбудзеш,—
Кажа член, каб горш кальнуць,—
Дык правоў ты мець не будзеш,
Нават соцкім не збяруць!

Пакланіўся, асцярожна
Янка члена стаў пытаць:
— Мой паночку! Ці не можна
Тых правоў і з сына зняць?

## НА ПОЛІ

Шэпчуць згодна каласінкі,
Гойдаюцца нівы,
Ходзіць гоман між збажынкі,
Мілы і шчаслівы.

Колькі шуму ў нашым збожжы,
Спеву і гаворкі!
Як вы мілы, як прыгожы,
Родныя пагоркі!

Як старанна зааралы,
Поле, твае скаты!
Межы кветкамі убраны
Пышна і багата.

Над жытамі песні льюцца,
Толькі сонца ўстане.
Люба глянуць, азірнуцца,
Стаўшы на кургане.

Па краях палёў шырокіх
Цёмны лес сінее.
Колькі ў полі адзінокіх
Грушак зелянее!

Там, пад наміткай туманаў,
Відзен гай сасновы,

Што прабег паўзверх курганаў,
Як дзявочы бровы...

Шэпчуць нівы ў полі згодна,
Гнуцца каласамі.
Ой ты, поле! Гай ты родны!
Толькі-ж я не з вамі.

Толькі ў думках я вас бачу,
Шум здалёку чую.
Я без вас тут годы трачу
І па вас гарую.

## ХМАРЫ

Хмары, хмары, што па небе
Ходзіце гарамі!
Каб меў крылле, паляцеў-бы
Я на волю з вамі.

Паляцеў-бы ў край той родны,
Дзе так сэрцу міла,
Дзе я вырас, дзе мне радасць
Моладасць суліла.

Паляцеў-бы ў луг, дзе Нёман
Бераг точыць, мые,
Дзе гамоняць з ветрам-бурай
Дубы векавыя.

Дзе над Нёманам старая
Пахінулась хата,
Дзе так многа пылу ўлетку,
Дзе пяскоў багата.

Паляцеў-бы да курганаў,
Што стаяць маўкліва,
Да узгоркаў, дзе вясною
Зеленеюць нівы.

Ой, панёсся-б з вамі, хмары,
Я ў той лес цяністы,

Дзе ўдыхалі-б мае грудзі
Хвояў пах смалісты!

Хмары, хмары, што па небе
Ходзіце гарамі!
Чаму я не маю крылляў?
Чаму я не з вамі?

* * *

Рана вам журыцца,
Думкі, сэрца дзеткі,
Рана вы завялі,
Веснавыя кветкі!

Ці мароз знячэўку
Вас прыбіў вясною,
Як на сцежку жыцця
З простаю душою

Стаў я, поўны веры,
Радасці і сілы?
Што-ж на вас дыхнула
Холадам магілы?

Што-ж вы неспакойна
Кружыцесь, як пчолы?
Думкі, мае думкі!
Што вы невясёлы?

Ці краіны роднай
Балаты гнілыя
Смуткам вас акрылі,
Думкі маладыя?

Ці вас песня-жальба,
Думкі, ўзгадавала?

Ці людское гора
У лесе вас спаткала?

Ці маё так жыццё
Склалася няўдала?
Ці мая дарога
У туманы папала?

Рана спахмурнелі,
Думкі маладыя,
Рана вы завялі,
Кветкі веснавыя!

## ХМАРЫ

Хмары, хмары, што па небе
Ходзіце гарамі!
Каб меў крылле, паляцеў-бы
Я на волю з вамі.

Паляцеў-бы ў край той родны,
Дзе так сэрцу міла,
Дзе я вырас, дзе мне радасць
Маладасць суліла.

Паляцеў-бы ў луг, дзе Нёман
Бераг точыць, мые,
Дзе гамоняць з ветрам-бурай
Дубы векавыя.

Дзе над Нёманам старая
Пахінулась хата,
Дзе так многа пылу ўлетку,
Дзе пяскоў багата.

Паляцеў-бы да курганаў,
Што стаяць маўкліва,
Да узгоркаў, дзе вясною
Зелянеюць нівы.

Ой, панёсся-б з вамі, хмары,
Я ў той лес цяністы,

Дзе ўдыхалі-б мае грудзі
Хвояў пах смалісты!

Хмары, хмары, што па небе
Ходзіце гарамі!
Чаму я не маю крылляў?
Чаму я не з вамі?

* * *

Рана вам журыцца,
Думкі, сэрца дзеткі,
Рана вы завялі,
Веснавыя кветкі!

Ці мароз знячэўку
Вас прыбіў вясною,
Як на сцежку жыцця
З простаю душою

Стаў я, поўны веры,
Радасці і сілы?
Што-ж на вас дыхнула
Холадам магілы?

Што-ж вы неспакойна
Кружыцесь, як пчолы?
Думкі, мае думкі!
Што вы невясёлы?

Ці краіны роднай
Балаты гнілыя
Смуткам вас акрылі,
Думкі маладыя?

Ці вас песня-жальба,
Думкі, ўзгадавала?

Ці людское гора
У лесе вас спаткала?

Ці маё так жыццё
Склалася няўдала?
Ці мая дарога
У туманы папала?

Рана спахмурнелі,
Думкі маладыя,
Рана вы завялі,
Кветкі веснавыя!

## ВЯРБА

Пытаў ручаёчак
Сірату-вярбіну,
Што над ім стаяла,
Знізіўшы галіны,
Да вады галоўку
Звесіўшы самотна,
Ды з паўднёвым ветрам
Зюкала журботна:

«Адкажы мне, вербачка,
Адкажы мне, мілая,
Чаго ты ўсё смуцішся,
Журышся, пахілая?
Без пары, без восені
З галавы-каронанькі
Ты раняеш лісцейка,
Свой убор зялёненькі?
І аб чым так жаласна
З ветрыкам шапочаш ты,
Бы стаміцца-згрызціся
Хочаш ты знарочыста?
Кудры тваё пышныя
Жоўкнуць, высякаюцца,
А лісточкі кволыя
Па зямлі качаюцца.

Адкажы мне, вербачка,
Адкажы мне, мілая,
Чаго зажурылася,
Смутная, знясілая?»

Зашумела ціха,
Жаласна вярбіна:
«Горка мне, мой любы,
Горка сіраціне.
Цяжка маім ножкам —
Цісне іх каменне,
А твая вадзіца
Зрэзала карэнне,
Грунт мой пад нагамі
Зрыла-раскапала,
Сокі майго сэрца
Ўсе яна забрала.
Моладасць сваю я
Марна загубіла...
Ой, нашто-ж так шчыра
Я цябе любіла?!»

## ЖУРБА ПАЛЁЎ

Адплывалі хмары-горы
Белымі клубкамі,
Нібы крыгі ледзяныя
З меднымі краямі.

Ападала іх заслона
Сумятлівай кучай,
Як-бы хто на іх падзьмухаў
Сілаю палючай.

Ўвачавідкі, як сняжынкі,
Раставалі хмары.
Так на ўсходзе прападаюць
Ночы страхі, чары.

Рассцілалася шырока
Неба сінь-лазура,
Ды прырода пазірала
Хмура і панура.

Быццам думкай невясёлай,
Наміткай туману
Засцілаўся луг і поле,
Лес, гаі, курганы,

І глядзелі засмучона,
Як знікалі хмары,

І як з імі прападалі
Іх надзеі-мары.

Пазіралі, гаравалі
Нівы, сенажаці...
Так гаруе хіба сэрца
Па сваёй утраце.

## НА ЛУЗЕ

Добра ў лузе ў час палудны!
Лёгка там дыхнуць!
Хмаркі белыя марудна
За лясы плывуць.

Ветрык краскі чуць калыша,
Травы шалясцяць,
Луг зялёны жыццем дыша —
Конікі трашчаць.

Ў лозах шчэбет не сціхае,
Шум стаіць і свіст,
Ў яркім бляску спачывае
На ракіце ліст.

Спевам-гоманам і звонам
Поўніцца ўвесь луг,
І дрыжыць над ім, зялёным,
Жыватворчы дух.

## ДУМКІ

Усюды так ціхусенька,
Спакой такі наўкруг!
У небе хмаркі светлыя
Плывуць, плывуць, як пух.

Так весела ў каменьчыках
Балбоча ручаёк,
А там, як броў дзявочая,
Цямнеецца лясок.

Усюды ціха-хораша,
Як хораша вясной!
Што-ж вочы мне туманяцца,
Туманяцца слязой?

Чаму-ж мне так нявесела? —
Сябе пытаю я.
Нявесела, бо скончана,
Прайшла вясна мая!

Стаю адзін ды думаю,
Што здарыцца са мной?
Што жджэ мяне наперадзе?
І... плачу над сабой.

## ПЕРШЫ ГРОМ

Голасам моцы, ціха і важна
Гром пракаціўся ўгары.
Луг адазваўся грому працяжна,
Лес адгукнуўся стары.

Гай страсянуўся, дрогнула поле,
Долы той гук паняслі.
У гэтым раскаце чуецца воля,
Чуецца радасць зямлі.

У грукаце гэтым многа ёсць сілы,
Чуецца моц і прастор...
Першыя громы! Сэрцу вы мілы,
Люб мне ваш смех паміж гор.

Міл майму сэрцу гоман далёкі,
Водгук вясёлы і шум.
Гром ты магутны, гром адзінокі!
Колькі ўскатурхаў ты дум!

Моцна мяне ты клічаш на волю —
Цяжка без волі мне тут.
Кланяйся, громе, роднаму полю,
Родны вітай ты мой кут!

## ВЯСНОВАЯ НОЧ

На зямлю сырую
Ціха ночка пала.
Бляскам-дрыгаценнем
Зорка замігала.

Адзінокі месяц
Выплывае з хмары,
На зямлю, на неба
Сходзяць яго чары.

З цёмнай высі-багны
Ўжо глядзяць Стажары,
Пояс дыяментны
Ткуць нябёс абшары.

Лёгкімі шаўкамі
Леглі ў небе хмаркі,
І скрозь іх шчасліва
Зоркі бляск льюць яркі.

Ох, нашто ты, ночка,
Так прыгожа-міла?
Колькі ў сэрцы думак
Ты мне абудзіла!

О, нашто пра волю
Голас твой спявае,

Калі маё сэрца
Волечкі не мае?

Ой, не кліч ты, ночка,
На прастор і волю,
Бо заплача сэрца
І душа ад болю!

Ночка-чараўніца!
Як ты ціха, міла!
Як ты многа думак
Ў сэрцы абудзіла!

## ТРОЙКА

Мчацца коні. Дзын-дзын-дзын!
Гучна звон нясецца
І далёка між раўнін
Ціхім жалем льецца.

Ціхне, глухне гэты звон,
Ўскочыўшы ў гаёчак,
Замірае, моўкне ён,
Кволы галасочак.

Вось і тройкі не відаць,
Знікла за гарою,
І званочка не чуваць
Плачу пад дугою.

Толькі пыл трубой курыць
Над дарогай бітай,
Поле ціхае маўчыць
Сіратой забытай.

І пытае ціш яго
Поглядам, здаецца:
Хто праехаў і чаго
І куды нясецца?

І не будзе знаць, стралой
Куды тройка скача,
І званочак пад дугой
Чаго ціха плача.

## НОЧ ПЕРАД НАВАЛЬНІЦАЙ

Стаў чырван месяц круглаліцы,
І зоркі боязна дрыжаць,
А там крыжуюцца зарніцы,
Бы косяць неба-сенажаць.

Бурліць крыніца агнявая,
Бы нейкі грозны віхар-вір,
І бляскі-іскры разлівае,
Як залаты агністы жвір.

Замоўк клапотны дзённы голас,
Усюды сон, спакой ляжыць.
На ніве чутка дрэмле колас,
І ліст на дрэве не дрыжыць.

Люблю я ночы той час дзіўны,
Калі прастор, абняты сном,
Пабудзіць голас пераліўны —
Далёкіх хмар магутны гром,

Калі працягла заракоча,
Гугухне голас угары,
І шыба ў вокнах забразгоча,
І гоман пойдзе па бары.

А хмара грозна націскае,
Маланка неба баразніць.
А ночка спіць, а ноч не знае,
Што зараз бура зашуміць.

## ДУБ

Сілачом стаіць
Дуб разложысты,
І здалёк відаць
Пышны верх яго.

А ўнізе пад ім
Нёман коціцца,
Срэбрам-стужкаю
Павіваецца.

У нагах трава
Нізка сцелецца,
А вакол ляжыць
Травяністы луг.

Углыб зямлі ўвайшлі
Карані яго.
Крэпка дуб стаіць,
Не варушыцца!

Так размашыста
Параскіданы
Ва ўсе стораны
Лапы крэпкія.

Комель — слуп-скала,
Дыша сілаю,

А ўгару зірнеш —
Шапка валіцца.

Дуж ты, дуб стары,
Сын вякоў сівых!
Многа бур ты знёс
На вяку сваім!

Налятаў віхор
З навальніцаю,
Ды не гнуўся ты
Перад бураю!..

Гэй ты, дуб стары,
Вартаўнік лугоў!
Аддае твой шум
Спевам-музыкай.

А пра што шуміш
І аб чым пяеш,
Пра то ведаюць
Ветры вольныя,

Што з табой вядуць
Мову сталую
У летні добры час
Або восенню.

Я падслухаю
Гэты шум лістоў,
А з іх гутаркі
Песня зложыцца.

* * *

Як хацеў-бы я
Па палях прайсці
І упіцца іх
Пахам, росамі,

Паглядзець, зірнуць,
Як жыты растуць,
Як калосікі
Наліваюцца!

Я хацеў-бы знаць,
Як аплаціцца
Праца трудная
Рук мазолістых,

Як багаты рост
Ярыны ў палях,
Селянін-ральнік
Повен дум якіх?

Ці ён смуціцца,
Пазіраючы,
Што труды яго
Так марнуюцца?

Ці ён цешыцца,
У полі ходзячы

Па мяжах, жытах
У святы дзянёк,

І пад шум хлябоў
Ціха моліцца,
Каб дазволіў бог
Ураджай сабраць,

І каб бура-град
З навальніцаю
Не пашкодзіла
Працы радасці?

Толькі-ж мне няма
Светлай волечкі.
І з турмы ніяк
Мне не вырвацца.

## МАЕЙ ВЯСНЕ

Каб я волю меў,
Я сказаў-бы: «Стой,
Дні вясны маёй,
Светлай, маладой!

Не ўцякайце вы
Ў тую даль вякоў,
Дзе пахована
Многа вас, дзянькоў,

І адкуль назад
Вам няма дарог!»
Я-б стрымаў вясну,
Каб я толькі мог.

Ды бягуць дзянькі
І вясна мая,
Не вярну я іх,
Не стрымаю я.

## НА АСТРОЖНЫ ЛАД

Зноў павеяла турмою,
Згаслі ў змрочнасці агні,
І гаротнай чарадою
Нудна цягнуцца нам дні.

Зноў абшарпаныя сцены,
Звяга цяжкіх ланцугоў,
І няма ніякай змены
У гэтым холадзе муроў.

Ды няхай тут плача доля
Без уцехі і надзей:
Тым даражай будзе воля,
Час світання весялей.

## ПЕРАД ВОСЕННЮ

Засмуцілася,
Зажурылася
Даль шырокая,
Неаглядная.

Думкай горкаю,
Невясёлаю
Звіс туман сівы
Над балотамі.

А ў палях даўно
Жыта звезена,
Коска, серп крывы
Працу скончылі.

Агаліўся луг,
Даўно скошаны,
Толькі вежамі
Стагі высяцца.

А зірнеш на лес —
Сэрца сціснецца:
І маркотна ў ім
І нявесела!

Пажаўцеў убор,
Пышны ліст яго,

I ціхусенька
    Асыпаецца.

Сціхлі песенькі
    Вольных пташачак...
Глуха лес маўчыць,
    Думку думае.

Знаць, ён думае
    І маркоціцца
Па вясне - красе,
    Залатой пары.

Эх, пануры лес!
    Не журыся, брат:
Для тваё вясны
    Сцежка бітая —

Жыццё новае
    К табе вернецца.
Зашуміш ты зноў
    Гучна лісцямі,

Заспяваеш ты
    Разам з пташкамі
І хвалу спяеш
    Жыццю новаму.

А мая вясна,
    Мая мілая,
Ўжо не вернецца,
    Ой, не вернецца!..

Чаго - ж смуцішся
    І маркоцішся,
Даль шырокая,
    Даль зямелая?

## ДУМКІ

Дрэмлюць думкі цяжкай дрэмай,
Поўныя трывогі.
Ім на свет з магілы немай
Не прабіць дарогі.

Ім няма дзе прыхінуцца,
Хоць і свет злятаюць,
А часамі, як ачнуцца,
Жаласна ўзыграюць.

І смуткуюць сэрца дзеткі,
Што тут мы ў няволі,
Што пасохлі жыцця кветкі
Без пары, без долі,

Што мы гора збыць не ў сілах,
Крыўды не зваюем,
Што быць можа да магілы
Долі не пачуем.

Не смуткуйце-ж вечарамі,
Думкі, гора дзеці!
Хоць мне цяжка, толькі з вамі
Не адзін я ў свеце.

Цьмяна жыцце, ні іскрынкі,
У кут яно забіта,
Толькі-ж з вамі, сірацінкі,
Гаманю адкрыта.

## ГОЛЬ

Голь абадраная, голь неакрытая,
Злою нядоляю моцна прыбітая!

Заўжды няма табе, горкай, спакою —
Увесну і ўлета, увосень, зімою...

Людзі бяздомныя, людзі бязродныя!
Поўняцца вамі астрогі халодныя;

Холад там, сырасць і вецер свідруе,
Там твае скаргі ніхто не пачуе...

Што-ж цябе гоніць, голь неакрытая,
Голь бедачыная, богам забытая?

## АПОШНІ ЛІСТОК

Ў апусцелым садку
Глуха вецер шуміць,
На галінцы лісток
Баязліва дрыжыць.

Ўсе лісточкі даўно
Вецер-сівер разнёс,
Толькі гэты лісток
Моцна к дрэву прырос.

Трэпле бура яго,
Палівае дажджом,
Разлучацца-ж яму
Шкода з родным гняздом,

З тэй галінкай, дзе ён
Жыцця радасць пазнаў,
Дзе вясной вецярок
З ім любоўна шаптаў

І блішчэла на ім
Летнім ранкам раса,
Цалавала яго
Залатая каса...

Эх, аджыў ты свой век,
Жоўты ліст-бедачок,
А на весну цябе
Скіне новы лісток.

## УНОЧЫ

Над калыскай матка
  Ночку каратае,
Хворага сыночка
  Цешыць, забаўляе.

На цвічку павешан
  Начнічок убогі.
Зазірае ў вокны
  Месячык двурогі.

Карагоды зорак
  Угары мігаюць,
На зямлі сняжынкі
  Сінім бляскам ззяюць.

Так спакойна ўсюды,
  І такая ціша!
Хворае дзіцятка
  Так няроўна дыша!

Забівае кашаль,
  Не дае спакою.
Спі, маё дзіцятка!
  Спі, маё любое!

Не пужайся, мілы!
  Бог святы з табою...

Вон пайшоў ты з хаты,
  Сівы дзед з кульбою!

Унь пайшоў дзед сівы,
  Крывіцца і плача...
Уцякай адгэтуль,
  Уцякай, бядача!

Ось які дзед гэты —
  Думаў напалохаць!
Будзе-ж усю ночку
  На марозе вохаць!

А не хадзі ў хату,
  А не лезь сляпіцай!..
Плач цяпер і мерзні
  Ды не будзь дурніцай...

О, Пятрусь мой цаца!
  Любім мы Пятруся:
Любіць яго тата,
  Любіць і матуся.

Купіць тата Пётру
  Боцікі на ножкі,
Пойдзе мой сыночак
  Пракладаць дарожкі!

Новую кашульку
  Я табе пашыю,
У вадзіцы цёплай
  Чысценька памыю.

Будзеш ты харошы!
  Цётка не пазнае,
«А чый гэта хлопчык?» —
  Дзядзька запытае.

Ўсе дзівіцца стануць
  І хваліць Пятруся.

— Гэта — я, — ты скажаш, —
Я—сынок Габрусяў...

Поўнач пракрычалі
Пеўні з хаты ў хату,
Ўсё курыць газніцы
Бляск падслепаваты.

Змучана кабета
Мацярынскім горам,
Галаву схіліла
Над сыночкам хворым,

І калыша сына,
Страхі адганяе,
А самой ёй сэрца
Нешта есць, сціскае.

## ПАМЯЦІ Л. Н. ТАЛСТОГА

Ты сышоў з жыцця дарогі,
  Дзіўны светач знік твой,
Прад тваёй, вялікі, смерцю
  Анямеў язык мой...

Ты сышоў з жыцця дарогі, —
  І ноч больш цямнее,
Тое царства цьмы, няпраўды,
  Што над намі вее,

Тая ночка зла, з каторым
  Ваяваў ты, родны!
Ты сышоў з жыцця дарогі,
  Слаўны і свабодны.

Ты сышоў з жыцця дарогі,
  Але ўсё-ж душою
З намі будзеш, вечна будзеш
  Зваць на бой нас з цьмою.

## ЗІМА

Надышлі марозы,
Рэчкі закавалі,
Белыя бярозы
Шэранем убралі.

Замялі дарогі
Ветрыкі снягамі.
Лес, як дзед убогі
З доўгімі вусамі,

Апусціў галіны
І стаіць журботна,
Зрэдку верхавіны
Зашумяць маркотна.

Мяккая пярына
Вочы адбірае.
Белая раўніна —
Ні канца, ні краю.

Пад пялёнкай белай
Травы і лісточкі.
Рэчка анямела,
Змоўклі ручаёчкі.

Амярцвелі лозы,
Чуць галлём хістаюць,
А ў палях марозы
Ды вятры гуляюць.

## МАЦЕРЫНА ГОРА

За сялом у полі,
Ў жоўценькім пясочку,
Пахавала маці
Маладую дочку.

Знікла яе радасць —
Старасці апора,
І няма уцехі
Ў мацярынскім горы.

Ёй ніхто не верне
Дарагой дачушкі.
Плачуць па дзяўчыне
Сваякі і дружкі.

Плача па ёй мілы,
Жаль яго вялікі,
Гора-ж яго сціхне,
Змоўкнуць сэрца крыкі.

Ганначку забудуць
Сваякі і дружкі,
Не забудзе маці
Роднае дачушкі.

Не загояць часы
Сэрца яе раны,
Сама ляжа маці
З імі ў гроб драўляны.

## НА ПАВАРОЦЕ

Мяне ўжо радуе і тое,
Што ночка стала убываць
І што ад мёртвага спакою
Пачне прырода ажываць;

Што з кожным днём бліжэй к вясне мы,
Калі абудзяцца гаі,
І сон палёў, спакой іх немы
Пабудзяць з шумам ручаі.

Няхай шумяць вятры у полі
Халоднай злоснаю зімой,
Адну зіму быць мне ў няволі
За мураванаю сцяной.

А там — вясна, і блізка воля;
Другі раз родзішся на свет,
А лесу шум і песня поля
Сатруць з душы нягоды след.

## У ЗІМНІ ВЕЧАР

Загудуць вятругі ў полі,
Загалосяць, зашумяць,
Белым пылам задымяць,
Ды засцелюць гоні-ролі,
Каб у холадзе-няволі
Рунь зялёную прымяць.

Ноч распусціць хмары-косы,
Лён-кудзелю распляце,
Сядзе паняю ў куце,
А мароз белавалосы
Пойдзе ўсюды на ачосы
У лядзяным халаце.

Эх, узнімецца тлум дзікі!
Загудуць кусты, лясы
На ўсе тоны-галасы,
Самі з'явяцца музыкі,
Баль наладзіцца вялікі,
Снег засцеле абрусы.

А ты сядзеш, мая маці,
Ніці доўгія сукаць,
Думкі-ж повесць будуць ткаць
Аб сынку, тваім дзіцяці,
Што ў няволі жыцце траціць,
Бо хадзіў волі шукаць.

За акном сваёй чаргою
Вецер будзе вар'яцець,
Пухавую плесці сець.
Ты-ж агорнешся тугою,
Як ноч гэтая смугою,
Сэрца будзе плакаць-млець.

## ПЕСНЯ НЯВОЛІ

Як лёгкі дым, як тонкі пар,
Расталі ў небе кучы хмар.

Ой, гладзь нябёс далёкая,
Крыштальная, глыбокая!

Як моцны гук, прызыў вясны
З тваёй пачуўся вышыны!

Прастор, прастор і воля там,
Але не нам яны, не нам!

Запёрты мы, прыдаўлены,
І краты нам пастаўлены.

Высок, высок паркан-сцяна,
Нам песня волі не чутна.

Не нам вясна, не нам прастор, —
Нам мур сыры, нам цесны двор.

Гады ў няволі адцвітуць...
Не плач, душа, вясну забудзь!

## «ВЕРНЫЯ СЯБРЫ»

Я быў адзін. Браты і сёстры,
Сябры пакінулі мяне.
Ў глыбі душы, на самым дне,
Я смутак чуў смяртэльна-востры.

У час вялікай адзіноты,
Калі мяне забылі вы, —
О, мілы мой, адзін адно ты
Са мною быў, гарадавы!

Ды як Мікодым за Язусам,
Памоцнік пристава здалёк
Ішоў, глядзеў, бы кот за трусам,
Як «ніжні чын» мяне валок.

Прывалаклі, ў астрог упхнулі,
У гэту чортавую пасць,
І тут яны так уздыхнулі,
Як-бы цяжару ўзяўшы часць.

І развітаўся я тут з імі,
Памысліў з роспачы-нуды:
«Няхай-жа водзяць вас сляпымі,
Як вы вялі мяне сюды!»

## З БОКУ АД ЖЫЦЦЯ

Там, на волі, за сцяною,
Людзі чуюць, што жывуць,
І з вясёлай сумятнёю
Вечароў калядных ждуць.

У хаце ўся сям'я збярэцца
За сталом каля гаршка,
І прыветней мігатнецца
Бляск у вокнах бедака.

Ад каляд па вадахрышчы
Будуць весела гуляць,
Вечарамі на ігрышчы
Бубен, скрыпка зазвіняць.

І сягоння, як і ўчора,
Пойдзе ходарам сцяна...
Хоць на момант сціхне гора
Перад чаркаю віна.

Крык і гоман, шум і песні...
Як разыйдуцца ў мароз —
Не адно рабро там трэсне,
Не адзін стаўчэцца нос.

П'юць, гуляюць там багата,
Шум, ігрышчы, куцярма, —

Словам, там усім вам свята,
Толькі мне яго няма.

Тыя-ж краты, тыя-ж дзверы
Дзень і ночку пад замком,
Той-жа звон, ліхі без меры,
Рэжа сэрца, як нажом.

Што-ж? Гуляйце! Безгалоўе
Бутлям, скваркам, куляшу!
Я-ж за ваша ўсіх здароўе
Пайку хлеба упішу.

## У ТУРМЕ

Сонца ўстане, сонца зойдзе,
Дзень заменіць ночкі цьма,
А над намі чорнай хмарай
Вісне цесная турма.

Птушкі вылецяць на зіму,
Птушкі зноў ляцяць сюды,
Мы-ж марнуемся ў астрозе,
Трацім лепшыя гады.

Дні мінаюць, дні праходзяць,
Летам зменіцца зіма,
А мы сохнем і марнеем,
Нам тут радасці няма.

## У АСТРОЗЕ

Аб чым тут мне думаць у гэтай няволі,
У гэтай магіле-турме,
Дзе радасці сэрца не знае ніколі,
Дзе жыцце праходзіць у цьме?

І ўзыйдзе і зойдзе высокае сонца,
І месяц устане ўгары,
І зорак далёкіх скрозь хмар валаконцы
Так ціха гараць ліхтары,

І белыя хмаркі кудзеляй ваўністаю
Сваю тонкарунную ткань
Павольна рассцелюць па небе па чыстаму
І віснуць над светам, як здань...

А неба бяздоннае, неба раскрытае
Прасторам і воляй жыве,
І жыцце няўдалае, жыцце разбітае,
Прастор гэты неба заве.

Ўскалышуцца думкі, як лісці на дрэве,
Калі на іх вецер дыхне,
І сэрца ўскіпае абурана ў гневе,
І душу маланка жахне.

І горка, так горка, нявесела стане,
І смутак на сэрца спадзе.

А жыцце праходзіць, а моладасць вяне
І вяне без толку ў нудзе...

Аб чым-жа тут думаць у гэтай няволі,
У гэтых крывавых мурох?
Эх, каты вы, каты народнае волі!
Нашто збудавалі астрог?

## КАЛЯ АКНА Ў АСТРОЗЕ

Высока, высока ў астрозе акно,
І крэпка жалезам абіта яно!

А глянеш за горад — і вочы гараць,
Ад далі шырокай іх трудна адняць.

Не выказаць, брацці, як воля міла,
Якая журбота на душу лягла

Па вольным жыцці, па абшары палёў,
Па роднаму шуму зялёных лясоў!

Эх, меў-бы я крылле, свабодна-б махнуў
І поўнымі-б грудзьмі я волю ўдыхнуў,

І там-бы на момант душою спачыў,
І слаўную-б песню аб волі зложыў.

Ды крэпкі аковы, а крылляў няма,
І сэрца мне душыць, як камень, турма.

## ПЕРАД ДАРОГАЮ

Іх надоўга асудзілі,
Цяжка пакаралі,
Праз нягоду жыцця з вёсак
У астрог загналі,

Адарвалі ад сямейкі
І ад родных дзетак,
Гоняць ў катаргу пажылых,
Маладых кабетак.

І не знаюць, небаракі,
Бедныя кабеты,
Куды доля іх загоніць,
Дзе іх пройдуць леты;

І не знаюць, як сустрэне
Трудная дарога
Пад канвоем па этапах
У астрог з астрога.

На іх тварах смутак цёмны,
Гора напісана:
За няма што жыцце знікла!
Ў гразь яно ўтаптана!

Задуменне чорным ценем
На твары іх зляжа,

Горам цяжкім, горам горкім
        Сэрца апяража.

Усё прапала для гаротных,
        Жыцце ў прах разбіта,
А над будучыняй цёмнай
        Ночка ўсцяж разліта.

І даўнейшае жыццё іх
        У думках пранясецца,
І ад гэтых думак сэрца
        Жалем скалыхнецца.

Вёска ўстане перад імі,
        Хаткі дарагія,
Усе куточкі, дзе прабеглі
        Леты маладыя.

Успомняць родных, сваіх кроўных,
        Блізкіх і далёкіх.
А ці ўспомняць іх там дома,
        Бедных, адзінокіх?

І часамі хто з іх песню
        Горка заспявае.
Гэта песня жалем-смуткам
        Сэрца спавівае.

«Я памру, — адна заводзіць, —
        Мяне пахаваюць
Як папала, ў чужым доле
        Труп мой закапаюць.

Знаць не будзе ніхто з родных,
        Дзе мой прах струхлее...»
Горкім жалем, цяжкім смуткам
        Ад тэй песні вее...

Ох, як многа такіх песень
        Чуецца ў дарогах!
Колькі сілы, жыцця колькі
        Нішчыцца ў астрогах!

## КРАСКА

Краска, мілая мая,
Госця веснавая!
Як ты хараша цвіцеш
У глушы, любая!

З ціхім усмехам з табой
Вецярок жартуе,
І цябе ў вясёлы дзень
Сонейка цалуе.

Што-ж на тварыку тваім
Легла задуменне?
Што нявесела глядзіш,
Мілае стварэнне?

І не радуе цябе
Дзень вясёлы мая,
Голас радасны вясны,
Песня маладая?

Я хацеў-бы адгадаць
Дум тваіх гаворку,
Я-б хацеў развесяліць
Краску, маю зорку.

Ці гаруеш ты аб тым,
Што і ты без волі,

Што краса ўся адцвіце
Без пары і долі?

Ці на тым, што вецярок
Разлучыў з лугамі,
Дзе-б ты гутарыць магла
З пчолкамі, з чмялямі?

Я любуюся табой,
І мне смутна стане,
Што ў астрозе жараство
Ўсё тваё завяне,

Што адна ты адцвіцеш
Век свой сіратою, —
А багата-ж адарыў
Май цябе красою!

Краска, красачка мая,
Мілае стварэнне!
Што-ж на тварыку тваім
Легла задуменне?

## ПЕРАД СУДОМ

Не ў салдаты выпраўляе
Маці свайго сына,
Не на службу ў двор да пана, —
Едзе ў суд хлапчына!

Знае маці — не жартуюць,
Судзяць суддзі строга,
Хоць сынок яе не злодзей,
Не зрабіў нічога:

Не забіў, не абясславіў, —
О, не, не! Крый божа!
Гаварыў ён, — ну, што ў гэтым? —
Што так жыць нягожа,

Жыць і гнуцца, прад багатым
Поўзаць чарвякамі,
Што даволі ўжо цярпелі
Доўгімі вякамі,

Што даўно пара за розум
Бедным людзям ўзяцца
І парадкаў справядлівых
Трэба дабівацца.

А каб справіцца з няпраўдай,
З крыўдаю, з бядою,

Дык націснуць трэба людзям
Дружнай грамадою...

Конь запрэжан, ўсё гатова...
Смутная дарога!
Не суліць яна старэнькай
Добрага нічога.

Горкі жаль акрыў кабету
І здушыў ёй грудзі.
У кут забілася і плача,
Каб не зналі людзі

Яе гора і трывогі
І жальбы па сыну.
— З богам, сынку! Хай дае ён
Добрую часіну!

Рушыў конік. Зарыпелі
Весніцы гаротна.
Азірнуўся бедны хлопец
Горка і маркотна.

На дварэ стаіць матуля,
Галавой кіўнула,
А сама слязу буйную
Рукавом змахнула.

Вось і поле. Конік трусіць,
Вецер падзімае.
Азірнуўся хлопец — хата
З вока прападае.

І абцёр ён непрыметна
Жаласці слязіну.
Эх, відаць, не скора ўбачыць
Родную хаціну!

* * *

Толькі стогне зямля,
Толькі вецер шуміць, —
Ў нашым бедным краі
Ўсюды ночка ляжыць.

Што-ж? Сцяліся, туман,
Покі восень стаіць:
Восень — свята тваё,
Ўсюды цемень ляжыць.

Не маўчы-ж ты, сава,
Ў цёмным лесе гукай,
Ведай, ночка — не год,
Заварушыцца гай...

## У ЦЕМРЫ

Падзівіся, браток,
Што за цемень наўкруг!
Ў хмары месяц уплыў,
І бляск зорак патух.

Не чуваць галасоў
Свежых, вольных, жывых,
Толькі совы крычаць
Па трушчобах глухіх.

Ім уторыць пугач —
Цёмны жыхар дупла.
Падзівіся, браток,
Што за цемень-імгла!

Толькі зрэдку у цьме
Бляск пужліва мігне,
Быццам воўк з-за кустоў
Злосным вокам зірне.

Гэты бляск — не агонь.
Гэта — фальш, гэта — зман...
Падзівіся, браток,
Як гусцее туман!

Эх, і цёмна-ж у нас —
І дарожак не знаць,
А прасвету нідзе
Не відаць, не відаць!

У хмары месяц зайшоў,
І бляск зорны патух,
Падзівіся-ж, браток,
Што за цемра наўкруг!

Ды не бойся, мой брат,
Гэтай жудкай цішы
І свайго ты агню
Не тушы, не тушы!

Пройдзе ноч, згіне цьма,
Непраглядны мрок-цень.
Змоўкнуць совы ў дуплах,
Як развідніцца дзень.

## ЖНІВО

*Сялянскім жанчынам*

Рэдкае збожжа, травы палавіна,
Колас не гнецца зярном да зямлі.
Знаць, нешчаслівая была та часіна,
Як кідалі зерне сяўцы па раллі.

Вышлі на поле, вось, жнеі з сярпамі,
У лапцях лазовых, а хто без лапцей;
Ніва пустымі шуміць каласамі,
Ніва не цешыць жаночых вачэй.

Цяжка ўздыхнуўшы, збанкі пастаўлялі,
Клункі на межы паклалі жанкі.
Бабы старыя свой твар пажагналі,
Моўчкі за працу ўзяліся дзяўкі.

Горача ў полі. Эх, жар дакучае,
Праца марудна, бясконца цяжка!
Спіну і плечы ім боль адбірае,
Аж дзервянее у жнеек рука.

Збэрсана жыта, чапляецца колас;
Жменю нажне — разагнецца жняя,
Жыта паложыць на скручаны пояс...
Цяжкая, жнейка, работа твая!

Ціха на полі у поўдзень гарачы!
Хоць-бы дзе кусціка рэдзенькі цень.
Толькі ў калысцы плач чуеш дзіцячы,
Толькі над вухам звініць авадзень...

## ПЕСНЯРУ

Заспявай ты мне песню такую,
Каб душу мне паліла яна,
Каб у ёй ты нядолю людскую
І ўсё вычарпаў гора да дна.

Скажы, як у няволі жывецца,
Як нам шыі здушыла ярмо,
Як душа наша томіцца, рвецца,
Як жыццё прападае дармо.

А той мут, што жыццём называем,
Страсяні і да дна ўскалышы,
Няхай сэрца ў грудзях узыграе.
І зазвоняць ўсе струны душы.

І каб кожны тваё пачуў слова,
І той нават, чый дух заскаруз;
Каб хіліліся з жалю галовы,
Каб затроссяузбурана вус.

Заспявай-жа ты песню такую,
Каб маланкай жахала яна
І паліла нядолю людскую,
Каб грымела, як гнеў перуна.

## ДУДКА

За гарою дудка грае,
Як-бы плача ў цішыне,
І на сэрца навявае
Ціхі жаль і смутак мне.

І гаворыць песняй тою:
«Я — сляза твае душы,
Што часінаю ліхою
Ўзгадавалася ў цішы

І упала адзінока,
Як ты долю праклінаў;
Я — той крык, што ты глыбока
Ў сваім сэрцы пахаваў;

Я — плач ветру на прасторы;
Я — пакутны, горкі спеў;
Я — няведамае гора;
Я — нявыказаны гнеў...»

Грае дудка, вымаўляе,
Плача дробнаю слязой
І ціхутка заміpae
Дзесь у полі за гарой.

## АРОЛ

Над смужнай раўнінай высока-высока
Разняў свае крыллі арол адзінокі,

І вокам празорным ён даль азірае,
І гучныя крыкі над полем раняе.

А поле замлела, ляжыць у тумане,
У покрыўцы смужнай, бы ў цёмнай сутане.

Свая, відаць, думка аб чымсьці гаруе,
І крыкаў арліных нізіна не чуе.

## ДЗЕ ДЗЕНЕШСЯ?

Не такі чорт страшны,
Як яго малююць,
Хай усе хоць людзі
На цябе сярдуюць.

Ад сабак паганых
Ёсць кій бараніцца,
Ад «шнуроў чырвоных»
Можна адкупіцца.

Ад «мундзіраў сініх»
Можна даць і драла,
І твая свабода
Не зусім прапала.

І з людзьмі ліхімі
Можна меркавацца,
І ад крэдытораў
Спосаб ёсць схавацца

Покі служаць ногі,
Можна бегчы ўсюды,
Ад сябе-ж самога
Не ўцячэш нікуды.

## ЗАБЫТАЯ МАГІЛА

Адно захована назвање
Магілы ў полі на гары,
На тым закінутым кургане,
Дзе веюць вольныя вятры.

Нічога часы не схавалі:
Згнілі, зваліліся крыжы,
З пліты каменнай спаласкалі
І напіс летнія дажджы.

А тут жыццё пачыла нейча,
І ў ім пахован цэлы свет...
Як дым, жыццё ты чалавечча:
Дыхнуў віхор — і згінуў след.

## НА РЭЧЦЫ ЗІМОЮ

Не сядзіцца ў хаце
Хлопчыку малому:
Кліча яго рэчка,
Цягнуць санкі з дому...

Хочацца Алесю
Выйсці на двор з хаты,
Ўзяць з сабой сякерку
Ды ў той лес кашлаты,

Стукнуць па дзярвяках
З-за пляча абухам
І глядзець, як сыпне
Снег халодным пухам,

Як стаяць над рэчкай
Хвоі і яліны,
Як ім снег халодны
Нахіліў галіны.

— Мамачка-галубка! —
Просіць ён так міла: —
Можа-б ты на рэчку
Пагуляць пусціла?

Я не буду доўга,
Зараз-жа вярнуся,

Трошачкі на рэчцы
Ў санках паважуся.

— Ну, ідзі пабегай,
Толькі апраніся
Ды глядзі, ў палонку,
Сынку, не ўваліся.

Радасць і раздолле
Хлопчыку малому,
І не пазайздросціць
Ён цяпер нікому!

На плячо — сякерку,
Саначкі — у руку,
Хлеба ўзяў кусочак.
— Цюцік! — свіснуў Жуку.

Пад скарынкай лёду
Тут-жа, каля хаты,
Працякала рэчка
Скрозь лясныя шаты.

Побач тэй рачулкі
Кучы буралому,
І застыла рэчка
Мёртва, нерухома.

Моцна яе грудзі
Маразамі скуты,
І аковы лёду
Сярод рэчкі ўздуты.

Ціснецца вадзіца,
Не знаходзіць ходу
І не мае сілы
Скінуць глызы лёду.

На рачулцы ў лесе
Меў Алесь забаву.

Ну-ж, і пацяшаўся
Хлопчык тут на славу!

— Эх ты, лёд-гвалтоўнік!
Што ты вытвараеш?
Ты нашто вадзіцу
Крыўдзіш і ўшчуваеш?

Бедненькай, ёй цёмна,
Цесна пад табою.
Хай-жа пагамоніць
Мілая са мною!

Дам ёй ход, галубцы,
Каб на свет зірнула! —
І яго сякерка
Спрытна секанула.

Звякае тапорык,
Глуха стук нясецца.
Раптам клуб вадзіцы
З-пада дна ўзаўецца.

Коціць поўзверх лёду,
Іней падымае
Ды такую-ж казку,
Байку хлопцу бае!

Слухае хлапчынка
Гэты сказ нязнаны,
Спеў, нікім ад веку
У лесе нечуваны.

То яму здаецца
Дудак хор далёкі,
То птушыны ў небе
Голас адзінокі.

На душы так ціха,
Ціха і нейк млосна,
І спявае ў сэрцы
Спеў той сугалосна.

Гэты спеў дзівосны
Чары навявае
I такія казкі
Слаўныя складае!

I ад гэтай песні
Вее дабратою,
Радасцю і шчасцем,
Мілаю вясною.

Ад тэй песні-казкі
Трудна адарвацца,
I ёй струны сэрца
Хочуць адклікацца.

## ВЯЧЭРНІЯ ХМАРКІ

Сонейка заходзіць,
І кладуцца цені,
І плывуць хмурынкі
Ў ціхім задуменні.

Белыя валокны
Сонейкам заліты.
Вольны ім дарогі,
Сцежкі ім адкрыты.

Хмаркі залатыя!
Вы — прастору дзеці,
Ходзіце вы вечна
Па ўсім белым свеце.

Праплывіце-ж, хмаркі,
І над родным краем,
Над сялянскім полем,
Над зялёным гаем,

І заплачце, хмаркі,
Дробнымі слязамі
Над мужычай нівай,
Над яго лугамі.

Загрымеце громам,
Стаўшы цёмнай хмурай.
Толькі-ж не пабеце
Жыта градам, бурай.

Хмаркі залатыя,
Сонца, неба дзеці!
Вы прывет мой шчыры
У вёску занясеце.

* * *

Дзе-б ні быў я, што-б ні думаў, —
Ты ўсюды са мною
І мне свеціш у тэй цемры
Яснаю зарою;

А ў часіны злой нядолі
Смутак разганяеш,
Тугу, гора і журботу
Ты мне сунімаеш.

Толькі-ж леглі паміж намі
Берагі крутыя,
Нам пуцінкі завалілі
Камяні ліхія...

Згодна ў полі ўдоўж дарогі
Каляінкі ўюцца,
Ды ніколі між сабою
Яны не сальюцца.

## НА РАЗДАРОЖЖЫ

Пры шляху шырокім,
Дзе стаіць камора,
Я на свет радзіўся
Пад глухі шум бору,
Позняю парою,
Восенню гнілою.

Па шляху тым бітым
І удзень і ўночы
Пешкі і з вазамі
Валіць люд рабочы.
Бы яго хто гоніць,
Аж той шлях гамоніць.

Ў розныя старонкі
Каля той каморы
Распаўзліся сцежак
Шэрыя узоры —
Вузкія, глухія
Сцежачкі крывыя.

І мая, бы восень,
Доля невясёла,
І куды ні гляну —
Глуха навакола,
Смутна аддаленне,
Хмызнякі, каменне...

І мяне людская
Хваля падхапіла,
І ў глыбокім віры
Моцна закруціла,
І нясе з сабою
Цяжкаю ступою.

Толькі-ж не па шляху
Носяць мяне ногі, —
Вузкі мае сцежкі,
Зараслі дарогі.
Я іду-дыбаю,
А куды — не знаю!

## ЗАХОД СОНЦА

Дагараў дзень, і знікалі
Ціха яго блескі,
У змярканні прападалі
Гай і пералескі.

Над раўнінай снегавою
Чырванню пажару,
Як-бы стужкай залатою,
Ззяла ў бляску хмара.

І ўзняліся, заігралі,
Два слупы ад сонца,
Чуць прыметна ў іх дрыжалі
Хмарак валаконцы.

Бляск па небе разліваўся
Хваляй агнявою.
Я стаяў і любаваўся
Дзіўнаю гульнёю.

І далёка скрозь па полі
Гладзь снягоў бялела.
Я глядзеў — душа-ж па волі
Плакала і млела.

І ўзнімаўся дым клубкамі,
Злёгку пазлачоны,

I з апошнімі касамі
Знік і слуп чырвоны.

І я думаў, што ў аконцы
Ты, як я, стаяла,
На апошні погляд сонца
Смутна пазірала.

## ДА ВЯСНЫ

Мароз, зіма,
Снягі вакол,
І спіць трава,
Пад снегам дол.

Мяцеліца,
Вятры гудуць,
Дубы ў лугах
Шумяць, равуць...

Ці скора-ж ты,
Жаданы час
Вясны-красы,
Ідзеш да нас?

Ідзі, згані
Снягі з палёў
І выведзі
Ваду з акоў!

Акрый лугі,
Адзень лясы,
На жыта кінь
Крыштал расы!

Сагрэй ты нас,
Цяплом абвей...
Ідзі, вясна,
Ідзі скарэй!

## НА КРЫЖОВЫХ ДАРОГАХ

На пагорку ў чыстым полі
Крыж стаіць убогі,
Там і тут жаўцеюць ролі,
У свет бягуць дарогі.

Даль раскрылася шырока
З гэтага узгорка.
Ціха ў полі, адзінока,
Штось на сэрцы горка.

Я стаю і аглядаю
Горак рад убогі,
А куды ісці — не знаю,
Не ўлаўлю дарогі.

Дагарае дзень. Змярканне
Ахапляе далі.
Калі-ж скончыцца блуканне
У бездарожных хвалях?

Вечар немы, бездарадны
Крочыць з-пад нізіны...
Хоць-бы голас дзе ўспагадны,
Хоць-бы гук адзіны!

## ВЕСНАВЫЯ ХМАРКІ

Сакавітыя, густыя,
Сінім стэпам-даліною,
Чарадою, грамадою,
Ходзяць хмаркі веснавыя.

Ой вы, хмаркі, неба дзеці!
Як вы сэрцу майму мілы!
Носіць вецер лёгкакрылы
Вас, любыя, па ўсім свеце.

Люба мне, як думкай божай
Ціха звісшы над палямі,
Вы гугукнеце часамі
Громам-грукатам прыгожым;

Як маланка узаўецца,
Бліснє стужкай агнявістай,
І як песняй галасістай
Вам зямелька адгукнецца.

Ліне дожджык, даль завесіць
Белай сеткай срэбратканай;
Цёплы дожджык і жаданы
Гоман ўзніме ў полі, ў лесе.

А пачуўшы голас грому,
Селянін з сахой на ніве
Усміхнецца вам шчасліва,
Стаўшы важна, нерухома.

Бо ваш гром для вёскі сына —
Лепша музыка на свеце...
Ой вы, хмаркі, сонца дзеці!
Не пакрыўдзьце селяніна!

## НА НІВЕ

— Гэй, мой конік! Гэй, мой сівы!
Ну, яшчэ, маленькі!
Варушыся, гэй, не бойся,
Конік мой сівенькі! —

Зранку ў полі за сахою
Аратай гукае,
Сіўку, друга ў цяжкай працы,
Просіць-панукае.

Сам без шапкі, босы ногі,
Грудзіна раскрыта.
Б'юць камені аб нарогі,
Скрыгацяць сярдзіта.

І шуршаць пяскі буйныя,
Як жарства рачная;
Ходзіць подскакам, няроўна
Сошачка крывая!

Аратай ідзе спавагу,
Мерна, крок за крокам,
Вузка доўгая палоска,
Не акінеш вокам.

Пройдзе баразну аратай,
Сошку патрасае,
Сам назад увесь падасца —
Конік службу знае:

Сам заходзіць без панукі,
Без каманды, спраўна,
Аж нейк глянуць на сівога
Люба і забаўна.

Нібы знае сівы конік
Думкі аратая,
І яго панукі-крыку
Сіўка не чакае.

Завярнуўшыся, аратай
Спыніць друга-сіўку,
Слова добрае прамовіць
І паправіць грыўку.

Гладзіць коніка па шыі,
Мух дакучных гоніць,
Як-бы з самым лепшым другам,
З сіваком гамоніць.

— Змардаваўся, адпачынь, брат,
Пастаім, пакурым.
Вератнік мы гэты скончым,
Спачываць патурым.

Конік трэцца галавою
Аб яго кашулю,
Адпачыўшы, зноў ён цягне
Сошачку-крывулю.

А аратай, задумённы,
Зноў ідзе ступою...
Моцна, моцна іх злучыла
Праца за сахою!

— Гэй, мой конік! Но, мой мілы! —
Носіцца па полі.
Конік, сошка і аратай
Сунуцца паволі.

Эх ты, поле! Колькі сілы
Тут затраціць трэба!
Цяжка, цяжка дастаешся
Ты, кавалак хлеба!

* * *

Пагуляў на волі,
Вецер лёгкакрылы,
Пагуляў і будзе:
Адпачынь, пахілы!

Паламаў ты лесу,
Стрэх сарваў нямала,
З хмарамі і з громам
Спрэчку вёў, бывала.

Рваўся ты ў прасторы,
У стэп шырокі, сіні,
Ды закалыхалі
Ветрыка пустыні...

Што-ж, уляжся, вецер,
Хоць ў чужой даліне,
Бо ці не ўсёроўна,
Дзе цябе ні кіне

Доля бедачына,
Мачыха ліхая,
Бо не маеш, браце,
Свайго роду, краю...

Пагуляў на волі
Вецер лёгкакрылы,
Пагуляў, улёгся
І заснуў, пахілы.

## СЯЛЯНСКАЯ ДОЛЯ

Ты памрэш, цябе не будзе,
Пахаваюць труп на грудзе,
Враніўшы колькі слёз.

Над гарбом зямлі пастылай,
Над прасцецкаю магілай
Пара вырасце бяроз.

Пры дарозе на кургане
Толькі крыжам болей стане,
Лішнім прыкладам ў нагах

Цяжкі камень сцісне грудзі,
І забудуць скора людзі,
Чый пакоіцца тут прах.

* * *

... Ні красак, ні зыкаў. Замерла прырода...
Вясна маладая! Як мне цябе шкода!

Ты прыдзеш, я знаю, ўсё прыдзе з табою,
І блісне прырода красой маладою.

Ка мне-ж ты не прыдзеш, вясна залатая!
І жаль нейкі сэрца маё спавівае.

Яшчэ адзін годзік пабег, пакаціўся
І з прошласцю моцна, навекі ён зліўся.

Стаю на парозе ўжо новага году.
Пара маладая! Як мне цябе шкода!

## ПЯТРУСЬ-КАСЕЦ

Йшоў Пятрусь дадому з лугу,
Дзе ўвесь дзень касой вярнуў,
Па дарозе даў ён кругу,
Манапольку абагнуў.

Узяў кручок ён і рухава
Выбіў корак, губы ўцёр,
На кручок зірнуў ласкава
Галаву задраў, замёр.

Пацякла гарэлка ў жылах,
Як-бы спраўнік там прайшоў,
І Пятрусь пачуўся ў сілах,
Закіпела яго кроў.

Сэрца ў грудзях так і б'ецца,
Лёгка — долу не чуваць,
Так і рынуўся-б, здаецца,
Ён «Лявоніху» скакаць.

Вось Пятрусь прышоў дадому.
Хмель яго узбунтаваў,
І так весела старому —
Як-бы зноў ён хлопцам стаў.

Паглядзеў — няма нікога,
Пад палок, пад печ зірнуў,

Чорт залез ці што ў старога —
Ступу к грудзям прыгарнуў

І пайшоў па хаце з ёю,
Тупнуў раз ён і другі,
Адбівае тахт нагою
І выпісвае кругі,
Круціць ступу, абнімае
Ды сам сабе выцінае:

«Бадай таго каваля
Мяцеліца замяла,
Як ён мяне маладу
Замарозіў на ляду!»

## ПАХМЕЛЛЕ

— Годзе, жонка! Ну, не лайся:
Больш гарэлкі ані ў зуб!
Калі вып'ю, — ну, хоць кроплю, —
Бі мяне, цягай за чуб!

Сам, нябож, я добра знаю,
Што з гарэлкі свет гарыць...
Тфу, паскудства! Тфу, брыдота!
Хоць зарэж, — не буду піць! —

Так прад жонкай спавядаўся,
После выпіўкі Тарас:
— Ну, на гэты раз павер мне —
Каб я жыў — апошні раз!

— Ой, не раз я гэта чую!
Заракалася свіння
За вугол хадзіць, Тарасе, —
І табе не веру я!

— Ты не верыш? Эх, Марылька!
Хочаш? Я іду ў заклад?
Залажэмся на цікавасць:
Ты прайграеш, як бог свят!..

Тфу! пад грудзі падпірае!
Кішкі зблытаны ў камяк,

Ну, а ў роце, каб ты знала —
Фэ, які нядобры смак!

Галава-ж, як малатарня,
Або хто завёў там млын.
А ўсё Грышка, недавярак,
Каб ён спух, сабачы сын! —

Як прусак, што з'еў бураксы,
Ходзіць, плёвае, бядак,
І да жонкі падыходзіць:
— Ссе вантробы мне чарвяк.

Слухай, золатка-галубка, —
Стаў пакорненькі Тарас: —
Прынясі апахмяліцца —
Каб я жыў — астатні раз!

## СЯЛЯНСКІЯ ДУМКІ

Невясёлая, галодная,
Халадэчамі багатая,
Эх, вясна, вясна халодная,
Чым пацешыш ты аратая?

Не растуць хлябы, марнуюцца,
Сохне праца ўся вялікая.
Драсяны ў жытах красуюцца,
У ярыне — свірэпка дзікая.

На лугі зірнеш мурожныя —
Жоўкнуць травы і старэюцца
Ды грудочкі прыдарожныя,
Як барадаўкі, жаўцеюцца.

Ветры з поўначы халодные
Веюць злоснымі парывамі,
Ходзяць хмары, ды бясплодныя,
Не раняюць слёз над нівамі.

Мусіць, ведаюць, што нашымі
Слязьмі-потам бедачынымі
Шчыра зліты нівы з пашамі,
Луг шырокі з азярынамі.

Суш, бяздожджыца, бязросіца...
Ох, знаць, будзе год галодненькі!
Не адзін тут разгалосіцца
З тваіх дзетак, край наш родненькі!

## ТРЫ ЖАДАННІ

Хочам мы зямлі і хлеба,
Цяжка торбу нам насіць,
Не дае яго нам неба,
Слоў няма нам больш прасіць.

Хочам сонца мы і свету,
Цяжка нам хадзіць сляпым,
Цяжка жыць нам без прывету,
Як-бы проклятым якім.

Хочам мы жыцця і волі,
Цяжка нам насіць ярмо, —
Не спадзе яно ніколі,
Не спадзе яно само.

## ПЕСНЯ П'ЯНАГА

Выпіў, Янка, чарку ты,
Ну, мо' й трохі болей,
Бо-ж ты, Янка, не святы,
Не святы, саколе!

П'юць на свеце, п'юць усе,
І ты, браце, выпіў.
Ідзеш босы па расе,
Шапку аддаў ліпе.

Скача божы свет вакол,
Мусіць, ён упіўся.
А ты, месяц, мой сакол,
Чаго ўтарапіўся?

Ці ты бачыш першы раз
П'янага Янѳля?
Янка выпіў, ды не ўграз —
Піць не будзе болей!

Ой, падыме жонка крык —
Сцеражыся, Янка!
Эх, каб бабам не язык
Ды не іх лаянка!

Не крычы ты, не крычы
На мяне, Ганулля,

І мянушак не лічы,
Языка не муляй!

Каб ты, Ганна, ведала,
Як цябе кахаю,
Як, залёгшы ў седала,
Па табе ўздыхаю!

Ды не бойся, не шманай —
Што каму за дзела?
Там-там-там-там! та-ра-рай!
Ідзі, Янка, смела!

Бо ты толькі й бачыш рай,
Як гарэлкі хваціш.
Скачы, Янка, выцінай,
Покі сіл не страціш!

Скача божы свет наўкруг,
У ваччу траіцца.
Лезе з плеч стары кажух,
Хоча закруціцца.

А ты, Янка, не зважай
На кажух падраны!
Прэч з дарогі! Уцякай,
Бо йдзе Янка п'яны.

* * *

Дні ідуць за днямі,
Уцякаюць годы,
А за намі следам
Цягнуцца нягоды.

Тчом мы павуцінку
Радасці і шчасця,
А павее вецер
Холадам нянасця,

І парвуцца ткані,
Разляцяцца прахам,
І прад невядомым
Зноў стаіш са страхам.

* * *

Знаць, ужо спрадвеку
Доля нам такая:
Ліха знойдзе ўсюды,
Шчасце-ж уцякае.




Вокладка першага зборніка вершаў Я. Коласа «Песні жальбы». 1910 г.

## ПЕСНЯ

Песня, дзіцятка сэрца балючага!
Толькі цябе запяю,
Многа абудзіш ты гора гаручага,
Смуціш душу ты маю.
Часта са ўздыхам сябе я пытаю:
Як павядзецца табе?
Ці палісшся ты вольна па краі,
Вокліч ці знойдзеш сабе?
Або заглухнеш, замрэш адзінока
Рэхам нягромкім ў цішы,
І не зачэпіш сэрца глыбока,
Не раскалышаш душы?
Родныя сёлы цябе ці пачуюць?
Можа і словам тваім
Людзі пагардзяць ці пажартуюць,
Смехам спаткаўшы пустым?..

* * *

Эй, скажы мне, небарача,
Ты, каго ў ярме трымаюць,
Чыё жыцце папіхаюць:
Сам гібееш, доля плача,
Ва ўсім чысценька нястача,

Сееш многа ты і дбала,
Хоць скупое тваё жніва,
Адкажы ты мне праўдзіва —
Што цябе тут прыкавала?
Ці табе дарожак мала,

Або свет тут зачыніўся?
Ці ты глух на папіханкі?
Свецяць рэбры скрозь катанкі,
А праз шапку чуб прабіўся.
Ці ты век цярпець згадзіўся?

Ці не чуў аб лепшай долі?
— Ой, даўно-б я ўсё пакінуў,
Толькі-ж многа слёз я лінуў,
Выліў поту ў тыя ролі,
Дзе ўзыходзяць песні болю.

Дык няхай свет хоць трасецца, —
Я тут вырас, тут і згіну,
А разорак тых не кіну,
Дзе мой смутак, жаль снуецца,
Дзе мне шчасце не даецца,

Бо я цвёрда веру ў тое,
Што наш засеў у полі дзікім
Гневам вырасце вялікім
І затопіць усё злое,
Ўсё няшчасце векавое.

* * *

Не дай божа сэрцам знікнуць
І душой апасці,
Страціць веру і надзею
На жыццё і шчасце:

Бо без веры і надзеі
Ў свеце ўсё пастыла,
Бо, згубіўшы сэрца крэпасць,
Чалавек — магіла.

## ВЯСНОЮ

Вясёлыя людзі — снуюць і гамоняць,
Відаць, і ў іх сэрцы вясна,
І горкія думкі галоў іх не клоняць,
Ім доля прыхільна, красна.

Цаны куску хлеба не знаюць шчасліўцы,
І голаў аб тым не баліць,
Як будзе багатая пожня на ніўцы,
Як заўтрашні дзень перабыць;

Ці будзе прытулак звярэджаным плечкам,
І ногі куды панясуць
Іх цела худое: ці к мору, ці к рэчкам,
І рукі каму прададуць,

Свабодныя рукі з патрэсканай скурай.
Шчаслівец не знае таго,
Як гнецца галеча прад чорнаю бурай
Няўдалага жыцця свайго.

А хто гэта ходзіць адзін стараною?
Чаму вы не рады яму?
Чаму ён не з вамі? Чаму галавою
Так нізка панік ён? Чаму?

Шчаслівыя людзі—як хвалі, што ў моры:
Іх вецер узніме — бягуць,
І тое, прад чым пакланяліся ўчора,
Пры ветры другім аплююць.

## У ДАРОЗЕ

Поле без берага, шыр нескончоная,
Даль неаглядная, даль засмучоная,
Смугай спавіта ўся ты!

Што пазіраеш ты з немай трывогаю?
Што рассцілаеш туман над дарогаю,
Ставіш упын мне круты?

Што ты вядзеш мяне нетраю-пушчаю,
Вузкаю сцежкай, крывой, невідушчаю,
Сцелеш што крок то лагі?

Што насыпаеш капцы мне пясчаныя,
Густа каменнямі ўсюды усланыя?
Дзе-ж іх канец, берагі?

Дзе-ж мая хата? Дзе нівы шумлівыя?
Гоні шырокія, пожні шчаслівыя?
Дзе яны? Хто іх пабраў?

Дзе лугавіна, травою акрытая?
Дзе маё поле, слязьмі ўсё аблітае?
Чый яго плуг паараў?

Лес мне гуторыць, шуміць верхавінамі:
«Хвоі на хату пасохлі націнамі,
Будзеш без дому ты век».

Поле шапоча мне: «Ветры халодныя
Гналі над нівамі хмары нягодныя —
Град тваю ніву пасек;

Доўгія гоні твае папустошаны,
І сенажаці чужымі пакошаны,
Сам чужаніца ты ім»...

Што-ж мне варочацца? Далей узгоркамі
У даль невядомую, з думкамі горкімі,
З горам і смуткам маім!

## ПАСТУШОК

Блеск гарачы слепіць вочы,
Душна ў лесе і ў палёх.
За гавядай аж да ночы
Зранку прышчыцца Цімох.

Эх, нялёгка за скацінкай!
Годам сцягнецца дзянёк.
Нецярпліва жджэ хлапчынка,
Ды не скора вечарок.

Торба з хлебам за плячыма,
Высах-выпетрыў хлябок.
Мерыць цень не раз вачыма,
Лічыць крокі пастушок.

А на полі нікагутка,
Толькі ён адзін, як пень,
Толькі больш наводзіць смутку
Звонам крылляў авадзень.

## У ДАРОГУ!

Зложаны у клунак
    Ўсе мае прылады...
Гайда ў пуць-дарожку,
Гайда між прысады!

Бітаю дарогай,
    Вольнаю трапою
Ў божы свет шырокі
Мернаю ступою!

Ўжо мяне чакае,
    Ў доўгі шлях гатовы,
Мой таварыш верны,
Сябар — кій дубовы.

Ў нашым родным лесе
    Вырас ён са мною,
Вырас, ўзгадаваўся
Хмураю вясною;

На блуканне-гора
    Бог судзіў, няйначай,
І злучыў ён долю
З доляю бядачай.

Шкода мне вас кідаць,
    Родныя пагоркі!

Ўжо не скора ўчую
Згоднае гаворкі

Ветрыка ў садочку
З вішняю зялёнай,
І не ўловіць вуха
Шопату загонаў.

Я не скора ўбачу
Родныя курганы,
Што задумай ціхай
Лёгенька затканы

І глядзяць маркотна,
Як сіроты-дзеці:
Цяжка адзінокім,
Знаць, і ім на свеце.

Эх вы, нівы-гоні!
Вы мяне ўскармілі
І любоў у сэрца
Моцна залажылі

К гэтым шэрым хатам,
К гэтым бедным сёлам,
К белым хмаркам ў небе
Над зялёным долам,

К светлым рэчкам-стужкам,
К срэбраным крыніцам...
Не з дабра-ж іду я
К людзям-чужаніцам.

Ой, ёсць цемень-сіла,
Злосная, ліхая,
Што і любасць тую
Гоніць, разлучае.

Толькі-ж дзе ні буду,
З доляй ці няволяй,

Не забыць цябе мне,
Роднае, ніколі!

З цяжкім смуткам сэрца
    Я вас пакідаю,
Мілыя малюнкі
Дарагога краю!..

Зложаны у клунак
    Усе мае прылады.
Гайда ў пуць-дарогу,
Гайда між прысады!

Ўжо мяне чакае,
    Ў доўгі шлях гатовы,
Мой таварыш верны,
Сябар — кій дубовы.

## ЖНІЎНЫЯ ПЕСНІ

Жарыць сонца без літосці,
Варам пыша ад палёў,
Трэцца жыта ў пыл на просце,
Зерне сыплецца далоў.

Хоць-бы хмарка дзе на небе,
Хоць-бы рэдзенькі цянёк!
І без часу ў цвёрдай глебе
Спее грэчка і лянок.

Душна ў полі і маркотна.
Постаць жоўтая хлябоў
Ціхім шолахам гаротна
Просіць жнеек і сярпоў.

Вось прышлі і жнейкі ў поле.
Заскакаў крывы сярпок,
І панёсся на пры воллі
Жнейчын звонкі галасок,

Сакавіты і пявучы,
Як вясенька, малады,
А тон жаласны, цягучы,
Поўны жальбы і нуды.

І панёсся ён мяжою,
Вольны будзячы прастор,

Потым скаргаю-слязою
Ў неба вырваўся, замёр.

Колькі смутку ў песні жніва!
Хто той смутак парадзіў?
Ці жыцця лёс нешчаслівы,
Ці журба сялянскіх ніў?

Ці ты, поле, грунт няплодны,
Горам песню абвілі,
Каб аб краі нашым родным
Мы забыцца не маглі?

## СТАРЫЯ ДУБЫ

Зноў я бачу, зноў вітаю
Сілачоў вяльможных —
Па-над Нёманам у гаі
Гурт дубоў разложных.

Сам не ведаю, чым мілы,
Чым вы сэрцу любы,
Выхаванцы веку, сілы,
Магутныя дубы.

Чымся мілым, чымся родным
Ад вас павявае,
Аж мне сэрца ў спеў лагодны
Штосьці ахінае.

Ўзварухнуцца думкі-песні,
Як вашы лісцінкі,
І зноў станеш на прадвесні
Жыццёвай пуцінкі.

Цешуся я, пазіраю
На вас, вежы-дрэвы,
Цьмяна сэрцам прачуваю
Вашы думкі-спевы.

Але шум не той я чую —
І вы парадзелі,

І вы не ўсе буру злую
Знеслі і здалелі.

Ой, асілкі ў ціхім гаі,
Дубы векавыя!
Я вітаю вас, вітаю,
Волаты любыя!

## БУДЗЬ ЦВЁРДЫ

Ты не гніся, брат, ніколі
Траўкаю пахілай,
Сам пружыны сваёй долі
Выкуй ўласнай сілай!

Бо хоць кажуць, што з уклону
Не баліць галоўка, —
Не зважай: з ярма-прыгону
Вышла гэта слоўка.

Не прасі, не спадзявайся
Ты на дапамогу,
Сам з нягодамі змагайся,
Сам прабі дарогу!

Хоць памогуць табе людзі
Адшукаць дарогі,
А саб'ешся, зноў ты будзеш
Абіваць парогі.

Не лісціся к сільным, дружа,
Зеллейкам-бярозкай,
Бо не выйдзеш век з-пад гужа,
Страціш вобраз боскі,

І ў людзей ты гонар страціш —
І цябе зракуцца:
Лепш змагацца вольным, браце,
Чым цярпець ды гнуцца!

## НА ДАРОЗЕ

Не крычы, пан: «Прэч з дарогі!»
Што з таго, што я мужык?
А ўжо гнуцца, як убогі,
І я, бачыш ты, адвык.

Не адзін ты гонар маеш,
І ў мяне ён трохі ёсць;
Дык дарма ты, пан, гукаеш —
Я табе больш не «пся косць».

Мы калісь былі не тыя,
Панавалі тады вы,
А цяпер гадкі другія —
Спаў ланцуг той векавы.

На якім вы нас трымалі.
Ведай гэта і не злуй:
Мы вас доўга «шанавалі»,
Цяпер ты нас пашануй.

## БУДЗЕ НАВАЛЬНІЦА

Ноч надыходзіць, і хмары ўстаюць.
Лозы размову трывожна вядуць.
Боязна шэпча трава, чараты,
Ў хмарах знік месяца рог залаты.

На небасхіле зарніцы мігцяць,
Громам узрушана грозная рацць.
Мрок насядае глыбей і цяжэй...
Грымні-ж ты, бура, ды грымні дужэй!

## ДЗЯЎЧЫНЕ

Не кажы, што злыя людзі
І што свет паганы:
Сэрца крыўду ўсю забудзе,
Час загоіць раны.

Тыя раны, што зладзеі,
Сэрцу прычынілі,
Тыя думкі і надзеі,
Што ў табе пабілі.

Ды ці-ж варты баламуты,
Каб твой твар дзявочы
Засцілаўся ценем смуты
І тускнелі вочы?

Пройдзе ўсё, перажывецца, —
Вер мне, дарагая!
Будзе час — ускалыхнецца
Сэрца і ўзыграе.

А ў душы вясна настане,
Сэрца зноў палюбіць,
Прыдзе доля, ў вочкі гляне,
Шчыра прыгалубіць.

Не кажы-ж, што злыя людзі
І што свет паганы:
Сэрца смутак перабудзе,
Час загоіць раны.

## ЗАКЛІКАННЕ ВЯСНЫ

Ты прыдзі, вясна жаданая,
Прыдзі!
Гукам жыцця, песняй працы
Загудзі.

На узгоркі, на нізіначкі
Зірні,
Сон трывожны, сон цяжкі наш
Разгані.

Ты нясі нам радасць, сілачку
Нясі,
Нашу ленасць і нядбаласць
Атрасі.

Ты ляці на крыллях выраю
Скарэй,
Абласкай цяплом пахілых,
Абагрэй.

Наша жыцце, нашу долечку
Пабач,
Над жытамі цёплым дожджыкам
Заплач.

Пракаціся громам-грукам
Угары,

Ты ідзі, нясі цудоўныя
Дары.

Узбагаць ты добрым засевам
Наш край.
Ты прыдзі і з намі дружна
Заспявай.

Ўскалыхні ты струны сэрцайка
Жывей,
Каб было нам жыць на свеце
Весялей.

Дык ідзі да нас, жаданая,
Ідзі,
Раскатурхай нашу дрэму,
Абудзі!

## СУШ

Выйдзі ў поле, глянь, паслухай:
Ці-ж не ўгледзіш сум жывы?
Ці не ўловіш скаргу нівак,
Смутак красак і травы?

Ці не ўловіш сэрцам чуткім
Спеў гаротны ручаёў?
Ці не ўчуеш шум сірочы
Ярыны, грачок, жытоў?

Толькі-ж неба зло-няўмольна —
Што яму да той зямлі,
Дзе над сіняю смугою
Далі немыя зляглі?

Нікнуць хмары, як сняжынкі,
Разганяюць іх вятры,
І тужліва пазіраюць
На палі гаспадары.

## ПАСТУШКА

Будзіць матка сваю дочку:
— Устань, дачушка залатая!
Унь і сонейка з лясочку
На пасцельку заглядае.

Устань, паслухай, як у лесе
Свішчуць пташкі і гамоняць,
Вераб'і крычаць на стрэсе
І смяюцца з цябе, соні...

А як цёпла, каб ты знала.
Мёду пах ідзе ад грэчкі...
Устань!.. А ўчора-ж ты казала:
«Буду пасвіць я авечкі!»

Ну, дачушка, не лянуйся!
Выжань іх на прорасць нашу...
Устань, умыйся ды абуйся —
Трэба-ж выгнаць іх на пашу. —

Устала дзеўчынка малая,
Плача, сеўшы на пасцелі,
І авечкі праклінае:
«А, каб іх ваўкі паелі!»

— Вось дурная, — кажа матка, —
Ці-ж то можна гэтак клесці?
Як з'ядуць ваўкі ўсё стадка,
Што-ж сама ты будзеш есці?

Сама-ж любіш, нябось, мяска
І аладкі мазаць тукам?
Дык і пасвіць трэба, краска,
Пры авечках стаяць крукам.

А хвалілася: «Ого, я!..»
Ну, не плач!.. Ох, ты, блазнота!.. —
Плача горш дзіця малое:
Ох, як пасвіць неахвота!

Самой матцы Нінкі шкода,
Дый куды ёй пасвіць стадка?
Які розум яе? Годы?.. —
Чуць сама не плача матка.

* * *

Позна. Восень агаліла
Усе дрэвы і кусты;
І вятрамі пазнасіла
Іх пажоўклыя лісты.

І стаіць лес сірацінай,
Глуха, глуха ён шуміць,
Як над голай верхавінай
Вецер злосны праляціць...

Туманамі апавіта
Даль разложная палёў;
Туга нейкая разліта
Ў дробных кропельках дажджоў.

І аб чым ён так трывожна,
Гэты дождж, бубніць, бубніць?
Пра каго, пра што заложна
Усю ночку гаманіць?

Ці аб тым, што скора, скора
Землю снег акрые, лёд?
Ці ён мне на злосць і гора
Кажа: «Зноў мінуўся год!»

## КВЕТКІ

*Народным настаўнікам*

Вянуць дарэмна ў глухіх закавулках,
У нізкіх далінах, на ціхіх рачулках
Кветачкі, дзеткі вясны.
Рэдка хто бачыць, як жыцце іх гіне,
Вока людское на іх не спачыне —
Вянуць і сохнуць адны.

Толькі іх сонейка песціць, цалуе,
Толькі іх ветрык спакойна шануе,
Роска змывае іх твар.
Смутак агорне, і горка мне стане,
Жаль нейкі душу і сэрца апране,
Шкода, што гіне так дар.

Мілыя кветачкі, ясныя зоркі!
Я-б перанёс вас на горы, узгоркі,
Каб вы ўсім відны былі;
Каб, пазіраючы, як вы прыгожы,
Сталі душой мы і сэрцам пахожы
На вас, мае дзеткі зямлі.

## У ДАРОЗЕ

Між узгоркаў і курганаў
Сцежка вузкая ляжыць,
Даль нямая з-за туманаў
Сірацінаю глядзіць.

Лес акрыўся тонкай тканню,
Сіняй дужкаю лёг гай,
За крывой далёкай гранню
Тоне ў бляску яго край.

Цішыня ва ўсім раздоллі,
Ўся заліта сонцам даль.
І душу сціскае болем
Ні то смутак, ні то жаль.

Ўецца сцежка прада мною,
У шырокі свет бяжыць,
Дзе звіваецца змяёю,
Дзе, як стужачка, ляжыць.

А я ўсё далей дыбаю
Між узгоркаў і раўнін,
І мне шэпча жыта з краю:
«Ты адзін, адзін, адзін!»

## ЯК І КАЛІСЬ

Быў малы я, думаў часта,
Як дадуць мне чосу:
«Пачакайце, і на вас я
Прыпасу атосу!

Дайце толькі акрыяць мне,
У гадкі ўвабрацца!»
А пакуль што ўсім старэйшым
Мусіў пакарацца.

Я тым часам падрастаю,
Аддалі вучыцца.
Не дагодзіш настаўніку,
І пачне сварыцца!

Але добра, калі сваркай
Сойдзе завіруха,
Ды ў тым гора, што настаўнік
Часта трос за вуха.

«Ну, пастой-жа! Жыў не буду,
А за тыя здзекі
Не дарую, толькі-б вышаў
З-пад твае апекі!»

Так за лаўкаю памысліш,
Вуха ўзяўшы ў жменю,

І цішком кулак сціскаеш,
Сунуўшы ў кішэню.

Ды цярпіш, ды зносіш крыўды,
Помсты час жадаеш.
Час ідзе — а ты ў залежнасць
Болей пападаеш.

Вось я вырас, і пад носам
Вусы высядаюць.
А мяне навокал чубяць,
Клёваюць, ўшчуваюць.

Накіпела ў сэрцы гневу,
Злосці поўны косці.
Не стрываў я, разгарнуўся —
Я-ж вам, ягамосці!

Пачакайце-ж, калі гэтак!
То-ж я не кусаўся!
Годзе крыўды! Досыць здзеку!
Ўзяў ды ўзбунтаваўся

Супраць ўлады і парадкаў!
А хіба-ж я ўломак?
Хай сабе на пагляд шчуплы
І не так-та ёмак.

Ускіпела тая ўлада,
Гоніць у тры шыі.
«Ведай, гад, па чым фунт ліха
У цара Расіі».

Трэслі, трэслі, калацілі, —
З жалю хоць разбіся,
Ды ў астрог нарэшце садзяць —
Там, моў, схамяніся.

Вось за кратамі сяджу я,
Горш мяне ўшчуваюць,

З аднэй камеры ў другую
З сенніком ганяюць.

Я іду, куды мне кажуць,
Ды бубню сам сціха:
«Пачакайце! Адсяджу я,
Перабуду ліха!»

Ценем крыўда йдзе за мною
Аж да сёй часіны,
Кулак згорнуты ў кішэні,
Як і ў дні дзяціны.

І даюць мне, як і колісь,
Запраўскога чосу.
Што рабіць? У век патомкаў
Перадаць атосу.

## НА НОВЫ ГОД

Чым пацешыш ты нас, Новы Годзе?
Што нясе нам вясна малада?
То не голас пусты у народзе:
То пытае людская бяда!

Мы ўзышлі на парог, пазіраем —
Шчыльна дзверы замкнёны ад нас;
Ў рад павіслі замкі... Мы чакаем,
Бо знаць хочам скарэй мы пра час,

Калі ўступім у дом, што вякамі
Будавалі, вякамі ішлі,
Усцілаючы сцежку касцямі,
Каб свабодна ўздыхнуць мы маглі...

Год настаў, год мінуў — нічагутка,
А ты стаў на парозе і стой
Ды з трывогай пытай, ці ёсць чутка
Аб зямельцы, аб праўдзе святой.

Атупелі мы ў нашай нягодзе, —
Холад, голад, гарэлка, суды...
Чым пацешыш ты нас, Новы Годзе?
Што нясеш ты нам, год малады?

## СТАРЫЯ ПЕСНІ

Скарга нязменная, гора нязбытае...
Голь змардаваная, голь неакрытая,
Бедная, цёмная голь!

Чуецца ўсюды тваё нараканне,
Нездаваленне, жальба і стагнанне —
Душу ахватвае боль.

Стогне з табою і даль сіратлівая,
Ціш гэта немая, доля маўклівая,
Гоні, разлогі палёў...

Чым-жа пацешыць вас, людзі пакутныя?
Як разагнаці вам думкі ўсе смутныя?
Гора-ж не сціхне ад слоў!

## РОДНАМУ КРАЮ

Знае толькі бог адзіны,
Як мне любы лугавіны
І родныя межы,
Стужкі поля і дарогі,
Пустак немыя разлогі,
І курганы-вежы;
Як мне мілы тыя хаты,
Дзе красуе мох калматы
На старэнькай стрэсе;
Гоман вузкіх ніў у полі,
Скібы жоўтыя і ролі,
Пташак спеў па лесе.
Знае бог адзін, як мілы
Мне мужычыя магілы
І той крыж драўляны,
Пад каторым косці тлеюць,
Дзе бярозкі зеленеюць
І на дол пясчаны
Майскім ранкам слёзы роняць,
І галінкі ціха клоняць,
І шумяць маркотна.
Там я вырас, ўзгадаваўся,
Дзе спрадвеку заснаваўся
І бруіць дрыготна
Жаль вялікі і пакута,
Дзе пануе гора люта
І нуда разліта.

І я зросся з гэтым горам,
Як віхры-вятры з прасторам,
    Як з загонам жыта.
А як песню заспяваю
Аб знішчоным гэтым краі,
Я не волен над сабою:
Спеў мяшаецца з слязою,
    Плачам аддаецца.
Няхай стогне, няхай плача,
Покуль жыццё стане йначай
І скрозь цемрадзь і гушчары,
Нібы сонейка праз хмары,
    Свет нам не прарвецца.

## ЗМАГАННЕ З П'ЯНСТВАМ

*Кароткі фельетон*

Мы заўсёды выпівалі
І гарэлку шанавалі, —
Так вядзецца ад дзядоў.
Чуць на свет ты паказаўся,
Яшчэ ў ночвах не скупаўся,
А ўжо кажуць: «Будзь здароў!»
І галовы задзіраюць,
Спрытна чарачкі куляюць
Ў чэсць малога піскуна.
А памрэ ён, чуць сканае,
Жыць на свеце не ўздужае —
Зноў з'яўляецца «яна».
Ліха ўспрэцца, стане крута:
Ў маскалі бяруць ракру́та,
Грошы пойдзеш пазычаць
На арэнду ці падаткі,
Ці якія там выпадкі, —
Трудна ўсе іх вылічаць, —
Ну, напрыклад, не паладзіш,
Нос стаўчэш, ліхтар пасадзіш,
Чэрап свой ці чый паб'еш,
Занядужаў сам ці жонка, —
Плача бедная скарбонка:
Грош астатні дастаеш.
Рады мы прычыне кожнай

Зрабіць поўную парожнай —
П'ём мы, братцы, дужа п'ём!
Ды «яе» мы не здалеем,
Хоць п'ём шмат ажно шалеем..
Грамада, валі на сход!
Чуткі ёсць, увагі варты:
Манапалькі не на жарты
Прыціскаць пачаў народ.
А мы хіба не патрапім?
Ці-ж мы болей другіх квапім
Усе вантробы папаліць?!
Каб яна-ж, даў бог, згарэла!
Скасаваць, каб не смярдзела.
Годзе дрэнь гэту глушыць!
Сход сабралі, гаманілі,
Меркавалі, палажылі
Манапольку зачыніць.
Толькі-ж мы прывыклі здаўна
Выпіць колькі чарак спраўна
Перад тым, як што зрабіць.
«Ну што-ж,—кажам,—хіба вып'ем?
Манапольку з вёскі выпрэм,
Справа важная, нябось!»
«Вып'ем, вып'ем! — загукалі: —
І дзяды нам так казалі,
І вядзецца гэтак скрозь».
Папіліся — пададбрэлі,
Сцёпка з Грышкам захварэлі,
Чым-жа бедных падлячыць?

І цяпер-то мы пазналі,
Што яшчэ сабе прыдбалі
Адну зачапку папіць.

## ВЕРАБ'ІНАЯ НОЧ

Ноч павісла над зямлёю,
Ўсё абнята цішынёю,
Поўнай страху, поўнай чар.

Быў гарачы дзень бясконца,
Не свяціла — жэгла сонца,
Парнасць страшная і вар.

І вось неба не ўтрывала,
Ўсё ў агнях запалыхала,
Мрок хістаецца, дрыжыць.

Там гарацць, як у пажары,
На паўдні, на ўсходзе хмары,
Дзе зліліся рубяжы.

І не ўловіш слухам грому,
Што тварыцца — невядома
Ў нутрах гнеўных аблакоў.

Як-бы хто жывы, палючы
Погляд кідае бліскучы,
Пыша сілаю віхроў,

Ўскіне вочы агнявыя,
Ўскіне грозна і закрые,
Цьму сярдзіта ўскалыхне,

Ды як сыпне ў неба жарам!
Страшны шлях асвеціць хмарам,
Ніжай мрок к зямлі прыгне.

А зямля маўчыць трывожна.
Лес пакорна і набожна
Сціх, чакае — ні гу-гу!

Неба-ж грозна пыша, ззяе.
Бляск агністы разлівае,
Паліць мрочную смугу.

* * *

Я хачу аб табе
З кім хоць слоўка сказаць,
Сэрца гора, тугу
І сумненні прагнаць.

Але толькі-ж няма
З кім мне сум падзяліць,
І я мушу адзін
Перажыць, перабыць.

## З ДАРОГІ

Дым бялявы, дым празрысты
Тчэ ў паветры паравоз,
І бяжыць у даль імглісту
Рад заплаканых бяроз.

Лес і гай, палі і логі,
Луг, узгоркі і груды,
Крыж, крыніцы і дарогі, —
Ўсё паўнюсенька жуды...

А на сэрцы так маркотна;
Жаль ў душы і ў сэрцы жаль...
І здаецца, ў той гаротна
Мне уторыць гэта даль.

## ВЕЦЕР

Гэй, вецер заходні з далёкай краіны,
Аб чым ты размову так сумна павёў?
Мо' смутку нагналі ліхія ўспаміны
Ці злыя здарэнні апошніх дзянькоў?

Маркотна з табою! Слязьмі і стагнаннем
Гаворка твая аддаецца ў палях.
Над кім ты смуткуеш глухім прычытаннем,
Надгробнаю песняю плачаш ў платах?

Тугою бязмернай ты даль затуманіў,
Вясёлае неба ў жалобу абвіў.
Гэй, вецер заходні! Каго ты аганіў?
Над кім ты заплакаў? Так жаласна ўзвыў?

Па кім ты спраўляеш памінкі-хаўтуры,
Ігрышча сіл чорных, начніц, ведзьмакоў?
Ці ты раздзімаеш вялікую буру,
Сусветную буру, плач сірат, удоў?

Гэй, вецер разгульны! Ты — вечны дарожны
І вечны выгнаннік, бы кім закляты!
Заўсёды маркотны, заўсёды трывожны,
Спакою ніколі не ведаеш ты.

## НАША ГУМЕНЦА

Я люблю сваё гуменца,
Крытае саломай,
З гэтай стрэшкай пасівелай,
Так даўно знаёмай,

З гэтай сошкай, дзе гняздзечка
Ластавачка лепіць...
Добра там ёй: дождж ніколі
Дзетак не зачэпіць!

Дзе пад шчытам павуцінку
Ветрык хіліць-песціць,
Ды такія байкі бае —
Галава не змесціць!

Дзе саломка з каласінкай,
Выбіўшыся з стрэшкі,
Згайдануцца, засмяюцца
Радаснай усмешкай.

А як слаўна адпачыці
Тут на мяккім сене!
Сонца ўзыйдзе і рассыпле
Золатам прамение

Па ўсяму гумне скрозь шчылін,
Праз страху з-пад шчыта,

Бы развесіць тая ткаха
Залатыя ніты.

Зашчабеча над гняздзечкам
Ластаўка зычліва.
За гуменцам ціха шэпча
Каласамі ніва,

Як-бы кліча яна жнеек
Або просіць косак.
Ўсё мне кажа тут пра жыцце
Родных сёл і вёсак.

Добра мне тут, мне тут міла,
Родна ўсё і блізка.
Тут хлябок мой, мая хата
І мая калыска.

## УВОСЕНЬ

З узгорка ў лагчынку дарожка збягае.
Дубы наабапал стаяць.
А хвалі крынічныя — хто іх там знае —
Аб чымся, знаць, важным шумяць.

І хвоі-суседкі, і смутныя ёлкі,
Бы ўдовы, стаўпіліся тут:
Даведацца хочуць і травы, і зёлкі
Навін, што прышлі ў гэты кут.

І ўсе неспакойны, і ўсе засмучоны,
Бы нечага боязна ўсім,
А вецер-задзіра гудзе, як шалёны,
І вые над лесам пустым.

Хвалююцца дрэвы, а красачкі ў скрусе
Зямлі адбіваюць паклон.
«Не бойцеся, — з неба гукаюць ім гусі, —
Не вечны зімовы палон...»

З узгорка ў лагчыну шыбуе дарога,
Стаяць наабапал дубы.
Між дрэваў і красак пануе трывога,
І цені снуюцца журбы.

## НА ПРАСТОР!

Гэй, на волю, на разлогі
Смужных даляў і палёў,
Дзе ва ўсе канцы святоў
Леглі вольныя дарогі!

Дзе без хітрыкаў, праўдзіва
Колас гутарку вядзе,
І дзе дуб стары гудзе
Не лісліва і фальшыва,

А сваёй старой гудою,
Як і век ён гаварыў,
І дзе ўсю красу раскрыў
Луг шырокі над ракою.

Гэй, туды, дзе неба з долам
Абняліся, як браты, —
Хоць на міг забудзеш ты
Гэтай фальшы нудны шолам!

* * *

Усміхнулася, зардзела
Глыб бяздонных небясоў,
Ясным сонцам зазіхцела,
Тканку тонкую адзела
Чуць-чуць значных аблакоў;

Як прад шлюбам маладая,
Паднядзелілась яна
І на зямлю пазірае,
Ўсюды жыцце выклікае,
Ціхай радасці паўна.

А з зямлі ёй на спатканне
Песні жаваранкі шлюць
Ад усходу да змяркання,
І лясы ёй прывітанне
Верхавінамі гудуць.

## МАЙСКАЯ РАНІЦА

Ў небе бяздонным, дзе хмаркі купаюцца
Ў золаце яркіх агнёў,
Вольныя песні штодзень разліваюцца,
Чуюцца крыкі стрыжоў.

Ціха трапечуцца лісці зялёныя,
З ветрыкам мову вядуць;
Вішні, узняўшыся белай каронаю,
Быццам дзяўчаты, цвітуць.

Поўніцца пахам паветра, ўліваецца
Ў грудзі гаючым вінОм;
Мыецца краска расой, уціраецца
Цёплага сонца святлом.

Хмарка за хмаркай плывуць, лёгкакрылыя,
Ціхай задумай паўны.
Эх, як прыгожы вы, раніцы мілыя,
Светлыя мары вясны!

## НОВАМУ 1915 ГОДУ

Ты прыдзі да нас не з здрадай, —
Добрай весткай павітай,
Развясель ты нас і ўзрадуй,
Сілы, крэпасці нам дай.

Каб мы йшлі не безнадзейна
К жыццю новаму ўпярод,
Знішчы ліхасці насенне,
Думкі горкія нягод.

Прынясі на землю згоду
І палёгку людзям дай,
Ясным сонейкам з усходу
Нам засмейся ты, заззяй!

Нашых ворагаў, як з грому,
Ўсіх развей і разгані
І са славаю дадому
Ты ваякаў нам вярні.

Асушы сіротам слёзы
І ўзмацуй ты наш народ.
Будзь нам ў радасць, год цвярозы,
Будзь па праўдзе «Новы Год»!

## НА ЛУЗЕ

Вецер паўднёвы у лузе квяцістым
Калыша траву-сенажаць.
Сіваваронкі над дубам вячыстым
Лятаюць і звонка крычаць.

Бусел клякоча ў гняздзе над хваінай,
Што колісь распляжыў пярун.
Даль неаглядная, стэп ясны, сіні
Замоўклі, як жалаба струн.

Гожа звіваецца ў лозах зялёных,
Бы срэбра жывое, рака.
Толькі не згледзіш на сініх улоннях
Ні плытніка, ні рыбака.

Ходзіць той ветрык па лузе шырокім
І ціха на сонцы дрыжыць.
Мусіць ён шэпча кустам і асокам,
Каб нейкую скаргу злажыць...

Ззяюць на лузе машэст, аксаміты
І ткань залатая шаўкоў.
Толькі-ж над лугам жалоба разліта
І сум сакаўных дубнякоў.

Быццам пытаюць мурог і мятліца,
Краскі і ўся сенажаць:
«Дзе вы, сяляне? Дзе? Час касавіцы,
А вас ўсё няма, не відаць?»

## УСПАМІНЫ

Вобраз мілы, поўны чараў,
Маладой вясенькі мараў,
Гожа з прошласці ўстае

І з чароўнай нейкай сілай
Мігатнецца казкай мілай,
У сэрцы радасцю снуе...

Ой, вы, светлыя ўспаміны
Аб дзяньках маіх дзяцiных,
Перабытых часаў ніць!

Ой, вяліка ваша ўлада!
Вамі сэрца поўна, рада,
З вамі люба гаманіць.

Мо' затым і жывяцё вы,
Каб развеяць сум жыццёвы,
Тугу-жальбу адагнаць?

Вобраз мілы і далёкі
У сэрцы кінуў след глыбокі,
Ціхай жаласці пячаць;

І цяпер скрозь змрок халодны
Ўстане гэты вобраз родны,
Шчасцем душу ўскалыхне,

Потым смуткам адгукнецца,
Ціхім жалем пранясецца
І ў глыбінях патане.

## З МІНУЛАГА

Ці то сон быў, ці то мары,
Ці то было з намі?
Наплывалі ў небе хмары
І гулі грамамі,
І паволі над балотам
Крылле разнімалі,
І магутным цяжкім лётам
Небакрай займалі.
А над імі так ласкава
Сонейка зіяла,
Усё вясною малажава,
Гожа выглядала.
Мы сядзелі, нам спявалі
Нашых думак рої,
І над намі сакаталі,
Гаманілі хвої.
Ці то сон быў, ці то чары —
Падарункі мая?
Ці то нам складала мары
Сіла маладая?

* * *

Божа мой! Калі паўстане
У свеце згода тая?
Лад ці скора к людзям гляне,
Змоўкне бура злая?

Загарэўся, задыміўся
Свет вайной, і далей
Дым пажараў пакаціўся
Агнявістай хваляй.

Гінуць людзі, памарнелі
Скарбы іх і сёлы,
Ад крыві пачырванелі
І горы і долы...

Божа мой! Калі уціхне
Гэта трасяніна?
Бляскам сонца калі ўспыхне
Згоднасці часіна?

## ВЫСОКІ БЕРАГ

Высокі Бераг, родны, мілы!
Люблю я твой пясчаны скат
І хвоек нізкіх гурт пахілы,
Капцоў гранічных цэлы рад.

Люблю той лес, што над табою
Высока ўзняў свае камлі;
Яго-ж карэнні над вадою
Нібы вянок табе сплялі...

Струменіць Нёман срэбраводны
Ў тваіх прыўдалых берагах,
А ў лозах ветрык вее згодны,
І ходзіць шум па чаратах.

Высокі Бераг, кут мой мілы!
Люблю я жоўць тваіх пяскоў,
Разложных хвоек гурт пахілы
І ціхі гоман лазнякоў.

## НА РАЗВІТАННІ

Вечарэла і цішала,
І гушчалі цені.
Поле моўчкі пазірала,
Лес — у задуменні.

Той стары лес, праз каторы
Наша йшла дарога.
А над намі, на прасторы
Вольнага разлогу,

Леглі хмаркі самавіта
Доўгаю градою.
Смуткам даль была спавіта,
Як мы йшлі з табою.

Ўдоўж дарогі ў рад стаялі
Стромкія хваіны.
Не гайдаліся, маўчалі
Лапы іх, галіны.

Пастаялі, абняліся
Мы з табою ў лесе,
З горкім сумам разышліся
У густым навесе

Маладых ялін і хвояў
І бяроз пахучых.
Жаль расстання сэрца кроіў,
Горкі жаль, пякучы.

Я спыніўся. Сэрца млела.
Сцішна стала ў лесе,
Толькі лісце шапацела,
Як той дождж па стрэсе

У вечар восені пастылы,
У мрок спавіты шэры,
Як знікаў твой вобраз мілы,
Дарагі без меры.

* * *

Я стаю на мяжы...
Год мой новы! Скажы,
Што будзе са мною?

Цяжак год быў стары...
А якія дары
Ты нясеш з сабою?..

Мне не трэба дароў —
Быў-бы жыў ды здароў,
Былі-б дома жывы,

Дачакацца-б вясны,
Ды вярнуцца-б з вайны, —
Быў-бы я шчаслівы.

## НОВАМУ ГОДУ

Хто нам скажа, хто згадае,
Чым нас новы год спаткае
І парадуе нас чым?

Год мінулы злым прыдаўся:
Тросся свет і садрыгаўся,
Апавіты ў смаль і ў дым.

Наш набытак знішчан прахам.
Неашчадным, страшным махам
Смерць кранулася зямлі.

На сіротах нашых — нівах,
Замест снопікаў шчаслівых,
Густа косці палеглі.

За сяўцоў былі гарматы,
Замест зернятак — гранаты
Шчодра сеялі ў той год.

Незлічонымі крыжамі
След адзначан, дзе з слязамі
Бег разбураны народ.

Гора Белу Русь спаткала,
У свет далёкі люд пагнала.
Цяжак быў мінулы час.

Чым-жа новы год спаткае?
Ці аціхне бура тая?
Чым парадуе ён нас?

## ПЕРАД БУРАЮ

Сінь і глыб без конца-краю,
Ціш і згодачка святая
Неба, землю абнялі.

Сонца зранку жарам пыша,
Ветрык лісце чуць калыша,
Вее чуць паўзверх зямлі.

Лес і поле з збажынаю,
Апавітыя смугою,
Задуменныя стаяць.

І сярод цішы нясмела
Над зямелькаю знямелай
Сталі хмары вынікаць,

Ды так ціха, так пужліва,
Нібы зданкі або дзіва
Невядома скуль ўстае.

Шырыць сонца клуб іх белы
І маланак-громаў стрэлы
Ім на страх зямлі куе.

А зямля як-бы замлела,
Толькі дуб стары нясмела
Зрэдку лісцем павядзе.

Змоўклі ўсе вакол абшары,
Бо замыслілі штось хмары...
Ой, знаць, бура загудзе!

## ДУМКІ САЛДАТА

Разлучыўся салдат з сваёй роднай сям'ёй,
Развітаўся ён з домам сваім.
Знае лес баравы, дзе дыбаў ён ступой,
Што за думкі віліся над ім.

Замірала душа, млела сэрца яго,
Засцілаліся вочы слязьмі.
Кінуў жонку адну і дзяцей... на каго?
Хоць ты з жалю разбіся вазьмі.

Разважае бядак, дом не йдзе з галавы,
Пахілілася з гора яна.
І, здавалася, з ім плакаў лес баравы,
Быццам думка была ў іх адна.

У нязнанай далі мы дачакаемся чаго?
Прападзеш, бы й на свеце не жыў.
І не скажа ніхто, дзе магіла яго,
Дзе ён косці свае палажыў.

Скрозь прагалін лясоў былі хмаркі відны,
У сінім небе іх нікла руно.
І, здавалася, з ім смуткавалі яны,
Як-бы гора было ў іх адно.

Эх, за што? Ну, за што, адкажэце вы мне,
Я павінен другіх зніштажаць
Ці калечыць сябе ў гэтай дзікай вайне
І пад кулі свой лоб падстаўляць?

Вы, што селі ўгары, як вас, каты, назваць?
Не шкада вам нявінных людцоў.
Самадурства сваё вы гатовы купляць
Міліёнамі нашых галоў!

## НА РЭЧЦЫ

Ў бераг высокі, дзе лозы растуць,
За хвалямі хвалі бягуць,

І ўсхліпвае рэчка ў пясках залатых,
Як маці па дзецях сваіх.

І ў беразе вербы злучаюць свой сум
У гэты нярадасны шум.

І неба маркотна, і хмары плывуць,
Іх слёзы на землю цякуць...

Прыбіты вадою на срэбраны гак,
Ляжыць невядомы бядак,

Ваяка-салдацік ад дому ўдалі...
Яму не знайшлося зямлі!

Эх ты, небарака! То знаць па табе
Усё вецер сумуе ў вярбе,

І рэчка у хвалях-жалобе бяжыць,
І смутак імглісты ляжыць...

Ды рэчка заціхне, і вецер засне,
І ласкаю неба зірне,

І ўсё супачыне, спазнае час свой.
А людзям ці будзе спакой?

## ПОЛЕ

Зараслі вы, межы, ў полі
Дзікім зеллем, палыном!
Гаспадар на вас паволі
Раніцой не йдзе з канём...

Нехапіла сіл жаночых
Глыбей землю заараць,
На загончыках сірочых
Травы сталі красаваць.

Вось і трэцяе ўжо лета,
А няма гаспадароў,
Не чутно цяпер да свету,
Як даўней, іх галасоў.

Дзе-ж вы, дзе, браты сяляне,
Што нідзе вас не чуваць?
Ды баяцца на пытанне
Межы свой адказ даваць.

Сіратою глядзіць поле,
Сумна ўдаль бягуць шнуры.
Хто-ж адкажа, што за доля
І дзе іх гаспадары?

І трывожна шэпчуць гоні,
На пытанне шэпчуць мне:
«Ці пабіты, ці ў палоне,
Ці скалечаны ў вайне».

## ГАЙ

Люба ўспомніць гай зялёны,
Сосен пышныя кароны,
Гурт прыўдалы іх камлёў,

Дзе так ціха, так прывольна,
Дзе і сам жывеш супольна
З жыццем хвояў і дубоў,

Што стаяць тут з даўніх часаў
І на хвоі зораць ласа,
Бы на красачак-дзяўчат.

Я хадзіў адзін, маўклівы,
Ды вясёлы, ды шчаслівы,
Думкі думаліся ў лад.

Эх ты, гай! Не раз, бывала,
Тут душа адпачывала,
Сэрца цешылася... Чым?

Толькі-ж хто пра гэта знае?
Ты ды я, ды маладая...
Хто? — пра тое памаўчым!



Якуб Колас з жонкаю Марыяй Дзмітраўнай
і сынам Данілам. 1917 г.

## ГУСІ

Гусі, гусі, вырай вольны!
Сумен крык ваш, гусі:
Леціцё вы ў свет раздольны
З нашай Белай Русі.

Засмуткуюць зноў балоты
Без вас, госці лета.
Занудзяцца, як сіроты,
Лозы там да свету.

Бабыль-вецер на світанні
Пойдзе ў свет шырокі,
Пойдзе ў злосці, буркатанні
Аглядаць валокі.

А вы, гусі, пад аблокі
Крыллямі ўзмахнеце,
Каб не бачыць, як асокі
Гне і ломіць вецер.

Што-ж? Ляціце — для свабоды
Вам і крыллі служаць...
Толькі-ж шкода чагось, шкода —
Па вас далі тужаць.

І гаруе сіратліва
Ў чырвань лес адзеты...
Ой вы, гусі! паняслі вы
За сабою лета!

## МУХА

Ноч. У хаце ўсе паснулі,
Ціха зорачкі мігнулі,
Ў вокны месячык глядзіць.

А пад столлю ў павуціне
Б'ецца муха-сіраціна
І так жаласна звініць.

Гэты жаль на душу сходзіць
І аб леце думкі родзіць —
Шкода лета і цяпла!..

Ночка цьмяна і маркотна,
Ёй уторыць штось гаротна
Звон мушынага крыла.

## ВОСЕНЬ У ГАІ

Гай заціх, бы зачарован.
Шум і спеў яго пахован,
    Гай смуткуе і маўчыць,

Бы душа ў часы змяркання;
Толькі песняй пахавання
    Вецер нудна прашуміць,

А лісцё паміж камлямі
Пажаўцелымі раямі
    Заснуецца, задрыжыць

І на дол на памярцвелы
Так пакорна, так нясмела
    З ціхім шолахам ляціць...

Сумна ў гаі і маркотна,
Толькі лісцечка гаротна
    Штосьці журботнае гудзе.

З гэтай мовайападання
Песню хмурага змяркання
    Думка чуткая вядзе.

## ПЕСНІ ЗІМЫ

Люблю я зімы з маразамі,
Завеі белыя ў палях
І снегу скрып пад палазамі,
І ціш зімовую ў лясах.

Люблю я ветру спеў гаротны
Ў сялянскіх комінах пустых,
На полі белыя палотны —
Абрусы хмарак снегавых,

Што засцілаюць лугавіны
І далі ціхія палёў.
Мне любы елкі і хваіны
Пад белай посцілкай снягоў.

У гэтых з'явішчах свабодных,
У тых малюнках халадоў
Так многа песень, сэрцу родных,
Адбіткаў мілых мне гадоў.

## ДАРОГА

Ад кургана да кургана,
Ад гаю да гаю
У пяць нітак легла цьмяна
Дарога крывая.

То лясок, то луг, то поле,
То лужок зялёны...
Эх, прастор! Эх, воля, воля
І балот разгоны!

І куды бяжыш, дарога,
Тканка ног і кола?
Ды маўчыць пуцінка строга,
Не гавораць долы.

Ну, што-ж? Далей, гайда далей
За узгоркі тыя!
Не стрымацца нам: мы — хвалі
Ціхія рачныя.

## ВОРАГАМ

За што лілася кроў людская?
За што гібеў і гінуў люд?
Гібеў набытак ўсяго краю
І пакаленняў гінуў труд?

І бег народ, бы ў час паморку,
Закрыўшы вочы, ў белы свет,
І толькі дым ўздымаўся горкі,
Крыжы азначвалі іх след.

А колькі нашых дзетак мілых
Па тых шляхах вайны ляжыць.
Пануе ціш на іх магілах,
І край разбураны маўчыць.

І вы цяпер рукамі ката
Гатовы згоду даравацъ?
Але ці можна у вас брата,
Скажэце, каіны, прызнаць?

Вам не па сіле груз цяжэрны
Вайны, што самі вы ўзнялі,
Знішчэнне, мах яе бязмерны,
Згінота цяжкая зямлі!

Не вы дасце народам свята,
Не вам пажар вайны заліць!
Дык рукі прэч, забойцы, каты!
Не вам аб згодзе гаварыць!

## ПАЛЕССЕ

Край лясоў, край балот
І туманаў гнілых!
Хоць і бедна ў табе,
Хоць у лозах тваіх
Вецер жудасна ўвосень шуміць,
А ўсё міл ты мне... Чым?
Я не ведаю сам,
А твой вобраз маім
Прыглядзеўся вачам,
Да цябе маё сэрца ляжыць.

Я люблю твой прастор,
Гмах шырокі балот,
Дзе бубняць бугаі,
Дзе красуе чарот,
І дзе травы, як мора, ляглі.
Калі лес там, дык лес:
Можна тыдзень дыбаць;
А прастор, дык прастор —
І канца не відаць,
Не ахопіш, не змерыш зямлі.

Я люблю твой спакой,
Яснасць ціхіх дзянькоў,
Залаценькі убор,
Тую чырвань лясоў,
Што на сонцы увосень гарыць.

Я далёка цяпер
Ад палескіх раўнін,
А люблю-ж я той край,
Бы яго родны сын,
І па ім маё сэрца баліць.

* * *

Прайшлі незваротна дзянькі залатыя,
Адспеваны песні вясны маладыя,
І краскі пажоўклі, павялі.

І толькі ўспаміны, як зоркі ў тумане,
Мігнуцца, засвецяць... І сумна так стане, —
Дзе моладасць? Мары? — Прапалі!

* * *

Тая-ж самая даль, той-жа самы разлог —
    Неаглядны прастор небясоў,
Дзе хмурынкі плывуць па дарозе, што бог
    Ім прызначыў з пачаткаў вякоў.

Усё гамоніць вакол, і шуміць, як даўней,
    Гэты лес векавы, гэты бор.
А чаго-ж цяжка нам? Які злы сухавей
    Закружыўся, узняўся з-за гор?

Як увосень туман аблягае лугі
    І палёў задуменную даль,
Так на сэрцы ляглі плямы чорнай тугі,
    А мінулых дзянёчкаў так жаль.

Эх, не вернеш ты іх, гэтых светлых дзянькоў,
    Толькі цені іх ў сэрцы жывуць.
А як міл гэты свет і прасторы стэпоў,
    Дзе прыгожыя хмаркі плывуць!

## ДЗВЕ ДАРОГІ

Над балотам, над лясамі
Жураўлі крычаць,
Бы сваімі галасамі
Хочуць вестку даць,

Што цяпло мінецца скора,
І заглухне бор,
У полі сіняга прастору
Ты не ўгледзіш зор,

Што нагоніць хмар вятруга,
Наплыве туман,
І абніме гора-туга
Поле, лес, курган.

Разам з вамі ў вольны вырай
Палячу і я,
Толькі-ж к смерці стане бліжай
Сцежка там мая.

Леціцё вы ў край паўднёвы
Зіму пераждаць,
Каб на весну песняй новай
Родны кут вітаць.

А я еду, госці лета,
У той крывавы вір,
Дзе вар'яцтва ўсяго свету
Свой спраўляе пір.

## ЗЯЦЬ

### I

Цешча к зяцю прышла ў госці.
Ой, сярдзіты быў той зяць!
Ні пяшчоты, ні мілосці,
А ў мінуты гневу, злосці
Мог і лейцы ў рукі ўзяць,

Каб паставіць па-сваему
Ды ў свае ўзяць абцугі.
Не праціўся лепш Ахрэму:
Дасць па карку і — халэмус!
Строгі, хай яго багі!

І пытае дачку маці:
— Ну, дачушка, як жывеш?
Як паводзіцца у хаце?
— Ох, матулька! Што казаці —
Прападзеш з ім, прападзеш!

Маладзіца тут у слёзы,
Бэсціць мужа і кляне:
— А бадай яго залозы!
Буркатня адна, пагрозы.
Вокам ласкі не зірне.

То яму дзяжа не чыста,
То хлеб прэсны і сыры...
Ой, які ўжо наравісты!

Хоць ты падай прад ім лістам —
І да трох не гавары!

Будзіць рана да работы,
Нібы наймічку-слугу,
А рабіць няма ахвоты.
Гора з ім адно, згрызоты —
Жыць тут болей не магу!

— Плюнь, дачушка! — кажа маці.—
Чорт яе з пакораю!
Што сябе дарма згрызаці?
Заваліся на палаці
Ды прыкінься хвораю!

Ляжы, нібы ў агні,
Ды войкай, ды стагні
І ад сябе яго гані.
Пячы сабе яечню,
А гаду таму, жоху —
Нішчымнага гароху:
Раняць дух не канечна! —

І давай вучыць старая,
Як горш зяцю дапячы.
А ён дзверы адчыняе!
— Так, так, матка, навучы,
Каб цябе зямля сырая!
Каб разумная ды добрая была,
Ты-б на троп дурную навяла,
На дабро-б накіравала,
Гультаіна ты, завала,
Звадыяшка ты, сава,
Дубовая галава!
Ты ў чыю-ж гаворыш руку
І сыкаеш вужакаю?
А ну, цешча: за навуку,
Хадзі, вось я падзякую!

Вывеў цешчу ён вон з хаты,
Ды ў борану яе ўпрог!
Аж бразджаць у цешчы пяты,
Проста пыл курыць з-пад ног,

Цягне борану па полі,
Толькі стрыбалкі мігцяць.
— Ся, малая! Гэй, паволі!
Но, кабыла! — свішча зяць.
Выпраг цешчу зяць сярдзіты,
Ды па цешчы пугаўём!
Цешча коціцца кулём,
Ды праз поле, ды праз жыта
Смаліць к дзеду перуном.

II

Прычхала дадому,
Засопшыся, цешча,
На зяця старому
І верне і плешча —
Такі-ж ён паганы,
Такі ўжо зацяты,
Тыран над тыранам,
Ён — гэрад праклятый!
Гатоў ён за словы —
Паслаў ім бог зяця! —
Вазіць з лесу дровы,
Табою араці,
Яе ўзяў у клешчы,
Ганяў на палетак.
І кончыла цешча
Прамову вось гэтак:

— Ой, барзджэй ты, дзед, збірайся,
Ідзі дочку ратаваць!
Толькі-ж сам асцерагайся:
Гэта кат нам, а не зяць!

А дзед слухаў, зубы сцяўшы, —
Ці праўдзіва-ж гэта весць?
І, нарэшце, палку ўзяўшы,
Сам да зяця ідзе цесць.

За дзвярамі зяць стхарыўся,
Вуха к дзірцы прылажыў,
Слухаў ён, не варушыўся,
Што цесць жонцы гаварыў.

— Ой, дурная-ж ты, дачушка!
Ці-ж без працы можна жыць?
Выкінь дур ты гэту, служка!
Мужу трэба наравіць.

Ён, няпраўда, не нягодны,
Не дурны ён, не гультай.
Дык жывеце, дзеткі, згодна
Ды язык ты свой трымай.

— Люба слухаць, што да ладу! —
З-за дзвярэй гукае зяць: —
За разумную дараду
Ты на покуць, бацька, сядзь! —

Пасадзіў за стол старога:
— Смаж, брат жонка, каўбасу,
А я скочу да Крывога
І гарэлкі прынясу.

Запішчалі ў печы скваркі,
Аж звініць скаварада.
З рук у рукі ходзіць чарка,—
Чэсць такая, што бяда!

Выпіў цесць і з'еў на славу,
Хоць жывот распераЖы.
Зяць уважны і ласкавы,
Хоць да раны прылажы!

— Захадзі-ж да нас, старэчы,
Ды часцей, не забывай! —
І ўзваліў яму на плечы
Здаравецкі каравай.

Дзед ідзе сабе, спявае,
Нібы зяць адмаладзіў.
Каравай ён ледзь трымае,
Аж плячук наверадзіў.

Цешча рукі заламала,
Дзеда згледзеўшы здалёк:
— Во! я барану цягала,
Цесць з ярмом дамоў уцёк!

## ПАСЛУШНАЯ ЖОНКА

I

Эх, Тацянка! Эх, дзяўчынка!
Дзе радзілася яна?
Таня — гожая былінка,
Таня — красачка, вясна.
Не дзяўчына — чараўніца,
Свет схадзі, такой няма,
І ў палацах-камяніцах
Будзеш ты шукаць дарма,
Бо не знойдзеш такой кралі,
Як Тацяна Чабарок.
Губкі тыя — ну, каралі,
Бровы — дужачкі-шнурок.
Тонкі стан і тварык белы,
Вочы-зоры — ясны дзень,
А як кіне погляд смелы,
Так і згоніць з сэрца цень.
Дух захваціцца хлапчыне,
У крыві агонь гарыць,
Як вачамі толькі ўскіне
Або смехам адарыць.
Сохлі хлопцы па Тацяне,
Увіваліся за ёй
На вячорках, на гулянні, —
Ды ў Тацяны нораў свой.

Ну, і непакорная,
Ну, і наравістая —

Не кажы да трох!
Бойкая, праворная,
Гора з ёю чыстае, —
Ох, Тацянка, ох!
Толькі і камандуе,
Толькі і загадвае —
Любіць весці рэй.
Ходзяць хлопцы бандаю,
Ды гадаюць надвае
Цішка і Андрэй:
Ажаніся — клопату
Набярэшся многа ты,
Нажывеш бяды.
Будзе шуму-лопату
І людскога рогату,
І свішчы тады.
Хочацца і колецца —
Лёгка заняволіцца:
Дзеўка — крапіва!
Ходзяць хлопцы, галяцца,
Думкі-ж як наваляцца,
Ходзіць галава.

На ўсе рукі хват Даніла,
Спрытны хлопец і дужэц.
Ростам — сажань, плечы — сіла,—
Адным словам, маладзец.
Толькі-ж... эх, падбіт Даніла.
Чым? Дзявочым харaством...
Эх, Тацяна! Што зрабіла
Ты з Данілам малайцом?
Ды Тацяна маладая,
Калі праўду ўжо сказаць,
На Данілу паглядае
Больш, як трэба паглядаць.
А Даніла ненарокам
Таню-любку пакахаў.
Аб красуні сінявокай
Сніў і марыў і ўздыхаў.
І як тут ён ні стараўся
Чары любасці разбіць,

Але сам сабе прызнаўся,
Што без Тані і не жыць,
І што там ні стане,
Яго будзе Таня.
А сам кажа: «Быць не можа —
Уламлю цябе, нябожа,
Будзеш шоўкавая ты!»
І да Тані йдзе ў сваты.

II

Жывуць Таня з Данілаю,
І цешыцца ён мілаю,
А сам ходзіць злы, пануры,
Нездаволены і хмуры,
І на словы з ёю скупы,
Дзьмецца ўсё, бы мыш на крупы.
Жонка толькі паглядае,
Ды нічога не згадае.
«Чаго смуцен, мой Даніла?
Ці я чым не дагадзіла?
Ці ўжо стала нямілаю,
Што глядзіць ён магілаю?» —
Запытала раз самога.
А ён толькі буркнуў строга:

— Будзеш усё ведаць —
Хутка пастарэеш...
Ось давай абедаць —
Потым зразумееш.

Прамаўчала маладзіца,
За стол мужа просіць сесці,
Бо спрачацца ці гадзіцца?
За стол селі, сталі есці.
Раптам пеўнік дзесь з-за печы,
Як і робіць ён спрадвеку,
Ці ў свой час ці недарэчы,
Як зацягне — кукарэку!
Раззлаваўся наш Даніла
І за печ зірнуў няміла:

— Кыш, маўчы!.. Маўчы, зараза!
А ні чхні! — А пеўнік — зноў.
— Крыкні, ну, яшчэ з поўраза,
Галава твая далоў!

А Тацянка — зірк на мужа:
«Гэ! няўжо ты злы такі?»
І спалохалася дужа,
Аж кальнула пад бакі.
Пеўнік, дурань, не стрымаўся,
Галаву ўгару задраў —
На поўпесні абарваўся,
Бо Даніла не ўтрываў:
Хоп за пеўня! на калодку,
Галаву нажом адсек!
Жонку кінула ў дрыготку:
«Ну й сярдзіты-ж чалавек!»
А Даніла хоць-бы слова,
Кінуў пеўня, сам за стол.
Таня пеўніка ў прыпол,
Скубе пеўня адмыслова
І так спрытна — глянуць міла:
Каб ён толькі не злаваў.
Адвярнуўся ў кут Даніла,
Смех яго апанаваў,
Ды нічым тут не азваўся
І ўсё злосны, бы той воўк.
А тут кот адкуль ні ўзяўся
І пад локаць яму — тоўк!
— Псік, не лезь! — а коцік трэцца.
— Таўкані яшчэ — капут!
Тут Тацянка як сарвецца:
— Псік, дурніца, шалапут!
Сама-ж думае сабе:
«Секане ката па лбе!»
За катка і — гоп за дзверы!
— Псік! Хавайся! Уцякай!..
І сярдзіты-ж ён без меры!
Ой, Данілы не чапай,
Ой, Данілу не пярэч:
Галаву гатоў адсеч!

III

У вольныя хвіліны
Збіраюцца мужчыны
На прызбе ці так дзе.
І гутаркі жывыя,
І жарты дармавыя,
І смех там загудзе.
Ну, словам, як вядзецца,
Гаворка іх пляцецца,
Не знаючы цэнзур,
Ні густу літарацкага,
І слова забіяцкага
Не чэшуць тут пад шнур.
Гаворка йдзе супольная,
Квяцістая ды вольная,
Як коціцца той вал.
Без повада, без вобруці,
Усім вядома, добра йсці,
На ліха тут капрал?
Затое-ж, мае братцы,
Як спрэчкі разгарацца —
Паслухаць іншы раз!
Зайшла і тут гаворка —
Даруй ты мне, Тадорка, —
Зачаў яе Тарас,
Хто мае жонку слаўную,
Паслушную ды спраўную, —
Ну, словам, пра жанок.
Крычалі, аж стаміліся,
І чуць-чуць не пабіліся
З Будзілкам Лабанок.

— Куды варты вашы бабы?
Да работы яны слабы,
А вось Тэкля — дык але:
Баба першая ў сяле!
І паслушна, працавіта,
Да работы прагавіта,
Уварві ды падавай! —
Хваліць жонку Каравай.

— Што?! — Крычыць Пятрусь Тачыла. Мая Ганна — ўсім прыклад!

— Ці-ж? А мешалкай вазіла, — Петруся кальнуў Ігнат.

Крык і гоман разрастаўся,
І канца ім не відаць.

Тут стары Базыль падняўся:
— Хлопцы, ша! Нашто крычаць?
Крыкі спрэчкі не развяжуць...
Слухай, Пётра і Кандрат:
Няхай нам жанкі пакажуць,
Ну, паслушнасці прыклад.

Палажылі грамадою
Жонкам пробу учыніць.

— Пётра! Справа за табою —
Годзе, досыць гаманіць!
Рушыў Пётра першы з места
І махае рукавом:
— Эй, Ганула! Скажу нешта,
Ну, скарэй адно, бягом!

Ганна, праўда, падбягае,
Нос уцерла аб падол...
— Ну, чаго табе? — пытае,
Азіраецца вакол.

Змоўклі хітрыя мужчыны.
Муж пачаў свой прыгавор:
— Бачыш, Ганна: унь драбіны —
Завязі іх на свой двор!

— Што?! — Ганула перабіла. —
А бадай ты не дваждаў!
Хіба я табе кабыла,
Каб мяне ты запрагаў?

Так Пятруся адчытала,
Што Пятрусь, як пень, стаіць;
І ў другіх ахвота спала
Баб пры людзях зачапіць.

Тут Даніла засмяяўся,
Ўперад вышаў і сказаў:
— Я таго не спадзяваўся,
Каб верх жонцы муж аддаў.
Вось Тацяна — срэбра літа.
Хто тут з вашых ёй раўня?
І разумна, працавіта,
І пакорна, як ягня.
Эй, Тацяна! Сюды, жыва!

Міг — з'яўляецца яна,
Падбягае і маўкліва, —
Мусіць помніць певуна, —
На Данілу пазірае.

А ён толькі ссунуў броў:
— Бач, цялежка вунь старая,
Зацягні яе дамоў!

І Тацяна за драбіны,
Ды бягом з канца ў канец!

— Во, Тацяна малайчына!
Во, Даніла маладзец!

## ДОКТАР ПАМОГ

I

Смачна спіць Лукаш на печы,
Ў сцену ўпёршыся нагой,
Парыць спіну, грэе плечы,
Грае носам, як дудой...
Што за ліха? Спіць, а чуе
Нейкі енк, бы з-пад зямлі,
Як-бы плача хто, гаруе,
Або дух чый занялі.
Цёмна ў хаце. Ноч глухая.
Вецер ходзіць за сцяной.
Енк-жа гэты не сціхае:
— О-о-ё-ёй! Ох, о-ё-ёй!
Працірае Лукаш вочы,
Паднімае галаву.
Што за ліха? Хто скагоча?
Як-бы душыць хто саву!
Зноў пачуўся енк у хаце,
Тут і сам ён застагнаў.

Лукаш

Ты, ці што, там енчыш, маці?

Кася

Я!.. Ой, цяжка, каб ты знаў!
Я, Лукашка, я, саколю!..

Аж заходжуся ад болю!..
Оё-ёй!

Лукаш

Што, зноў жывот?..
І так кожны божы год!
Бадай яе ліха
З гэтаю хваробай!
Вось тут і гадай ты,
Патыліцу скробай!
От дзе кара божа!..
Ноч, слоць, бездарожжа!..

З печы злез Лукаш сярдзіты,
Шлёпнуў босаю нагой,
Спатыкнуўся на карыта,
Ў прыпек грукнуў галавой,
Выграб з ямкі вугляў пару,
Скачуць іскры — злосна дзьме,
Толькі грае бляск ад жару
І дрыжыць у нуднай цьме.
Запаліў Лукаш газніцу,
Хатку цьмяна асвятліў.
Злосць і шкода маладзіцы:
Ці-ж яе ён не лячыў?
Ці не ездзіў па знахарках,
Абармотах-знахарох?
Ды што толку ў недавярках?
Хоць адзін з іх ці памог?
Толькі грошы йшлі, як сліна,
Йшлі, а помачы няма.

Лукаш

Што з табою, Кацярына?

Жонка

Ох, не ведаю сама.
Ўсё баліць ва мне, Лукашка.
То ў жар кідае, то ў пот.

Так мне кепска, так мне цяжка!
Рве і тузае жывот.

Лукаш

А мо' ліпаў цвет паможа
Ці румянак з чабаром?..
Падарвалася, нябожа,
Што ўсё енчыш з жыватом.

Моцна жонка заняпала,
Падкасіла яе хвор.
Лукашу відочна стала,
Што не вылечыць чабор.
Змянілася жонка з твару:
Вочы ўпалі, вытырк нос,
Шчокі чырваны ад жару,
Холад нейкі яе трос.

II

А тым часам і світала,
Як Лукаш запрог каня.
Пазавугаллю гуляла
Віславухая свіння.
Ціха весніцы скрыпелі,
Мерна біў у току цэп,
Жорны басам песню пелі,
Церлі зерняты на хлеб.
Чуўся гоман каля студні,
Вёдзер стук, дзявочы смех,
І гудзеў ужо у кузні
Кавалёў хрыпаты мех.

Восень позняя стаяла, —
Час нягоды, халадоў.
Непрытульна пазірала
З-пад туманаў даль палёў.
З нізкіх сівых хмар, як слёзы,
Дожджык падаў, вецер выў,
Ды гудзелі глуха лозы.

Лес маркотна гаманіў.
Цьмяна, глуха, як у скрынцы —
Недалёка, знаць, зіма.
Між прысадаў па гасцінцы
Нікагусенька няма.
Хто паедзе ў слоць такую?
Хіба гэтака душа,
Што патрэбу мае злую,
Як, сказаць, у Лукаша.

Едзе ён адзін душою,
Закруціўшыся ў бурнос.
Конік клыгае ступою,
Грязь плюскоча з-пад калёс.
Ён не ў гумары, сярдзіты,
Долю горкую кляне:
«Доля, доля, прападзі ты,
Адчапіся ад мяне!
Ось была яшчэ дзе кара —
Каб яно пайшло агнём!
Дарма лясне рублёў пара —
Счысціць хвор яе мне дом!

А ці будзе помач тая,
Грошы сып, не пазірай.
Фельчар здорава здзірае, —
Мусіш даць, як ні віляй.

Фельчар жыў не так далёка.
Гэта быў стары дзядок.
Ён лячыў усіх «на-вока»:
Раіў хіны парашок,
Соль люберскую, рыцыну
Ад ўсіх боляў ужываў,
Майстар быў ён зрэзаць спіну, —
Адным словам, памагаў.

Праз якіх дзве-тры гадзіны
Едзе з ім Лукаш у двор,
А у беднай Кацярыны
Разрастаецца ўсё хвор:

Стогне, енчыць беспрастанку
Пад дзяружкаю старой.
Не сціхае боль ад ранку,
Толькі й чуеш — о-ё-ё-ёй!
Фельчар зараз распрануўся,
З торбы струманты дастаў,
І Лукаш не аглянуўся,
Як ён банак насмаляў,
Зрэзаў спіну, і не знайся.

— Жыва будзеш, не памрэш,
Ачуняеш, не пужайся,
Кучу хлопцаў навядзеш.
Парашкоў не ўзяў з сабою,
Дык прышлю на злоты пяць.
Вып'еш — зніме, як рукою,
Пойдзеш — дошкі зарыпяць!

III

Мокры, злосны і галодны
Стаў Лукаш на свой парог,
Азірнуў ён кут свой родны,
Свой нярадасны бярлог.
Азірнуў — і што за дзіва?!
Проста хаты не пазнаць:
Жонка зорыць так шчаслiва,
Крыку, енку не чуваць;
Хусткай чорнаю закрыта
Каля хворае акно;
Стол і лавы — ўсё памыта.
Што-б -то значыла яно?
У парадку ўсё, прыбрана,
Як-бы коляды прышлі,
І абрусам стол засла624ны,
Як у свята, да зямлі.
Не адходзячы ад клямкі,
Грозна ён глядзіць у кут.
Лукашу зусім няўцямкі,
Чаго бабка снуе тут.

Бабка ў хаце — гаспадыня,
І за ўсім сама глядзіць,
Ўсюды вока сваё кіне,
Ўсё ў руках яе кіпіць,
Робіць жыва ды рухава,
На ёй белы хвартушок,
Пазакасаны рукавы,
Хустка скручана ў кружок.
Ён яе перш не замеціў,
І стаіць як-бы той слуп.
Ціха ў хаце, змоўклі дзеці,
Ў бабкі смех не сходзіць з губ.

Лукаш

Што вы ўсе папруцянелі?
Ці батрак я вам? Слуга?

І ў той момант на пасцелі
Чуе ён — «куга! ку-га!»
Тут Лукаш ступіў два крокі,
Грукнуў шапкаю аб печ,
Злосна зняў бурнос шырокі:
— Трэба рэзаць вас і сеч! —
Загукаў ён сярод хаты,
Бровы ссунуўшы на нос. —

І чаго-ж мяне лазаты
Чорт па фельчара панёс?!
Гаварыла-б, што радзіны,
Га, каб вас пабіў пярун!
А то не, лячы ім спіны...
Трасца трэба вам, бізун!
Я гайсаю, як сабака,
Ад поўночы да поўдня,
Мокну, гнуся у кульбаку,
Сорак раз зганяў каня.
А той чорт і рад, халера,
Недаверак, лысы пень!
Што яму, сабачча вера,
Каб ён спух у гэты дзень! —

Бабка нораў яго знае:
Толькі-б момант улучыць —
Пройдзе злосць яго пустая, —
Няхай лаецца, крычыць.

А Лукаш у гнеў ўваходзіць,
Хмурыць бровы, зубы сцяў
І вачамі грозна водзіць,
Хто-б пад злосць яму папаў.
Вось папругу ён знімае —
Пра лякарствы і забыў:
Ці ў кішэнь, ці чорт іх знае,
Ці куды ён залажыў?
Толькі ён расперазаўся —
І бутэлечкі дзын-дзын!
Лукашоў тут гнеў прарваўся:
— Вот як, я іх, чортаў сын!
Вот як! Вот як! — ходзяць боты,
Як калёсы з-пад гармат.
— Прападай чатыры злоты!
Падавіся імі, гад!

Бабка

Ах Лукаш! Які паспешны!
Даў прыбытак яму бог...
Ты, Лукаш, сапраўды смешны,
А вось доктар і памог!

Бабка хітра так міргае,
І Лукаш адразу звяў:
«А мо' й праўда, чорт іх знае!..»
Гнеў яго увесь апаў.
Ён і сам быў рад, прызнацца,
Што такі канец бог даў,
Толькі-ж брыдка зразу здацца.

Бабка

Ты-б наўперад запытаў
(Бабка бліжай наступае,

А Лукаш даў крок назад.)
Сын ці дочка? А то лае...
Сам ва ўсім ты вінават.
Гэт, патрэбны твае страхі.
Ух, як страшна, а-я-яй!

У бабулькі тут з-пад пахі
Вытырк бутлі светлы край.

Бабка

Вось ідзі зірні на сына:
Увесь як ты, каб я жыла!

Гэта добрая навіна
У радасць бацьку прывяла.

Лукаш

Ты, бабулька, малайчына!
Я даўно ўжо так казаў...
Вып'ем, бабка, каб бог сына,
Каб усіх нас гадаваў!

## ЗА ДОЖДЖ

I

Ну-ж, была вясна сухая —
Люд такой не памятаў!
Як уляжа, як зайграе,
Дык канца сабе не мае
Сухавей, каб ён прапаў:
Так і ду́дзіць, так і ду́дзіць
Ад усходу да цямна,
Проста вушы намарудзіць
І пяскі ў палях абудзіць, —
Ну-ж, вясна была, вясна!
Ад зімы і да Міколы
Хоць-бы дождж прайшоў на час.
Люд гаротны, невясёлы
Йшоў у цэркві і касцёлы,
У неба глянуўшы не раз.
Валакліся на малебны,
Каб бог дожджык дараваў,
Дожджык пільна так патрэбны
У той час ліхі, ганебны
Для збажынкі і для траў.
А той дождж не вёў і вухам,
Як-бы ён прапаў суздром,
Хоць ты ў неба бі абухам,
Хоць ты дохні пад кажухам,

Хоць у сценку стукай лбом!
Рэчкі ўсюды памялелі,
Пераходзяць куры ўброд.
І стаяць па дзве нядзелі
Згоны, збіўшыся на мелі...
Эх, марнуецца народ!

Поп і ксёндз не памагалі,
Вецер вухам не павёў.
Хмары спалі ці прапалі
І на шэлег не зважалі
Ні малітваў, ні тых слоў.

II

У сяле трывога,
Непакой, згрызота.
Охкае Гілёрык,
Божкае Дарота:
«Будзе галадоўля,
Людзям безгалоўе,
Прападзе збажынка,
Знішчыцца скацінка...
Дзе той дождж падзеўся?
Што ён так марудзіць?
Божа ты мой, божа!
Што ўжо гэта будзе?»

Загулі кабеты,
Як у вуллі пчолы:
«Трэба даваць раду,
Выратоўваць сёлы,
Ліха насланое
Трэба нейк адвесці —
Не жывым-жа ў зямлю,
Родненькія, лезці!
Есць-жа тут прычына,
Есць яна, няйначай.
Выкрыць яе трэба,
Вось у чым задача.

Можа даўся ў знакі
Людзям грэх Пiлiпаў:
Гад, у пост вялікі,
На скрыпулі рыпаў!
Можа, Сёмка вінен,
Што папа аблаяў,
Ды плявузгаў, быццам
Няма пекла, раю.
І такой распусты
Прыкладаў нямала:
Грышка спавядаўся,
Нажоршыся сала!
Не шануюць людзі
Ні пастоў, ні свята.
Хлопцы, падлы, дураць,
Дураць і дзяўчаты.
І калі наогул
Глянуць справядліва,
Папсаваны людзі,
Мілачкі, на дзіва!»

Уздыхнула тут цётка Тарэся:
— Дарма, жаначкі, злуецеся!
Праўда, грэшым мы, грэшым,
Чорта лысага цешым,
Ніводная з нас не святая,
Толькі-ж прычына не тая,
А паслухайце лепей мяне вы:
Усё ліха пайшло ад Матэвы!
Гэта ён, ліхадзей,
Наклікаў бяду на людзей!
Ну, дзе-ж быць дабру, падумайце самі,
Плот гарадзіў між Юр'ямі!
Я й казала: «Кінь, трапёны!
Хто гародзіць між Юр'еў?!»
А ён: «Гэта забабоны!
Напляваць на іх!» — Шалёны!
Лаяў, гад, з апошніх слоў
Старасвецкія ўстановы,
І дзядоў не шанаваў.
А не цяміў, безгаловы,

Што, стаўляючы плот новы,
Суш тым самым наклікаў.
Вы-ж на кем вазьміце самі,
Хіба можна так рабіць —
Нішчыць звычай, што не намі,
А складаўся ўжо вякамі,
І вякі ён будзе жыць?

III

Вось дзе яна, тая прычына!
І дзіва, што дажджу няма!
Ах, Матэва, Матэва-чума!
Ах, паганец-жа ён, лайдачына!

Напусціліся адразу
    Цёткі на Матэву:
«Разарваць яго, заразу!
    Прывязаць да дрэва!
Абармот ён, абармот!
    Вось зрабіў хто шкоду!
Знішчыць к чорту гэты плот,
    Каб не было смроду!»

— Ой, гарачкі не парэце!
Як рабіць, то ўжо рабіць,
А не бух-барах!.. Маўчэце!
Так не робяць справы ў свеце:
Мала плот той разбурыць! —
На платформу выступае
Кацярына Верабей
І адразу ўсіх спыняе
І на свой бок пахіляе,
Ды сама вядзе ўжо рэй:
— Трэба ў ночачку да ўсходу
Двойчы Нёман праараць,
Каб адвесці перашкоду,
Ды самім саху па броду,
Жаначкі, нам пацягаць
І тады ўжо плот мітрэжыць,
Каб ён там і не смярдзеў.
Так, жанкі, рабіць належыць,

Каб паветра нам асвежыць,
Каб мінуў нас боскі гнеў.

І што скажаш насупроці?
Праўда ўсё, вядома рэч,
Дык маўчы і не пярэч:
Справа тут не толькі ў плоце.

IV

Ночка. Хаты, бы сляпыя,
Цёмнай плямаю стаяць.
Глухі вуліцы пустыя.
Моўчкі вербачкі крывыя
Думку нейкую таяць.
Дзесь агеньчык над ракою
Прабіваецца скрозь мрок,
Ды працягла свіст парою,
Сэрца рэжучы жудою,
Нудна коціцца здалёк.

— Ціха вы, не гаманеце,
Бо абудзіце сяло!
Соху ў Дворны брод нясеце...
Юзя, Ганна! не драмлеце!..
Стой! Куды вас панясло?
Ды скарэй адно, скарэй! —
Кацярына вядзе рэй,
Так і звоніць, бы званок,
Ды парадкуе жанок,
        Прызначае ролі
        Тэклі і Аўдолі,
        Зосі і Настулі,
        Каб саху цягнулі.
        — А ўжо ты, Марыся,
        За рагач бярыся,
        Або ты, Агата,
        Будзь у нас араты. —

Прыпынілі жанкі гоман
Ды з сахой ідуць на Нёман,

Ідуць важна, урачыста,
Каб зрабіць, як ёсць, начыста, —
І замкнёны дождж, як трэба,
На зямельку звесці з неба.

Вось і Нёман мелкаводны,
Бесстаронні і халодны,
Гоніць-коціць срэбра-хвалі
На заход, у тыя далі.
Месяц круглы, бледналіцы,
Як пірог той на паліцы,
Свеціць шчыра, колькі можа
З палавіны падарожжа.
Ясны месячык! Ты многа,
Ціха свецячы ўначы,
Бачыў смешнага і злога,
Ды не выказаў нічога,
І цяпер ты памаўчы.

Паднялі жанкі падолы
Ды аруць пясочак голы,
Раз прайшлі з сахой па бродзе
І другі прайшлі і годзе.
Зноў гуртом нясуць саху
І хаваюць пад страху,
Бо мужчын яны баяцца:
Ім-бы толькі выскаляцца,
А ў Каруся Дзівака
Год не сойдзеш з языка.

V

Нарабіў клапот
Той Матэваў плот!
Каля таго плоту
Расчалі работу:

Валяць гуртам жанкі нашы,
Як гавяда ўвесну з пашы,
Іх вядзе Тарэся
І вядзе пад плот Матэваў,

Пад той плот, што дождж угневаў,
Свет яму завесіў.
Сам Матэва дзесь на сплаве,
Сын Матэваў спіць на лаве,
Ды не спіць Аўгеня;
Пад свой плот імчыцца лётам,
Прытаіла дух пад плотам,
Цісне кій у жмені.
Бо хто-ж, беднай, ёй паможа,
Як не гэты ёмкі вожаг,
Плот абараніці?
Прагна ловіць вухам зыкі,
Чуе — тлум ідзе вялікі,
Ловіць словы-ніці.
А Тарэся — вось хвароба! —
Сыпле словамі, як бобам,
Вось ужо здалася!
Няма канца таму спеву,
І ўсё плешча на Матэву!
«А, каб ты спраглася!
Ну, чакай-жа ты, брахуха!
Што-ж ты плешчаш, падла-шлюха?
Дакраніся плоту,
Адаб'ю ахвоту!»

— Вось ён, плот, няшчасце наша!
Тут заварана ўся каша!
Раскідайце чортаў плот!
— Раскідаць мой плот?! Папробуй!..
Ах ты, гадаўка, хвароба!
Абармот ты, абармот! —
І Аўгеня — шусь з засады,
Не яна — дасць вожаг рады,
А Тарэся — крок назад.
Анямелі жанкі нашы,
Так іх вожаг той настрашыў, —
Не кабета, а вар'ят!
Няўжо марна іх турбота?
Нё-ж назад вярнуць ад плота?
Не, пастой, брат, дудкі!
Не дажджэцца яе ліха,

І Тарэся, як ваўчыха,
Налятае хутка.

Тарэся

Не палохай, не палохай,
Шлюндра ты і замазоха!
Не махай мне кіем!
Распусціла губы-трубы!
Як махну, дык збярэш зубы
І не так завыеш!

Аўгеня

Ах, ты кручаная сука!
З-за цябе ўвесь свет гарыць.
Гэта ўсё твая навука!
Ўсюды поўзаеш, гадзюка.
Каб каго дзе падкусіць,
Каб цябе нуда кусала,
Каб ты поўзала сама,
Каб спакою ты не знала
І дзяцей не аглядала,
Каб цябе ўзяла чума!
Каб ты, даў бог, піць маліла,
Сама стоячы ў вадзе,
Каб на горах ты хадзіла,
Ды каб сонца не свяціла
У вачах табе нідзе!

Тарэся

А каб ты крычала на свой жывот!
Каб табе язык павесілі на гэты плот!
Гарадзілі яго, каб табе загарадзілі вочы!
Каб ты-ж век тут хадзіла па ночы!
Каб ты не даждала святой нядзелі!
Каб на твой язык скулы паселі!
А каб цябе задушылі залозы!

Каб праз твае рэбры сена цягалі козы!
Каб цябе заела нуда!
Брыда ты, брыда!
Падла насатая,
Ведзьма праклятая,
Заткала дурное!..
Вон пашла ты, ліха насланое!

Аўгеня

Ой ты, мешалка, завала!
    А, няшчасны квач!
Каб мяне яна вон гнала?!
    Вось табе — пабач!

Павярнулася Аўгеня
    Дынамічна, шустра
І збянтэжанай Тарэсі
    Паказала... «люстра»!

Не сцярпела Тарэся абразы,
На Аўгеню насела адразу,
Ды Аўгеня стала рубам —
Як-бы дуб саткнуўся з дубам!
Загулі яны, як восы,
Міг адзін — і хоп за косы!
    Зашчамілі зубы,
    Гыркнулі ад злосці,
    І няма тут жалю,
    Ні тае літосці.

    — Ну, што? З'ела?
    — Што? Укусіла?
    — На табе!
    — На і табе!

Хвіга двойчы ўжо схадзіла,
Двойчы ім насы чапіла
І праехала па лбе.
І прымоўклі. Не пускаюць
З рук суседскіх валасоў,
Толькі зрэдку прагукаюць,

Калі трапна адшукаюць
Забіяцкіх пару слоў.
— Сунастка!
— Капач!
— Мешалка!
— Квач!
— Заткала!
— Брында!
— Задрыпа!
— Дзындра!
— Ну, пусці!
— Сама пусці!

І не хочуць ці не могуць
Кампрамісу тут знайсці.

— Ну, што будзе?
— Скула будзе!
— Табе трасца!
— Табе дзве!

І запыняцца, марудзяць,
А іх рукі ў галаве.

— Ну?
— Гну!
— Каб цябе сагнула ў дугу!
— А каб цябе скруціла ў качаргу!

Перапынак, перадышка.
— Годзе! Будзе вам, нябож!
Ну, палаяліся крышку,
І так будзе, дасць бог, дождж.

Іх тут годзяць
І разводзяць,
А яны,
Як бараны,
Пашчапляліся і квіта,
Толькі пыхкаюць сярдзіта.
Яны-б рады кончыць бойку —

Хіба-ж лёгка ваяваць?
Але як з вайны ім выйсці,
Каб свой гонар захаваць?

— Ну, што будзе?
— А не знаю!
— Дык пусці!
— Пусці сама!
— То-ж табе пусціць я раю!
— Дык турбуешся дарма!
— Дык не хочаш?
— Не, не хочу!
— Ты пусці, пушчу і я.

Асядае пыл жаночы:
— Пусці, ягадка мая!
— Ты пусці, галубка!
— Не, пусці ты, любка!
— Я пусціла!
— І я пусціла.
Так і кончылася чубка.
— Ха-ха-ха! Глядзі, Тарэся,
Хмара прэцца ўжо, ды як! —
Зірк — стаіць Карусь Дзівак: —
— Слухай! Дождж шуміць па лесе! —
І рагоча, аж трасецца,
Аж дрыжыць яго гарляк.

## ПЕРШЫ ЗАРАБОТАК

### ДОМА

— Ну, Алесь брат, — за абедам
Кажа бацька сыну, —
Годзе бегаць дармаедам,
Красці садавіну,
Таптаць сцежкі ў агароды,
Рэзацца па хаце.
Ты ўжо ўходзіш, брат, у годы —
Колькі яму, маці? —
Роднай маткі сэрца ў грудзях
Злёгку затраслося:
«Ці не хоча аддаць ў людзі?» —
У думках пранеслося.
Сам Алесь сямігадовы,
Як ліст, скалануўся,
Бо ў тэй бацькавай прамове
Страх яму пачуўся.
Апусціў ён нізка вочкі,
Глыбей ў кут падаўся.
— Ну, што сціхнуў, як у прочкі
Ты ад нас сабраўся?
— Дай хоць з'есці, адчапіся!
Вось прыстаў к дзіцяці!
Еж, Алеська, не журыся! —

Не ўцярпела маці, —
Пойме гутарку якую,
Чуць за хлеб узяўся.
— Няхай есць, ці-ж я шкадую? —
Бацька адазваўся. —
Еж, Алесь, чаго надзьмуўся
Ты, як мыш на крупы?
Ці ад ночы не ачнуўся!
Расплюшч свае лупы!
Глянь у вочы мне! Смялее!
Во, так! Малайчына!
Еж, бо крупнік адубее, —
Кажа ён да сына.
Паабедалі з бядою,
Спаражнілі місы.
Абцёр бацька вус рукою,
Твар і лоб свой лысы.
— Ну, дык вось што — чуеш, хлопча? —
Годзе так бадзяцца, —
Няхай качка цябе стопча, —
Трэба чым заняцца.
Згодзен пасвіць ты ўсё лета
У Курганах каровы?
Шэсць рублёў даюць за гэта
Ды халацік новы.
— Ой, няхай-бы пабыў дома! —
Зноў гаворыць матка. —
Ну, куды ён, мал, вядома,
Рана пасвіць стадка,
Толькі высахне у лыка,
Нябось, пасвіць — мука!
— Ат! патраціць — невяліка
Гэтая навука!
Будзеш пасвіць? — Тут у сына
Бацька запытаўся.
— Ото дзіва! — Малайчына!
Я не ашукаўся.
Ты ў мяне хлапец рахманы,
Вось люблю за ґэта!
Працаваць вучыся зрана,
У маладыя леты.

## ПЕРАД ВЫПРАЎКАЙ

У Алеся думак многа,
Ды ўсе думкі новы.
Твар сур'ёзны, бы ў старога,
Нахмураны бровы.
Кінуў ён гульню з сябрамі —
Трэба дбаць на хату,
Памагаць ён будзе маме,
Бацьку, сёстрам, брату.
Цяпер бацька адзін б'ецца
З ранку аж да ночы,
Так працуе, што пот льецца,
Лезуць на лоб вочы.
Гэтаксама адна маці,—
Праўда, дасціпная, —
Адна ў полі, адна ў хаце,
Корміць, абмывае.
Мала з дзевак дапамогі —
Драбяза ўсё, дзеці!
Сам ён толькі, дзякуй богу,
Жыць здужае ў свеце.
Без падмогі, сам сабою:
Ён — дзяцюк, хлапчына,
Носіць ён вядро з вадою,
Як стары мужчына!

Потым думкі непрыметна
Далей залятаюць —
Чужаніцы непрыветна
З Курганоў мігаюць.
Матка страхаў наказала
Пра жыццё з чужымі,
Як Алеся навучала,
Каб ужыцца з імі.

— Трэба змоўчыць, хоць часамі
Скрыўдзяць або ўшчуюць,
Хоць нядобрымі славамі
Злосна пажартуюць.
Будзь паслушны і цярплівы,

Не лазь у гароды,
Не марнуй ты людзям нівы,
Не рабі ім шкоды...

Адным словам, страх нагнала
На Алеся матка,
І так міла яму стала
Родная іх хатка!
Ды нічога не парадзіш,
Калі служба трэба,
Калі беднасць, як паглядзіш,
Сама просіць хлеба.
Дый Курганы не за морам —
Восем вёрст ад дому,
Над ракою за тым борам, —
Месцы ўсе знаёмы.

Так хлапчынка разважае,
З думкамі гамоніць,
Дух надзеяю ўздымае
І трывогу гоніць.
У вузельчык вось увязан
Скарб яго убогі,
Станік тонкі падпяразан —
Жджэ Алесь дарогі.
Моцна-ж сэрца забалела,
Як ён вышаў з хаты,
Але плакаць не пасмела,
Бо йшоў збоку тата.

## У ЧУЖЫХ

— Добры дзень вам, ягамосці!
— Добры дзень!.. Сядайце.
— Ну, вось я прывёў і госця,
Мал ён, выбачайце.
— Э, нічога, акрыяе,
Дый ён хлопец слушны.
Гадкоў з восем, мусіць, мае?
— Сем у дзень задушны.

У куточку прыхіліўся
Ціха каля лавы
І на ўсё Алесь дзівіўся,
Пазіраў, цікавы.
Глянуў ён у кут украдкам
На таго святога,
Што напісан быў з ягняткам
І глядзеў так строга.
Ён зірнуў на Мікалая
І на Юр'я з змеем,
На святых, што і не знае
І назваць не ўмее.

За сталом былі мужчыны
І стары між імі,
У каторага маршчыны
Злеглі пад вачыма.
Лоб высокі, безвалосы,
Голы, як калена,
Вусы быццам-бы йшлі з носа,
Белыя, як пена.
Пазіралі дзеці скрыва
З печы і з прымурка
На Алеся, як на дзіва
Ці якога турка.

А тым часам стол убралі
Пляшка і дзве чаркі;
У печы весела пішчалі,
Гаманілі скваркі.
Селі піць барыш мужчыны.
Дзед, падняўшы чарку,
Кажа: — Дай бог толк з хлапчыны
Нам у гаспадарку!..
Ходзь, Алеська, сюды, брацік!
Бліжай, бліжай, браце!
Распраніся, скінь халацік,
Будзь як свой у хаце.

Падышла і гаспадыня,
Жвавая кабетка:

— Павесь шапачку, мой сыне!
З'еж от скварку, дзетка!
Будзеш дужшы, небажатка,
Пасілкуйся крышку! —
І падносіць хлапчанятку
Гарэлкі ў кілішку.
Круціць хлопчык галавою —
Піць, моў, не бярэцца;
Скварку, згробшы пяцярнёю,
Есць, аж нос той гнецца...

— Ну, сынок, служы здаровы,
Даглядай скацінку.
Будзеш дома на пакровы...
Не нудзіся-ж, сынку.

Развітаўся бацька з імі
І пайшоў дадому.
Ой, маркотна між чужымі
Хлопчыку малому!

## НЕ ВЫТРЫМАЎ

Моцна хлопец занудзіўся
Па сям'і, па маме,
Як-бы свет тут зачыніўся
У гэтай нуднай яме.
Усё тут дзіка, нецікава,
Бы ў яловым лесе,
Кожны вугал неласкава
Глянуў на Алеся.
Усё не гэтак, як там, дома:
Лавы, печ старая,
Кожна рэч тут незнаёма
І яму чужая.
Усё — качэргі і аконцы
На нуду наводзяць,
І тут нават не так сонца,
Як там, дома, ўсходзіць.
Ды і людзі не такія,

Іншая гаворка,
І алешнікі не тыя,
Не той луг, узгоркі.

Вышаў з хаты, прытуліўся
Пад грушаю ў полі
І так моцна засмуціўся,
Бы ў якой няволі.
На дарогу пазірае,
Што вядзе дахаты,
Што, як стужка, агібае
Цёмны лес кашлаты.
І так мілы хлопцу сталі
Родныя палеткі,
Лес, што нікнуў ў сіняй далі,
Ўзгоркі, межы, кветкі,
Хаты, гумны, варывенькі,
Цэрква на грудочку...
Эх, як міла, весяленька
У сваім куточку!
А тут хата, як адрына,
Як хлеў, — свету мала.
І надумаўся хлапчына
Даць адгэтуль драла.
Многа думаў так і гэтак, —
Не бярэ нічога!
А з палетка на палетак
Скача, йдзе дарога...

Ён назаўтра ўстаў ранютка,
Аж да ўсходу сонца,
Чуць што глянуў дзень ціхутка
У хату праз аконца.
Наш Алесь перахрысціўся,
Глянуў на палаці,
А там дзед той разваліўся,
Але ціха ў хаце.
Згроб свой клунчак пад паху —
Загадзя сабраўся —
Асцярожна, поўны страху,
Да дзвярэй падкраўся

І ціхутка — стук у дзверы,
Шугануў у сені!
Сэрца білася без меры,
Трэсліся калені.
Ён кулём, як ліс у норы,
За хлявы, ў задворкі...
Заплыў месячык за горы,
Чуць мігалі зоркі.

Вось Алесь прычхаў дадому,
Стаў на прыгуменні.
Страшна ў хату йсці малому —
Гора-утрапенне!
Што рабіць тут, не згадае.
Мо' назад вярнуцца?
Плача хлопчык, аж рыдае,
Слёзы так і льюцца.

Вышла матка, плач пачула,
Бачыць—іх служака!
Матку жаласць агарнула —
Шкода небараку!
— Што-ж ты плачаш? Ідзі ў хату...
Не плач, супакойся.
— Ой, баюся, мама, таты!
— Не з'есць ён, не бойся!

Бацька ўстаў і абуваўся,
Зірк—Алесь у хаце!
Бацька толькі засмяяўся:
— Ты ўжо дома, браце?

Той калоціцца ўсім целам,
Як-бы грэшнік страшны,
Думаў ён, што ў свеце цэлым
Ён—самы няшчасны.
Апусціў сваю галоўку,
Клуначак трымае,
Кулачком уціхамоўку
Слёзкі выцірае.

— Ну, што гэта за работа?
Адурэў ты, Грышка!
Ён—зусім дзіця, блазнота,
Зелень, як пурышка...
Дзе служыць яму, дзіцяці?
Ну, куды-ж? Націна! —
Стала бацьку чысціць маці
І крычаць за сына.

— Мне-б тут трэба раскрычацца,
Розум твой жаночы!
Брыдка будзе паказацца
Тым людзям у вочы!..
Ах, лайдак, пястун пракляты!
Лезь на ручкі к маме!—
Плюнуў бацька, вышаў з хаты,
Стукнуўшы дзвярамі.

## БАТРАК

*Палеская быль*

Стогне, вые і галосіць,
Аж гудзе Палессе.
Вецер хмары гоніць, носіць,
Рве салому ў стрэсе.

Глуха гоман далятае
З лесу векавога,
Нібы песня заклятая,
Грозьба, засцярога.

Мітусіцца ў страсе вецце,
Чараты і лозы.
Угнявіўся чагось вецер,
Бы камусьці грозіць.

Толькі-ж ты не страшна, бура,
Тым, хто ў цёплай хаце,
Дзе ёсць запек і пячура
Ды яшчэ палаці;

Дзе лускоча і палае
Корчык на камінку,
А бабулька гаваркая
Ўспомніць пра старынку

І пачне расказ цікавы,
Як даўней жылося:
Ёй у свеце рознай справы
Сведкай быць прышлося.

Бабка Мар'я аўдавела,
Дзеткі паўміралі.
Гаспадарка так змарнела,
І з зямлі сагналі.

Не па праўдзе рассудзілі
Справу маладзіцы.
Дзе-ж падзецца? Прыхілілі
Мар'ю чужаніцы.

Вось і служыць, век зжывае
У чужых слугою.
Мусіць, доля ўжо такая —
Век быць сіратою.

Але бабка ўсім давольна
І не мысліць злога
Тым, хто выгнаў сваявольна
З мужніна парога...

А вятруга не сціхае —
Плача і галосіць,
Плача горка і ўздыхае,
Бы ратунку просіць.

А пад тую песню жалю
Бабка, як званочак,
Сыпле слоўкі, бы каралі
Ніжа на шнурочак.

I

— Эх, мой голубе-саколю!
Многа баек ёсць на свеце.
Ці іх спішаш? Ды ніколі!

Толькі праўду запішэце —
Аднае яе даволі.
А тэй праўданькі, нябога,
На свеце багата!
Аб ёй скажа і дарога
І кожная хата,
Скажа добрага і злога
Пра нашага брата...
Вось як думаць часам станеш,
Ды прыгледзішся бліжэй...
Не, саколю, як ні глянеш,
Лепш было-такі даўней!
Меней хітрасці і здзеку
Між людзей тады было,
Лепш вялося чалавеку,
І жыццё раўней цякло.
Дзеці старшых паважалі,
Ну, і слухалі бацькоў.
Людзі цвёрда лад дзяржалі
Ды і меней зазнавалі
І дзяліцьбы і судоў.
У бацькоў мацней трывала
Сэрца, любасць да дзяцей,
І каралі іх, бывала,
Ды лагодзілі часцей.
Меркаваліся — так трэба:
На дабро не пойдзе зло,
Тады нават само неба
Ласкавейшае было.

Памаўчала бабулька хвіліну,
Як-бы ловячы нейкую ніць
Ці мяркуючы, як пра быліну
Ей трапней і зручней гаманіць.

— Багатыр на ўсю акругу,
Панам жыў стары Адам:
Меў зямлі, кусішча лугу,
Колькі грошай — знаць не нам.
Банк даўней не быў у модзе,

Знаць яго ніхто не знаў:
Пад падрубаю ў калодзе
Ці ў гляках на агародзе,
Хто меў, золата хаваў.
Ну, такіх цяпер нямнога
Знойдзеш ты багатыроў.
Пчол адных было ў старога
Соцень тры ды больш вуллёў.
Меў таксама і скаціны —
Рознай жыўнасці стары,
Бульбы, хлеба, садавіны...
Што цяпер гаспадары!
Нават блізка не стаялі,
Ой, далёка ім да тых!
А чаму? — Закон трымалі
Дзедаў-прадзедаў сваіх...
Ды і то сказаць, саколю:
Цесна ў свеце стала жыць,
Нібы сціснулі ўсім волю,
Рук няма дзе прылажыць.

Усяго ён меў даволі,
Жыць-бы толькі, спажываць,
Ды ў адным не меў ён долі:
Не мог дзетак ўзгадаваць!
Мерлі дзеткі, бог іх знае.
Толькі стануць падрастаць,
Смерць бязлітасна-ліхая
Тут як тут. Такая, знаць,
Ўжо ім доля выпадала,
Пакой вечны іх душам.
Маці дух па іх раняла,
Хмурны заўжды быў Адам.
З усіх дзетак засталася
Толькі дзеўчынка адна.
І скажу-ж я: удалася,
Урадзілася яна!
Вочы ясны, ну, як неба,
Колькі ў іх было жыцця!
Бачыць-бы самому трэба,

Што было то за дзіця!
Чорнай дужкай леглі броўкі,
Шчочкі свежы, як раса,
Погляд — раніца ў пятроўку...
Ну, любота, ну, краса!
Нібы красачка у полі
Між зялёных каласкоў.
Не сказаў-бы ты ніколі,
Што то дочка мужыкоў.

Падрастала — расцвітала,
        Як вішанька ў садзе.
Не хочучы, дзеўка стала
        Хлопцаў вабіць, надзіць.
Прыязджалі пад званкамі
        Пачцівыя госці,
З гарэліцай, з ручнікамі
        Сваты-ягамосці.
Не хацела-ж яе маці
        Слухаць тэй гамонкі:
«Едзьце, свацікі, шукаці
        У другім месцы жонкі.
Наша дочка — маладзенька,
        Хай пабудзе дома.
А за гонар, даражэнькім,
        Дзякуем, вядома...

Ну, дзе ім да Банадысі!
Бог дасць, будзем жыць без іх:
Людзі ў свеце не звяліся —
Лепшы знойдзецца жаніх!»

Так старою гаварыла
Гордасць матчына не раз:
«І-і, дачушка мая міла!
Прыдзе твой, галубка, час!»

Банадыся-ж бы й не дбала,
Ёсць жаніх ёй ці няма,
Толькі іншы раз, бывала,

Нойдзе нейкая дума,
І на твар бы клопат ляжа,
Цень па вочках прабяжыць,
Але й мацеры не скажа,
Што на сэрцы тым ляжыць.
«Што ты? — маці запытае. —
Чаго стала так хмурна?»
Засмяецца, заспявае,
Развяселіцца яна.

II

Жыццё йшло сваім парадкам.
Як Адам не меў сыноў
Ды рабочых рук няхватка,
То трымаў ён парабкоў.
Спрытны, ёмкі быў хлапчына
Малады батрак Якім,
Першы ў вёсцы малайчына...
Рэдка спрэчаўся хто з ім
Ці то ў сіле, ці ў рабоце,
Што ні ўзяў — спалі агнём!
Шчодра ўсё даў бог сіроце, —
Маладзец быў малайцом.
Чарнавокі, твар прыгожы,
Стройны, звязісты, як сук.
Каб убраць яго, нябожа,
Эх, што быў-бы за дзяцюк!
Ды была адна загана:
Сынам быў ён жабрака
Ды меў долю батрака.
Што-ж? такі быў лёс паганы.

Жыў пры матцы перш хлапчынка,
І была халупка ў іх,
Дзе курылася лучынка,
Дзе туліліся ўтраіх.
Маці сім-тым зарабляла:

Пражу прала ці йшла жаць.
Хлопчык гэтак-жа, бывала,
Йшоў у двор на сенажаць
Ці наймаўся за падпаска, —
Дзе там грошы — хоць за хлеб,
Ды і то была, як ласка,
Покі хлопчык не акрэп.

Бацька меў свае дарогі:
Йшоў, абходзячы двары,
На сядзібы, хутары —
Быў калека і убогі
І вымальваў імем бога
Хлеб і іншыя дары.

Як-бы там ні выпадала,
Усё-ж у іх быў свой куток,
Свой прытулак. І, бывала,
У цёплы летні вечарок
Сядзе важна каля хаты
Развяселены жабрак:
«Бач, Крыстына, мы багаты —
Хатку маем як-ні-як.
Ёсць у хатцы печ, дзве лавы.
Праўда, пень замест стала,
Але ўсё адна хвала,
Калі стол без хлеба, стравы.
А на нашай-жа калодзе
Сальца водзіцца падчас,
Як пашэнціць мне ў абходзе.
О, жывуць і горш за нас!
Хоць-бы гэтак было далей.
Так, старая, ці не так?
Радасць мая ў хлебе, сале.
Я шчаслівы ў кожнай хвалі,
Хоць калека я, жабрак.
Чым-жа кепска? — запытаем...
І вось думаецца мне,
Што мы радасць, шчасце маем
У абразе́, што на сцяне».

Так стары Казімер стане,
Зняўшы торбы, разважаць:
«Дзякуй табе, вечны пане,
Што і ў маім жабрачым стане
Ніва ёсць і сенажаць!
Ну, ці так кажу, старая?
Мы не горш людзей жывём»...
З дзень Казімер спачывае,
Потым зноў ідзе з кіём.

Ды нядоўга красавала
І такое шчасце іх—
Ліха прыдзе ў адзін міг:
Летам Крыся занапала
І з пасцелі больш не ўстала.
Што-ж рабіць ім удваіх?
Разышліся іх дарогі,
Не пайшоў малы Якім
У вандроўку са старым
Абіваць людзям парогі.
Апусцела хатка тая,
Ткуць красёнцы павукі,
Бо няма, бо нехватае
Гаспадынінай рукі.
Сам Казімер апусціўся
І асунуўся, азыз,
І халат яго зрабіўся
Комам лат, ануч і рыз.
Ніжэй хатка ў дол ўрастала,
Патачыў яе чарвяк,
І на прызбу, як бывала,
Не выходзіў больш жабрак.
Двор не прыбран, не падмецен,
У халупцы смецце, бруд...
Ох, саколю, непрымецен,
Ды вялік жаночы труд!

Што-ж было рабіць маломў?
Рукі дзе яму заняць?
Не йсці-ж з бацькам жабраваць,
Здароваму, маладому!

I ён кінуў бацьку, хату,
Па людзях пайшоў блукаць,
Долі-спосабу шукаць
За абы-якую плату.
Многа дзе ён быў, сланяўся,
I ўжо сталым дзецюком
Да Адама ён наняўся
Батраком.

Здольны быў работнік новы:
Пойдзе ў луг касіць мурог —
Ні адзін касец вясковы
З ім управіцца не мог.
Палюбіў яго, як сына,
Ім хваліўся гаспадар:
«Ну, і хлопец! Вось хлапчына!
Вось работнік! Вось штукар!»

Добра ўсё йшло і паволі,
Дома кошкаўся стары,
А Якім часамі ў полі
Зранку быў аж да зары.
Ходзіць хлопец за сахою,
Дружна ў пары йдуць валы.
Толькі й чуеш за гарою:
«Гэй, Пярэсты! Но, Малы!»
А як поўдзень падступае,
Зніме з іх Якім ярмо.
«Патаміліся? — спытае. —
Есці хочаце? Дармо!
Адпачынем, папасёмся.
Сонца зрушыцца згары,
Зноў у сошку запражомся,
Мае волікі-сябры!»

Так гаворыць са скацінкай
I пускае на траву,
А сам гэтаю часінкай
Сядзе ў цень на мураву.
I сядзіць ён, штосьці гадае,

Бы на думках штось было,
І сам сюд-туд паглядае
На той хутар за сяло,
На курганік і на гору,
Дзе дарожка пралягла:
Банадыся ў гэту пору
Яму полудзень нясла.
Ўсё ў Якіме аж заскача,
Задрыжыць і запяе,
Як здалёку толькі ўбачыць
Постаць мілую яе.
У белай хустачцы з брыжамі
Хутка блізіцца яна.
Вузел хлеба за плячамі,
А ў спарышыках — з пшана
Каша, квас ці інша страва,
Ды гладышык малака.

Вось падходзіць і ласкава
Так зірне на батрака,
«Ну, Якімка, падкрапіся —
Папалуднаваць пара».
«Дзякуй, рыбка Банадыся!
Я-ж такі і падараў!
Сяду, што-ж, якраз часіна...
Сядзь і ты бліжэй сюды!»
Есць Якімка, а дзяўчына
З яго цешыцца яды.
«Можа-б ты папрабавала?
Разам есца нейк зручней».
І дзяўчына ложку брала.
Разам праўда што смачней.

Не яда ім, а пацеха.
Так і горнуцца яны.
Тут і жарты, тут і смехі —
Свята ім той дзень будны.
І не раз вось так у полі
Ці ў куточках зацішных
У спатканнях патайных

Часу бавілі даволі.
І ніхто не знаў, не ведаў,
Чым так моцна прыкаваў
Дом Якіма, і ў суседзяў
Ён ніколі не бываў,
Не хадзіў на пагулянкі,
Каб другім не замінаць,
І, апроч свае каханкі,
Не хацеў нікога знаць.
Вечарамі ў сад цяністы
Выйдзе з дудкаю Якім.
Плача дудка галасіста
Плачам жаласным такім.
Банадыся-ж у аконцы
Сядзе, слухае дуду.
Смутна стане ёй бясконца,
Як-бы граў ён на бяду.
Месяц з неба пазірае,
Ўздзеўшы срэбраны вянок,
А ёй сэрца замірае,
Млее, просіцца яно...

III

Беглі дні, ішлі нядзелі...
Банадыся-ж і Якім
Шчасце кралі, як злодзеі,
У каханні патайным.
Ды чым далей, то тым болей
Непакоіць думка іх:
Як-жа з бацькаўскаю воляй?
Як са згодаю старых?
Ну, вядома, гэтай згоды
Не дабіцца ім ніяк:
Хто Якім? Галыш, без роду,
Сын убогага, батрак!
А яна — багачка, краля
І адна дачка ў бацькоў.
Проста людзі-б засмяялі!

Хіба-ж лёс яе такоў?
Марна думаць аб той згодзе:
Не, бацькоў ім не ўламаць,
Дык аб гэтай перашкодзе
Лепш маўчаць, не ўспамінаць.
Хай ідзе сваёй чаргою —
Далей будзе ім відней.
Іх каханне-ж той парою
Разрасталася ладней.
Так яно па волі божай
І кацілася само.
І што-ж думалі, нябожа?
Спала з іх плячэй ярмо.

Час быў так каля Міколы.
Помню добра, як цяпер,
Веснавы дзянёк вясёлы;
Нават помню, што ў чацвер
У господу да Адама
Зайшлі два гаспадары,
Багацеі гэтак сама,
Як і той Адам стары.

«Як-жа крэпенькі, здаровы?»
«Дзякуй вам! Што ў вас чуваць?»
Ну, звычайныя размовы,
І на словы ніжуць словы,
Каб той звычай захаваць
Ды каб спрытна стараною
Грунт сабе падрыхтаваць —
Трэба-ж перш парахаваць,
А ўжо потым з навіною
Без памылкі выступаць.
І пры гэтым на дзяўчыну
Вокам кінулі не раз:

«Малайчына, малайчына!
Дочка ладненькая ў вас!»

Далей-болей,
Мой саколю,

Ды слова па слову
Закідаюць сець на волю,
На дзявочу тую долю
Раскрываюць змову.

Бо дзяўчына —
Як пташына:
Вылятае ў вырай,
І прыходзіць ёй часіна
Аб сваёй другой айчыне
Пагадаці шчыра.

«А гадаці,
Бацька, маці,
Тут не трэба многа:
Малады наш, Гуль Кандраці —
Першы богач у Загацці,
На знайсці такога».

Госці гладка
Ад пачатку
Павялі гамонку.
«Дык што-ж скажа бацька, матка,
Каб аддаць сваё дзіцятка
У той дом за жонку?»

Глянулі адзін другому
Тут бацькі у вочы —
Выпусціці пташку з дому,
Як відаць, ахвочы.

Пакланілася старая,
З лавы ўстаў стары Адам:
«Што-ж? Няхай бог памагае,
Прыязджайце, госці, к нам».

Як зачула-ж Банадыся
Аб той згодзе, аб сватах,
Ей і рукі затрасліся,
Сэрца стукае — тах-тах!
Штось хацела ім сказаці

Са ўсёй смеласці, з пляча,
Ды стрымалася дзяўча.
Душна стала ёй у хаце.
Выйшла моўчкі вон за дзверы.
Што-ж рабіць? Ну, што рабіць?
Як ёй гэтыя намеры
Папярэдзіць і разбіць?
Свайго ўспомніла мілога:
«Мілы, любы мой Якім!..
Збегчы трэба — больш нічога,
І паставіць на сваім».

Азірнулася дзяўчына
Ды бягом у сад, за сад.
Вось лясок і раўчавіна.
За ляском яе хлапчына
Рэжа скібы рад у рад.

Банадыся

Ой, Якімка! Гора, ліха!..
Пагаворым, любы, крыху.

Якім

Што такое? У чым справа?

Банадыся

Справа кепска, нецікава!
З-пад Загацця ягамосці
Непрашана прыйшлі ў госці
Мяне сватаць за Кандрата.
Даюць згоду мама, тата,
Толькі я адна нязгодна.
Што-ж рабіці, мілы, родны?
Засталося часу мала,
Ды не ўсё-ж яшчэ прапала:
За табою стала слова,
Я-ж на ўсё, на ўсё гатова!

Спахмурнеў батрак,
Аж змяніўся ў твары.
Вочы зорацъ, бы-з пад хмары,
З тропу збіты небарак.

Банадыся

Што-ж маўчыш, Якімка любы?
Ты-ж не хочаш маёй згубы?

Якім

Як відаць, разлучымся, нябога!..
А для мяне... адна дарога...

Банадыся

Што я чую? Ох, ты губіш
Мяне бедную, Якім!
Ці мяне ты ўжо не любіш?
Ці ўгнявіла цябе чым?
Ці ты лепшых слоў не знаеш,
Апроч гэтых жорсткіх слоў?
Ці другую сабе маеш,
А мяне забыць гатоў?

Якім

Забыць цябе, дзяўчынку дарагую?!
Ды дзе-ж знайсці такую!
Не, любая! Не, не!
Ніколі!
Няхай не будзе шчасця мне,
Няхай не будзе долі,
Калі-б цябе змяніў я на другую!

Слухай, сэрца Банадыся!
Каб цябе я не любіў,
Каб з табой мы не сышліся,
Мо'б я больш шчаслівы быў.
Толькі-ж я табе ці пара:
Я — слуга твой і батрак.
Бацька мой — стары жабрак...
Горка мне твая ахвяра!
Ты — красуня, ты багата,
А я голы, як сакол,
У мяне будка, а не хата,
Ды і тая ўвайшла ў дол,
Апусцілася ў зямлю...
Дзе-ж цябе я прытулю?

Банадыся

Толькі той і перашкоды?
Ой, Якімка мой дурны!
Мы такі-ж і не блазны,
Прыдзем так, давай, да згоды.
Мы тайком у цэркву пойдзем —
Поп за грошы дасць нам шлюб,
Будзем жыць і спосаб знойдзем.
Крэпак ты, Якім, як дуб.
Ці-ж палохацца работы?
Ці няздольны працаваць?
Што нам гэтыя турботы!
Зможам кут асталяваць!

Прасвятлеўся твар Якімаў,
Пугу вобземлю шпурнуў.
Смела ўскінуў ён вачыма
І кудрамі страсануў.

Якім

Я, саколка, не баюся
Ніякае працы!

Куст — мае палацы!..
У ярмо сам запрагуся,
Пацягну не горш вала, —
Ты-б шчаслівая была!..
Не! Не згінем мы з табою,
З маёй рыбкай залатою!

Ў вочы ёй Якім зірнуў
І да сэрца прыгарнуў.

IV

І вось потайкам, цішком
Усё яны абмеркавалі,
Гладка ўсе канцы схавалі.
Справа стала за папом.

Тым-жа часам Гуль Кандраці
Са сватамі п'е ў іх хаце,
Вусы круцячы рудыя —
Што-та, моў, за я! Куды я!
Бацадыся-ж прытоена
Сядзіць на тых запоінах,
Далёкая ад Кандрата
І ад дома і ад свата.
Дзень вяселля назначылі,
Ды вяселля не бачылі...

У бліжэйшы час па гэтым
Святою нядзеляй
Пайшла дзеўка макам-кветам,
Як кажуць, з кудзеляй.

Не адна пайшла ўцякачка,
А з сваім Якімам.
Што багацце? Лепш батрачкай!
Хай яно йдзе дымам!

Ці-ж ёй сэрца заняволіць,
Жывучы з багатым?

Лепей з любым у нядолі,
Без прытулку-хаты.

У нядзельку на світанні
Па дарожках патайных,
Каб ніхто не бачыў іх,
Ідуць лёсу на спатканне.
Кончыў поп ужо маленне.
Да папа яны ідуць,
Пад яго благаславенне
Сэрца боязна нясуць.

«А дзе вашы бацькі, дзеткі? —
Поп іх строга запытаў. —
Дзе сваты? Дзе дружкі? Сведкі?
Хто на запаведзь даваў?
Ці не збеглі вы ад волі
Блізкіх кроўных і бацькоў?
Не звянчаю вас ніколі»...

Холад веяў ад тых слоў.

Банадыся

Змілуйся, бацюшка,
І нас ты звянчай!
Што праўда, то праўда —
Парушан звычай.
Мой бацька багаты,
А ён — наш батрак.
За беднага-ж пэўна...
Ні гэтак, ні так.

Якім

Назначце, бацюшка, цану
І выбачце нам гэтую віну,
Але нас павянчайце.

Поп

Не, на гэта выбачайце!
І не ведаю я вас.
Разбірацца-ж мне не час:
Можа вы ў першай стрэчы,
Можа вы — брат і сястра.
Што-ж вянчаць так недарэчы?
Не, не месца, не пара!
Не, няма благаславення!

Якім

Калі так, то што рабіць?
Мы ўсёроўна па сумленні,
Як муж з жонкай будзем жыць!

Банадыся

Пакляліся мы
Жыць у пары век.
Што паробіш тут?
Утаўчэцца нейк.

Так сказалі і выходзяць,
Пастаялі на дварэ.
Смутак, клопат іх бярэ —
Чаго-ж дарма час тут зводзіць?

Вышаў поп, счакаўшы, ў сені,
Жаль да іх пачуў стары,
Бачыць, сталі на калені
Прад царквой на цвінтары.
Там у шчырасці сардэчнай
Пакляліся ў згодзе вечнай
Разам несці клопат, гора
І ісці рука ў руку
Без папрокаў, без дакораў,
Што-б ні стала на вяку.

Поп крануўся згодай тою
І іх шчырасцю такою,
На цвінтар да іх ідзе,
Сам у цэркву іх вядзе.

П о п

Бачу згоду вашу, дзеткі!
Дай бог згодна век вам жыць.
Што-ж, ідзеце ў цэркву, кветкі, —
Павянчаю, так і быць.
На сябе віну бяру я,
Хай вам бог грахі даруе.

З імі ў цэркве памаліўся,
Службу справіў, адчытаў.
Як-бы камень з іх зваліўся,
Як-бы іншы свет ім стаў.

V

Непрыветна выглядала
Хатка дзеда-жабрака.
Павуццё куты заткала,
Дзьмула з кожнага кутка.
На аконцы вецер пылу
Цэлы пласт нанёс, нагнаў.
Там царыў спакой магілы,
Дух бядоты панаваў.
Печ асела, грунт загніўся.
Ў печы гліняны гаршчок
Сіратою прыхіліўся,
Стаў нячэпаны ў куток.
Парахнелі марна лавы,
Дух пракіслы патыхаў,
А сталом быў пень трухлявы,
Што Казімер так кахаў.
Ўсё пра беднасць тут казала,
Пра нядолю бедака, —
Непрытульна пазірала
Хатка дзеда-жабрака.

І вось раптам надвячоркам
Хатка тая ажыла.
Там пачулася гаворка,
І быў рух каля стала,
Праўдзівей, каля калоды,
Што служыла ўжо сталом
Незапамятныя годы.
А дзед ходзіць сакалом,
Бо-ж і рад-такі старэчы,
Што жыве ён недарма.
Ён патупаў каля печы:
Пляшкі часам ці няма.
Да гарэлкі-ж дзед быў падак,
Майстар быў кручок загнуць,
Як-жа ў гэтакі выпадак
Пару чарак не кульнуць?
У Казімера старога
Быў і скорам пра запас —
Скруткаў некалькі каўбас.
«Што гнявіць мне пана бога?» —
Гаварыў стары не раз.
Малады пайшоў па воду,
Потым дроў схадзіў прынёс,
А дзед торбы升ператрос,
Цягне ўсё на стол-калоду.
Маладая прыбірала,
Мыла, чысціла, мяла,
Павуціну, пыл зганяла, —
Гаспадынін рэй вяла.

Як усё было прыбрана —
Запалілі там святло,
І халупка нечакана
Заіскрылася, як шкло.

Дзед Казімер

О! такі-ж недарма
Кажуць тыя людзі:
Убяры ты і пень,
То харошы будзе!

Не, дапраўды: зірні —
Што за хата стала!
Хат такіх на сяле
Ты налічыш мала.
А за гэта за ўсё
Гаспадыні хвала!
Ну, то сядзем за стол
Ды вяселле справім.
Малады з маладой!
Сядзьце тут на лаве...
Дадуць часу бацькі
І мне разам з вамі.
Ну, ды покі той суд,
Пабалюем самі.
І закуска тут ёсць:
Хлеб, блінцы, каўбаскі...
І вы будзеце жыць
Сяк-так з божай ласкі...

Прыступаюць да вячэры.
Чуюць — ходзяць пад акном!
Потым раптам хтось у дзверы
Барабаніць кулаком!

## VI

«Дзе-ж то, бацька, наша дочка?
І Якім бы ў воду кануў...
Дзень праходзіць, скора ночка...
Вышаў-бы ты сам ды глянуў.
Проста дзіва, і ніколі
Не бывала такіх штук.
Што ўжо гэта за сваволя!
Што ён думае, блазнюк?»
Непакоіцца матуля:
«Не, не так яно, не так!
І Якім на тыя гулі
Не аматар, не мастак.
Ёсць тут, ёсць тут штось напэўна —
Зніклі зранку і няма

І прапалі неспадзеўна...
Ой, тут нешта нездарма!»

Усяк маці разважае —
А мо' гэта, а мо' то...

Маці

Ой, дурніца-ж я старая!
Бацька! Ведаеш ты што?
Я — сляпая, ты — дурны:
Пэўна-ж любяцца яны?
Пасудзі, падумай сам...
Ото-ж сорам будзе нам!

Адам

Ну, ты скажаш! Лепш маўчы,
Вады ў ступе не таўчы!
Мо' пайшлі дзе на гулянне —
Ці-ж яны манахі?
Кінь ты гэтыя гаданні
І пустыя страхі!

Маці

Ой, глядзі, глядзі, стары!
Удзяруць нам штуку.
Ліха выпаўзе з пары,
Будзе, будзе гуку!

Адам

А, не бойся,
Заспакойся —
Не будзе нічога.
Хай гуляюць —

Права маюць,
Не судзі іх строга.
Хлопец сталы
Ды прыўдалы
І не з гліны-ж можа!
Разам стануць —
Люба глянуць,
Так яны прыгожы!

## Мацi

Пляцеш нямаведама што.
Ты яму дзесяць, ён табе сто.
Хоць падбаў-бы аб дзіцяці,
Усё яму нічога.

Аж угневалася маці
Ад тых слоў старога.
А сама гадае матка
Над праявай тою:
У чым загваздка, загадка?
Што з яе дачкою?
І тут раптам нечакана
Ў галаве старое
Закружыліся пагана
Думкі іншых роі.
Цяпер толькі ясна стала, —
Дзе-ж быў змысл жаночы! —
Як дачушка паглядала
На чорныя вочы.
Цяпер толькі прасвятлела
Матчына галоўка,
Як лавіў ён анямела
Дзявочае слоўка.
Цяпер толькі зразумела, —
О, дурная маці! —
Чаго ў садзе дудка млела,
Не давала спаці.
А тут зараз пагалоска
Па людзях шапоча,
Што батрак з іх ласкі боскай

Быць іх зяцем хоча,
Што дачка іх у Загацце
Не пойдзе за Гуля, —
Гуль пры ўсім сваім багацці
Застанецца з дуляй.

Маці далей не ўтрывала,
Вышла з хаты ды трушком
К жабраку пашыбавала ..
Загуменнямі, лужком.
Падыходзіць пад аконца,
Зірк — не верыць і вачам:
Банадыся, яе сонца,
Божа мілы! там! ох, там!
Маці рукі заламала,
Зноў назад бяжыць яна,
З гора намітку сарвала.

Маці

Божа! У чым мая віна?
Ой, сорам нам, сорам!
Ды што скажуць людзі?
Жыць у такім брудзе!
Цешся-ж маім горам,
Рвеце-ж мае грудзі!

Прычытвае, плача матка,
Валасы рве, бы ў агні.

Маці

Будзь-жа ты, маё дзіцятка!..

Адам

Стой, старая! Не кляні!
Кінь ты выць на міласць бога!

І пайшла ўжо і пайшла!
І не смей і мысліць злога,
Утрымай язык ад зла!
Бо-ж яна нам не чужая,
Бо-ж яна у нас адна.
Гм! праклёнам пагражае!
Моўчкі гора пі да дна!
І чаго так ужо вар'яцець?
Ідзі лепей у клець,
Прыбярыся, як трэба, сама,
Не зводзь часу дарма
Ды каробкі сціха
Накладай давярха
Розным скарбам-дабром:
На вяселле папром!

VII

Два разы адно і тое
Не любіў казаць стары:
Што сказаў — слаўко святое,
Хоць тапіся, хоць гары.
Вышла борзда ў клець старая
І кублы вярнуць давай.
Жыва кораб набірае
Сырам, маслам цераз край.

Адам

Ну, старая, пойдзем з богам —
Што ўжо гневацца тут нам.
Не паможа больш нічога,
Як зрабілася ўжо, маці,
Дык няхай і будзе так.
Што-ж, батрак ён, ну, батрак.
Я-ж не мыслю зла дзіцяці.

Маці

Дык што-ж, бацька, ўсё гатова,
Пойдзем, раз ты хочаш так.

Надзеў бацька халат новы,
Маці — чысты андарак,
Цемачком ідуць старыя
У халупку да дзяцей.
Не чакалі маладыя
Дарагіх такіх гасцей.

Адам

Добры вечар, зяць малоды!
Добры вечар, гаспадар!

І стаўляе на калоду
І гарэлку й божы дар.

Дзед стары быў як аглушан,
Як-бы гром яго прышыб,
І язык стаў непаслушан,
Не варочаўся, прыліп.

Бацадыся бацьку ў ногі:
«Не карай нас, татка, строга!
Глянь ласкавымі вачыма.
Гэта я звяла Якіма.
З ім тайком і звянчаліся,
На тваю дабрату спадзяваліся».

Адам

Ну што кара тут паможа?
Толькі-ж, дзеткі, так нягожа...
Злосці я на вас не маю
І караць не буду вас.
Што-ж? Дабра вам пажадаю!

Са сцяны ён зняў абраз,
Той стары абраз, каторы
Дзед Казімер паважаў

І прад ім так шчыра ў горы
Ўсе надзеі пакладаў.
Маладых благаславілі:
«Ну, дай божа шчасця вам!»
Іх на покуць пасадзілі.
Выпіў, змяк зусім Адам.
Па плячы пастукаў зяця:
«Чуў, Якіме? Батраком
Працаваў ты ў маёй хаце,
Цяпер будзеш прымаком!»

Больш гарэлка разбірае,
Стаў банкет іх ажываць,
І Адам ужо гукае:
«На які чорт лепшы зяць?»
Зашумелі, разышліся,
Падабрэў стары ў канец:
«Малайчына, Банадыся!
Маці, праўда, маладзец?»

Дык вось як, саколю, бывала даўней.
Ці блага, ці добра — вам збоку відней.

## ПРАПАЎ ЧАЛАВЕК

Каля карчмы шум і гоман,
Зык сялянскіх галасоў.
І, здавалася, сам Нёман
Змоўк, каб сцяміць колькі слоў,
І каціўся гэтак плаўна,
Поўны, звілісты, як змей,
Агібаў узгоркі спраўна,
Потым зноў бег спакайней.
І ніколі не маўчала
Гэта мора-грамада.
Тут і радасць месца знала,
Уздыхала тут бяда.
Як рой пчол, ґулі мужчыны,
Гаманілі аб зямлі,
Разбіралі ўсе навіны,
Ўсе інтэрасы вялі.
Ды і то сказаць: ніколі
Дня спакою не было —
Ці то выпадак у полі
Калыхаў падчас сяло,
Ці то ў лесе з кім здарэнне
Наконт пашы або дроў, —
Усё будзіла разуменне
Бедакоў-гаспадароў.
Толькі ў гэты раз трывожна
Нейк шумела грамада.
Зразу сцяміць было можна,
Што тут вынікла бяда.

Адзін селянін

Ой, не, хлопцы, набок жарты —
Рудзік мой выў нездарма!
Хоць вазьмі ды кінь на карты:
Трэці дзень яго няма!
Каб, крый божа, утапіўся,
Дык няпраўда — ўжо-б усплыў.
Можа хіба ў корч забіўся
Ці загнала дзе пад плыт.

Другі селянін

А мо' хто забіў, глядзеце,
На Яхіма меўшы злосць.
Нешта нейкае тут ёсць,
Людзі-ж розныя на свеце!

Трэці селянін

Ці доўга забіць чалавека?
Як грушу звярзці на вярбе:
Свіснуў па лбе — і канец табе!
Знойдзецца гэтакі дока, умека.
Між людзьмі, як ніколі,
Развялося брыды,
І лаві, шукай ветру ў полі —
Умеюць замесці сляды!

Стары Юрка

Не, Матэва! Не, браток,
Знойдзецца след, галубок!
Будзе праўда ўся раскрыта,
Як яе ні замятай:
Хоць вадой яна заліта,
Але, браце, памятай —
Усплыве наверх яна,
І не будзе патайна!

Соцкі

Ды што тут мянціць языкамі,
З пустога ў парожняе ліць?
На Нёман хадзем з бусакамі,
Каму гэта справа баліць!
Усё адзін чорт:
Памёр той Гаўрыла,
Ці скула яго задавіла,
Агледзець-жа трэба хоць норт.

Першы селянін

Да хоць-бы якія канцы нам у рукі,
  Ці гэтак, ці так.
  Прапаў, небарак,
А жонцы пякельныя мукі.
Сказаць-бы, за светам
Быў выпадак гэты,
Не так-бы і крыўдна было.
А тут, як на зло,
На людзях прапаў у сяле...

Другі селянін

Цікавасць з ім, братцы, але!

  Гамоняць мужчыны,
  Шукаюць прычыны,
  Дзе мог-бы падзецца Яхім.
  Варожаць ды судзяць.
  Узрушаны людзі
  Здарэннем ліхім.

II

Ля Яхімавае хаты
Дзве кабеціны сядзяць.
Змучан горам твар Агаты,
Вочы смутна так глядзяць.
На руках дзіця малое,
Двое большых па бакох.

Цётка Наста

Вось дык ліха насланое!..
Ды мо' вернецца, дасць бог.

Так Агату разважае
Цётка Наста і сама
Мала ў гэтым веры мае.

Агата

Ой, не, цётачка! Няма,
Як відаць, жывога ў свеце.
Тыдзень часу, пасудзеце.
Як пайшоў у чацвер з дому,—
Тут-жа блізенька зусім, —
І няма і невядома,
Дзе ён, бедны, і што з ім.
Хоць-бы ведаць, што з ім стала, —
Не адхіліш ты бяды, —
Жаласць сэрца-б так не рвала,
Менш гадалася-б тады.

Цётка Наста

Так, галубка, на ўсё воля божа,
    А было-б лягчэй,
А нудота гэта — што яна паможа?
Толькі душу муціць, толькі сэрца гложа,
    Не самкнеш вачэй.
Так, Агатка. А свайго-ж мы лёсу
    Не мінём ніколі:
Смерць усюды знойдзе, прыдзе безгалоса,
Замахнецца нагла, натачыўшы косу,
    Ці дома, ці ў полі.

Агата

Так то так, ды нелюдская
Доля выпала яму!

Дзе душа яго блукае?
Хто па ёй паспагадае?
Каму ходзіць то, каму?
Ну, знайсці-б хоць нежывога
Ды па-людску пахаваць.
Ох, Яхімка, ох, нябога!
Дух твой будзе смуткаваць
Без прытулку, без магілы.
Ды што зробіш, божа мілы!

І Агата раз дваццаты
Пачынала свой расказ,
Як Яхім выходзіў з хаты
У астатні свой той час.

Агата

Стаў ён хмурны, задуменны,
Як-бы нешта ўсё таіў.
Твар зрабіўся, бы каменны,
Думку нейкую насіў.
А да працы быў ахвочы,
Рук ніколі не складаў,
Зранку тупаў аж да ночы
І ў самоце штось гадаў.
А паглядзіць — недахватка,
Беднасць лютая ва ўсім:
Хлеў няк рыты, бедна хатка,
А падправіць няма чым.
А ўсё гэта не давала
Нават беднаму і тхнуць.
«Кінь Яхім, — скажу, бывала, —
Дасць бог, дзеці падрастуць,
Сяк-так будзем жыць, — кажу я, —
Дык што нудзіцца дарма?»
А ён нават бы й не чуе,
Непакоюся сама.
Ўрэшце стаў ён забывацца:
Ідзе, спыніцца, стаіць.
Аж нейк стала я баяцца —
Розум штось яму труіць.

Успароўся яшчэ цёмна,
Плыт пайшоў ён прыбіраць.
І людзей шмат каля Нёмна,
А плыты, як мост, стаяць.
Вось і вечар, я чакаю,
А яго няма й няма.
Што тут думаць, не згадаю,
Бы глынула яго цьма.
А няйначай — ў задуменні
Аступіўся ён, упаў
Ды пабіўся аб бярвенне,
Бо дзе-ж дзеўся-б ён, прапаў?

Цётка охнула глыбока,
Азірнулася кругом
І слязу абцерла з вока
Жорсткім зрэбным хвартухом.

III

Гоман, вохі і здзіўленне
Непакояць больш сяло:
«Ось праява! Ось здарэнне!»
Толькі й гутаркі было.
Больш за ўсіх жанкі трашчалі,
І адна перад другой
На праяву выкладалі
Меркаванні, погляд свой.

Цётка Магда

Ну, няйначай, як забілі
І засунулі пад плыт.
Хлёрка сёлскі, гаварылі,
На яго даўно сярдзіт.

Гэты довад разбіваўся.

Жанкі

Каб забілі, Магда, знай,
Хоць які-б, а след астаўся,
Як канцы тут ні хавай.
Не камар-жа ён, не голка,
І астаўся-б нейкі знак.
Што плясці дарма, саколка?
Тут яно было не так!

Тацяна

Ой, сястрыцы! Мне здаецца,
Што ён проста кінуў дом
І цяпер мо' дзе смяецца —
Верыць нельга ім, гадом!

Ды Тацяну ўняў Сымонка,
Яе дзядзька, і падцяў:
— Каб ты была яго жонка,
Ён даўно ўжо-б маху даў.

Тацяна

Твой язык мне ў косці ўеўся!
Ото, дзядзька, як малы!
Ну, то дзе-ж бы ён падзеўся?

Дзядзька Сымон

На той свет пагнаў валы.

А тым часам пра Яхіма
Байкі ходзяць па сялу,
Быццам ён у дзеда Кліма
Сядзеў з люлькай на калу,
Апусціўшы на плот ногі.
На сяло трос кулаком.

Цётка Юста

Ой, не быць дабру, нябогі,
З тым Яхімам дзіваком!

Наводзіць ён чары —
Не было-б пажару!

У другім канцы хадзілі
Чуткі іншыя зусім:
Гаварылі-гарадзілі,
Што апоўначы Яхім
Па сцяне ўзлез на званіцу,
У хаўтурны званіў звон,
Йшоў на могілкі ў капліцу
І літанне правіў ён.
А другім Яхім прысніўся,
І дзіўны быў адзін сон:
З хаты ў хату чмут насіўся,
Як чаўнок каля красён.
Сон дзіўны прысніўся Ганне.
Так расказвала яна.

Ганна

Ось, здаецца, на змярканні
Едзем з Пётрам мы з млына.
Толькі мы ставок мінаем,
Бачым — ён! Ківае нам.
«Гэта ты, Яхім?» — пытаем.
«Я, — адказвае, — я сам!»
І такі, нябож, ён смутны,
Такі змучаны, худы.
Просіць голасам пакутным:
«Выньце вы мяне з вады!
І душы спакой вы дайце!»
Так і кажа ён, бядак:
«Ды па-людску пахавайце.
Смокча мяне ў вадзе рак,
Жвір мне вочы засыпае,
Чараты растуць на мне,
І вартуе ноч сляпая,
Лёгшы каменем на дне».

З захапленнем, з заміраннем
Сон той слухалі жанкі.

Не было канца ўздыханням:
«Ой, пакутнік-жа які!»
І ў страшэнным абурэнні
На мужчын валіць пайшлі,
Бо даўно-б яго знайшлі,
Каб на грош таго хацення.
А ён, бедны, мокне ў яме,
І ядуць яго ракі.
І жанкі ўзяліся самі
Цела вызваліць з ракі.

— Жаначкі! — Антоля кажа, —
А вы ведаеце што?
Вось я знаю, хто пакажа
Нам Яхіма! — А ну, хто?

Антоля

Трэба міску ўзяць, сястрыцы,
Свечку ў місцы запаліць,
Што свянцаюць на грамніцы,
І ў ваду яе пусціць.
Але толькі трэба зрання
Гэта, любачкі, зрабіць...
І дзе міска з свечкай стане,
Там ён, бедны, і ляжыць.

IV

Яшчэ добра змрок не згінуў,
Чуць гарэў усход нябес,
І агністы блеск раскінуў
На узгоркі і на лес,
А жанкі ўжо чарадою
Удоўж Нёмана ідуць
І з свянцонаю вадою
Свечку ў місачцы нясуць.
У жанок аж сэрца б'ецца,
Нейкі страх на іх напаў,
І страх гэты ўсім, здаецца,
Языкі ім завязаў.

Вось і гак і плёс адкрыты,
А за гакам — чорны вір.
Нёман коціцца сярдзіта
Ды на дне ганяе жвір,
Круціць, верціць, як шалёны,
Ажно леечкі бягуць,
Точыць, рве бераг зялёны,
Ачасае сабе пуць.
На гаку жанкі пасталі.
Тут, з высокіх берагоў,
Цені на вадзе дрыжалі —
Жэрдкі леташніх стагоў.
Як у люстры, адбіваўся
З таго берагу вятрак,
І на хвалях калыхаўся
Лесу верх, нібы разак,
Уверх кінуты зубамі,
І алешнік малады,
Бераг Нёмана з кустамі
І высокія груды.

Ганна

Што-ж, сястрыцы, пусцім з богам.
Трэба свечку запаліць...
Бог нам будзе дапамогай...
Бачце, свечка як гарыць!

— Божа мілы! — ўсе ўздыхнулі. —
Ну, што-ж, Ганначка, пускай! —
Міску лёгенька папхнулі:
— Плавай, місачка, шукай!

Перш нейк цяжка, неахвотна
Міска стала адплываць,
Як-бы ёй было маркотна
Гэты бераг пакідаць.
Потым плытка за вадою
Робіць круг... адзін, другі...
Вось раўняецца з вярбою,
Агібае куст дугою,

Піша борздзенька кругі!
Носіць Нёман, як сам знае,
Тую міску-чарапок.

— Ах, галубкі! Як жывая! —
Крыкне хто-небудзь з жанок.

Ганна

Так і сяк яна шыбуе:
То назад, то ўбок ідзе!

Антоля

Гэта божа моц кіруе
І на троп яе вядзе.

А тым часам міска далей
Ідзе, ладзіцца на плёс.
Хлесянуў тут Нёман хваляй,
Міг — і ў вір яе панёс!
І над цёмнай глыбінёю,
Дзе ён пеніўся, бурліў,
Нібы крэпкаю рукою
Завярцеў і закруціў,
Закруціў і не пускае
Ані ўзад, ані ўпярод,
Кружыць міску і ганяе
Страшны той вадаварот.
А жанкі ўсе чарадою
Ціха берагам ідуць
За той міскай і вадою,
Цуда нейкага там ждуць.
Ідуць важна крок за крокам,
Не спускаюць міску з вока.
А яна памалу з віру
Выбіваецца на плёс,
І яе ў чарот, аіры
Нёман роўненька панёс,
Далікатна, асцярожна,
Дзе павольней, дзе барзджэй,

То адкіне ўзад трывожна,
То ўпярод рване дужэй.
І так з сажань правандруе,
Потым зноў нясе стралой, —
Нёман цешыцца, жартуе,
Нібы з забаўкай якой,
Ды у букту мчыць з разгону.
Міска круціцца ваўчком,
А жанкі глядзяць здзіўлёна,
Кінуць слоўка шапатком:
«Ото божа моц! А любкі!
Ах, як хорашанька йдзе!
Куды-небудзь-жа, галубкі,
Нас яна ды прывядзе!»

Тут — і скуль ён толькі ўзяўся,
Як-бы чорт яго нагнаў, —
Комель жэрдкі увязаўся
І як злыганы прыстаў,
Каля міскі завярцеўся,
Шпарка йдзе ў яе сляды,
Разгуляўся, раздурэўся,
Як той хлопец малады:
Міска ў букту — ён за ёю,
Міска скокне — і ён скок,
Не дае ані спакою,
Так і цісне крок у крок.
Ды нядоўга плыў з увагай —
Раздурэўся надта ён
Ды знячэўку, як-бы шлягай,
Плясь у міску, як у звон!

— Ах! — тут разам закрычалі,
Аж падскочылі жанкі.
Расступіліся ўміг хвалі
І глынулі чарапкі.
Комель жэрдкі адзінока
Стаў пры беразе ў траве,
Толькі свечка, лёгшы бокам,
Далей з подскакам плыве.

— Мая свечка! А, сястрыцы,
Ой, лавіце — прападзе!
Падабраўшы край спадніцы,
Тэкля шусь! бяжыць к вадзе.
Ледзьве-ледзьве утрымалі,
Адцягнулі на грудок.
І ўсё змоўкла, толькі хвалі
З плачам б'юцца ў беражок.

---

Ціха Нёман калыхаўся
У высокіх берагах.
Гай дубовы адбіваўся
Ў яго дробных грабянях.
Цёмны лес сцяной зялёнай
Цесна бераг абступаў
І на нёмнавае лона
Цікаваўся, заглядаў,
І далёка кідаў цені
У вячэрняй цішыне
Ды шаптаў у задуменні,
Як-бы гімн складаў вясне.
Шчодра сонца разлівала
Бляск прыветны і цяпло.
Поле жыццем трапятала,
Ўсё спявала і цвіло.
А над саменькай вадою,
Дзе размашыстай дугою
Нёман лукі агібаў,
Пад дзяругаю старою
Труп, разбухшы ўвесь, ляжаў.
Збоку Нёман гойдаў воду,
Залацілася жарства,
Толькі труп парушваў згоду
І той вобраз хараства.

## ЯК ЯНКА ЗАБАГАЦЕЎ

Ходзіць Янка за сахою
 Пры дарозе ў полі,
Конік мернаю ступою
 Клыгае паволі,
Ледзьве-ледзьве цягне сошку
 Замухрышка сівы.
Глянуў Янка на дарожку —
 Божа літасцівы!
Што за дзіва, за праява?
 Ці то здань якая?
Пышны белы конь рухава
 Горы прабягае,
Мчыцца птушкай лёгкакрылай,
 Бураю нясецца.
Пышуць персі яго сілай,
 Дол над ім трасецца.
А сам коннік так убраны,
 Што аж слепіць вочы.
Хто такі ён, госць нязваны? —
 Янка ведаць хоча.
Пад'язджае і гаворыць:
 — Памажы бог Яну!
Пазірае Янка, зорыць,
 Кажа: — Дзякуй пану!

Стаіць Янка, разглядае
Пышнае убранне,
Не стрымаўся і пытае:
— Куды едзеш, пане?
— Еду к богу, чалавеча! —
Янка ўтарапіўся:
— Як то к богу? То-ж далеча!
Каб з пуці не збіўся.
Згубіш збрую залатую,
Конь твой падаб'ецца. —
Янка думаў — пан жартуе
Ды з яго смяецца.
— Мы як бачыш, духам-бурай
Далацім да бога,
Бо я — ведаеш ты? — Юрай,
Проста мне дарога.
— Ці то можа быць?! — пытае. —
Юрай мой свяцонькі! —
Моліць Янка і ўздыхае:
— Слухай, дарагенькі!
Запытай у бога, мілы,
Запытай-жа, родны,
Чаму бедны я, пахілы,
Голы і галодны?
І малюся штодня богу
І жыву як трэба,
Не пускаю я ў дарогу
Жабрака без хлеба...

Юрай

Добра, добра, запытаю,
Аб табе я далажу,
А назад як завітаю,
Усё да слова раскажу.

Янка

Шчыра дзякую за гэта я раней,
А каб яно было вярней

Ды з думак тых часамі не сышло,
Для памяці пакінь сваё сядло!

На каня без сядла
Юрай як зірне,
Дык, была не была,
Ўспомніць пра мяне,
А як вернешся сам,
Я з падзякай аддам.

Юрай

На сядло, каб быў спакойны,
Хоць не верыць непрыстойна.
Вернеш мне, як я прыеду.

Так сказаў і знік без следу.

А назаўтра ў тую-ж пору
Скача зноў конь белы
Цераз рэчкі, лес і горы
Вольны, дужы, смелы.
Пад'язджае божы Юрай
І каня спыняе,
Ды на Янку нейк спахмура
Погляды раняе.
Янка зноў на прывітанне,
Ідучы загонам,
Як і ў першае спатканне,
Дзякуе з паклонам.

Янка

Святы Юрай! Ці пытаўся
Пра мяне ты ў бога,
Чаму бедным Янка стаўся,
Хоць працуе многа?

Юрай

Пытаць я пытаў...

Я н к а

І што бог сказаў?

Ю р а й

І не ведаю, брацішку,
Гаварыць табе ці не?
Дай хіба падумаць крышку...
А бог вось што сказаў мне:
«Таму Янка і галее,
Што папраўдзе жыць умее.
Калі-ж хоча быць багаты,
Скінуць зрэб'е сваё, латы, —
Няхай круціць і шальмуе
Ды аб праўдзе не сумуе».

Я н к а

Залатыя словы,
Хоць, сказаць, не новы,
    Шчыра дзякуй!..
    Но, каняка!

Ю р а й

Стой, дабрóдзей!
  сядло дзе?

Я н к а

Сядло, кажаш?

Ю р а й

Ну, але.

Я н к а

Скуль мне ведаць аб сядле?

Юрай

Кінь свае ты жарты, Янка,
Мне цяпер не да таго!

Янка

Хай заб'е мяне маланка,
Калі бачыў я яго!

Юрай

Што клянешся, чалавеча?
Ну, нашто-ж у вочы лгаць?
Быў я ўчора тут пад вечар?

Янка

Быў.

Юрай

Прасіў ты запытаць,
Чаму бедна ты жывеш?

Янка

Але-ж.

Юрай

Не казаў, каб я пакінуў,
Ну, для памяці сядла?

Янка

Знаць не знаю, каб я згінуў,
Не даехаў да сяла!
І навошта мне сядзёлка,
Сам ты, Юрай, пасудзі?
Дзе-ж яно тут? То-ж не голка!
Пашукай яго, знайдзі!

Глянуў Янка навакола
Ды гаворыць сціха:
«Бадай яго было гола!
Вось не ведаў ліха!
Тут з цярпення выйдзе ўсякі,
Вось-жа скула села!
Дасца мне сядзёлка ў знакі,
Каб яно згарэла!»

Юрай

Янка, Янка! Што віляеш?
Каго за нос водзіш?
Ці мяне за дурня маеш?
Што ты плот гародзіш?
Ты араў тут? —
Зноў пытае
З самага пачатку.
Янка ўсё на вус матае,
Адказвае гладка.
А як толькі аб сядзёлку
Гутарка кранецца,
Кленчыць Янка на падолку,
Божыцца, клянецца
Жонкай, дзецьмі, сваёй скурай,
Што сядла не бачыў.
Як ні біўся, Янкі Юрай
Не пераіначыў.
Праз дзянькі тры ці чатыры
Ідзе Янка ў краму,
Хваліць там сядло без меры
Крамніку Абраму:
— Вось, Абраме, штучку маю —
Сто рублёў за вочы!
— Ну, ну, Янка? — той пытае,
Да тых штук ахвочы.

Янка

Эх, сядло ёсць! Каб ты згледзеў,
Каб ты знаў, Абраме,

Ты-б дагэтуль і не ўседзеў
У гэтай бруднай краме.
Адно золата — страмёны,
Сэрца так і грае,
Само ўсё, як ёсць, чырвона —
Вочы адбірае!

Так Абрама падбухторыў, —
Знаць, гандляр харошы, —
Што той нават і не спорыў,
Лічыць Янку грошы,
А назаўтра ранічкою
Па сядло йдзе тое.

Янка

Што ты, Абрам, бог з табою!
Дзе сядло? Якое?

Стаў там Янка сярод хаты,
Вырачыўшы вочы.
Строіць дурня так зацята
І не зарагоча!

Абрам

Кінь ты жарты, чалавеча,
Бо тут жарты не дарэчы.
Аддай грошы ці сядло,
Каб па-добраму было.

Янка

Ты, Абрам, не выпіў часам?
Не сасніў таго сядла?

Абрам

Ой, на жарты Янка ласы!
І нашто гэта гула?

Янка

Ты папраўдзе ці жартуеш?
Што ты выдумаў, Абрам?

Абрам

Слухай, Янка, што бунтуеш?
Ты-ж сядлом набіўся сам!
За вочы прадаў
І грошы ўзяў.

Янка

О, ўжо грошы! От шалудзька,
Што ка мне ён мае?
Брэша, падла, як той цюцька,
І не падсявае!

Абрам

Янка, Янка! Ой не раю
Жартаваць са мною.

Янка

Што табе тут, — я пытаю?
Абрам! Што з табою?

Абрам

Аддай мне сядло ці грошы!
Уй, мужык, хамула!

Янка

А не хочаш ты атосы?
Скула табе, скула!

Абрам

Ах, круцель, лайдак, зладзюга,
Ліха тваёй долі!

Калі-ж гэтак, няхай пуга
У панскай стадоле
Гэтай праўды запытае, —
Пойдзем, Янка, к пану!

І да Янкі падлятае.

Янка

Нават і не ўстану:
Як-жа я адзеты? Брыдка!
Як ісці да пана?
Хоць-бы ў жонкі была світка
Ці кусок рызмана.

Абрам

А, спалохаўся, дабродзей?
На кажух мой, злодзей,
Пакажу табе я права!
Хай-жа Янка не сярдуе.

Янка

О, цяпер другая справа!
Ў кажусе — чаму-ж, пайду я.
Як судзіцца, дык судзіцца!
Што-ж, Абрам, збірайся!
Годзе нам ужо сварыцца,
Ды глядзі — не кайся.

Апрануўся Янка
У кажух Абрамаў,
Ды ідуць да ганку
Праз панскую браму.

Абрам

Ой, паночку, дай, пан, раду,
Бо няма з ім змогі:
Розаг трэба Янку, гаду,
І суд панскі строгі.

І пачаў вярнуць на Янку
За сядло, за абяцанку,
Лаяць яго, клесці.
Янка наш стаяў на ганку,
Слухаў гэтую чытанку,
Не ўстаяў на месцы.

Янка

Што пан слухае пустое?
Не вер, пане, гаду:
Дзе мне ўзяць сядло такое?
Зроду я не краду.
І людзей-бы пан спытаўся —
Гэта-ж быць не можа!
І чаго ён прывязаўся?
Божа ты мой, божа!
Звар'яцеў Абрам і годзе!
Сам круцель ён, сам ён злодзей,
Каб з яго пагнала дух!
Ён гатоў сказаць, дабродзей,
Што на мне яго кажух!

Абрам

Ну, а чый-жа?

Янка

А што, пане?
Вось і вер Абраму!

Пан

Вон, Абраме, вон, галгане!
І прагнаў за браму.

Янка

Вось дай божа пану панства!
Змучыў, гад пракляты...
Як пачаў жыць ашуканствам,
Янка стаў багаты.

## ПАЎЛЮКОВА БЯДА

I

На дварэ даўно сцямнела.
Людзі ў вёсках леглі спаць,
Толькі моладзь не хацела
Слаўны вечар пакідаць.
І дапраўды: быў прыўдалы
Першы цёплы вечарок!
Прэллю пахнуў грунт адталы,
Глуха булькаў ручаёк,
Аб вясне разносіў весці
Мілым шэпатам сваім.
Смех дрыжаў у адным месцы,
Песні чуліся ў другім.
Так зычліва ззялі зоры,
Мабыць, радыя вясне,
А зямелыя прасторы
Штось таілі ў цішыне,
Мусіць, радасць, бо дзяўчаты
Спевы ладзілі ў сяле,
А Паўло, йдучы дахаты,
Быў зусім навесяле.
    Ці тая дарога,
    Ці не тая? —
Сам сябе, нябога,
    Ён пытае. —
Дзе ты ходзіш, Паўлючок,

Гэтак позна?..
Ну, ну, годзе!.. Маўчок.
Выпіць можна!
Пі, але розум май,
Меру, браце,
І парадак трымай,
Вядзі ў хаце!
Чалавек-жа з цябе —
Ой, гаручы!
Кожны д'ябал скубе,
Гад смярдзючы!
Не адзін-жа такі
Ты на свеце.
Плюнь, Паўлюк! Паўлюкі,
Пацярпеце!
Ды чаго мне цярпець?
Што цярпенне?!.
Ша, Паўлюк, не дурэць —
Тут каменне!
Ой, глядзі, там раўкі...
Стой ты, морда!..
Не, Паўлюк не такі,
Ідзе цвёрда!
Не ўпадзе, не ўпадзе,
Хоць і вып'е.
Гартаваны ў бядзе,
Не, не грыб я!..
Стой!.. Балай-жа ты спух —
Паваліўся!
Ну, і зух з цябе, зух!
А хваліўся!
Пачакай, не пары
Так гарачкі!
Ах, ядры, да ядры
Тваю качку!
Ці-ж не бачыш, дурны,
Ты прычыны?
Вінаваты яны,
Раўчавіны!
Тут не хмель вінават

I не ногі.
Паднімайся, мой брат,
Не будзь строгі!..
Дзеткі... эх, бедакі!
І ты, жонка!
Тата ваш не такі —
Ёсць скарбонка!
Ось дзе, ось дзе яны,
Грашаняткі!
З імі будзем паны,
Небажаткі!
Зарабляў ад каляд
Усю зіму,
Не паддаўся ты, брат,
І Яхіму!»

I

«Вось я й дома, дзякуй богу, —
Сам сабе сказаў Паўлюк. —
Расцягнуў-жа чорт дарогу —
Унь які зрабіў ты крук!..
Эх, не хата, а хібарка!
Цыц! Замкніся, Паўлючок!
Спіце, дзеткі! Спі ты, Дарка, —
Павал п'яны, як глячок!»

Прытуліўся ён да плоту,
Нібы ўжо ў сваім куту,
І скрозь п'яную дрымоту
Меле розную лухту.
У яго мазгах зацьменне,
І здаецца Паўлюку,
Што ён сеў не на каменне,
А на печы у кутку.
Праўда, печ халаднавата,
Дый адкуль там быць цяплу?
Ветрам шыта яго хата
І ліпіць, як на калу,
Сцены тонкі і дзіравы.

Гвалт крычы хоць — няма дроў.
Холад злосна дзьме з-пад лавы,
Як-бы мех той кавалёў.

«Бадай вас спалілі дымы,
І хаты такія і печы!
Няма, відаць, горшай турмы,
Як гэты прыпынак галечы.
Дзівота, які ты жывучы,
Ну, проста, як кот!»

І вешае Павал анучы
І лапці на плот:
«Хай за́ нач прасохнуць на печы:
І выпіў ты, Павал, а робіш дарэчы!»

І грошы дастаў ён з кішэні,
    Памацаў квіткі,
Іх трохі пагоцкаў у жмені
    Ды ў плот пад віткі!

«Нашто ў кішэні іх дзяржаць?
Няхай пад балькаю ляжаць:
    Заснеш —
    Памнеш!
А заўтра ўставай, брат, раней...
Але-ж дзьме, падла, з сяней!»

Вось сяк-так прымайстраваўся
    На халодных камянёх,
Звіўся ў крэндзель, скарцаваўся
    І заснуў, як толькі лёг.

* * *

Прачнуўся назаўтра Паўлюк,
    Зірнуў на пасцель,
І ног ён не чуе і рук,
    Прапаў яго хмель.
Ён цоп за кішэню, другую, —

А грошай няма!
І пазуху вытрас пустую,
Калошы, — дарма!
Агледзеў усе закарвашкі,
Каменне і плот,
І ўздых вырываецца цяжкі,
І кідае ў пот.
Нуда агарнула такая,
Знямеў чалавек!
І грошай ён больш не шукае —
Прапалі навек!
Бы сціснуў яго у самоце
Жалезны абруч...
Вісяць адны лапці на плоце
Ды пара ануч.

## ІГРЫШЧА

### I

У карчомцы грук вялікі,
Гоман шумны, малады...
Ну й музыкі-ж, дык музыкі!
Скуль прышлі яны сюды?
Як засыплюць, як заграюць,
Мо'-б і хворы не ўтрываў!
А скрыпач ды як уярыць —
Проста чорт ім кіраваў!
Як шалёны, смык лятае,
Скрыпка-ж голасна звініць,
Ну, дзівота, як жывая,
От, здаецца, гаманіць:
«Тупай, тупай, весяліся,
Прапіў грошы — не журыся.
Няма грошай — што парадзіць,
Калі нам нідзе не вадзіць!»

А другая скрыпка тонка
Як заграе, як утне
Дробна-дробненька ды звонка,
Ну, аж скуру шаргане:

«Ці-лі-лі, ці-лі-лі!
Усе веселы былі,
Выпівалі і скакалі,
Ракам ганачка шукалі.

Не валяйся, брат, пад плотам
З адным лапцем, з другім ботам!
Эй, Сымон, Сымон, Сымон!
Не валіся на загон!»

І басэтля безупынку
Ўсё раве і ўсё раве,
Пеклам робіць вечарынку,
Аддаецца ў галаве:

«І не далей, як удзень,
Ты маўчала, як той пень,
А цяпер ты — дубам дуб.
Тупу-тупу! тупу-туп!
Гух, як басам зараву,
Дык аж струны перарву.
Ты паслухай, Апанас,
Што за голас, што за бас!»

Рэпіць дудка, не даецца,
Адатне ды зноў пачне,
Як зальецца, як зальецца,
Проста сэрца страсяне:

«Не дарую,
Не дарую,
Бо нашто ты
Браў старую?
І старую,
І рудую...
Засярдую.
Засярдую!»

Хлопцы ног не шкадавалі.
«Гэй, Паўлюк! Вярні-валі!»
І кружыліся, лятали,
Нібы тыя матылі.
А дзяўчаты — макаў цвецік,
Шчокі ружамі цвітуць.
Аддасі ты ўсё на свеце,

Як чарамі аплятуць.
А як пойдуць яны ў скокі —
Кроў гарыць, ну, любата!
І хоць сам скакаць не дока,
Але дол таўчэ пята.
Кончаць танцы, адпачынуць,
Пот музыкі абатруць.
Хлопцы проста ў снезе стынуць,
Потым зноў у скокі пруць.

II

У карчму зімовым часам
Валам ціснуўся народ,
Забаўляўся самапасам
Дні і ночы напралёт.
Моладзь ладзіла ігрышча,
Людзі сталыя — банкет,
А другі, няшчасны шкет,
Проста так сабе пасвішча.
Ды затое-ж якіх толькі
Не наглядзішся тут штук!
Тут і вальсы, тут і полькі,
Гоман, жарты, смех і гук,
Асабліва ў часе скокаў,
Ну, як, прыкладам, цяпер,
Калі ўвесь натоўп галёкаў
На свой лад, на свой манер.
Ды, сказаць, было і трудна
Лад, спакой тут захаваць:
Як пачнуць музыкі граць,
Загізуе і марудны!

Дык не дзіва, што старога
Падбіваў чорт Базыля:
— А паслухай ты, нябога,
Жарнеш, га? Мы «каваля?» —
І пад бок штурхець Кандрата!
— А што думаў ты? Давай! —

І Кандрат устаў заўзята:
— Гэй, музыкі, залівай!

На хвілінку ўсё замерла
Ад басэтлі да дуды:
Што скакаць ім так прыперла
У старэчыя гады?!

— Грайце, хлопцы! — Базыль крыкнуў
— Каваля! — гукнуў Кандрат
Ды адразу як падбрыкнуў,
Рассмяшыў усіх дзяўчат.

Стаў Кандрат з Базылём
Пасярод карчомкі.
Валасамі-галлём,
Нібы тым памялом,
Страсянулі ёмка.

То адзін, то другі
Плечуком ускіне.
Рукі іх — лук тугі.
І пастава іх нагі
У належным чыне.

Тупнуў першы Базыль
Ды падаўся ўправа,
Заламаў набок брыль,
І мільгнуў, як матыль,
Спрытна і рухава.

І Кандрат яму ў лад
Зачынае хвацка,
Аж халат, рад не рад,
Ідзе ўперад, назад,
Як і шапка-пляцка.

І пайшлі гаварыць
Ногі, як віхура.

Скуль у іх тая прыць!
Ну, здаецца, гарыць
На іх сама скура!

Ну, і шум быў тут, шум, —
Не давядзі божа!
Пляскаў сват, пляскаў кум,
Падняў шурум-бурум
З радасці Амброжы:

Узабраўся на стол,
Лапцямі тупоча,
Крышыць, ломіць, бы вол,
Полы горне ў прыпол —
Танцаваць сам хоча!

Людзі сталых гадоў
Проста лезлі з скуры
І на сотні ладоў
Выхвалялі дзядоў,
Здольнасць іх натуры.

А яны, скакуны,
Поўныя запалу,
Як блазны-буяны,
Рэпяць — пот льсе буйны,
Здабываюць хвалу.

То назад, то ўпярод...
Скончаць — пачынаюць...
Б'юць далонямі ў бот,
Ды ў адзін той заход
Яшчэ й выцінаюць:

— Ой, ты, куме, мой кумок,
Бадай табе трасца ў бок!
А бадай ты не даждаў:
Дзе ты ўночы прападаў?
Ці не быў ты у Цацэлі
Або ў Тэклі ці ў Марцэлі,
Або, можа, у Югалі?
Дзе чарты цябе ганялі?

— Ой, кума, нашто той глум! —
Джургануў чупрыну кум, —
Такіх краль нідзе няма,
Як ты, мілая кума.
Да цябе я бег, спяшаўся,
Ды мой лапаць развязаўся.
Не звязаў-бы я абору,
Ды мне бог паслаў Тадору.
Ой, Тадора, ой, кума!
Задушыла-б вас чума!
Ці-ж не глум над нашым братам —
Узвадзіць паклёп дарма?

— Малайцы Базыль з Кандратам! —
Загрымела ўся карчма.

III

Але ў самы разгар скокаў, —
Шусь у карчму з кіем поп!
Не спускаў ён «стада» з вока,
Настаўляў яго на троп.
А за ім сінкліт царкоўны:
Дзяк і стараста, званар...
Строгі бацька быў духоўны,
Не любіў чартоўскіх чар!
Асабліва ў дні святыя,
Калі забаўкі пустыя
І рознае дрэнства
Не даюць папу даходу
І становяць перашкоду
Ў справе набажэнства.
У карчомцы людна, густа,
А ў той божай царкве пуста —
Поп ды дзяк той, дылда.
І твайго там «алілуя»
Ніхто нават не пачуе, —
Ці-ж папу не крыўда?
Поп прышоў сюды, каб словам
Чортаў сверб ахаладзіць

І ўдзяўбсці дурным галовам,
Як на свеце трэба жыць.
Ён не раз ужо з амбону
Бічаваў парафіян,
Непаслушных хрысціян.
Даставалася Лявону
І Пятрусю і Сымону
За чартоўскі чмут, туман,
Бо яны ўсе — канаводы,
Звадыяшы,
І не зварыш з імі кашы
З-за іх гэтай новай моды.
Адшчапенцы, недаверкі
І расколы!
Іх заўсёды ў царкве гола,
Грош не кінуць на талерку,
Не паставяць богу свечкі,
А на скокі,
На ігрышча яны докі,
Шалудзівыя авечкі!
Эх, Лявон, Лявон, Лявон!
Падбухторшчык першы ён.

А Лявон быў шыт не лыкам,
Не спалохаўся папа, —
Падышоў, маргнуў музыкам:
— А ну, хлопцы, гопа-па! —

Барабан забіў трывогу,
Бубен дробна забрашчаў,
Ім басэтля на падмогу,
Смык заядла запішчаў.
Ды як грымнулі, згралі —
Скура шорхнула ва ўсіх,
І старыя не ўтрывалі,
Як-бы чорт задрэнчыў іх.
Сівы Тодар на заслоне
Стаў плячыма вырабляць,
Янка пляскае ў далоні,
Ногі-ж просяцца гуляць.

Поп, вайшоўшы з-за парога,
Адчыніў быў грозна рот,
Дый застыў ён так, нябога,
І папаў у пераплёт.
А музыкі не змаўкаюць,
Задаюць ды задаюць,
Аж чарты цябе бяруць
І на скокі падбіваюць.
А Лявон адно гукае:
— Выцінай, бубні, раві!
— Ойча, — дзяк папа штаўхае, —
Не ўстаю — благаславі!

Поп стаіць, што раз дабрэе,
Шапка споўзвае са лба,
І рука сама дурэе
Каля правага клуба.
У куток ён кій стаўляе,
Барадою сцеляпнуў
Ды хламіду распраўляе,
Потым галаву прыгнуў,
Ды як рынецца з разгону
Біць абцасам аб абцас,
І ігрышча ён з амбону
Годзе лаяць на той раз.

## ПАД НОВЫ ГОД

*1914 г.*

Ноч глухая, цьма, завея,
Не відно і свету,
Толькі снег адзін бялее,
Ў шэрань лес адзеты.

Ні праезду, ні праходу,
Белы пыл у полі,
Як-бы тут дарожак з роду
Не было ніколі.

Свішча, плача і галосіць,
Вые завіруха,
Хаты, гумны, ўсё заносіць
Гурбамі наглуха.

Цісне, крэпіць халадзішча,
Проста ліпнуць вочы.
Божа, што тут за ігрышча,
За смех патарочы!

А хто ходзіць полем-логам
Ў снезе па калені?
На пакуту, бачна, богам
Выгнаны два цені.

Чаго ходзяць? Што шукаюць
Сярод цьмы-нягоды?
Гэта ходзяць, азіраюць
Божы свет два годы.

У Старога за плячамі
Мех стары трасецца,
Малады год пад дарамі
Ажно крэкча, гнецца.

— Фу, мароз які пякучы —
У ваччу іскрыцца!
Мерзнуць ногі праз анучы,
Нос гатоў зваліцца, —

Кажа Новы год Старому:
— Дык спыні шум буры,
Мо' пляцецца хто дадому,
Да свае пячуры,

Каб спаткаць мяне пачэсна,
Як вядзецца ў родзе,
З жонкай, з дзеткамі сумесна,
У ладу і згодзе.

Цяжка бедным і пахілым,
Зжалься над народам!
Я хачу быць для ўсіх мілым,
Добрым Новым годам. —

Усміхнуўся, ўзняўшы плечы,
Год Стары на гэта:
— Ты гаворыш недарэчы,
Бо не знаеш свету.

Слухай, дружа, і вучыся:
Я ўжо — госць на свеце,
Ледзь хаджу я, трасучыся,
Не жыхар я — смецце!

Перабыў свой час і — квіта,
Ды я досвед маю,
І ў апошні раз пабыту
Слухай, што параю:

Калі хочаш, ягамосцю,
У памяці застацца,
Уежся людзям добра ў косці,
Хоць злым будзеш звацца...

— Што пляцеш, пустапарожны?!
Проста слухаць нудна:
Добры год больш помніць кожны!
— Гм! Згадзіцца трудна.

Заспрачаліся, як дзеці,
Блазна і старое:
Што жыве даўжэй на свеце:
Добрае ці злое?

Гоман, крык, бы звёў ліхі іх,
Проста, чуць не б'юцца.
Толькі торбы і мяхі іх,
І кіі трасуцца.

— Ша! — сказаў Стары, — даволі!
Ты да спрэчак ласы.
Мы-ж не згодзімся ніколі,
Запытаем часы.

Вось ідуць. Лес перад імі
Ўстаў сцяной магутнай,
Хвоі лапамі старымі
Б'юцца ў песні смутнай.

І гудуць дубы нястройна,
Грозна жараламі,
Лес трасецца неспакойна,
Гойдае камлямі.

І чым далей, лес дзічэе,
Неба закрывае,
Нават вецер там не вее.
Пушча — страх якая!

— Станьма тут, — Стары гаворыць.
Глуха на палянцы.
Ціха дрэвы штось гутораць,
Веку выхаванцы.

Ціха ходзяць іх макушкі
Над палянкай з краю.
— Эй вы, часы, божы служкі!
Я вас выклікаю!

Крыкнуў год Стары, і дзіва:
З-за камлёў драўляных,
Нібы дым, ўстае маўкліва
Рад цянёў нязнаных!

Вышлі цені на палянку,
Ўсе пад нумарамі,
Ў беласнежную катанку
Ўлезшы з галавамі.

На адных, бы кроў, гарэлі
Знакі агнявыя,
А з другіх чуць-чуць глядзелі
Напісы сляпыя.

Год Стары ўстае прад імі
І кажа ўладарна:
— Станьце, годы злыя, з злымі,
Хто не згінуў марна!

І вы, добрыя гадочкі,
Вечнай праўды стражы,
Станьце бліжай у радочкі.
Няхай кожны скажа,

Ці звялася, ці пануе
Памяць ваша ў свеце,
Як кахае, як шануе
Вас патомства-дзеці!

Так сказаў Стары, і годы,
Добрыя і злыя,
Замільгалі, бы ў нягоды
Лісці залатыя.

Годы з напісам чырвоным
Паасобна сталі,
Мноствам страшным, незлічоным
Пушчу запаўнялі.

А іх напісы гарэлі
Слупам агнявістым,
Ад іх неба чырванела,
Пушча з снегам чыстым.

Годы добрыя нясметна
Сталі ўсе па чыну,
Цьмяна, бледна, чуць прыметна,
Зліўшыся ў раўніну.

І выходзіць цень бясшумна,
Глуха дакладае:
— Я напоўніў людзям гумны,
Я — год Ураджаю.

Людзі трохі падабрэлі,
Ураджай хвалілі,
Як дабро-ж маё паелі,
Дык мяне забылі.

Паліняла і звялася
Памяць між народаў, —
Так сказаўшы, адышлася
Цень Ураджаю-года.

— А я голадам вядомы.
Я — год Галадоўлі,
Я спустошыў людзям долы,
Гумны і будоўлі.

Мерлі людзі і жывёлы,
Як з атруты мухі.
Счысціў я усё дагола,
Нарабіў разрухі.

А мяне дагэтуль людзі
Часта ўспамінаюць.
Так было і гэтак будзе:
Зла не забываюць, —

Сказаў гэтак цень з крывавым
Агнявістым знакам.
— Я быў Згодаю, ласкавым,
Рассыпаўся макам,

Каб лагодзіць, жыць у згодзе.
Згода панавала.
Быў парадак у народзе,
Царствы сябравалі.

А прайшоў мой час — як смецце,
Знішчылася памяць,
Ці быў я, ці не на свеце —
Нават і не ўцямяць.

— Калатню я даў народу,
Меч прынёс, пажары,
Я забраў яго свабоду,
Я — год Помсты, Кары.

Я растрос зямлю дазвання,
Я быў год няшчасны,
Аба мне-ж апавяданні
Свежы, чоткі, ясны.

— А я сеяў зерні знання,
Праўды разуменне,
Волі, радасці жаданне, —
Я — год Прасвятлення.

Мой агонь гарыць і ззяе,
Сэрцы людзям грэе.
Аба мне слых не ўмірае
І жыве надзея.

— Я мрок сеяў у народзе,
Зацямняў галовы...
— Сціхні, голас часаў! Годзе! —
Год прамовіў Новы.

І ўсё змоўкла, ціха стала,
Цені ўсе застылі,
Толькі пушча задрыжала,
Дрэвы ўзгаманілі.

І Стары год стаўся ценем.
Поўнач падступала
І пячаці задумення
На ўсё накладала.

— Цені, згіньце! Я ўладарны
Гаспадар над вамі!
Мой прышоў час! — Цені марна
Зніклі між камлямі.

Змоўкла пушча, сціхла бура,
Зоры замігалі.
І зямля і лес пануры
Новы год віталі.

І ўсё поглядам пытае
Маладога года:
Што нясе нам, чым спаткае
Новая прыгода?

## АГУЛЬНЫЯ ЗАЎВАГІ

Дадзенае выданне, падрыхтаванае Дзяржаўным выдавецтвам БССР да сямідзесяцігоддзя з дня нараджэння Якуба Коласа, з'яўляецца першым найбольш поўным зборам твораў паэта. Аднак яно не прэтэндуе і не можа прэтэндаваць на абсалютную паўнату, паколькі некаторыя творы яшчэ не адшуканы, а многія патрабуюць значнай даследчай работы для ўстанаўлення іх канчатковага тэксту па розных выданнях.

Першыя два тамы гэтага збору твораў абыймаюць вершы і вершаваныя апавяданні Якуба Коласа, датаваныя 1904 — 1952 гадамі. Аднак, як стала вядома, пачатак літаратурнай дзейнасці паэта адносіцца да больш ранняга часу, чым 1904 год.

Не так даўно ў рукапісным аддзеле бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР (г. Вільнюс) выяўлены два сшыткі з вершамі Якуба Коласа на рускай мове.

У першым сшытку змешчана семнаццаць найбольш ранніх вершаў, напісаных Я. Коласам, калі ён пасля заканчэння Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі ў 1902 годзе знаходзіўся ў Альбуці [1]). Аб гэтым сведчыць паметка, зробленая аўтарам у канцы сшытка: «26 августа, Альбуть».

Адзін з гэтых вершаў («Осень»), якім адкрываецца сшытак, быў напісаны ў першы год навучання паэта ў семінарыі ў 1898 годзе. У гэтым вершы Я. Колас дае замалёўку асенняй прыроды пад яўным уплывам рускай класічнай паэтыкі.

---

[1]) Мясцовасць непадалёку ад вёскі Мікалаеўшчыны ў Стаўбцоўскім раёне, дзе бацька Якуба Коласа меў пасаду лесніка.

Еще недавно красовались
В яркой зелени луга;
А теперь на них остались
Лишь высокие стога.
Еще недавно ветер шумный
Рожь густую волновал,
И недавно он, разгульный,
Долу нивы наклонял.

З гэтага, далёка яшчэ недасканалага, верша відаць ужо, што з першых сваіх крокаў у літаратуры Я. Колас вучыўся на выдатных узорах вялікай рускай класічнай паэзіі.

Але гэты верш мае для нас і другую цікавасць: ён дае нам права сцвярджаць, што Колас пачаў сваю літаратурную дзейнасць не ў 1904 годзе, як гэта думалі да гэтага часу, а ў 1898 годзе.

Астатнія вершы, змешчаныя ў знойдзеным сшытку («Призыв», «Памяти В. А. Жуковского», «Былые годы», «Белоруссия», «Перед грозою», «Заход солнца», «Ночь», «Утешение» і іншыя), датуюцца 1902 годам і таксама пераканаўча абвяргаюць ранейшую думку аб пачатку літаратурнай дзейнасці паэта.

Не падаючы ў дадзеным выданні гэтых ранніх твораў Я. Коласа, мы лічым, аднак, патрэбным сказаць аб іх некалькі слоў, паколькі яны маюць безумоўнае значэнне для ўразумення творчага шляху паэта.

Ужо ў вершы «Белоруссия» даволі моцна загучалі тыя матывы, якія вызначаюць характар і соцыяльную накіраванасць яго творчасці. У гэтым вершы паэт упершыню загаварыў аб соцыяльным і палітычным бяспраўі беларускага працоўнага сялянства, аб яго напоўгалодным жабрачым існаванні. Праўдзіва вырысоўваецца з-пад пяра паэта дарэволюцыйны воблік забітай, убогай вёскі.

Бедный край мой! Край родной!
Родина моя ты!
Смотрят избы сиротой,
Понагнулись хаты.
Мрачно в хате и темно,
Гарью подувает,
А сквозь тусклое окно
Ветер в дом влетает.

Радзіма паэта заняволеная і бедная, як і яго народ, але, тым не менш, паэт горача любіць яе і верыць у сілы народа, у яго светлае будучае.

С верою святою —
С даром неба чудным —
Залитый слезою
Путь пройдем мы трудный.
*(«Вера»)*

У другім сшытку ўсе дваццаць вершаў, напісаныя Я. Коласам у час работы настаўнікам на Піншчыне, датуюцца 1905 годам. У гэтых вершах малюнкі цяжкай сялянскай долі перапляцаюцца з малюнкамі роднай прыроды. Яна такая-ж сумная, як і жыццё селяніна, які надрываў свае сілы ў цяжкой безупыннай працы. Надзвычай характэрным у гэтых адносінах з'яўляецца верш «Родная картинка».

Вновь знакомая дорога:
То овраги, то кусты,
То склоненные убого
Придорожные кресты.
И легла по косогорам
Леса черная вуаль,
И глядит смущенным взором
Затуманенная даль.
Все там тихо, неприютно,
Как в лачуге бедняка,
И сжимают поминутно
Душу горе и тоска.

Некрасаўскія матывы смутку і народнага гора ўжо ў ранніх вершах Я. Коласа пачынаюць гучаць выразна і акрэслена. Паэт, вышаўшы з нізоў народа і звязаны з ім непарушнай сувяззю, не мог абыякава глядзець на цяжкае беспрасветнае жыццё прыгнечанага сялянства.

Праўда, у гэтых вершах мы яшчэ не знаходзім непасрэднага заклiку да барацьбы з памешчыкамі-прыгнятальнікамі, але ў іх ужо акрэслена вызначыліся адносіны паэта да існуючага ладу, да яго парадкаў.

Уплыў Некрасава асабліва моцна адчуваецца ў вершах гэтага сшытка паэта. Тут не толькі некрасаўскія матывы, але шмат агульнага нават у тапальнасці верша. Вельмі блізка да некаторых мясцін некрасаўскай паэмы «Мороз — Красный нос» стаіць верш, які пачынаецца наступнай страфой:

Не грозная буря над лесом бушует,
Дождя грозового не льется поток —

То ветер осенний в кустах негодует
И клонит на землю иссохший цветок.

У асобных вершах («Жизнь одинокая, жизнь неприютная», «Ночь» і інш.) адчуваецца наследаванне Нікіціну, а часам і Кальцову.

Выказваючы сваё незадавальненне шэрай, убогай рэчаіснасцю, малады паэт рашуча асуджае нікчэмных людзей, якія пагразлі ў мяшчанстве і, дзеля сваёй асабістай карысці, прадалі інтарэсы народа. У вершы, які па сваёй накіраванасці і пабудове нагадвае нікіцінскі «Вырыта заступом яма глубокая», паэт гаворыць:

Жизнь одинокая, жизнь неприютная!
Холодно, пасмурно, грязно в тебе.
Горькие думы, стремления смутные...
И вся ты проходишь в бессильной борьбе...
Мелкие страсти, тревоги ничтожные,
Вечные вопли убогих людей.
Маски двуличные, лица тревожные,
Жалобы, стоны, потоки скорбей...

Адзначаныя вышэй ненадрукаваныя вершы Я. Коласа сведчаць аб тым, што руская класічная паэзія ў асобе А. Пушкіна, Н. Некрасава, І. Нікіціна, А. Кальцова мела на маладога паэта вельмі вялікі ўплыў і дапамагла яму ў яго пошуках уласнага паэтычнага голасу. З другога боку, гэтыя вершы паказваюць, што ўжо ў самых ранніх творах Я. Коласа намеціліся тыя матывы, якія пазней вызначылі сацыяльны характар яго дарэвалюцыйнай творчасці. І, безумоўна, гэтыя вершы, як і многія іншыя творы паэта, не ўключаныя ў дадзенае выданне, павінны знайсці сваё месца ў наступных больш поўных зборах.

Гэта выданне будзе ажыццёўлена ў сямі тамах. Да кожнага тома даюцца заўвагі, дзе, поруч з датамі напісання твора, прыводзяцца таксама звесткі аб тым, дзе твор упершыню быў надрукаваны. Калі-ж гэта дакладна невядома, тады проста называецца адна з першых яго публікацый.

Спасылкі на тое, паводле якога выдання друкуецца той ці іншы твор, не даецца, паколькі аўтар для дадзенага выдання нанава прагледзеў усе тэксты, унёс у іх некаторыя папраўкі, і, такім чынам, гэтыя тэксты з'яўляюцца ў свет у самай апошняй аўтарскай рэдакцыі.

Апрача даты і спасылкі на першадрук, у заўвагах даюцца таксама тлумачэнні некаторых слоў, звычаяў, гістарычных падзей і асоб, калі яны для сучаснага чытача могуць быць ужо невядомымі.

Каб не абцяжарваць выдання, варыянты і розначытанні ў заўвагах не прыводзяцца. Але чытач і даследчык мае магчымасць устанавіць іх сам, супаставіўшы тэксты дадзенага выдання з тэкстамі першых публікацый, названых у заўвагах.

---

## ВЕРШЫ

Стар. 37.*** (**«Не пытайце, не прасеце»**). Друкаваўся ў «Песнях жальбы», стар. 3. Датуецца 1904 г.

Стар. 38. **Наш родны край.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Наша доля», 1906 г., № 1, 1 верасня. Датуецца 1906 г.

**«Наша доля»** — беларуская газета буржуазна-рэфармісцкага напрамку. Першы нумар яе вышаў 1 верасня 1906 г. у Вільні, а на шостым нумары ў снежні 1906 г. газета была закрыта. У першым нумары «Нашай долі» Якуб Колас надрукаваў названы верш, у другім — апавяданне «Слабода» і верш «Асенні вечар», у трэцім — верш «Беларусам».

Стар. 40. **Асенні вечар.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Наша доля», 1906 г., № 2, 15 верасня. Датуецца 1906 г.

Стар. 41. **Беларусам.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Наша доля», 1906 г., № 3, 20 верасня. Датуецца 1906 г.

Стар. 42. **Нёман.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Наша ніва», 1906 г., № 1, 23 лістапада. Датуецца 1906 г.

«Наша ніва» — штотыднёвая беларуская газета, пачала выходзіць 23 лістапада 1906 г. Праіснавала да 7 жніўня 1915 г. «Наша ніва» мела буржуазна-нацыяналістычны напрамак. Але ў мастацкім аддзеле газеты друкаваліся творы буйнейшых рэвалюцыйна-дэмакратычных паэтаў і пісьменнікаў Беларусі (Я. Купалы, Я. Коласа, Э. Цёткі, М. Багдановіча, З. Бядулі і інш.) і, наперакор жаданню палітычных кіраўнікоў газеты, творы гэтых пісьменнікаў узнімалі народныя масы на рэвалюцыйна-вызваленчую барацьбу супроць

соцыяльнага і нацыянальнага ўціску, супроць памешчыцка-самадзяржаўнага ладу.

Стар. 44. **Могілкі.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Наша Ніва» 1906 г., № 2, 17 лістапада. Датуецца 1906 г.

**Праслы гнілыя на дол паляглі... Прасла** — звяно, частка плота.

Стар. 45. **Дарога.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Наша ніва», 1906 г., № 4, 15 снежня. Датуецца 1906 г.

**Крыж на перасеках аб пакуце кажа... Перасекі** — скрыжаванні дарог; даўней рэлігійныя людзі ставілі на гэтых скрыжаваннях крыжы ў знак ахвяры богу ў сувязі з якім-небудзь няшчасцем у сям'і.

Стар. 46. **Моладасць.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Наша ніва», 1906 г., № 6, 27 снежня. Датуецца 1906 г.

Стар. 47. **Ворагам.** Друкаваўся ў зб. тв. «Вершы», т. I, 1946 г., стар. 266—267. Датуецца 1906 г.

Стар. 49. **На Новы Год.** Друкаваўся ў газ. «Наша ніва», 1907 г., № 1, 6 (19) студзеня. Датуецца 1907 г.

**Урадніцкі каўнер... Ураднік** — ніжэйшы паліцэйскі чын у часы царызма.

Стар. 50. **Вобразы самаўладдзя.** Друкаваўся ў газ. «Наша ніва», 1907 г., № 8, 24 лютага. Датуецца 1907 г.

**«Шнуры», «каўняры»** — маюцца на ўвазе паліцэйскія, якія насілі чырвоныя каўняры і «шнуры», г. зн. наплечнікі накшталт пагонаў.

Стар. 51. **Вёска.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Наша ніва», 1907 г., № 13, 30 сакавіка. Датуецца 1907 г.

Стар. 53. **Месяц.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Наша ніва», 1907 г., № 14, 6 (19) красавіка. Датуецца 1907 г.

Стар. 54. **Песня над калыскай.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Наша ніва», 1907 г., № 16, 20 красавіка, пад загалоўкам «Песня каля калыскі». Датуецца 1907 г.

Стар. 56. **Плытнікі.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Наша ніва», 1907 г., № 19, 18 (31) мая. Датуецца 1907 г.

**На «барбару», Янка!.. «Барбара»** — тоўсты канат, звіты з дубцоў, якім прышвартоўваюць да берагу плыт.

**Гартоль** —дубовы кол, які прывязаны да каната («барбары») і ўтыкаецца на беразе ў зямлю, каб прышвартаваць плыт.

**Шырыга** — прылада, якая служыць накшталт якара для спынення плыта.

**Прысам папхні ўліва... Прыс** — шост, жэрдка.

**Уліва** — улева.

**Заднік** — задні плытагон.

**Бусак** — шост з насаджаным па яго металічным вастрыём з крукам.

**Галаўнік** — плытагон, які стаіць у галаве плыта.

**Бома** — кол для падважвання бярвенняў і іншых цяжараў.

Стар. 59. **Сябрам.** Друкаваўся ў газ. «Наша ніва», № 20, 25 (7) чэрвеня. Датуецца 1907 г.

У гэтым вершы аўтар звяртаецца да сваіх сяброў-настаўнікаў, якія разам з ім прымалі летам 1906 г. удзел у нелегальным настаўніцкім з'ездзе ў Мікалаеўшчыне — на радзіме паэта. З'езд быў выкрыты паліцыяй, удзельнікаў яго царскія ўлады звалілі з настаўніцкіх пасад і аддалі пад суд. Суд адбыўся 15 верасня 1908 г. Асуджаных (у тым ліку і Я. Коласа) пасадзілі ў турму, а апраўданых парассылалі па розных месцах. Водгукі на гэтую расправу мы знаходзім у вершах «Згнанніку», «Сябрам-выгнаннікам», «Перад дарогай», «Ноч у астрозе», «Сябрам» («Гэй, сябры мае»), «Покліч», «Дзе вы?» і інш.

Стар. 60. **Роднае поле.** Друкаваўся ў газ. «Наша ніва», 1907 г., № 21, 1 (14) чэрвеня. Датуецца 1907 г.

Стар. 61. **Людскія слёзы.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Наша ніва», 1907 г., № 22, 8 (21) чэрвеня пад псеўданімам Ганна Крум. Датуецца 1907 г.

Стар. 62. **Хмары.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Наша ніва», 1907 г., № 22, 8 (21) чэрвеня. Датуецца 1907 г.

Стар. 63. **Кіньце смутак.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Наша ніва», 1907 г., № 24, 6 (19) ліпеня, без загалоўка. Датуецца 1907 г. Друкаваўся ў «Другім чытанні», стар. 93, пад загалоўкам «Не нудзіцеся».

Стар. 64. **Мужычая ніва.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Наша ніва», 1907 г., № 25, 20 ліпеня. Датуецца 1907 г.

Стар. 66. **На ростанках.** Упершыню надрукаваны ў газ. «Наша ніва», 1907 г., № 26, 3 (16) жніўня, пад загалоўкам «На перакрэстку». Датуецца 1907 г.

Стар. 67. **Не бядуй!** Упершыню надрукаваны ў газ. «Наша ніва», 1907 г., № 28, 31 жніўня. Датуецца 1907 г.

Стар. 68. **Баба і куры.** Друкаваўся ў газ. «Наша ніва», 1907 г., № 29, 14 (27) верасня. Верш надрукаваны пад псеўданімам Т. Гушча. Датуецца 1907 г.

Байка накіравана супроць царскага ўрада, які, напалоханы рэвалюцыйнымі падзеямі 1905—1907 гг., на словах абяцаў даць народу

